*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*

**Заснаваны ў 1953 годзе**



# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

## У НУМАРЫ:



**12**

**СНЕЖАНЬ**

Мінск. 1971

**Выдавецтва ЦК КП Беларусі**

Вокладка **М. Пракапенкі.**

Шмуцтытулы **М.** і **У. Басалыгаў** (стар. 3) і фота **М. Амельчанкі «Пошук»** (стар. 67).



# ПАЭЗІЯ ❖ ПРОЗА

- Пятро ПРЫХОДЗЬКА
- Вольга ІПАТАВА
- Хведар ЧЭРНЯ
- Алесь ПАЛЬЧЭЎСКІ
- Іван КАЛЕСНІК
- Алесь ДЗЯТЛАЎ
- Іосіф ВАСІЛЕЎСКІ



● Пятро ПРЫХОДЗЬКА





# *Ветравыя шляхі*

## ПАЭМА

Льецца рэха наўкола
Медным звонам сасны,
І нясуць мяне колы
На паўстанак лясны.
Да бацькоўскіх парогаў,
Маладых сваіх дзён
Я знаёмай дарогай
Еду ў дальні раён.
Клічуць рэчка, даліна,
Дзе шумяць хмызнякі,
Кліча гай салаўіны
І сябры-землякі.
Прывітанне тым соснам,
Што гушкалі зіму,
Маладым сінім вёснам
І паўстанку майму.
Ён, за іншых не горшы,
За Дняпром між лясоў
Прапускае на Оршу
У дзень па сто цягнікоў.
Ля чыгункі — ракіты
І рамонкі ў траве,
Домік, гонтай пакрыты,—
Тут сяброўка жыве.
Ноччу, вечарам, ранкам —
Дождж ці дрэвы ў расе —
На сасновым паўстанку
Пільна службу нясе.
Цягнікі! Пралятайце
І вяртайцеся ў час —
Толькі тых не мінайце,
Хто чакае тут вас.
На яе паглядзіце,
На Марыну Дацук.
Як цягнік праімчыцца —
Сэрца — стук,
Стук ды стук.
Ёй старэць яшчэ рана
На жаночым вяку...
Ёй бы разам з каханым
Тут прайсці пад руку.

*

На паўстанак падвечар
Уварваўся экспрэс.
Стаў.
Праходзіць сустрэчны —
«Масква — Брэст».
Паміж двух эшалонаў
Я спыніўся на міг.
Свецяць вокны вагонаў,
Углядаюся ў іх.
Эх, пайсці б мне дадому
Ад экспрэса хутчэй...
Але здаўся знаёмым
Позірк гэтых вачэй.
Пэўна, бачыў я недзе
Гэткі позірк жывы...
Дык няўжо гэта едзе
Наш камбат франтавы?
Камандзір наш — той самы,
Нескароны ў баях,
Дзе служылі байцамі
І Марына і я?
Ці пазнаў ён, хто зноўку
Адчыніў семафор,
Ці убачыў сяброўку
Пасівелы маёр?
Ён жа быў чалавекам,
Сябрам быў нам усім...
І амаль чвэртку веку
Мы не чулі аб ім.
Запытаць бы адразу:
«Вы, таварыш маёр?..
Наступалі мы разам
На Патсдам і Вюнсдорф.
Вы дайшлі да Берліна
З батальёнам сваім.
Тут вось ваша Марына
На паўстанку лясным...»
Можа я памыліўся —
То не ён, не камбат?
Скажа: «У сне я прысніўся
Вам, таварыш салдат».
Мо кудысь за паўсвету
Едзе ён за мяжу?
І Марыне пра гэта
Я пакуль не скажу.

*

Напэўна, ў кожнага на свеце
Далёкі свой паўстанак ёсць,
Куды з-за хмар, густога вецця
Даходзіць рэхам маладосць.
І сёння ўспомніла Марына
Свае дзявочыя гады.
Яна салдатам да Берліна
Ішла ў адным страі тады.
Там, ля рэйхстага, дзе сканала
Навек крывавая вайна,
Рэгуліроўшчыцай стаяла
Між смерцю і жыццём яна.
Руіны, брук

І гул машынны —
Нібы было ўсё так даўно!
Нядаўна ж бачыла Марына
Сябе самую у кіно:
Старыя кірзавыя боты,
Рэйхстаг з пахмурнасцю калон
І Брандэнбургскія вароты —
У кінахронікі тых дзён.
Ды што ёй хроніка старая —
Час устрывожыў сэрца зноў:
Стаіць яна
У сонцы мая
На скрыжаванні ўсіх вятроў.
Твар абдае дарога пылам,
Соль пакідае на плячах.
А сэрца рада —
Нашым мілым
Байцам дамоў адкрыўся шлях.
Рэгуліроўшчыца на бруку
Стаіць, нібыта у страі.
Адно махаюць толькі рукі,
Як крыллі птушкі у гаі.
Рэйхстаг разбіты, закурэлы.
На ім відаць сляды штыкоў.
Сама б, як птушка, палящела
Яна адсюль хутчэй дамоў.
Але пакуль няма загаду —
Стой на пасту сваім, салдат!..
Яшчэ душу цяпліла радасць:
Быў побач ён —
Яе камбат.
Чаму яе? Хто даў ёй права
Камбата называць сваім?
Вышэйшы чынам ён
І славай,
Яна ж —
Яшчэ дзяўчо прад ім.
Што даў ёй лёс? —
Пагляд вясёлы,
Шырокі лоб, брыва разлёт...
Яшчэ нядаўна з камсамолам
Ішла у першы свой паход.
Дзе тая школа?
У зацямненні
Былі так доўга вокны ў ёй...
І добра, што пры вызваленні
Марыну ўзяў маёр з сабой.
І от ёй выпала дарога —
Байцом з камбатам побач стаць.
Быў ён старэйшы ненамнога —
Усяго гадоў якіх на пяць.
Маёр душой любіў Марыну
Паміж усіх дзяўчат-байцоў.
«Пабудзь яшчэ,— казаў,—
З Берліна
Мы разам вернемся дамоў.
Там, на паўстанку каля Оршы,
Адзначым май мядовы свой...»
Ды не збылося...
Службу нёсшы,
Ён не мінуў бяды цяжкой.
Калі стаяла са сцяжкамі
Марына на пасту сваім,
Маёр з байцамі-шафярамі
Да Эльбы ехаў ранкам тым.
Яшчэ вяла там бой брыгада
І дабівала гарнізон.
Туды гранаты і снарады
Падвозіў аўтабатальён.



Гулі трывожна ночы мая...
Аднойчы выйшла на шашу...
І вестка
Самая цяжкая
Перавярнула ўсю душу.
О не, не плакала Марына:
Яна ж баец, яна — салдат...
І толькі доўга той сцяжынай
Хадзіла, дзе хадзіў камбат.
За Эльбу птушкі адляталі,
І адыходзіла вясна.
Нідзе — ні ў часці, ні ў шпіталі —
Камбата не знайшла яна.
Перажылі ў той мірны ранак
Шмат людзі радасці і слёз...
З Берліна
На лясны паўстанак,
Сюды цягнік яе прывёз.

*

Адаспелі ажыны
Цёплай жніўнай парой.
З поля пах канюшыны
Нёс на пасеку рой.
Бор праменны і гонкі
Зліўся з шумам вятроў.
І шчаслівыя жонкі
З працы крочаць дамоў.
Сонца, шчодрае лета
Усюды бачаць яны.
А Марынін палетак —
Рэйкі, рэйкі адны.
І яна, нібы ўзмежкам,
Ужо колькі гадоў
Ходзіць вузкаю сцежкай
Паміж жонак і ўдоў.
Хоць сваты былі часта,
Ды трымаў лёс былы...
І адмовіла ў час той —
На руках сын малы.
Не крыўдуе Марына
На сваю маладосць.
Прыгажосць, чэсць жанчыны,
Праца — ўсё ў яе ёсць.
Хоць не жонка, ды маці —
Не з апошніх жанчын.
І ў Марыны ёсць шчасце —
Дарагі, родны сын.
Ужо трэцяя восень,
Як у войска пайшоў.
З палявой пошты носяць
Шмат ад сына лістоў.
Мо з другімі байцамі
Зараз крочыць ў дазор
Там, за тымі лясамі,
Дзе быў бацька — маёр?

*

Мы гамонім з Марынай
Да глыбокай начы...
Пра юнацтва ўспамінам
Песня ў хаце гучыць.
Ды на шчасце ці гора
Не кажу ёй аб тым,

Быццам бачыўся ўчора
З яе мужам былым.
Калі б ён, дружбе верны,
Паміж нас дзесьці жыў,—
Пэўна, ў войску цяпер бы
Ён палкоўнікам быў.
Полк бы вёў свой у поле
Там, дзе сціхла вайна,
І яна з сваёй доляй
Не была б тут адна.

*

Залатое калоссе
Адшумела ў палях.
Жаўтакудрая восень
Сыпле лісце на шлях.
Пойдзе зноў непагода
Лістападнай парой.
Вецер злосны, халодны
Дым нясе над зямлёй.
О, вятры на раўнінах,
Не трывожце вы нас!
Сёння свята ў Марыны —
Надышоў яе час.
Дом Марынін на ўзлессі
Апусцеў да пары...
Ды прыходзіць да весніц
Паштальён на зары.
Мне дае тэлеграму:
«Не сумуй, дружа мой.
Еду ў горад
Той самы,
Дзе заканчвалі бой»...
Бой?.. Які?.. Было многа
За вайну ў нас баёў.
За граніцу дарога
Ёй накрэслена зноў.
Ёй ужо дальніх станцый
Семафоры відны...
Не чакаў нат, прызнацца,
Я такой навіны.
А цяпер вось чакаю
Я гудка аднаго,
Бо Дацук пад'язджае
Да паўстанка свайго.
Праз акенца вагона
Бачыш луг, цёмны бор?..
Для твайго эшалона
Ўжо адкрыт семафор.
Рэйкі іскрамі ззяюць,
І ў руках юнака,
Што цябе падмяняе,
Б'ецца дрэўка сцяжка.
Адаспелі ажыны,
Стромкі бор пасівеў.
Едзе сёння Марына —
Далеч зноўку заве.
Да вясны — самай ранняй,
Што ўставала з агню,
Дзе спазнала каханне
У жыцці ўпершыню.



● Вольга ІПАТАВА



● Мал. В. ШРАМЯКОВА

# ПРАДЫСЛАВА

АПОВЕСЦЬ

## 1



Зямля дыхала гарачынёй. Чэрвеньскі поўдзень, нібы настоены на водары скошанай травы, туманіў галаву. Прадыслава, нарэшце, прысела на прывялую ад сонца густую траву, што расла пры дарозе.

Вакол была цішыня. Ледзь чутна звінелі пчолы ды шапацелі яшчэ неналітыя каласы жытняга поля. Але дзяўчына нічога не чула, шырока раскрытымі вачыма ўглядалася ўдалячынь. Справа, на ўзвышшы, ляжаў Полацак. Блішчаў на сонцы купал святой Сафіі. Сцяна вакол дзядзінца ўгадвалася па высокіх вежах, а ў прадмесці, бліжэй да вежы, курэў пыл — нехта, відаць, ехаў на кані. На вуліцах знешняга горада соцкія не надта стараліся глядзець за парадкам. Там не былі замошчаны многія вуліцы, і ранняй вясной альбо ўвосень коні аж па калені гразлі ў чорнае тлустае месіва, а летам шэры пыл асядаў на дрэвах так густа, што нельга было нават пазнаць колеру лісцяў.

Але ўсё роўна князь Георгі, бацька Прадыславы, перабраўся з дзядзінца, дзе жылі княжацкія сем'і, амаль на самы канец Полацка, на Вадзяную вуліцу, што вяла да Дзвіны. Ён пасварыўся з братам, вялікім князем Барысам, і назло яму зрубіў багатыя харомы пад самым земляным валам, які аперазаў прадмесце. Тут жыла гарадская бедната, рамеснікі, і сярод шэрых сляпых хацін нечаканым быў вялізны княжацкі дом —

новы, з жоўтымі смалістымі сценамі, з разьбянымі церамамі ўверсе і празрыстымі — з заморскай слюды — вокнамі.

Але Прадыслава была рада іхняму перасяленню: яна магла цяпер часцей выходзіць за горад, у адзіноце думаць пра тое, што хвалявала яе душу — філасофскія развагі Платона і Арыстоцеля, свае ўласныя ўяўленні аб жыцці і смерці, аб сэнсе быцця. Вось і сёння яна пайшла на сваё звыклае месца — да каржакаватай старой бярозы, што адзінока стаяла на ўскраі жытняга поля.

Дарога адсюль збягала ўніз, і вакол, да самага небасхілу, была відаць раўніна з яе рознакаляровымі лапікамі сенажацяў, хмызнякоў і агародаў. Дзе-нідзе былі відаць маленькія постаці — гэта працавалі людзі. Такімі ж маленькімі, дробнымі здаваліся ёй іхнія клопаты. Паесці, адпачыць — вось і ўсё, аб чым маглі думаць гэтыя гарапашнікі ў карэлым адзенні і з вечным страхам у галодных вачах. Такімі яны прыходзілі на шырокі, утаптаны тысячамі ног двор яе бацькі. Прыходзілі, азіраючыся, нібы загнаная жывёла, і доўга чакалі, пакуль вынесуць драўлянае высокае крэсла з разьбяной спінкай, на якім любіў сядзець князь, разбіраючы іх скаргі. Яна ніколі не слухала іх, нават калі сядзела тут жа, на двары. У такія хвіліны яна звычайна глядзела на бацьку — як грозна хмурыліся ягоныя бровы, а на жорсткім, маршчыністым твары ўспыхвалі і святлелі халодныя зеленаватыя вочы. Тады ціха рабілася на двары — баязліва выглядалі з-за дзвярэй сёстры, таропка хрысцілася маці. Адна Прадыслава ніколькі не баялася бацькі. І ёй хацелася толькі абняць і супакоіць яго.

Сонца сляпіла ёй вочы. Яна трохі адсунулася ў цень, бліжэй да бярозы, і адразу нешта ўкалола яе ў руку. Асот. Яна з намаганнем зламала сцяблінку і грэбліва адкінула яе. А потым зноў заплюшчыла вочы. І нібы ўбачыла тое, што было для яе самае дарагое — кнігі... Вялізныя, цяжкія. Некаторыя нават падняць адной немагчыма. Яе рана навучылі чытаць і пісаць, але і дасюль помніцца, якімі мяккімі і трапяткімі рабіліся жоўтыя рукі Агнесы, калі яна гартала тоўстыя пергаментныя старонкі з дзіўнымі значкамі — літарамі. А потым гэтыя значкі перасталі быць для яе незразумелымі, ды ўсё роўна захавалася ў душы таямнічасць, з якой яна сама ўпершыню дакранулася да кнігі.

Вось і зараз у яе святліцы ляжыць актоіх, дзе ёсць вершы Грыгорыя Назіанзіна і Іаана Дамаскіна. Гучныя радкі іх нібы на крыллях нясуць у незвычайны свет...

Забыўшыся пра ўсё, яна не пачула крокаў. Здрыганулася ад нечага голасу, расплюшчыла вочы і борзда ўсхапілася з травы.

Высокі хлопец у расхрыстанай палатнянай кашулі стаяў перад ёю. Яна імгненна ўгледзела яго русыя з залацістым адлівам валасы, шырокія плечы, босыя ногі, якія патаналі ў густым цёплым пыле. Сустрэла яго позірк. І — сумелася. Выляцелі з галавы ўсе ганарлівыя словы, якія хацела сказаць смерду княжацкая дачка. Столькі юначай шчырасці і захаплення было ў яго твары — мужным, але яшчэ з дзіцячай прыпухласцю вуснаў і шчок.

«Які незвычайны твар! — падумала яна.— Рэдкая гармонія і вытанчанасць рысаў. І чамусьці здаецца знаёмы. Але я ўпершыню бачу яго!»

Як азарэнне, прыйшоў раптам успамін — ніша Неа Моні на Хіосе. Славутая мазаіка старажытных майстроў. І апостал Іаан з Прэабражэння. Толькі ён быў суровы, няўмольны, а гэты — зусім хлапчук. Над вуснамі яшчэ залаціцца пушок. А цела — як у мужчыны — моцнае. І загарэлае.



І ён не зводзіў вачэй з дзяўчыны. Яна стаяла перад ім у доўгім палатняным адзенні, аздобленым на падоле бліскучымі каменьчыкамі. У саф'янавыя чырвоныя пантофлікі былі абуты маленькія ногі. На грудзях — залатыя грыўны з лунніцай і медальёнамі — нетутэйшай работы. Нетутэйшым быў і твар — смуглявы, з вялізнымі чорнымі вачыма і тонкім прамым носам. Толькі тоўстая каса была попельна-русая, як у тутэйшых дзяўчат. І — залаты абруч на галаве.

— Ты хто? — нарэшце выдыхнуў ён. І зрабіў крок уперад, працягнуўшы да яе рукі. Чырванню палыхнуў дзяўчынін твар. Запознены сорам агарнуў яе — загледзелася на незнаёмага, ды яшчэ на каго — чорнага чалавека! Але чамусьці неставала сіл павярнуцца і пайсці. Гарачая хваля падступіла да самага сэрца, і яно затахкала часта-часта.

— Князёўна! Князё-о-оўна! — пачуўся крык.

Да іх бегла дзеўка з княжацкага двара, махала хусткай.

— Вас князь кліча! Сваты зноў прыехалі! — яна аж захлыналася словамі.

— Князёўна!?

Прадыслава бачыла, як змяніўся твар у незнаёмца. Упалі, як крылы ў падстрэленай птушкі, ягоныя рукі. А ў вачах з'явілася такая туга, што Прадыслава не вытрымала — крута павярнулася і амаль пабегла па пыльнай дарозе. Гарачы пот залівай ёй вочы, а яна ўсё бегла і толькі адчувала саланаваты смак на вуснах...

Хлопец памкнуўся за ёй, але перад ім пагрозліва ўстала прыслужніца. І тады, не помнячы сябе, ён схапіў яе за плечы, ускрыкнуў:

— Як клічуць яе?! Кажы — як?!.

І спалоханая яго страснасцю і неўтаймаванасцю, ціха адказала тая:

— Прадыслава... Толькі нашто табе гэта, Раман?

## 2

Бацька не прыехаў яшчэ з палявання, і Прадыслава адзінока сядзела ў сваёй прасторнай, па-візантыйску абстаўленай святліцы. Яна сама абставіла яе так — усходнія мяккія пуфы ля светла-арэхавага, з гнутымі ножкамі стала; на дубовых паліцах ля сцяны, зацягнутай аксамітам,— кнігі. У куце — ложак, накрыты празрыстым полагам, які вялікімі складкамі ападаў на падлогу. Ля акна — пазлацаны іканастас, прывезены з Царграда.

Бацька ні ў чым ёй не пярэчыў — яму падабалася гэтая раскоша, тонкі густ дачкі, якую ён паважаў, як роўню. Нездарма ідзе па Полацку слава аб ёй. Вялікім розумам і прыгажосцю надзяліў яе бог. Не было ў яго і няма цяпер нікога больш блізкага, чым Прадыслава. А дзве малодшыя — ат, што з іх, баб, возьмеш. Адны пярсцёнкі, колты * ды анучы розныя іх цікавяць!

Старэйшая дачка ведала гэтыя развагі, але не карысталася сваёй уладай у доме. Наадварот, усяляк выказвала сваю пакору бацьку. Вось і ўчора, калі папрасілі яе ў вялікую грыдніцу, дзе чакалі сваты, яна перш-наперш падышла да яго, нізка схілілася ў паклоне. Потым падышла да сватоў, што прыехалі ад тураўскага князя Рагвалода. Двое — князі. Астатнія ж, відаць, баяры. Усе ў дарагім адзенні, урачыстыя. Асабліва князі. У аднаго — зялёны, ніжэй кален, каптан. Паверх — карзно сіняе з чырвоным, зашпіленае на плячы барвовай

* Колты—завушніцы.

запонай з залатымі пялёсткамі. Зялёныя вастраносыя боты на нагах. У другога — высокая сіняя шапка з чырвонымі навушнікамі. А каптан — малінавага колеру і залаты пояс.

Усё гэта яна добра разгледзела, калі яны гаварылі пра князя Рагвалода. Гаварылі з пыхаю, але ёй чамусьці не хацелася слухаць — як жа, прыехалі купцы! А яна — тавар. Добра хоць, што бацька дае ёй поўную свабоду. Таму, па звычаі абнёсшы гасцей чарамі з віном, яна, хаваючы ўсмешку, паставіла сваю чару, нават не паднёсшы яе да вуснаў, і з цікаўнасцю глянула на гасцей. Яны пакрыўджана заміргалі, але сцярпелі адмову, пакланіліся на развітанне спакойна і ветліва.

Князь Георгі нічога не сказаў ёй. Думаў, напэўна, што для яе і лепшыя жаніхі знойдуцца. Балюча перажывае сам, што ніколі не сесці яму на пасад — самы малодшы ён з Усяславічаў, і многа сыноў у старэйшых братоў. Дык яе хоча за ўдзельнага князя аддаць, каб хоць дзедам вялікага князя — унука будучага — пабыць. Вось яшчэ з-за гэтага ён так пялегуе яе, сваю дачку.

Падарыў учора яшчэ адну кнігу — багатую, з залатымі і чырвонымі застаўкамі. Сабраны ў ёй павучанні са свяшчэннага пісання і некаторыя думкі з кніг грэчаскіх пісьменнікаў. Некалі чытала яе, але на грэчаскай мове. А гэта кніга — на мясцовай, славянскай, і зроблена тутэйшымі майстрамі — чарняцамі Васілём і Фёдарам. Нямала грыўнаў аддаў за яе бацька епіскапу святой Сафіі, затое ж кожная літара выведзена — вачэй не адвесці. Старонкі, чуваць, пахнуць мятай, на якой настойвалася кінавар. Яны яшчэ чыстыя, свежыя. Яна так чакала гэтай кнігі — у яе ж толькі грэчаскія тут, у Полацку. Але сёння яе думкі заняты другім, зусім другім.

Малодшы князь учора глядзеў на яе, саромеючыся, і ў той жа час амаль не адводзіў вачэй. А яна была халодная і спакойная. Адмовіла сватам і нават не задумалася — а чаму?

Не хацела нялюбага? Баялася, што знікне свабода, у якой жыла цяпер? Яна і сама не ведала. Але жыла з учарашняга дня ў ёй нейкая незразумелая трывога. Усплывалі ў вачах залацістыя валасы, загарэлы разумны лоб — адкуль ён узяўся ў смерда? І наогул — чаму яна так многа думае пра яго?

У пакой уплыла чалядніца Брачыслава з вітай васковай свечкай у руцэ. Кінула трывожны погляд на гаспадыню. Якая яна прыгожая, гэтая Прадыслава! Аксамітавая доўгая сукенка, вышываная сухім золатам, лягла бліскучымі палосамі ля ног. На шыі — карáлі з зялёных каменняў з бліскучымі іскрынкамі. Задуменныя вочы глядзяць у кнігу.

Грэшнай здаецца Брачыславе просьба яе стрыечнага брата Рамана — угаварыць князёўну паглядзець сёння вечарам свята Ярылы, што Купаллем завецца. Забараняе яго царква. Брачыслава — хрышчоная, але... Так хочацца ёй павесяліцца з ранейшымі сяброўкамі, забыцца пра ўсё — як стаў халопам яе бацька, узяўшы за сябе прыгожую Марыну з двара князя Георгія. Забраў князь у двор і яе, дачку першай жонкі-нябожчыцы. Несправядліва гэта, ды толькі каму ж паскардзішся? Яшчэ раней плакала яна каля ног бацькавых, маліла яго не жаніцца на Марыне. Але той нібы розум згубіў — адпіхнуў яе нагой і пайшоў на княжацкі двор. А праз два гады пачаў заляцацца да Марыны нашэптнік княжацкі Астрамір. Ды і яна нібыта хіліцца да яго пачала; заўсёды грыўны ў яго вадзіліся, падарункамі яе зманьваў, бранзалетамі меднымі ды завушніцамі празрыстымі заморскімі.



Маўчаў бацька. Звярэў пацiху. А калі злавіў аднойчы прайдзісвета ў цёмным кутку з Марынай — не вытрымаў: апусціў свой вялізны кулак на шышкаватую, з рэдзенькімі шэрымі валасамі Астраміраву галаву.

Судзілі яго назаўтра тут жа, на двары. Прывязалі да дрэва, і князь, успамінаючы нейкі статут Яраслаў, прысудзіў халопа, які асмеліўся ўдарыць вольнага чалавека, біць да смерці. Ніколі не забыць Брачыславе, як крычма крычаў бацька і як сканаў у цяжкіх муках. А яе ўсё роўна не адпусцілі на волю. Прыставілі да маладой князёўны. І ўжо звыклым стала паднявольнае жыццё. І толькі часам, калі пачынала думаць пра ўсё, слёзы засцілалі вочы. Але, дзякуй богу, ніхто гэтага не ведае. І ўсё ж назаўсёды яна запомніла — трэба далей ад княжага гневу і княжай ласкі трымацца.

Калі ўчора Раман зайшоў да яе цёткі, да якой яна прыбегла крадком, і падахвоціўся правесці да самага горада, яна адразу зразумела, што нешта тут не так. Бачыла ж вочы свайго брата стрыечнага, калі стала ўпоперак яму на дарозе. Але ўсё роўна просьба Раманава ашаламіла. «Здурнеў ты!» — прыкрыкнула. А ён нечакана ўпаў перад ёй на калені, нібы перад іконай, а ў самога вочы — як непрытомныя. Ажно спалохалася. І — згадзілася.

А цяпер вось стой перад князёўнай, маўчы. І ўсё чамусьці бацькава смерць успамінаецца. Напэўна, таму, што цячэ і ў яе гаспадыні кроў князя Георгія. Бязлітасная, прагная кроў...

Брачыслава схамянулася, калі на руку пырснула растопленая кропля воску. Яна войкнула. І адразу цёмныя вочы князёўны ўкалолі яе. Ссунуліся тонкія бровы. А ўбачыўшы руку, лёгенька ўстала, пайшла да чорнага, з нетутэйшага дрэва сундучка, дастала нейкі белы парашок у празрыстай пасудзіне. Прысыпала апечаную руку. Боль імгненна сціх.

«...А ўсё-такі добрая яна»,— падумала чалядніца.— І — асмялела.

— Ці не хочацца паглядзець князёўне, як простыя людзі свята спраўляюць? — спыталася яна і ўжо зусім ціха сказала: — І мой брат стрыечны, Раман, там будзе. Вы ўчора яго бачылі. Помніце?

Перамяніўся твар у князёўны. Адвярнулася яна. Пайшла да акна. Пастаяла там, вярнулася. І нібы гаворка ішла аб нечым звычайным, адказала спакойна:

— Ну што ж, пойдзем.

## 3

Рана засынаў княжацкі двор. Здаецца, зусім нядаўна сцямнела, а ўжо ўсюды — цішыня. І ўсё роўна якім доўгім здаецца шлях ад яе святліцы да сяней. Праз грыдніцу праходзячы, Прадыслава яшчэ раз благаславіла бацькава паляванне: змарыўшыся, грыдні * спалі, нават добра не павячэраўшы. А звычайна тут у гэты час яшчэ шумна — ідзе вячэра. На сталах — і мяса, і рыба, і сыры розныя — шчодра выплачваюць бацьку даніну ягоныя селішчы ды вёскі. Так і ходзяць лыжкі, карчагі ды браніцы. І бацька тут — вясёлы, п'янаваты. Любіць ён балягаць. «Вялікім князем» называюць яго тут хаўруснікі, і таму не скупіўся ён на пачастунак.

* Грыдні—члены княжацкай дружыны.

Успомніўшы пра бацьку, Прадыслава ўздрыгнула і яшчэ шчыльней загарнулася ў пурпуровы, з брыльянтавай за́сцежкай плашч — падарунак маці. «Цікава, што будуць рабіць бацькі, калі даведаюцца, дзе сёння яна была? Матуля, канечне, будзе моўчкі плакаць у сваёй святліцы. Яна стала зусім чужая. А бацька? Пабаіцца за свой гонар. Баіцца, каб не паднялі яго сям'ю на смех. Асабліва асцерагаецца брата Барыса — вялікага князя полацкага. Той не прапусціць нічога, за што можна было б папікнуць. А сам сваю дачку Звеніславу сцеражэ, як скарб вялікі. За агароджу не выпускае. Колькі слёз выплакала Звеніслава на яе плячы — замуж ёй хочацца. Ды бацька не дазваляе — вырашыў, каб дачка служыла богу. Каб замольвала яна ў манастыры грахі яго, каб дзень і ноч прасіла бацьку захаваць ад братоў яго — Давіда Віцебскага ды Глеба Мінскага. Таму і баіцца князь Барыс выпускаць Звеніславу адну, бо ведае — не адзін баярын малады марыць аб тым, каб украсці Звеніславу ад суровага бацькі ды да сябе на гарачых конях прымчаць. Толькі ў святую Сафію і ходзіць яна, ды і то некалькі грыдняў сцерагуць яе».

А пра пляменніцу Прадыславу не раз казаў Барыс, падціскаючы тонкія вусны: «Разумная яна ў вас! Але ж ці варта жанчыне такую волю даваць ды песціць так? А то няйначай прымеш праз яе сорам вялікі».

Уявіўшы сабе хітры, пабіты воспінамі твар дзядзькі, Прадыслава ледзь не павярнула назад. Але глянула на чалядніцу, што нетаропка шыбавала ўперадзе, і зноў паскорыла крок. Яны ўжо былі за гарадской сцяной. Ціха і цёмна было на бязлюднай дарозе. Уперадзе, над чорным няроўным сілуэтам блізкага лесу, узнімаўся вялізны чырвоны маладзік. Даўно не бачыла Прадыслава такое ночы. Дома клаліся рана, калі толькі пачынала шарэць. Праўда, яна яшчэ чытала пры свечцы — ды ўсё роўна, хіба многа ўбачыш з вузкага акна святліцы? Кавалак зорнага неба ды двор. А цяпер яна ішла па цёплай яшчэ дарозе, а ў твар злёгку дыхала халаднаватая вільгаць ад Дзвіны, і дзяўчына сама сабе здавалася бездапаможнай і маленькай у гэтай неабдымнай прасторы. Дрэвы выдавалі нерухома-чорнымі, аблітыя чырванаватым святлом, а зоркі спусціліся нізка і былі вялізнымі, жывымі.

І Брачыслава перамянілася. Твар пабляднеў, вакол вачэй — вялікія цені. Ад гэтага твар здаецца незнаёмы, нібы ў душы смяецца яна над князёўнай, завабіўшы яе немаведама куды. Прадыслава моцна сціснула кулакі, пазногці ўпіліся ў далонь. Сцяла зубы, каб не выдаць свайго страху.

Аднекуль збоку пачулася песня. Яна ўсё шырылася, і вось ужо бліснула святло. Некалькі крокаў — і дзяўчаты выйшлі на шырокую лясную прагаліну. Ярка гарэла вогнішча, пастрэльвала вугельчыкамі. Дзяўчаты ў саматканых андараках, зрэбных кашулях з металічнымі недарагімі грыўнамі на шыях і хлопцы ў вышытых кашулях вадзілі вакол яго карагод. Брачыслава спынілася.

— Падыдзем? — спыталася, і было відаць, што яна прагне быць там.

— Ідзі адна, я пагляджу адсюль.

Прадыславу балюча ўкалола тое, што тут, у лесе, дзяўчына гаварыла з ёй, нібы з раўнёю. Але тая, здаецца, не чула. Пырхнула птушкай да вогнішча. Прадыслава прысела на сухі невысокі пянёк. Некалькі дрэў засланялі яе ад чужых вачэй, а сама яна бачыла ўсіх, хто быў на прагаліне. Дзівілася яна, якія вясёлыя, адкрытыя твары ў іх! Няма



ні страху, ні прыніжанасці. Гэта таму, што тут яны — гаспадары, тут ніхто іх не абражае, не гоніць.

І Брачыслава з імі. Расчырванелася. Трымае яе за руку нейкі хлопец, а ў яе ўсмешка з вуснаў не сыходзіць. А як спявае! І песні тут зусім другія, чым дома — імклівыя, жартоўныя. Ад іх і самой спяваць хочацца і бегаць тут, ля вогнішча, і скакаць. Ну, які тут грэх? Проста весяляцца людзі. Вунь высокі, цыбаты чалавек так смешна, па-жураўлінаму раскінуў ногі і рукі, скачучы цераз полымя. Дзяўчына, забыўшыся пра ўсё, звонка рассмяялася. І здрыганулася ад нечаканасці — перад ёй стаяў Раман. Чырвоныя водбліскі агню лажыліся на ягоны твар. Радасць, неўтаймаваная дзіцячая радасць была на ім.

— Вось добра, што свята... І ты тут!

— Паганскія ігрышчы святая царква забараняе,— упарта сказала Прадыслава, апусціўшы галаву, каб не бачыць гэтай ягонай радасці.

— Паганскія? Дурненькая ты. Гэта ў вашай царкве пагана, ні радасці там, ні цеплаты. Нашы багі добрыя, таму што яны не на небе, а на зямлі жывуць. Разам з намі. Пойдзем, я табе пакажу іх.

Не чакаючы адказу, узяў яе за руку. І дзіўна было Прадыславе, што яе, княжацкую дачку, вядзе, як раўню, за сабой просты чалавек. Але самае нязвыклае, ад чаго кружылася галава, было тое, што ёй было невыказна-добра і трывожна з гэтым русавалосым хлопцам у лапцях.

А ён ішоў па лесе, нібы гаспадар. Прыгінаў галіны, дакранаючыся да іх, нібы да жывых. І Прадыславе ўжо зусім не страшнаю была цемра, яна ішла побач з Раманам, і сном — доўгім, трапяткім сном — здаваўся дотык дужага гарачага пляча. Нібы ўсё гэта ўжо было з ёй калісьці — дзе, як? У сне ці другім жыцці?

«Можа, я ніколі не нараджалася і ніколі не памірала, была заўсёды — як гэтыя яліны, як гэты маладзік?»

Вузкая сцяжынка прывяла іх да Дзвіны. І яны сталі проста над абрывам. Над імі вісеў маладзік — ён ужо быў невялікі, як сярэбраная грыўна, і казачна-прыгожымі здаваліся ў яго святле зямля і лес. Унізе блішчэла і пералівалася, як дарагая плашчаніца, водная роўнядзь.

— Тут недзе жыве мая знаёмая русалка,— шапнуў Раман. І, нібы ў падцвярджэнне гэтага, ціхі плёскат пачуўся ў рацэ.— Яна заўсёды падганяе да мяне рыбін. Яна добрая. Калі плаваю — жартуе. Пырскае з-за кустоў. Але хутка іхні дзень, адсвяткуюць яго — і канец гульням іхнім. Пачнуць з дрэў падаць.

— І што ж яны, забіваюцца?

— Напэўна ж, бо нават спяваюць тады:

Русалачкі, зямлянячкі,
На дуб лезлі, кару грызлі,
Зваліліся, забіліся.

— Шкада яе, тваёй русалкі.

— Нічога. Яна вясной зноў ажыве. Прыйдзе на старое месца.

— А вунь там, пад старым дубам, жыве лясун. Ён насмешнік, але калі пакінеш яму арэхаў у дупле, ніколі не кране. Чуеш — ён гаворыць елкам, каб яны цябе не калолі.

Прадыславе здавалася — яна сапраўды чуе невыразны шэпт. Яна раптоўна паверыла Раману, гэтай сярэбранай начы. Тут гаварылі дрэвы, густа, да дурману, пахла хвояй і жылі добрыя, незвычайныя істоты, пра якія — Прадыслава цяпер помніла гэта — казала ёй бабка Рагнеда. Бабка так і не стала сапраўднай хрысціянкай. Яна хадзіла



ў хорам, але ў цераме стаялі не іконы, а драўляны бог Сварог, маленькі і пачарнелы ад часу. На покуце віселі нейкія травы, і пахла гэтак жа, як і цяпер, у начным лесе. І міжволі ў памяці Прадыславы паўстала даўняе: яна з парэзаным пальцам прыбегла да бабулі, а тая, схіліўшыся, шэпча над ёй чараўнічыя словы:

— Русалкі-сястрыцы, дайце кропельку вадзіцы, загаіце рану Прадыславе-дзявіцы. А я бяду на глыбокую ваду адвяду...

Яна раптам паўтарыла іх услых. А Раман узрадаваўся. Вочы яго засвяціліся.

— Бачыш, і ты ж вырасла з гэтай зямлі. Ты — наша. Людзі кажуць, што продак твой — вялікі Усяслаў — ад варажбы нарадзіўся. І гэта кроў у табе загаварыла словамі старымі.

Ён змоўк. Другія словы ўжо гатовы былі сарвацца з яго вуснаў, але ён стараўся стрымаць іх — баяўся напалохаць дзяўчыну. А яна глядзела ўніз — там ярка гарэла саламянае пудзіла, і дзяўчаты зладжана спявалі:

Купала на Йвана!
А ў нас сянні вартоўна ноч...
Змяя ходзіць, кароў доіць...

Яна адчувала, як у яе жылы атрутай уліваліся гэтыя словы, зачароўваючы і адбіраючы сілы. Ёй раптам стала страшна, нібы зараз павінна было адбыцца нешта незвычайнае. Міма прабегла дзяўчына, за ёй — хлопец. Яны заліваліся смехам. Хлопец схапіў яе за плечы, павярнуў да сябе. Яна замоўкла, і раптам у цішыню ўварваліся словы. Першародная страсцю веяла ад іх, нібы гэтыя двое былі адны на зямлі.

Прадыслава не магла нават зварухнуцца. І з ёй побач быў Раман. І калі ён працягнуў да яе гарачыя рукі, яна памкнулася да іх, увайшла ў іх кола. І, ужо амаль губляючы прытомнасць, адчула, як моцна і востра пахла хвояй...

## 4

Недалёка ад Дзвіны, у высокім густым ельніку, стаіць будан. Ніхто нават днём не знойдзе яго: для гэтага патрэбна доўга, хаваючы твар ад калючых галін, ісці ўглыб ельніку. Каму будзе ахвота лезці ў такі гушчар?

Але толькі сцямнее і ў небе зазіхаціць першая вячэрняя зорка — тады маленькая, да самых вачэй захутаная дзявочая постаць асцярожна прабіраецца ў будан. Там яе ўжо чакаюць.

— Любая мая, любая, любая! — І лбом — у яе калені. Доўга не размыкае рук. А потым вуснамі знаходзіць яе вочы, бровы. Яны мяккія. І прыгожыя. Але зараз ён гэтага не бачыць. Пазней, калі пабляднее неба, яны выйдуць з будана, і тады ён будзе прагна ўглядацца ў іх, запамінаць — на цэлы доўгі дзень. Ды толькі мала адведзена тых імгненняў — будзе спяшацца Прадыслава, будуць дрыжэць яе рукі, і зноў словы, якія ён хоча сказаць ёй, будуць цэлы дзень ірвацца з сэрца: «Любая мая, любая, любая!»

А вось яе вусны. Гарачыя, нецярплівыя. І — салёныя.

— Што з табой, Прадыслава? Ты плачаш? Навошта?

Навошта — гэта ён добра ведае. Калі яна выплачацца, ёй здасца, што грэх яе робіцца не такі цяжкі.

— Табе добра са мной, Прадыслава? Добра? Хіба гэта грэх, калі нам так добра?

Ён лашчыць яе, як малое дзіця. Гушкае на сваіх каленях, і яна супакойваецца.

— Раман, ты мне так і не расказаў пра купальскую ноч. Пра яе столькі цудаў расказваюць. Хацела гэта зрабіць Брачыслава, але я не згадзілася — ты ж раскажаш мне лепей.

— У купальскую ноч зямля раскрывае перад чалавекам усе свае багацці: выбірай што хочаш. Але злыя духі не даюць — калі ўсе людзі будуць шчаслівыя — што ж ім застанецца на зямлі рабіць?

— Чаму ж ты не пайшоў шукаць тое, што зямля раскрывае перад чалавекам? — Яна ведае, чаму. Але ж такі ўжо чалавек, асабліва жанчына, што ёй хочацца бясконца чуць адно і тое ж, калі яно прыемнае. І ён адказвае:

— На Купалу ўсе папараць-кветку шукаюць. І я яе шукаў. І вось бачыш — знайшоў. Такой ні ў кога больш няма.

— І ў мяне ты адзіны такі. Прыгожы. Яшчэ ёсць адзін — у нішы Неа Моні на Хіосе. Але куды яму да цябе? Ён жа ўсяго толькі анёл...

Ён не зусім разумее, пра што яна гаворыць. Удыхае пах яе валасоў, шчыльней горне да сябе. Яна змаўкае на паўслове, цягнецца да яго... У дзірку над галавой бачыць дрыжачую прыгажуню-зорку.

...Вялізны дом спіць. Паціху прагінаюцца тонкія дошкі лесвіцы пад нагамі. Але не рыпяць — яшчэ новыя. Вось ужо тры засталося, дзве, адна.. Бясшумна расчыняюцца дзверы святліцы. Яна з палёгкай уздыхае. І раптам...

Успыхвае лучына ў кованых сярэбраных зажымах, убітых у бэльку. Тварам у твар — з двума. З палёгкай пераводзіць дыханне. Сёстры. Але чаму ў іх такія нахмураныя твары, злосна-радасныя і нястоенаzларадныя?

— Паглядзіце, Градыслава, якая ў нас сястра! Святою прыкідваецца, кнігі святыя чытае ды галаву ўсім дурыць! А сама па начах валэндаецца недзе!

Лада... І хто ёй імя такое даў — мілая? Востранькі драпежны тварык, маленькія вочы. Яна адкрыта радуецца таму, што старэйшая сястра — бацькава ўлюбёнка — стаіць перад ёй, нібы на крацьбе заціснутая. Градыслава ж—зусім яшчэ дзяўчынка—таксама нездаволена хмурыцца, пільна глядзіць на сястру. І ад гэтага яе асуджэння горкі камяк сціскае ў горле. «Што ты разумееш, маленькая! Нацкавалі цябе, вось ты і глядзіш так. Не трэба табе, не трэба быць суддзёй у гэтай справе».

— Ідзіце адсюль абедзве. Вас гэта не абыходзіць.

Градыслава памкнулася да выхаду, але Лада моцна схапіла яе за руку:

— Не, наша справа! Нас замуж ніхто не возьме, калі ты сябе зняславіш.

Гэта, канечне, яе права так гаварыць. Але чаму праз яе павінна Прадыслава адмаўляцца ад самага дарагога?

— Дык што я магу зрабіць для цябе, што?

— Кінь яго. Ці прыстойна табе, княжацкай дачцы, бегаць да смерда?

Яны, аказваецца, ведаюць Рамана?! Адкуль? Не час думаць пра гэта. Вось што дзівіць — чаму Лада так ненавідзіць яе? Ненавідзіць — гэта ясна. Напэўна, таму, што яе дасюль ніхто не сватаў, хоць і княжацкага яна роду. Дзіва што — ні прыгажосці ў ёй, ні розуму, ні дабраты. А да яе, Прадыславы, усе парогі пааббівалі сваты. З радасцю аддала б табе любога з іх, пакінь мне толькі аднаго, аднаго...



— Ну, што маўчыш? Відаць, і табе не ўсё дазволена, ха-ха-ха! Вось бацька будзе рады, калі даведаецца!

— Няўжо ты такая подлая, сястра?

— Подлая? Не, дарагая, гэта ты зняславіла і гэты дом, і нас. Ну, нічога, мы знойдзем, што рабіць. Ведай жа — калі ты яшчэ хоць адзіны раз пойдзеш да свайго смерда — ён паплаціцца за гэта жыццём. Думаеш, бацька яго пашкадуе? Ды ён сваімі рукамі заб'е яго!

Гэта праўда. Яна здрыганулася. Бацька, разгневаны бацька забівае Рамана... Не, няма сіл нават уявіць сабе гэта. Маленькія Ладзіны вочы свідруюць яе. Усё разлічыла. А колькі часу да гэтага маўчала, прыкідвалася, што любіць яе, колькі разоў прыходзіла, каб выпрасіць то каралі, то бранзалеты. Яна ўсё аддавала — не гэта цікавіла яе. Вось кнігу б, напэўна, не аддала. Ды што гэта? Хіба пра кнігі трэба зараз думаць! А думак няма, ёсць толькі адчай. І гнеў. Бяссільны, як і яна сама.

— Дык як ты вырашыла? Не цягні, ужо світаць пачынае. А можа і сапраўды паклікаць зараз бацьку, Градыслава?

— Не!

Гэта вырвалася, як стогн. Страх, толькі страх цяпер валодаў ёю. Яна нібы ўвачавідкі ўбачыла вочы таго смерда, якога забілі на іх двары. Яны былі дзікімі, гэтыя вочы, нічога чалавечага ў іх не было. Яна, выглянуўшы з акна, схавалася зноў, хоць не раз бачыла, як білі рабоў. Але ўявіць, што ў Рамана стануць такія вочы, што ён таксама будзе крычма крычаць і біцца ў путах?!

— Не-е-е!

Яна паабяцае ім усё, што яны хочуць. Але толькі не цяпер. Да сэрца падступае млявасць, расцякаецца па целе...

## 5

Прадыслава зноў выйшла да Дзвіны. Але цяпер, на світанні, рака была іншай, чым некалькі гадзін назад, калі Прадыслава вярталася ад Рамана. Клубы белага туману віліся над чорнаю халоднай паверхняю, якая паступова святлела, рабілася сіняй; і туман павольна асядаў у нізіне, апаўшы на дол буйнымі кроплямі расы. Імклівa несла рака сваё шырокае гнуткае цела, бясшумна слізгацела паміж хмызняку і гонкіх сосмаў, што раслі на пясчаных берагах. Не адчуваючы холаду, Прадыслава прысела на шурпаты камень, што ляжаў над самым абрывам. Яе пантофлікі і падол прамоклі ад расы, але твар гарэў.

Толькі што гаварыла з сёстрамі, а здаецца, што прайшлі вякі. Калі яна ачуняла, яны ўжо сядзелі ціхія. Паклалі на спальную лаву, падвярнулі коўдру. І выйшлі. А яна, хаця і дрыжэлі рукі і слабасць агортвала цела, не магла ляжаць. Здалося ёй, што ў святліцы духата...

Пакуль ішла, вярталіся сілы. Нібы чароўныя лекі, уліваўся ў грудзі ранішні холад. У апошні час яна прывыкла да прасторы, да неба над галавой, ужо не баялася ночы, і багі Раманавы былі вадой, зямлёй, сонцам...

Успомніла яго — і так балюча сціснула сэрца нязнаная раней туга, што ледзь стрымала крык.

Нашто тады яна пайшла з Брачыславай! Не было б той ночы —

яна ніколі б і не даведалася, якім шчасцем можа быць звычайны поціск рукі, як можа кружыцца галава ад блізкасці дужага, цёплага цела. Ніколі не ведала б, колькі смутку, ласкі і пакоры бывае ў вачах у мужчыны.

Яна заўсёды была раўнадушнай да лісліва-бойкіх гаворак сватоў, да тых, хто хацеў з ёй звязаць сваё жыццё. Не ў сямейным шчасці ўяўляўся лёс. Яе павінна было чакаць уперадзе нешта асаблівае, вялікае. І таму хітрыкі сватоў здаваліся пасткай, у якую хочуць яе зманіць.

Чаму ж сустрэча на пыльнай гарачай дарозе імгненна перайначыла ўсё, падхапіла і панесла па некай невядомай, страшнаватай, але прывабнай плыні? Прадыслава аднойчы бачыла, як пачыналася паводка: нерухомая, скаваная рака аж выгіналася — адтуль, з яе глыбіняў, узнімалася магутная неадольная сіла. Глуха патрэскваў лёд і нечакана са страшэнным грукатам зламаўся, з трэшчыны са свістам вырвалася вада, і тады, выбіўшыся на прастору, гэтая сіла пачала ламаць і крышыць усё навокал...

Такое ж пачуццё было ў яе некалькі гадзін назад, калі абдымалі яе дужыя рукі любага, калі над вухам гучалі яго шчырыя, добрыя словы.

— Ты — наша,— сказаў ён даўно, на купальскую ноч. Напэўна, гэта так і ёсць. І цячэ ў яе крыві сок навакольных бяроз. Раптам захацелася стаць адной з іх — лёгкай, светлай. Заплятаць зялёныя косы, глядзецца ў люстраную роўнядзь Дзвіны і шаптаць каханаму ўсё, аб чым спявае душа... Каханаму... І ці не ўсё роўна, у чым ён будзе — у бліскучым дарагім каптане ці ў саматканай кашулі! Абы былі побач гэтыя вочы — сінія іскрынкі, доўгія цёмныя вейкі і мудрасць яго — спрадвечная, суровая мудрасць замшэлых старых ялін, бяздонных лясных азёр, камяністай пясчанай зямлі. Перад імі слабой і бляклай здавалася тая мудрасць, якой вучылі тоўстыя старыя кнігі.

Яна дастала абразок, які заўсёды вісеў на шыі на доўгім залатым ланцужку. Пранікнёныя вочы багародзіцы глянулі ёй проста ў душу. Пякучы сорам апаліў Прадыславу. Як яна магла забыць усё, чаму вучылі яе?

Моц духу, які пераадольвае ўсе зямныя спакусы для таго, каб узняцца да сапраўднага разумення сутнасці жыцця? Дзе яна, гэтая моц? Страчана ў нізкім будане з яловых лапак? Ці ж г э т а яна марыла атрымаць ад жыцця? Павісла на тоненькім валаску паміж небам і зямлёй. Варта зварухнуцца — і абарвецца валасок. І тады грэшніца грымнецца ў самае пекла. А пекла — гэта яхідная ўсмешка дзядзькі Барыса, люты твар бацькі, кпіны і дакоры за спіной і, нарэшце, скрываўленая Раманава спіна. Упершыню яна адчула, што не можа жыць так, як ёй хочацца, што па руках і нагах звязваюць яе зямныя законы. Яна са сваімі думкамі, са сваім разуменнем жыцця варожая ўсяму таму, чым жыла раней, і ніхто не прыме яе, ніхто не падасць руку.

Хіба што зарослы травой бераг Дзвіны, росны луг ды лес у сіняй ранішняй смузе — яны прымуць яе, абароняць. Але не тут ляжыць яе дарога, не тут...

Яна пачынала трызніць. І ўжо не заўважала, як споўз з плячэй плашч, распляліся косы і рассыпаліся валасы.

Бела-чорная сарока, якая даўно цікавала за бліскучай залатой засцежкай, нарэшце, асмялела. Яна бокам, увесь час насцярожана азіраючыся, падскочыла да каменя і дзеўбанула засцежку. Але тут жа адскочыла і з шумам паляцела прэч.

Прадыслава ачуняла, агледзелася. Там, дзе на паўнеба разгарэўся ўсход, над белай ад туманоў зямлёй выплывала сонца. Спачатку вялікі чырвоны кавалак яго прарэзаўся скрозь вогненныя палосы. Потым яшчэ і яшчэ — і раптоўна нібы хто жменяй сыпануў золата на вяршаліны дрэў, на луг, што аж зазіхацеў безліччу рознакаляровых агеньчыкаў. Прадыслава стала на калені і перасохлымі вуснамі зашаптала малітву.

У думкі вяртаўся спакой. Праўда, быў ён цяжкі і халодны, як камень. І здалося, што камень гэты назаўсёды прыціснуў яе.

Сонца лашчыла плечы. Дыміўся, курэў луг. За ім ледзь былі відаць пазлацаныя крыжы Сафійскай царквы. Яна глядзела на іх.

«Мне хацелася калісьці стаць бессмяротнай. Хацелася вялікіх спраў, подзвігаў,— думала яна, стоячы на каленях.— Што ж, хіба гэтае жаданне знікла? Так, але толькі на імгненне. Я рыхтавала сябе з маладых гадоў да служэння вышэйшаму, што ёсць на зямлі — богу. Гэта тое, дзеля чаго я жыву. І калі мне зараз цяжка — значыць, сапраўды нялёгка развітвацца са спакусамі жыцця. Але інакш я ніколі не змагу ўзнесціся духам над шэрай будзённасцю зямных спраў. Тым вышэй будзе маё адрачэнне ад зямнога. Так, толькі адрачэнне...

Я выратую і Рамана, і сябе. А інакш нельга ў гэтым злосным, несправядлівым свеце. Вось бацька — як яму хочацца пры яе дапамозе дабіцца нечага свайго! Збавіць яе ў больш-менш прыстойныя рукі. А не захоча сама — прымусяць. Гордая Рагнеда не захацела аднойчы разуць свайго нарачонага — прымусілі. І яе змогуць. Мячом аддаюць — і, як Рагнеду, у далёкія кіеўскія землі памчаць. Усё змогуць — аж пакуль не скіне яна з сябе ўсе зямныя ланцугі. І ўсё ж якая іронія лёсу — іменна цяпер, калі яна, хоць на імгненне, адчула непаўторную прывабнасць таго, што людзі называюць каханнем, ёй трэба развітацца з ім...»

Прадыслава ўстала, доўгім позіркам абвяла ваколіцу. Злева, за паваротам, пачыналіся крывыя полацкія вуліцы. Справа, ля самага берагу, вілася вузкая сцяжынка. Калі ісці па ёй гадзіны са дзве — можна было як найкарацей прыйсці да Прэабражэнскага манастыра. Невысокі, са старымі з бярвенняў сенцамі, ён быў добра знаёмы дзяўчыне. Жонка Рамана Усяславіча, яе цётка, была там ігуменняй. Прадыслава часта хадзіла туды і любіла прапахлыя ладанам кялейкі, строгую ўдумлівую цішыню і нейкую асаблівую мудрасць гэтага манастыра. «Вось там яна можа знайсці спакой, павучыцца цішыні і развазе. Там яна зможа стаць незалежнай, і ніякія зямныя турботы не змогуць крануць яе душу».

Яна рашуча пачала спускацца з высокага абрыву...

...Упалі на гладкую, вымытую да жаўцізны падлогу доўгія тоўстыя пасмы русых валасоў. Адна мякка абкруцілася вакол рукі ігуменні. Тая таропка страсянула рукой.

...Халоднае вострае лязо каля шыі. Нізка, ля самых каленяў ігуменні — схіленая галава. Проста перад вачыма — дзірка ад сучка, там яшчэ не высахла вада, якой толькі што мылі падлогу. Бяздумна звініць у галаве. А зверху голас — затоена-радасны:

— Пастрыгаем цябе, сястра, пад іменем Ефрасінні...

●

Заплюшчыўшы вочы, яна злёгку пагладжвала шурпатую, прыгожага карычневага колеру, кнігу, з асалодай адчуваючы, якое мноства

мудрых думак тоіцца ў агромністым тоўстым фаліянце. Пяць новых кніг прывезлі ў манастыр з далёкай Візантыі. Аж пяць кніг! Як баялася яна, што не давязуць іх да Полацка.

І не таму баялася, што вялікія грошы за іх заплочаны — кніга даражэй за ўсякае багацце,— а таму, што купцоў час ад часу рабавацъ пачалі на Полаччыне. Раней такога не было. Слабее княства! Адным толькі ўдасца выратаваць яго — мудрасцю. Вось чаму так прагна імкнецца яна будаваць новыя школы. Колькі іх ужо? Пяць. Тут, у Сяльцы, тры і дзве ў самім Полацку: пры Сафіі і царкве Багародзіцы. Не толькі дзяўчат вучаць у іх, але і хлопцаў. Сэрца ў яе заўсёды шчыміць, калі бачыць яна, як учарашнія спалоханыя падлеткі ўпэўнена складаюць літары ў мудрыя, павучальныя сказы, вучацца спасцігаць сябе, сваю зямлю.

«Інія сядоша на Дзвіне і нарекошася палачане, рэчкі дзеля, яжэ втечаць в Дзвіну, імянем Палота, от сея прозвашася палачане...»

Па-рознаму вучыць іх сама Ефрасіння. Дзяўчаткам расказвае пра пакорлівасць і рахманасць святых мучаніц. А хлопчыкам... Хай загараюцца вочы іх святой любоўю да радзімы, хай ведаюць яны, што не толькі чужыя землі родзяць разумных і слынных людзей. Пра Яраслава Мудрага гаварыла ім, пра княгіню Вольгу, пра Усяслава Мудрага.

Калі будуць людзі полацкія граматай валодаць так, як мячамі — ніхто іх не пераможа.

Першая ў краі бібліятэка! Кожная кніга тут — часцінка яе душы. Купляла, абменьвала на другія. Перапісвала тут, у манастыры. Вучыла гэтаму і другіх. Колькі перапісчыкаў рыпяць зараз пёрамі ў келлях! А раней было іх ўсяго дзве — старая Еўпраксія і Васіліса. Ды і то — колькі памылак было ў іх! Спяшаліся, абы болей кніг, абы болей прыбытку цётчынаму манастыру. Яна выпрасіла іх да сябе, у Сялец. А ўжо тут, на свабодзе, узялася за іх. За кожную памылку — дзень пасціцца. А інакш нельга было: вучыліся ў гэтых дзвюх другія манашкі. Павінны яны былі добра помніць: кніга — святыня. Псаваць яе плямай або апіскай — самы вялікі грэх.

— Маці-настаяцельніца!

Ціхі шэпт яна ўчула адразу, але не даўмелася, што клічуць яе. Ніяк не магла яшчэ ўсё звыкнуцца, што ў свае няпоўныя трыццаць гадоў яна — ігумення вялікага і багатага манастыра.

— Маці-настаяцельніца!

Сястра Яўстахія, добрая тоўстая кабета, стаяла каля яе.

— Нейкая жанчына з дзіцем плача, просіць, каб вас паклікалі.

— А ты сказала ёй, што я выходжу да міран пасля ранішняй малітвы?

— Яна толькі што прыйшла. Бяда ў яе, пэўна.

Ефрасіння ўздыхнула. Перад тым як выйсці да людзей, якія неслі ў манастыр свае крыўды, хваробы і гора, яна доўга малілася, рыхтавала сябе. І тады ўлівалася ў яе нейкая незразумелая сіла. І Ефрасіння, нібы баючыся растраціць гэтую сілу, не спяшаючыся ішла на двор, і манашкі хрысціліся, гледзячы на яе бледны твар, суровы і ўпэўнены. А на двары ўжо стаялі людзі, і ў іхніх вачах была роспач і надзея. Надзея на лішнюю грыўну, якая дапаможа вырвацца з учэпістых рук ліхвяра. На цуда, якое дасць спакой сям'і.

І ігумення раздавала ім медныя грыўны, лячыла. Але цяпер у душы была нейкая слабасць — Ефрасіння ведала, колькі намаганняў прыйдзецца ёй патраціць на тое, каб сустрэць нечаканую наведвальніцу. Яна ўсё яшчэ марудзіла, гледзячы на дзверы. Але там раптоўна



паказалася цёмная вялікая хустка, што ледзь не да каленяў вісела на худой дзяўчынцы. Дзве шэранькія коскі целяпаліся вакол бураватага ад загару тварыку. Дзяўчынка імкліва, нібы ведаючы, да каго ісці, спынілася перад ігуменняй і якую хвілю, не міргаючы, глядзела на яе. І нечакана ўсміхнулася радаснай, наіўнай усмешкай:

— А я сама прыйшла сюды. Не сцярпела. А матуля там баіцца... без дазволу... А колькі тут кніг! І такія прыгожыя! А вы добрая, праўда? У вас вочы добрыя...

Нешта нібы кальнула Ефрасінню. Рэдка бачыла яна адкрытыя, смелыя вочы — болей у іх быў спалох. Яна ўжо з няяснай сімпатыяй угледзелася ў малую.

«Колькі ёй можа быць гадоў? Дзесяць-дванаццаць. А тварык нейкі нязвыклы — смуглявы. І вочы вялікія, цёмныя. Нешта нібы нагадвае ёй. Але што?»

Яна задумёна пацерла лоб і ўбачыла, што нават манашка, якая перабірала кнігі, здзівілася ад гэтае дзяўчацінай смеласці. І чамусьці развеселіўшыся, уладна сказала ёй:

— Ідзі, вядзі сюды другую.

...Згорбленая, уся нейкая змэнчаная жанчына ўвайшла ў бібліятэку і адразу кінулася да ног ігуменні:

— Ратуй мяне, прападобная! Ратуй, бо выходзіць душа з мяне праз тваю міласць!

Яна ўзняла заплаканы твар. Цёмныя вочы з пачырванелымі вейкамі жалобна міргалі. Бяскроўныя вусны прыадкрывалі бяззубы рот. Убачыўшы, як адразу пастражэлі і звузіліся ад нечаканасці зрэнкі ў ігуменні, кабета заплакала ўголас:

— А божа ж мой, божа міласэрны! А няўжо ж ты караеш мяне ды за тое, што бацьку свайго паслухалася і да цябе не пайшла!

— Сціхні! Не чапай бога, нечасцівая! — голасна ўсклікнула ігуменне, і кабета сціхла, закрыўшы твар рукамі, і толькі ад прыглушанага плачу безупынку трэсліся яе плечы.

— Ну, скажы ты, што з тваёй маці здарылася? — Ефрасіння перавяла позірк на дачку.

Дзяўчынка таксама сцішылася ад гэтага сярдзітага голасу і, нібы адразу стаўшы яшчэ меншай, пачала расказваць тонкім пявучым галаском:

— Матуля вучылася ў вашым манастыры, якраз калі вы ігуменняй сталі. Але дзед яе ўсё роўна замуж выдаў. Татка наш хаця і мужык, але ён багаты. І прагны такі. А матуля грамату любіць. І кнігі. І мяне чытаць навучыла. А татка б'е яе за гэта.

— О-о-ох, ды яшчэ як б'е! — са стогнам заенчыла маці.— Кажа, што яму мая навука шкодзіць, бо за кніжкай я на ўсё забываюся. Але як жа мне жыць без яе? Зачаравала яна мяне, знахаркі якія ні лячылі — нічога не дапамагае! У мяне адна ўсяго кніжка — пра мучанікаў святых. Бацька яшчэ купляў. А каб яшчэ прачытаць, я купцу парася аддала. Вось мужык і збіў на горкае яблыка, ды і выгнаў. «Ідзі, кажа, да сваёй Ефрасінні, хай яна сама насланнё тое здыме, што на цябе наслала». І дачку за мной выштурхнуў. Іх чацвёра ў мяне, ды толькі гэта грамату ведае, і ў яе ў вачах кніга адна. Вой, што рабіць мне, што мне рабіць!»

Ефрасіння пазнавала яе. У зморшчаным, збялелым твары ледзь улоўна праступалі рысы чырванашчокай, маленькай і жвавай Еўпраксіі, лепшай і самай здольнай яе вучаніцы. Бацька, збяднелы купец, хацеў назаўсёды аддаць яе ў манастыр, але потым раптоўна забраў, каб выдаць замуж.

«Яна ж маладзейшая за мяне,— думала ігумення.— Але пакуты састарылі яе. І за што? Грубыя смерды самі топчуць тыя кволыя раслінкі прыгажосці, што я з такім натхненнем засяваю для іх жа. Напэўна, ім наогул гэта не патрэбна. Аралі ж іх дзяды зямлю без кніг і яшчэ сотні гадоў будуць араць?»

Яна адчула сябе спустошанай і абрабаванай. Стала цяжка дыхаць.

— Ідзі, адпачывай, Еўпраксія,— абыякава сказала яна. І кіўнула манашкам: «Правядзіце!»

Ужо зусім сцямнела ў бібліятэцы, але Ефрасіння моўчкі сядзела ў крэсле, паглыбленая ў свае думкі. Яна ўздрыгнула, нечакана ўбачыўшы перад сабой маленькую цьмяную постаць.

— Гэта я,— прашаптала дзяўчынка.— Не бойцеся. Я прыйшла, каб папрасіць вас — забярыце мяне да сябе.

— Каб спасціг цябе потым лёс тваёй маткі? — з сумнай іроніяй спытала Ефрасіння.

— Не. Я застануся ў вас назаўсёды. Я не хачу дадому. Тут — кнігі. Тут — ціха.

— Ты любіш кнігі?

— Я хачу стаць такой, як вы. Усё ведаць. І пісаць самой.

— Ты смешная і дзіўная дзяўчынка. Як цябе зваць?

— Прадыслава.

— Прадыслава? Прадыслава... Але табе трэба будзе згубіць гэтае імя, дзіця маё. І яшчэ многае другое, чаго ты пакуль не разумееш.

— Але вакол мяне будуць кнігі. А што можа быць лепшае за іх?

Ігумення ўзяла дзяўчынку за руку. І ад дотыку тоненькіх цёплых пальчыкаў магутнай хваляй пяшчоты абдало яе істоту. Яна сказала перасохлым ротам:

— А ведаеш, я цяпер зразумела, дзе я цябе бачыла раней. У далёкім-далёкім дзяцінстве. Княжацкай дачкой...

І не даўшы малой вымавіць слова, чамусьці засаромеўшыся сваёй нечаканай пяшчоты, паспешліва дадала:

— Ідзі спаць, дзетка. Ідзі, Прадыслава...

Калі ігумення ішла да сваёй келлі, яе твар быў светлы і спакойны. Яна адчувала, як з кожным крокам уліваецца ў яе радасць і чамусьці — сум. І ўжо засынаючы, падумала: «Трэба для манастыра яшчэ адну школу будаваць. Лепш за ўсё з царквой. Трэба, каб яна была прыгожая...»

●

Патузаўшы за званок, доўга пераступаў з нагі на нагу перад цяжкімі кованымі варотамі Спаскага манастыра Іаан. Ніхто не ішоў іх адчыняць.

Нарэшце, у вузкай, прарэзанай шчыліне паказалася нечае вока. Сярдзіты жаночы голас доўга распытваў Іаана, з якой патрэбы трывожыць ён малітву, якую толькі што распачалі манашкі, каб замаліць перад богам людскія грахі. І сапраўды — аднекуль знізу, з-пад драўляных сцен манастыра, даносіліся зладжаныя ўрачыстыя спевы. Нарэшце, вароты прыадчыніліся. Ён ледзь уціснуўся праз іх і прысеў на бервяно каля варотаў, цікуючы на вялікія выразаныя дзверы, што вялі ў манастыр. Адтуль павінна была выйсці ігумення Ефрасіння.

Некалькі дзён назад у Бельчыцы да яго прыйшоў загад, каб ён з'явіўся сюды. Іаан не спытаў, нашто ён спатрэбіўся манастыру: даўно хадзілі ў горадзе чуткі, што ігумення збіраецца будаваць царкву



побач з манастыром. І вось цяпер, баючыся верыць свайму шчасцю, сядзеў ён каля варотаў.

У дзвярах нечакана з'явілася тонкая, уся ў чорным, постаць. Высокі клабук на галаве таксама чорны. Яна некалькі хвілін стаяла ў дзвярах, углядаючыся ў Іаана, а потым лёгка пайшла насустрач. Яму здалося — яна плыве. І яшчэ адна думка з'явілася — што клабук яе на царскую карону падобны — такая веліч і ў той жа час прастата былі ў ёй.

— Ну, ідзі, ідзі, застаяўся,— падштурхнула яго брамніца, і ён ціхмана падаўся да Ефрасінні. А тая раптоўна павярнулася і, агледзеўшыся на яго, пайшла.

На драўлянай лаве пад старой раскідзістай ігрушай ўжо сядзеў тоўсты лысаваты мужчына з нездаровым адутлаватым тварам. Па вышыванай золатам расе пазнаў у ім Іаан епіскапа полацкага Іллю. Сумеўся спачатку — занадта разглядаў яго епіскап,— але хутка схіліўся ў нізкім паклоне. А той адразу ж загаварыў:

— Рэчэ люд полацкій, што лепо храмы божыі ставіш. Але ж то было не ў Полацку.

— Многа я па зямлі рускай хадзіў, многа ў майстроў вучыўся. Хвалілі яны мяне, гаспадзіне.

— Не гадзіцца гардыню вялікую мець. Госпад любіць смірэнне і пакору.— І, памаўчаўшы, дадаў: — Паклікалі мы цябе з сястрой Ефрасінняй, каб спытаць — а ці возьмешся пабудаваць такі храм, каб быў ён не горш за святую Сафію?

Недавер чуўся ў яго голасе. Іаан не ведаў — толькі што скончылася доўгая размова паміж епіскапам і Ефрасінняй. У апошні раз спрабаваў угаварыць той гордую ігуменню, каб запрасіла яна будаваць храм каго-небудзь з лепшых візантыйскіх майстроў. Не верыў ён, што дзеля такое справы можна знайсці тутэйшага чалавека. Праўда, епіскап ведаў, што Ефрасіння знарок ездзіла ў Бельчыцы, каб паглядзець на работу Іаана. Але ж там была драўляная царква Параскевы-Пятніцы, а тут... І выгляд у гэтага смерда не надта ўжо самавіты — цыбаты, з маленькімі шэрымі вочкамі і шырокім кірпатым носам.

І ён пачаў распытваць Іаана:

— Ну добра, пастараешся. Але ж ты ведаеш, сыне мой — для гэтага вялікі талент патрэбны. Што, калі не зробіш усё як след?

Майстар падняў галаву. Ціхі быў у яго голас:

— Ну што ж. Можаш тады мяне, гаспадзіне, за раба паганым палаўцам аддаць.

Епіскап нахмурыўся. Дзёрзка і непаслухмяна адказвае яму смерд. Ён павярнуўся да Ефрасінні. Вось і яна — ціхманая, здаецца. Самая верная дачка царквы. І разумная, і пакорная. Але калі захоча на сваім паставіць — так будзе цябе пераконваць, што і не знойдзеш, як адказаць. Ад бога ў яе такі дар, і не трэба папракаць яе. Ды каб не спрачацца са смердам, сказаў ігуменні па-грэчаскі:

— Растлумач неразумнаму, сястра, што не ўмешваецца царква ў справы людскія. Караць яго — не наша справа. Калі што не так зробіць — толькі сабе ганьбу і прынясе.

І, ткнуўшы прапахлую ладанам руку ў твар Іаану, развітаўся з ігуменняй і, незадаволены, пайшоў прэч.

— Хачу паслухаць, як мяркуеш ты пабудаваць царкву? — рукой паказаўшы, каб сеў, спытала ігумення. Голас у яе быў мяккі, твар — прыязны. Іаан раптам сумеўся.

Няўжо гэта праўда, што сядзіць ён побач з самой Ефрасінняй Полацкай? Яе славяць ва ўсім горадзе: багатыя — за мудрасць, бед-



ныя — за спагаду і дабрату. Не раз чуў Іаан, як маліліся за яе людзі. Кожны ў горадзе ведаў, што ў манастыр пайшла яна зусім маладзенькай. Цётка-ігумення схавала яе там ад бацькі. І як ні лютаваў той, спрабуючы вярнуць дачку дадому,— усё роўна выпрасіла тая дазволу ў епіскапа жыць пры саборнай Сафійскай царкве. Дзень і ноч перапісвала яна кнігі, якія потым прадаваў манастыр, а грошы аддавала жабракам. А калі, астыўшы, пабудаваў ёй бацька тут, у Сяльцы, манастыр — перайшла ў яго, і з таго часу ідуць сюды ўсе, пакрыўджаныя жыццём, знаходзяць прытулак у яго драўляных сценах. Грамаце вучацца, і слава вялікая ідзе пра манастыр.

Чамусьці здавалася яму, што даўно тое было, і Ефрасіння бачылася маршчыністай, сівой. А яна — маладая. Прыгажэйшая за ўсіх, каго ён бачыў. Вочы вялізныя, цёмныя, задуменныя. Нібы і сапраўды нясе яна на сабе цяжкі цяжар грэху людскога.

Маўчыць Іаан. А яна ласкава распытвае:

— Пэўна, падумаць яшчэ табе трэба, Іаан?

Схамянуўся ён.

— Даўно я ў сэрцы храм каменны выношваю, ды не давалі мне пакуль самому да яго падступіцца. А да цябе ішоў — ведаў, нашто клічаш. Дык вось, паглядзі.

Ён дастаў з-за пазухі маленькі, са шчапы зроблены храм. Ефрасіння пільна ўглядалася ў яго.

— Але ён жа не падобны на храм святой Сафіі!

— Так, бо той храм царгародцы будавалі. Ды дзе ты бачыла ў нас барабаны гэтыя ды кубы? У нас вяршыні ўсюды, як шаты, а сама царква, як піраміда, стройная. Увысь цягнецца.

— Тое, што добра ў дрэве, не падыходзіць да каменя.

— Няўжо мы будзем увесь свой век за чужымі цягнуцца? На зямлі нашай столькі ўмельцаў! Загадай — і камень у іхніх руках заспявае.





Ён, забыўшыся, гаварыў з ёй, як з раўнёй. Аднаго баяўся, каб не перадумала Ефрасіння. А яна асцярожна ўзяла маленькі храм з яго рук на сваю тонкую, вузкую далонь, залюбавалася цацкай. Вочы яе ўспыхнулі, і ўся яна нібы вырасла.

— Ну што ж. Будуй храм, Іаане, дзеля хвалы божай!

— І дзеля хвалы нашай зямлі! — вырвалася ў Іаана.

Твар яе нечакана стаў бледны, замкнёны.

— Што ты ведаеш пра зямлю сваю? — сказала раўнадушна, але з затоенаю горыччу. Іаан жа не захацеў верыць гэтаму раўнадушшу. Толькі што вочы яе гарэлі страснасцю і верай, і раптам... Чамусьці балюча ўкалолі яго гэтыя словы.

— Чаму ж не ведаю? Было некалі княства наша магутнае і вялікае. А зараз — і Віцебскі, і Мінскі, і Гарадоцкі ўдзел адпалі.

— Але ж затое цяпер хоць спакойна жывем. Брат мой, Рагвалод Усяслававіч, у дружбе з кіеўскім князем — цесцем сваім.

— А народ яго не любіць: забыў ён вольнасць сваю і гонар, прыручанай птушкай зрабіўся ў кіеўскіх князёў.

Ефрасіння і сама балюча перажывала, што смяюцца з яе брата — лянівага, мяккага Рагвалода. Але каб тут, са смердам, ганьбіць яго? Іаан апярэдзіў яе:

— Такі нам князь патрэбен, каб і з вялікім Кіевам дружыў — разам трэба ад літвінаў ды полаўцаў абараняцца. Але каб і за сваім княствам глядзеў. Бо калі будуць князі крыўскія сваркі заводзіць — зробіцца вялікае княства Полацкае вотчынай Яраславічаў. А цяпер адпусці мяне, маці-ігумення. Ведаю — злуешся зараз на мяне, бо не забылася яшчэ, з якога роду сама. Ды ведаеш — праўду кажу.

Яна кіўнула галавой. Доўга глядзела ўслед. «Колькі жыву на гэтай зямлі — усё дзіўлюся з людзей яе. Адкуль яны бяруцца — гордыя, смелыя? Праславілі Полаччыну далёка, нават за мора слава аб Полацкім княстве ідзе. А самі ў брудзе ды горы жывуць, у курных хатах, дзе можна задыхнуцца ад дыму. Затое на веча прыходзяць гаспадарамі. Колькі ўжо князёў скінулі са стала, выгналі з зямлі сваёй. Ды ўсё роўна — нічога і яны не могуць зрабіць, пакуль не перастануць грызці адзін аднаго самі князі, смуту сеяць. Вось Усяслаў здолеў іх у адзін кулак сабраць. А пасля яго смерці зноў усё па-старому пайшло. І цяпер штогод слабее Полацк, губляе свае землі. І не ў аднаго Іаана балюча робіцца на душы. Яна сама колькі разоў спрабавала ўшчуваць братоў, ды што з таго? Выслухаюць ветліва, згодзяцца на словах, а потым зноў тое ж самае... А яна толькі потым эпіцімії розныя накладае на сябе за тое, што ўмешвалася ў справы мірскія».

Ефрасіння зноў пачала маліцца. Ды ўсё роўна адчула, што больш думае пра сённяшнюю размову і ўспамінае маленькую цэркаўку Параскевы-Пятніцы, што рабіў гэты няскладны, з вялікімі дужымі рукамі чалавек. Яна ўразіла ігуменню нейкай асаблівай дабратой і ўтульнасцю. І было ў яе тутэйшае, сціплае хараство, як у жанчыны, што выйшла на пагорак і задуменна глядзіць удалячынь.

Жанчыны... Ефрасінню ў апошні час пачала трывожыць тая магутная жаночая сіла, якая пругка несла гнуткае цела і блытала думкі ў час самай адрачонай малітвы. Здавалася, далёка захавала ў сабе тыя хвіліны, калі краналі яе гарачыя мужчынскія рукі, забылася ўсё, што прынёс з сабой той далёкі чэрвень. А цяпер зноў наліваюцца трапяткія грудзі і плечы пад чорнай схімніцкай расай.

Вечарэла. З недалёкай Палаты пацягнула свежасцю. Барвовае сонца садзілася за лес, і адзінокай здавалася на ўтоптаным манастырскім двары аблітая чырванню старая ігруша. Ефрасіння падышла да яе, прыціснулася да шурпатага цёплага ствала. З вуснаў вылецела слова, якога прасіла ўся істота:

— Раман!

## 6

У маленькай Ефрасіннінай келлі было цесна. Тут сабраліся маці Яўстахія, якая трымала ў руках манастырскую казну, ігумен суседняга мужчынскага манастыра — айцец Мікодзім, некалькі манашак — настаўніц школ, з якімі заўсёды раілася Ефрасіння.

— Незвычайная справа прымусіла мяне сабраць вас,— звярнулася да ўсіх Ефрасіння.— Айцец Мікодзім прынёс атруту сэрцу майму. Забыўшыся, аб чым павінна дбаць святая царква, ашукаў ён людзей, якія ў закупе былі ў ягонага манастыра. Адправіў дзесяць чалавек у Віцьбеск, а сам аб'явіў іх — беглымі. Людзі прыехалі і даведаліся, што яны не закупы ўжо, а рабы, разам з сем'ямі сваімі. Пайшла па Полацку слава пра нашы манастыры. Благая тая слава. А дасюль — слова не пачуць было дрэннага пра нас. Ці не так, айцец?

— Прападобная Ефрасіння, людзі тыя не дзесяць дзён, а дванаццаць прабылі ў Віцьбеску. Кожны табе скажа, што я меў права аб'явіць іх беглымі і ўзяць у манастыр за рабоў. Ды яны і так рабы — рэдка хто аддае свае даўгі і зноў становіцца вольным чалавекам. Якая ім розніца, кім лічыцца?

— Пасадзі цябе ў цямніцу, і калі нават будуць даваць табе самую лепшую ежу і апрануць у дарагое адзенне — будзеш ты адчуваць сябе шчаслівым? Чаму пачынаеш крыўдаю жыць? Адказвай!

— Нам зараз многа багацця патрэбна, каб расплаціцца з купцамі. Манастыр будуем, абраз новы заказалі, ды і кніг многа закупілі ў Візантыі.

— Манастыр будую я, а не ты. Калі я параіла епіскапу паставіць ігуменам у манастыр цябе, я думала, што будзе ў мяне сумленны і добры памочнік. Але не хачу я мець побач з сабой ліхвяра!

Айцец Мікодзім паваліўся ў ногі ігуменні. Ведаў — аднаго слова яе даволі, каб пагналі яго дзячком у самы глухі прыход. Тады — бывай вольнае, багатае жыццё!

— Я ж думаў — як лепей... Каб рабоў у нас было болей... Госпадам клянуся — ніколі такога не будзе!

— Устань, Мікодзім. Не варта такой асобе, як ты, валяцца ў нагах. Але ведай — даруючы табе сёння, не дарую ў наступны раз.— І ўздыхнула: — Многа несправядлівасці вакол і так, і не нам яе павялічваць!

Спыталася ў маці Яўстахіі:

— Сястра мая, няўжо сапраўды пусцее наша казна?

Яўстахія нізка схілілася перад ігуменняй:

— Папраўдзе так. Многа прыходзіцца плаціць купцам, што ўзяліся вазіць матэрыялы для манастыра. Не думаюць яны, што робяць угодную богу справу, думаюць, як бы разбагацець на гэтым.

— Колькі яны бяруць?

— Дзесяць нагатаў, каб прывезці адно бервяно.

Ефрасіння памаўчала.

— Добра. Я пагавару з епіскапам. Ім прыйдзецца рабіць гэта бясплатна. Сапраўды, на божым храме захацелі разбагацець! Але вось што, сястра. Быў мне ў сне знак: трэба ў новы манастыр заказаць крыж, але такі, каб ён за ўсе крыжы ў Сафійскім саборы прыгажэйшы быў. Як думаеш, зможам мы зрабіць гэта?

— Цяжкавата будзе. Тым больш, што Лазар Богша зараз многа зака́заў ад вялікага князя мае.

— Грошы возьмеш з майго асабістага закладу. А Богшу я наведаю сама.

— Ну, значыць, ён зробіць. Не бачыла я яшчэ ніводнага чалавека, які змог бы табе адказаць, сястра Ефрасіння. Даў жа бог табе такі дар!

Ефрасіння засмяялася. Дзіўна-радасна было чамусьці ў яе на душы. Можа таму, што новы манастыр — яе мара — расце на вачах. Можа таму, што працуюць яе школы, памнажаецца бібліятэка. А мо-

жа таму, што на дварэ ярка свеціць сонца, зелянеюць пяшчотнай майскай зелянінай бярозы, па-вясноваму востра і прагна дыхае зямля. І люба жыць на белым свеце. І здаецца, што ніколі не памрэш, вечна будзе для цябе зямная прыгажосць!

## 7

Ціха і змрочна было ў вузкай келлі. Адно аднастайна рыпела пяро ў руцэ адзінокай жанчыны, што вось ужо некалькі гадзін не разгінаючыся сядзела над двума тоўстымі фаліянтамі, перапісваючы нешта. Час ад часу яна перачытвала напісанае, і радасная, задаволеная ўсмешка прабягала па яе вуснах. У келлі было пуста. Кнігі ды пляшачка чэрні з яшчэ адным свежым пяром — вось і ўсё, што ляжала на неабструганым драўляным стале. Грубы драўляны тапчан з накінутай на яго шэрай посцілкай па-сірочаму стаяў у куце. Затое ж на сцяне блішчаў каштоўным каменем абраз і пад ім — цудоўны, з рознакаляровымі эмалевымі насечкамі і залатымі пласцінкамі, крыж, зроблены майстрам Богшам. Ім хацела ігуменя асвяціць царкву, якая імкліва вырастала ў Сяльцы.

Шэрае зімовае святло скупа клалася на засяроджаны твар перапісчыцы і яе белыя рукі з доўгімі вузкімі пальцамі.

Чарніца, якая амаль нячутна адчыніла дзверы, некалькі хвілін стаяла моўчкі, відаць, баялася патрывожыць жанчыну. Але тая сама павярнулася да чарніцы, і вочы яе адразу зрабіліся халоднымі.

— Што там такое здарылася?

— Ваша сястра Градыслава чакае,— сціснуўшыся, прашаптала тая і амаль подбегам вылецела за дзверы. Ігуменя азірнулася. Ніяк не можа строгае схімніцкае жыццё справіцца з гэтым дзеўчаняткам! Прыйшла яна сюды бледная, напалоханая вялікай бядой: баярын Васілько патрабаваў яе ў халопкі замест доўгу, які вінен быў яму бацька, каваль Пуцята.

— Не хачу я да яго, маці!— прасілася яна, стоячы на каленях.— Гнілазубы ён, блудлівы, што казёл. Ведаю, нашто на мяне зрэнкі свае лупіў, як да бацькі прыходзіў. Не дай у крыўду, забяры ў манастыр!

І хаця не было ў яе ніякага грашовага закладу, прыняла яе Ефрасіння. Спадабаліся ёй разумныя вачаняты і нейкая асаблівая шчырасць дзяўчынкі. І праўда — зусім мала часу прайшло, а яна амаль усю кірыліцу ведае. Затое няма ў яе яшчэ манашацкай сціпласці і ціхманасці. Шчокі чырвоныя, што яблыкі, і лётае па манастыры, нібы па сваёй кузні. А колькі ўжо — пранікнёна і ўрачыста — гаварылася ўсім пра ціхманы голас і рахманасць, якая адрознівае манашак ад простага люду. Паўтаралі яны не раз услых, у цеснаце сабраўшыся ля алтара: «пры старэйшых маўчаці, мудрэйшых слухаці; мала вяшчаці, а многа разумеці». Суровае манастырскае жыццё, але дае яно чалавеку тое, чаго не купіш і за тысячу грыўнаў — душэўны спакой. Дзеля гэтага патрэбна манашкам строгасць ігумені — як статку пастыр. І з дзяўчынкай трэба стражэй — урокі павялічыць, пакаянне налажыць...

У дзвярах з'явілася высокая, статная Градыслава. На ёй пакрывала, завязанае пад барадою. Верхняе адзенне — чырвонае з шырокімі рукавамі і шырокаю жоўтаю паласой на падоле, з залатым поясам; ніжняе — сіняе, з бліскучымі поручамі. У цёмнай беднай келлі яна выглядае, як казачная заморская птушка. А твар бледны, як нежывы. І вочы баязлівыя. Падышла няскорымі крокамі, стала на калені. Ефрасіння схілілася над ёю, каб глянуць у вочы:

— Ну што ты? Рашылася, нарэшце?

Градыслава раптоўна абхапіла ногі ігумені:

— Сястрыца мая родненькая! Пашкадуй ты мяне! Баюся я сцен манастырскіх! Сярод людзей быць хачу. Князь Барыс Яраславіч кастрамскі сватоў прыслаць да мяне збіраецца.

— Ты яшчэ маладая, жыцця не ведаеш. Ну, што табе тое замужжа? Паглядзі: Лада вось выйшла замуж. І жаніх, здаецца, быў харошы, баярскага роду. А цяпер? У граху жыве, жонку за жонку не лічыць. Яна толькі слёзы лле. Прыходзіла да мяне скардзіцца нядаўна, парады прасіла. А чым я ёй магу дапамагчы? Прасіла епіскапа ачысціць чалавека яе ад брыдоты, ды ён нават царквы святой пазбягаць стаў.

— І бацьку мне шкада. Хопіць яму і адной манашкі...

Яна раптам асеклася, адчуўшы, што сказала лішняе. Ефрасіння маўчала. Яна зноў убачыла перад сабой няшчасныя бацькавы вочы, бараду яго, у якой заблыталіся саломіны,— у яго, такога ганарыстага! І словы ягоныя пачула: «Гора мне, дзіця маё мілае! Пашто се сатварыла і атруту душы маёй прынесла?» У яе тады зашчымела ад жалю сэрца. Захацелася кінуцца яму на шыю, супакоіць. Але нечакана ўспомнілася: бацька — і вочы забітага мужыка. А потым прыгадаліся словы адрачэння ад гэтага злоснага жорсткага свету, якія яна гаварыла, і ўласная туга пачала расплывацца, знікаць. Далёкім і чужым здаўся ёй бацька, і спакойна яна яму адказала: «Чаго вельмі смуткуеш? Маю аднаго памочніка і збавіцеля — бога». І ён, відаць, адчуў гэту яе абыякавасць, бо нічога больш не сказаў, а, згорбіўшыся, павярнуўся і пайшоў па бездаражы, па гразкім пасля дажджу полі...

Што ж, хіба адступіцца яна сёння ад тых слоў? Хіба пашкадуе ўсё тое, што асталося за сценамі манастыра? Не! Занадта многа сіл аддала на тым шляху, што выбрала ў маладосці. І хай нямногае яшчэ зроблена — што ж, уперадзе — цэлае жыццё.

Але раптам яна адчула страшэнную адзіноту. Выпрасталася. І хаця словы яе былі жалобныя, гучала ў іх асуджэнне і моцнае жаданне пераканаць:

— А вохці мне, адзінокай! Жывот * свой і скарб аддаўшы богу, не магу я сястры роднай да яго прывесці. Як жа ўшчуваць мне другіх? Што ад вас застанецца? Тлен і парахно зямное. А гэта пераржыве і дзяцей, і ўнукаў тваіх,— яна паказала на кнігу. — Яно — божае слова! І трэба яго несці да людзей, што ўгразлі ў грахах і цемры. Хто ж гэта, акрамя нас зробіць? Толькі божыя людзі валодаюць дарам дзіўным — узнёсшыся над слепатой зямной, жыццё спасцігаць і ў кнігі свае думы запісваць!— Яна гаварыла, павучаючы, як гаворыць сталы чалавек перад дзіцем.— Паглядзі на край свой. Усобіцы яго грызуць. Нішчаць. Зноў жа, божым словам спыняць іх трэба. Не зачыняцца ў келлі сваёй я цябе заклікаю, а несці слова да людзей. Хачу, каб стала ты манашак вучыць у манастыры, які скора пабудуюць. І не бачу вакол сябе нікога, каму ўладу над душамі людскімі там можна даручыць. А іх будзе ў цябе нямала. Вялікім і моцным павінен быць новы манастыр. Улада, як змяя ядавітая, чалавека атручвае! А ты — нязлосная. Няўжо лепш табе мець багатае адзенне ды душныя пярыны ў цераме? Незнаёмы чалавек, пры якім вечнай

* Жывот—жыццё.

нявольніцай будзеш? А богу пойдзеш служыць—станеш свабоднай!— Яна захлыналася ад хвалявання. Усё, чым жыла свае схімніцкія гады, усё, дзеля чаго слепне, перапісваючы таўшчэзныя кнігі, укладала ў свае словы.

А сястра нечакана спытала:

— Няўжо ты ніколі не ўспамінала таго хлопца?

Ефрасіння нібы на бягу зачапілася за камень. Спынілася ад нечаканасці. А ўцяміўшы, аб чым гаворыць *сястра, ледзь стрымалася.* Злосць агарнула яе. Успомнілася: гэта ж Градыслава высачыла тады яе сустрэчы! Аказваецца, і цяпер, праз столькі гадоў, помніцца начная размова з сёстрамі, і страх свой, і словы, якімі яны яе абняславілі. *Чаму яна іменна цяпер пра* гэтае пытае? У душы ў яе ўсё перавярнулася, але яна адказала спакойна і нават трохі абыякава:

— Дзень і ноч змагаецца кожная з нас са спакусамі. Толькі госпаду богу прысвечаны нашы помыслы...

Але Градыслава ўлавіла ненатуральнасць яе спакою і на імгненне ўзняла свае вочы: нявінныя, чыстыя.

— Шчаслівая ты, сястра. Нават і цяпер не баяцца мужыкі граху вялікага, калі заглядаюцца на цябе, ігуменню. Гаварылі мне манашкі, што сохне па табе майстра твой, Іаан!..

І адчуваючы, як недзе ў сэрцы заварушыўся дзікі, балючы гнеў, яшчэ цішэй сказала Ефрасіння:

— Не варта табе плёткі брудныя збіраць па манастыры. А каб не наводзіла цябе гэтая думка на грэх, імем божым загадваю табе дванцаць дзён *і начэй стаяць на пакаяннай малітве, пакуль не ачысцяцца* думкі твае і язык ад брыдоты.

Не спагадлівая сястра, а ўладная, гордая ігумення стаяла цяпер перад Градыславай. І адчуваючы ў ёй права караць, данае той сілай, перад якой схіляюцца зямныя людзі, прашаптала Градыслава:

— Даруй мне, прападобная Ефрасіння...

З сухім шоргатам падаў за акном снег. Тоўстай белай посцілкай клаўся ён на плечы самотных ялін, засцілаў дрымотнае поле. Белым, нерухомым было ўсё наваколле...

## 8

Іаан адчуваў, што душа яго нібы разрываецца напалам. Хорам, які вырас на беразе Палаты, быў для яго нібы дзіця, ён гэтак жа гатовы быў аддаць яму ўсяго сябе, нічога не патрабуючы ўзамен. Гэта ж першая сапраўдная яго работа, мара, якая здзяйснялася на вачах! Але ён ведаў, што блізка тая пара, калі скончыцца будаўніцтва і ён болей не прыйдзе на ціхі манастырскі двор, да старой ігрушы, не пачуе лёгкіх крокаў ігуменні і яе голасу. Яна ўжо не будзе пытаць у яго пра вапну, фарбу або прасіць-падганяць: «Калі ж храм асвячаць будзем?»

Іаан ведаў — яна ганарылася цудам, якое ўзнялося ў маленькім Сяльцы, храмам, нябачаным яшчэ ў зямлі Полацкай. Нартэкс яго складаўся з дзвюх частак: ніжняй — для багамольцаў і верхняй — для хору. Тут жа былі два невялічкія памяшканні — для самой Ефрасінні і сястры яе Градыславы, што зусім нядаўна пастрыжана была пад імем Еўдакіі. Гарызантальныя палосы цаглянай падмаляванай муроўкі і ружовай цэменкі прарэзаліся пілястрамі з паўкалонамі і вузкімі вокнамі, што былі ў два рады між імі. Вышыня апсіды павялічвалася чатырма тонкімі раманскімі цягамі. А ў сценах у каляровых узорах спляталіся кавалкі смальты, падабранай з вялікім густам і стараннасцю. Стройная, строгая, маналітная кампазіцыя царквы нібы ўвабрала ў сабе ўсё лепшае ў драўляным мясцовым дойлідстве. І гэта было нечувана — дасюль уся архітэктура Полацка ішла ад візантыйскай.

Ефрасіння любіла прыходзіць на будоўлю. Глядзела, часам брала ў далонь пясок або гліну, быццам узважваючы іх. Калі яна лёгкай хадой плыла ля царквы — змаўкалі грубаватыя насмешлівыя дзецюкі, з глыбокай пашанай схіляліся перад ігуменняй, і, на момант сустрэўшыся з вышэйшай, недасягальнай сілай — сілай духу, святлелі іхнія твары.

Ніколі яшчэ не адчуваў Іаан такога замілавання, душэўнага ўздыму і такой безнадзейнасці. Ён сам не ведаў, што з ім такое: то хацелася ўпасці на калені перад ігуменняй, як перад іконай, то душнай, цёмнай ноччу бачыў яе цёплыя пунсовыя вусны, мяккую іх прыпухласць. Недарэчнай і ненавіснай рабілася яму чорная манашацкая вопратка Ефрасінні. Ён палохаўся гэтых думак. Падаў на калені перад іконай святога Іллі. Але здавалася — яшчэ больш хмурнее цёмны лік святога, вось-вось вылеціць з яго малітоўна складзеных рук грымотная страла-пярун. Тады кідаўся ён да Палаты і доўга плыў, па-мужыцку шлёпаючы рукамі і палохаючы рыбакоў.

Аднойчы, калі ён стомлены ішоў ад ракі, далёка перад сабой, у цьмяным месячным святле ўбачыў жаночую постаць, што набліжалася насустрач. Ён пазнаў Ефрасінню. Яму было няёмка, што яна зараз убачыць яго ўскудлачаныя валасы, босыя ногі, і ён паспешліва звярнуў у кусты.

Яна, задумаўшыся, ішла да Палаты, і нязвыкла было бачыць яе ноччу, на бязлюднай дарозе, што вілася па хмызняках. Яна прайшла зусім блізка, і ён адчуў ненавісны яму пах воску і ладану, што ішоў ад яе адзення; як варам абдало Іаана, і, не раздумваючы, пачаў ён красціся за ігуменняй. Першабытнае пачуццё паляўнічага абудзілася ў яго душы, знікла стомленасць і развага...

Жанчына спынілася на беразе Палаты, азірнулася. Ціха было вакол. Спакойна і звыкла расшпіліла і зняла клабук. Па плячах рассыпаліся густыя валасы. Потым гэтак жа нетаропка вызвалілася з чорнага свайго адзення і засталася ў доўгай белай кашулі, з-пад якой упарта вытыркаліся грудзі. Закінуўшы рукі за галаву, пацягнулася, а потым павольна пачала спускацца да ракі. І раптам ускрыкнула ад жаху, убачыўшы побач цёмную мужчынскую постаць. Яна пахіснулася, але яе ўтрымалі моцныя рукі. І ад гэтага дотыку затрапятала цела, нечым далёкім-далёкім павеяла на яе. На кароткае, як маланка, імгненне ўспомніла тое, аб чым старалася забыць усе доўгія гады, як старалася забыць і многае іншае... Манастыр, куды яна прыбегла, каб навечна прысвяціць сябе богу... Назаўтра — пострыг. А потым сястра Алімпія, дзябёлая, чырванашчокая дзяўчына, азірнуўшыся, сказала ёй у час малітвы: «Калі пойдуць усе на вячэрнюю малітву — бяжы, дзеўка, у канец саду. Там цябе Раман твой будзе чакаць...»

Яна, ашаломленая, нават не запыталася — адкуль ведае аб гэтым Алімпія? Хадзіла ўвесь дзень, як у тумане, а калі празвінела біла, склікаючы ўсіх на малітву, кінулася ў сваю келлейку. Здзіўленая цётка зачыніла дзверы на вялізны жалезны замок і, не спытаўшы пляменніцу, чаму яна папрасіла аб гэтым, пайшла ўніз. Ефрасіння малілася, а з вачэй усё не сыходзіў нейкі туман. Ускочыла, кінулася да дзвярэй. Хоць апошні разок убачыць яго, прыхіліцца! Але дзверы моцна трымаў замок, жалезнымі кратамі было схоплена акно, і тады яна не

помнячы сябе закрычала. А знізу чуўся ўсё той жа зладжаны манатонны спеў.

І цяпер памроілася, што гэта тое, няспраўджанае каханне прыйшло да яе, што вярнулася на імгненне дзявоцтва. І адхінаючы даўнішні боль, тое незразумелае вар'яцтва, узрушанасць душы, яна ўскрыкнула тое, што сотні разоў паўтарала ў душнай келлі:

— Адыдзі, згінь, сатана!

Такая воля, страснасць і пераконанасць была ў яе голасе, што адразу ж разамкнулася гарачае, дужае кола ягоных рук, і, панурыўшы голаў, сказаў Іаан:

— Хай будзе так.

Гордая, уладная стаяла перад ім ігуменя. Павярнуўшыся, ён пайшоў прэч. І не бачыў, што доўга стаяла над цёмнай ракой жанчына...

Вярнуўшыся ў сваю камору, Іаан рашуча пачаў збірацца ў дарогу. Складаючы свой небагаты скарб, зачапіў торбу — з яе пасыпалася начынне, і разам з ім вываліліся дзве дошчачкі з намалёванымі на іх Георгіем Перамаганосцам і Божай маці. Некалі ў вольны ад работы час займаўся гэтым.

Падняў дошчачкі, углядаючыся ў бледны, адрачоны твар Багародзіцы. Як жа яна была падобна да вобліку тае, каго ён кожную ноч бачыў у сне, каго ён ненавідзеў і адначасна любіў, і разумеў, што гэтая жанчына ніколі не будзе ягонаю. Пякучы боль паліў сэрца. І вось ужо ў вачах стаіць тое, што ён павінен зрабіць, перш чым пайсці адсюль...

Ён не мог дачакацца раніцы. Ледзь развіднела, пайшоў у Полацк да купца Света. Доўга перабіраў заморскія металічныя скрыначкі з фарбамі, разглядаў іх, падносячы да цьмянага, зацягнутага бычыным пузыром акна. Паглядзеў пэндзлі. А аддаўшы Свету ўсе да апошняй грыўны, яшчэ пастаяў, прагна гледзячы на тое, што не змог купіць. Нарэшце выйшаў, забыўшыся развітацца.

Другое жыццё пачалося ў Іаана. Днём да знямогі працаваў на будаўніцтве. А начамі, наглуха зачыніўшыся, дрыжачымі рукамі разводзіў фарбы.

І як быццам спадала з яго насланнё. Пры сустрэчы з ігуменняй ужо не білася шалёна сэрца, не спадала з вялізнай вышыні. Паспакайнеў. Але ўсё роўна худнеў з кожным днём — твар зжоўк, як салома, паглыбелі вочы. Усе сілы забірала нечуванае, ужо непасільнае для яго натхненне.

Уся палкасць яго, увесь нявыказаны боль быццам пераходзіў на гладка абструганую дошку, якую, як святыню, кожны вечар ён беражна вымаў з торбы, захутаную ў кавалак суравога палатна. Яно пахла лёнам, спелымі яблыкамі, яшчэ нейкай асаблівай чысцінёй. Гэтак жа чыста і светла рабілася на душы Іаана. Такое пачуццё было ў яго, калі падстаўляў ён далоні першаму вясноваму дажджу і ротам лавіў цёплыя кроплі або, выходзячы раніцай з цёмнай курнай хаты, бачыў белае ад першага снегу наваколле.

Маці яго памерла рана, і рана паспытаў хлопчык гаркоту чужога хлеба. Быў той хлеб часта салёным ад адзінокіх сірочых слёз. Дзіваком з дзяцінства лічылі яго людзі. Мог ён гадзінамі ў нямым здзіўленні глядзець, як узыходзіць сонца. Нязграбны, у брудных лахманах, праз якія прасвечвала голае цела, ён у такія хвіліны зменьваўся: маленькія шэрыя вочкі рабіліся вільготнымі і раптам сінелі, просты грубаваты твар лагаднеў, рабіўся прыгожы.

Трапяткую, трохі наіўную ўлюбёнасць у навакольны свет ён захаваў на ўсё жыццё. Як і ўменне да самых тонкіх, патаемных глыбінь



душы адчуць прыгажосць і перадаць яе. Таму і любіў Іаан на жоўтых, прапахлых смалой дошках выводзіць дзіўныя, чыстыя першароднасцю пунсовых і залатых фарбаў узоры. Умеў маляваць ён і твары святых — была ў іх нейкая празрыстасць і строгая вытанчанасць. Але найвялікшай яго марай, яго радасцю было будаўніцтва. Нейкім асаблівым пачуццём успрымаў ён кожны дом, кожны храм. Як у людзях, знаходзіў у іх свае характары, свае адметныя рысы і як людзей — любіў або раўнадушна абыходзіў.

І як святлела ў яго душы, калі ён глядзеў на царкву ў Сяльцы. Ціхімі летнімі вечарамі, калі маўклівая Палата яшчэ больш цішэла і рабілася бліскучай і гладкай, царква здавалася яму прыгажуняй з казачных далёкіх краін, захутанай у празрыстую светлую камку *.

А цяпер хацелася, каб самым лепшым тварэннем ягоных рук быў партрэт, які хаваў ён на сподзе старой торбы.

Набліжаўся час асвячэння царквы. У апошнюю ноч Іаан не спаў. Як толькі сцямнела, асцярожна выйшаў з каморкі, несучы загорнутую ў палатно дошку, падкраўся да новай царквы, пралез у вузенькія бакавыя дзверцы. Сэрца шалёна калацілася, але ногі ўпэўнена неслі да царскіх варот. Злева ад іх была невялічкая ніша з абразом маткі боскай, прывезенай на асвячэнне з Полацка. Ён выняў яе, паклаў побач. Навобмацак знайшоў у сцяне драўляны цвік, павесіў прынесены з сабой абраз.

Ён ужо памкнуўся да выхаду, а потым вярнуўся. Запаліў прынесеную з сабой лучыну, паднёс яе да абраза.

У залатым німбе вялікамучаніцы стаяла перад ім Багародзіца. Спакой і мудрасць былі ў яе бледным твары. Вусны ледзь прыпухлыя, з дзіцячымі ямачкамі ў кутках. А вялізныя цёмныя вочы над тонкімі брывамі жылі, гарэлі страснасцю і верай, смяяліся і плакалі, ушчувалі і спагадалі. Дрыжэла лучына, і ў бляклым водсвеце глядзела на Іаана на сцяне Ефрасіння — такая, якою была ў дзень першай сустрэчы...

Ведаў ён — заўтра прыйдуць сюды людзі. Ды не пасмеюць яны зняць новую ікону. Спыняцца перад ёю ў нямым здзіўленні; нібы жывую ігуменню перанеслі на дошку. Але не толькі падабенства ўразіць іх — назаўсёды асталіся на дошцы бяссонныя ночы Іаана, гнеў яго і радасць, каханне і безнадзейнасць. І хай заўсёды спыняюцца перад ёй людзі, зачараваныя цудам, якое стварае чалавечае натхненне. Спарахнеюць у зямлі іхнія і ягоныя косці, лягуць у зямлю іх дзеці, унукі — а светларусая мудрая жанчына ўсё будзе глядзець на далёкіх нашчадкаў, і ніколі не згаснуць яе вочы...

## 9

Стаяў марозны студзеньскі дзень. Клубы халоднага туману ахуталі дрэвы і хаты. Бралася на вечар, неба было сіне-барвовым: ужо садзілася нізкае сонца. Ад яго ружовым здаваўся снег, каляіны дарогі. Нават белыя манастырскія коні выглядалі ружовымі.

Рыпеў снег пад палазамі. Дарога імкліва ляцела пад конскія капыты. Злёгку кружылася галава. Ефрасіння выцягнула руку, кранула манашку-вазніцу:

— Цішэй, цішэй вязі!

* Камка—візантыйская тканіна.

Сані пайшлі цішэй, а яна ўсё не забірала выцягнутую руку, глядзела на яе, сухую, зморшчаную.

«Бяжыць час. Хутка з зямным жыццём развітвацца».

А вось усё роўна радуецца яна навакольнай прыгажосці: тоўстыя, калматыя ад інею галінкі, тоненькія сняжынкі, што блішчаць, як дарагія каменні, чырвонае неба. Яна ўспомніла словы з кнігі, якую нядаўна прывезлі ў манастыр. Напісаў яе нейкі Яфрэм Сірын. Гэтую кнігу ўжо некалькі разоў ёй чытала манашка, і многія старонкі самі сабой усплывалі ў памяці:

«Мінае дзень, следам за ім ідзе другі, і калі не гадаеш, смерць ужо стаіць над галавой тваёй. Дзе мудрацы, якія напісалі кнігі і пісаннямі сваімі напоўнілі свет? Дзе тыя, што дзівілі свет сваімі словамі і творамі, зачаравалі сваімі думкамі?

Скажы зямлі, і яна пакажа табе, дзе яны; спытай у магіл, і яны табе пакажуць, куды яны пакладзены. Усе яны разам ляжаць у зямлі, усе сталі прахам, і не адрозніш, дзе астанкі багатага і дзе парахня ўбогага».

Учора, пры спакойным святле свечак, у цемнаватым бабінцы, дзе пахла вільгаццю ад мураваных сцен, гэтыя словы гучэлі пераканаўча, і манашкі сядзелі засяроджаныя, зачараваныя плаўнасцю і ўзвышаным сумам радкоў. А сёння, гледзячы вакол, сама яна запратэставала душой. Так, нічога не засталося ад мудрацоў, ад іх плоці. А дух усё ж застаўся — у кнігах, словах. Слова — вось што пераж ыве вякі! Колькі кніг трымала яна ў сваіх руках за доўгае жыццё, колькі перапісала і пераклала на родную мову! А хто з тых людзей, што напісалі гэтыя кнігі, жывы? Ні аднаго не ведае. Тварылі яны многа гадоў назад, але і сёння слухаюць іх жывыя людзі. Вось і яе, Ефрасінню, жаданне апанавала: напісаць і пакінуць людзям свае думкі. Многа іх яна перадумала за свае гады. Навучылася ў чалавечых душах чытаць лепш за кнігу. Але ў адным Сірын праўду мае — дробныя і нязначныя людскія клопаты. Што яны перад вечнасцю?

Ефрасіння пад'ехала ўжо да Полацка, да купецкіх радоў. Там стаяў натоўп. Тут былі і знакамітыя баяры ў высокіх узорных шапках, футрах, падбітых лісамі, і тлустыя ліхвяры ў вышытых кажухах з аўчын, і купцы ў заморскіх дарагіх каптанах, і чорныя людзі, якія прытанцоўвалі ад холаду, дыхаючы ў чырвоныя змерзлыя пальцы.

Ефрасінні кінуўся ў вочы шырокі, азызлы твар з драпежна ашчэраным ротам і маленькімі зыркімі вочкамі. «Чаго гэта ён такі вясёлы?» — міжволі падумала яна, пазнаўшы баярына Кірыка, вядомага ў горадзе ліхвяра і скнару.

І тут жа ўбачыла за спінамі і галовамі людзей нешта ярка-чырвонае. Тады зразумела, чаго шумеў узбуджаны натоўп — ён адчуў кроў. Таму гэтак азвярэла раздзьмуваліся ноздры і туманіліся вочы. За сваё доўгае жыццё Ефрасіння нагледзелася ўсяго. Але тут стрываць не магла. Нейкая неўтаймаваная злосць падняла яе з саней.

Натоўп расступаўся перад ёй, некаторыя падалі на калені і хрысціліся. «Ефрасіння... Ефрасіння...» — шалясцела над галовамі. Яна ўвайшла ў круг.

На грубым драўляным памосце — распластанае чалавечае цела. І ў яго з тупой, жахлівай рытмічнасцю раз за разам упіваецца скураны, у некалькі разоў перавіты бізун. Пырскае кроў. Усё заліта ёю. Дыміцца на марозным снезе гарачая чалавечая кроў... Рыжы сабака таропка ліжа чырвоны снег, адскокваючы ўбок пры кожным удары.

У яе сцямнела ў вачах. Пацягнулася ўперад, уладна ўскінула руку. Стала ціха. Ледзьве стрымліваючы злосць, сказала кáту:



— Хопіць. Пакладзіце яго ў сані. Міласэрны бог што нам казаў?

Кат выцер спацелы лоб. І яна — можа першы раз за ўсё жыццё — адчула зларадаасць, убачыўшы, як скрывіліся ў людзей твары.

«Чаму яны такія злыя, чаму?..»

Снег пранізліва рыпеў пад яе нагамі, калі яна цвёрда ішла да саней. Цяжка ўсеўшыся, уладна сказала манашцы:

— Назад, у манастыр...

Ён ужо не адчуваў болю. Была дзікая, да непрытомнасці, нянавісць і крыўда.

«Яны думаюць, што гэтым прымусяць мяне пакланяцца іх халодным злым багам, якіх немаведама адкуль прывезлі на тутэйшую зямлю. Пабудавалі тут каменныя храмы, сілай заганяюць у іх людзей. Гавораць аб справядлівасці, праўдзе, а самі рабоў прымусілі працаваць на сябе. Багацці незлічоныя збіраюць у манастыры. Дзе ж іхняя справядлівасць, калі вакол бедныя ды галодныя? Дзе ж іх справядлівасць, калі на іх баку княжацкая дружына і княжацкі суд? А ён цяжкі, гэты суд! А мы збіраемся патаемна, нас цкуюць, як сабак, і ўсё-ткі мала ідзе ў іхнюю царкву, ідуць у лес, да сваіх багоў. Але, урэшце, нават не за гэта б'юць нас сёння. За непакорства. А мяне — за тое, што нядаўна на вечы казаў праўду пра бясчынствы баярскія. Бяруць тых юнакоў і дзяўчат з самых глухіх навакольных селішчаў і прадаюць у няволю. А ў апошні час пачалі нават недалёка ад Полацка людзей хапаць. У Друцеск, на старое дворышча, звозяць, а потым купцы туды прыязджаюць, у рот людзям глядзяць, як коням.

Хіба ж праўду даруюць? Сам сабе хвігу ў кішэні паказвай, а на людзях ліслівы павінен быць і пакорны. А інакш — расправяцца і цераз дзесяць, і цераз пятнаццаць гадоў. Яны ж ніколі нічога не даруюць».

Ён успомніў дробненькі, з лісліва-ласкавым поглядам твар тысяцкага Якуна. Чырвона-шызы, з тоўстым мясістым носам — баярына Вікулы. «Кажуць, ён многа брагі мядовай п'е, таму і распух увесь. І сліна вечна цячэ.

На вечы яны абодва стаялі спакойна, нават усміхаліся. А калі проста паказаў на іх — схамянуліся, галовы ў плечы паўцягвалі, адмаўляцца пачалі.

А цяпер помсцяць. І не толькі яны. Многія з людзей полацкіх знакамітых разбоем не грэбуюць. Толькі ўсё робяць спадцішка. Ох, як ім не да спадобы прыйшлося тое, што ён казаў на вечы! Затое як хутка прычыну знайшлі, каб адпомсціць. Праз некалькі дзён у саборы аб'явіў епіскап, што досыць ужо цярпець у горадзе язычнікаў: «драўляным ідалам яны моляцца, д'ябальскія ігрышчы спраўляюць, скачуць і крычаць, яко нячысцікі».

І вось яго караюць. За язычаства. Але ж раней толькі ўшчувалі, а сябры-рамеснікі нязлосна кпілі, чаму дрэву ды грому ён пакланяецца. Колькі гадоў назад перабраўся ён у горад, але так і не адмовіўся ад веры бацькоў. Хоць не раз улешчвалі ды залатыя горы абяцалі. Ёсць жа нешта вышэй за золата ды багацце. Чэсць, сумленне. Хоць многім гэта, напэўна, смешна — адкуль яно ў смерда? Прывыклі людзі жыць у боязі, згінаць шыю перад кожнай знакамітасцю, нібы чалавек перастаў быць чалавекам, а ў вала перарабіўся. Не! Чалавек нарадзіўся свабодным, і гаспадары над ім не людзі, а багі, якія ведаюць усе патрэбы людзей, таму што жывуць побач. Нельга ад іх адмаўляцца, як і ад зямлі, на якой вырас! Як і ад праўды. Няхай забіваюць, сабакі, усё роўна пакаяння не дачакаюцца!»

Раптам перасталі сыпацца ўдары. Тады нясцерпна, нібыта трапіў у бочку з расолам, забалела спіна. Ён са стогнам узняў галаву. І здалося, што трызніць: знаёмы прыгожы твар перад ім. Праз туман гадоў і сетку тонкіх маршчын — вялізныя цёмныя вочы, тонкі прамы нос. А вышэй — чорны клабук з тонкай белаю аздобаю вакол. Манашка... Яна схіляецца перад ім, нешта гаворыць. Ён не чуе — глядзіць на яе, уздымаецца. І раптам млеюць рукі. І небыццё, як ранішні белы туман...

Павольна вяртаецца прытомнасць. Цёплы хлебны дух шыбае ў нос, як моцная брага. Ён ляжыць на нечым мяккім, галава павярнулася набок, і ён бачыць кавалак чорнай сукенкі і сухія белыя кабецыны рукі. Ён хоча ўспомніць, што здарылася з ім, і намагаецца падняцца. Але са стогнам падае тварам на лаву. А зверху голас — уладны, рэзкі:

— Нашто ўпарцішся ў веры сваёй паганскай? Не будзе душы тваёй спакою пасля смерці.

Яго нібы ўкалолі. Застагнаўшы, павярнуўся на бок. Прашаптаў:

— Не самі людзі прынялі хрысціянства. Агнём і мячом іх хрысцілі, і цяпер царкве тваёй кроў патрэбна. А я свабодным хачу быць. Нашто прымушаць верыць у тое, што ненавідзіш?

— Ненавідзець праваслаўную царкву? Што было тут, пакуль не прыйшло хрысціянства? Ні навукі, ні граматы, ні слова напісанага. А слова было на пачатку ўсяго. Яно раней чалавека з'явілася.

— Затое за яго цяпер і б'юць людзі адзін аднаго. Усё даруюць бліжняму: і калі жонку чужую зняславіць, і клятву сваю парушыць, а за слова — не даруюць. Асабліва калі яно супраць вяльможных людзей, ды і праўда ў ім.

— Усё гэта мітусня. Твая крыўда, твая ўпартасць.

— Яны — тое, без чаго чалавек будзе адчуваць сябе жабай без вады, пацуком у пастцы. Любоў да дзіцяці, каханне да жанчыны, зямныя турботы — без гэтага нявартa жыць. Ты адраклася ад гэтага і дзеля чаго?

— Дзеля таго каб зрабіць людзей разумнейшымі, чым яны ёсць. Каб навучыць іх не толькі глядзець у зямлю і думаць пра кавалак хлеба. Каб ведалі яны тое, што было да іх і што будзе наперадзе.

— А многіх ты зрабіла шчаслівымі? Кнігі далі ім шчасце? А сама ты хіба шчаслівая, князёўна?

Яна здзівілася: «Князёўна?»

— Ты ведаеш мяне?

Угледзелася ў схілены твар. Аброслы, даўно нямыты, маршчыністы. Падняліся пачырванелыя павекі, і глянулі на яе сінія вочы. Сінія-сінія...

Яна заплюшчылася. Спытала аслабелым голасам:

— Няўжо гэта ты, Раман?

Ён глядзеў ужо на яе пільна, не адрываючыся.

— Цябе таксама жыццё скруціла. Мяне, праўда, яшчэ горш. Колькі думаў — стану багатым, украду і ў багатыя заморскія краіны памчу. А сустрэліся — зноў жабрак.— Ён гаварыў сурова, але відаць было, што яму сорамна за сваю бездапаможнасць, за рызманы на целе. І гэты нейкі нібы хлапечы сорам вярнуў яе на зямлю. Спытала:

— Няўжо іншых слоў у цябе не знайшлося?

І тут жа спалохалася, заспяшалася; паклікала з сяней старую, зморшчаную бабулю і, наказаўшы, што трэба зрабіць хвораму, вый-





шла з хаты. Але не пайшла далёка. Прыхілілася галавой да сцяны, вільготнай пасля нядаўняга снегу.

«Прайшло жыццё — як адно імгненне. Нічым не вярнуць яго — ні малітвамі, ні плачам. Можа, магчыма ўсё ж на імгненне вярнуць, хаця на адно імгненне! Людзі думаюць, што я ад веку была кніжніцай. Толькі ёю. Толькі — служэнне богу, толькі — адрачэнне. О не! Я, акрамя гэтага, нарадзілася з гарачай крывёю і палкай душою жанчыны. Я толькі змагла асіліць сябе, змагла схаваць у душы ўсё гэта. Змагла дзеля адзінай мэты — служэння свайму народу».

Яна адчула, як цяжэе галава. Зноў уздымалася ў яе душы шкадаванне аб нечым далёкім. Хіба сапраўды вярнулася палымяная неразважлівая маладосць? І, як многа гадоў назад, укалоў страх: яму ж нельга тут быць, яго схопяць, і яна не здолее абараніць яго. Новы епіскап самалюбівы, не захоча ён, не сцерпіць, калі нехта — нават яна — будзе мяняць яго загады. А ў манастыры яго таксама не схаваеш.

Яна зноў кінулася на ганак, тузанула дзверы. Кіўком адаслала з хаты старую і вярнулася да яго:

— Табе нельга тут... Могуць схапіць. Зноў будуць катаваць. Уцякай!

Нейкая горкая ўсмешка з'явілася на ягоных вуснах:

— Не першы раз ужо б'юць...

— За што?

— Адзін раз за цябе... Памятаеш, калі ты не прыйшла на спатканне ў манастырскі сад? Нехта, відаць, падказаў ігумені, яна і загадала вартаўнікам, каб правучылі. Ды ўсё роўна прыходзіў туды, чакаў, можа ты выйдзеш. Да святой Сафіі бегаў штодзень, галавой гатовы быў біцца аб камень. А цябе забраў манастыр. З таго часу я яшчэ больш узненавідзеў царкву. У нашай рэлігіі каханне — гэта найвялікшае шчасце на зямлі. Багі ўдыхнулі ў чалавека гэтае пачуццё. А вы... Што даеце чалавеку вы? Толькі кнігі, толькі мудрасць? Толькі? Ты абараніла сёння мяне, Прадыслава. Ад чаго? Ад сваёй жа царквы? Дзеля чаго ж аддала ты сваё жыццё, калі вымушана так рабіць? Нашто ты пайшла ў манастыр, Прадыслава? Навошта?!

Ёй раптоўна памроілася — пахне мятай і верасам, у яе ў валасах заблыталіся светлякі, а Раман здымае іх, кладзе ёй на плечы, рукі, а потым падхоплівае і нясе, нясе ўдалячынь...

Яна расплюшчыла вочы і ўбачыла перад сабой свае рукі. Кашчавыя, зморшчаныя. Сухія, як зямля ў бясплодных пустэчах Візантыі. Нічога нельга вярнуць, нічога. Стомленае, зморанае цела, высушаная доўгімі малітвамі душа — вось што засталося ў яе; дзіўна толькі — не адчувае яна ў душы сваёй ні страху за нячыстыя думкі, ні жадання ўпасці на калені і замольваць свае грахі.

— Уцякай, Раман. Я загадаю прынесці табе пераапрануцца,— і, памаўчаўшы, дадала: — Тваімі вуснамі праўда гаворыць, але нічога не выйдзе з тваіго бунту. Нічога. Павер мне.

І ціха адказаў ён:

— Я ведаю гэта. Але я хачу да канца дзён сваіх астацца чалавекам.

## 10

Яна моцна сціскала сплеценыя рукі. А ўсё роўна — мала сілы ў яе руках, не перадаецца ім кіпучая моц душы, і тое, што было ў сэрцы, не знаходзіла сабе выйсця, душыла яе. А твар быў спакойны, засяроджаны, і епіскап Фёдар, дужы, чырванашчокі мужчына, паблажліва дагаварыў тое, дзеля чаго і запрошана была да яго ігуменя:

— Дык вось, сястра мая. Вышэй за ўласныя інтарэсы павінны быць інтарэсы святой царквы нашай.

— Відаць, нехта з нас не разумее яе сапраўдныя інтарэсы. Мы з вамі добра ведаем, што калі Уладзімір мячом заганяў язычнікаў у раку — гэта было неабходна, бо прайшлі б вякі, пакуль людзі пачалі б хрысціцца па сваёй ахвоце. Але цяпер, калі хрысціянства зацвердзілася ў гэтым краі,— прывучаюць да яго бізуном. Ваша прэасвяшчэнства, вы — новы чалавек тут. І калі людзей да смерці забіваць за язычаства, то ці не пахіснецца ў людзей вера?

— Наадварот! Гэта прывядзе да нас тых, хто яшчэ сумняваецца. Страх — гэта аснова кожнай улады.

Яе вусны скрывіла пакутлівая ўсмешка.

— Чаму ж смерд, якога я вызваліла, так і не прыйшоў да праваслаўнай веры?

Епіскап нервова ўскочыў з вялізнага, упрыгожанага металічнымі бляшкамі, крэсла.

— Таму і трэба з коранем вырываць непаслушэнства!

— Але чалавек — гэта не куст лебяды. Праліць жывую чалавечую кроў — гэта не палохае вас, брат мой?

Ефрасіння амаль з нянавісцю глядзела на тлусты епіскапаў твар. Пыха і задаволенасць былі на гэтым твары.

«О не, ён ніколі не будзе сляпіць вочы за кнігамі, не будзе бяссоннымі начамі падбіраць словы пропаведзі, якая страсане чалавечую істоту! Ён раз і назаўсёды завучыў, увабраў у сябе нейкія ісціны і, напэўна, больш і не задумваўся над імі. І гэта — пастыр душ?!

Вось і цяпер. Самы страшны грэх — забіць чалавека. Але ж ён знойдзе, як схавацца за сцяной раўнадушша, знойдзе словы апраўдання».

— Ідэя вярхоўнай улады, ідэя ўлады над душамі патрабуе ад нас усіх намаганняў, усіх сіл. Што перад ёй кроў аднаго язычніка?

— Усё жыццё я вучыла людзей, што праваслаўная царква нясе святло навукі, дабрату і чысціню,— яна ледзь стрымала сябе, каб не закрычаць.— Сілай слова пераконваць трэба, а не крывёю, не!

Епіскап спадылба назіраў за ігуменняй. «Уздумала мяне вучыць! Не магу ж я сказаць ёй, што пакараць таго смерда прасілі мяне многія слынныя людзі горада і прынеслі нямала срэбра і золата, каб замаліць грэх. Ёй жа кнігі, мусіць, засляпілі свет. Ідзе супраць мяне і нічога не баіцца. І нічым, пэўна, нічым яе не спалохаеш. У яе — і грошы, і замацаваная гадамі ўлада, і тое, чаго няма ў мяне — любоў і павага полацкага люду. Хаця — гэта яе і слабасць. Бо веча народнае з кожным годам робіцца слабейшым. І хутка ўжо, відаць, адменяць яго. А сіла Полацка — у славутых баяраў ды купцоў».

Але ўслых ён сказаў прымірэнча, і жвавыя чорныя вочкі яго забегалі, не сустракаючыся з позіркам Ефрасінні:

— Не варта нам гарачыцца. Я пра славу нашу агульную і карысць дбаю.

Ефрасіння адчула, як схлынуў гнеў, саступіўшы месца безнадзейнай пустэчы ў душы. Проста перад сабой бачыла яна чырвоныя, парослыя цёмнымі тоўстымі валаскамі пальцы епіскапа. Яны нервова мацалі на выпуклым жываце цяжкі залаты крыж.

«Ён дужы і нахабны. І малады»,— падумала яна і з нечаканай яснасцю і бязлітаснай халоднасцю ўявіла сваю тонкую, высахлую

постаць. І, нібы ўвачавідкі, убачыла доўгі-доўгі шэраг гадоў, які нябачнымі ланцугамі абвівае яе істоту, адбірае сілы, гэтак патрэбныя цяпер.

«Я ўжо старая. Старая! Божа, я ніколі не шкадавала дзён, якія незваротна праплывалі праз мяне і набліжалі тую мяжу, якая называецца смерцю. Але цяпер... цяпер я гатова плакаць ад жалю, што прайшло, незваротна прайшло жыццё. Перамога астаецца за ім. Бо астаецца ён. Зямныя справы робяць зямныя людзі...»

Ёй зрабілася млосна. Яна хацела ўстаць, але цяжкімі, як калоды, зрабіліся ногі, рукі, і яна зняможана адкінулася назад. Прагаварыла ціха, амаль нячутна:

— Хопіць яго з мяне, зямнога жыцця.

## 11

Вузкія аканіцы былі расчынены насцеж. Душнае, гарачае паветра ўлівалася ў келлю, што была на другім паверсе вялікага, з белага каменю пабудаванага манастыра.

«Чым гэта пахне? Лаўрам і трохі магноліяй — востра, рэзка. Чужы пах. Усё чужое»,— бязрадасна думала Ефрасіння.

«Здаецца, і манастыр тут такі ж, як у Полацку. Крыжы праваслаўныя. І нават Эфеская матка боская над галавой ёсць. Напэўна, таксама з Візантыі прыслалі яе ў Іерусалім. Але ў Полацку яна іншая: у золаце, у каменнях каштоўных. І майстэрства вялікага — пісана евангелістам Лукою Хрысавергам у Царградзе. Падарыў ікону сваяк — цар грэчаскі Мануіл Комнін; колькі тады было радасці! Ды ўсё ж самай дарагой асталася для яе ікона Полацкай божай мацеры. І не таму, што тая з Ефрасінні самой была намалявана, а таму, што зробленая не вядомым нікому полацкім умельцам, не горшай была яна за заморскую. Тады, на высвечванні царквы, разгневалася яна на Іаана: здагадалася, што толькі ён зрабіў святатацтва — жывога чалавека ў выглядзе Божай маці намаляваў. Але і знішчыць ікону ўжо нельга было: народ полацкі цудам яе аб'явіў. З таго часу і вісіць яна ў Сяльцы, і заўсёды стаяць на каленях перад ёю людзі.

Усё жыццё старалася яна, каб яе храм і манастыры вабілі да сябе сэрцы людскія прыгажосцю і дабратой, каб знаходзілі ў іх спакой і ачышчэнне ад зямных клопатаў.

А сама? Хіба не яны засланілі перад ёю ўсё жыццё? Будавала школы, вучыла пісьменству, пісала кнігі. Ледзь не святою аб'явілі. Але ці многа святасці было ў жыцці? Градыславу пастрыгла ў манашкі — а ці хацела тая ісці ў манастыр? Ды і пасля, як пастрыглася, колькі пераплакала ў адзіноце! Не раз, ідучы ўночы паўз яе келлю, чула Ефрасіння, як горка скардзілася яна богу, што душаць яе сцены манастырскія, як білася ў роспачы аб падлогу. Можа ёй трэба было б жыць на свабодзе, гадаваць дзяцей ды баяцца мужа свайго? Праўда, ужо многа гадоў, як паспакайнела Градыслава, не плача і не скардзіцца болей. Абыякавая нейкая стала. Кіруе манастыром, а казанні чытае без палкасці, без натхнення. І без разваг слухае старэйшую сястру. Клопаты... Сапраўды яны высушылі яе, Ефрасінню. Праз іх і богу не аддала ўсе свае сілы, сваю моц і думкі.

Будавала манастыры, а думала пра тое, каб яны ўпрыгожвалі Полацкую зямлю. Бо яна сапраўды любіла і любіць гэты прыгожы край. На гэтай зямлі яна ўпершыню ўбачыла зорнае неба, адчула, як распірае грудзі малады празрысты вецер, як пахне аерам цёплы рачны



плёс... На ёй сустракала ўсходы сонца і білася ад роспачы на халодным шэрым камені. Тут спазнала каханне, чалавечае гора, радасць. І ніколі не ганьбавала тымі, хто не хацеў ісці ў царкву. Значыць, яна няверна служыла богу?

Раман спытаў у яе: ці шчаслівa пражыла жыццё? Павінна была б сказаць: «Шчаслівa». Прысвяціла сябе богу, марыла, што дасць ён яснасць думак, адкрые, у чым сэнс жыцця.

Яны, язычнікі, лічаць, што чалавек прыйшоў на свет, каб радавацца свайму існаванню, каб быць шчаслівым, свабодным. Для іх манастыр — смерць. Ім здаецца, што для шчасця ёсць зямля. І не патрэбна ім ні мара аб бессмяротнасці, ні ціхая пакорлівасць існавання. Яна ж таксама змагалася — супраць духоўнай цемры, за дабро, справядлівасць. І вось... Што сталася? І з ёй, і з тым, каму яна служыла, каму аддала свае сілы, моц, здароўе? Гаспадарамі над усім сталі гандляры і ліхвяры. Епіскапы робяць тое, што прынясе храму багацце. А багацце — у нячыстых руках. І з кожным годам сіла духу падае перад сілай грошай. Куды дзявацца дабру і справядлівасці, якім яна вучыла людзей усё сваё жыццё? І таму няма ў душы радасці...»

— Зачыніце вокны! — хрыпла вырвалася ў яе.

Градыслава, якая стаяла побач, здзіўлена глянула, але пайшла рабіць тое, што ёй загадалі.

«Няўжо яна не разумее, чаму мне душна тут? У яе такі спакойны, бяздумны твар. Няўжо яна не сумуе па зямлі, якую пакінула, каб паглядзець на славутыя іерусалімскія мошчы? Можа, і не прыйдзецца вярнуцца назад. Яна, Ефрасіння, не дзеля таго, каб агледзець мошчы, ехала; хацелася ўцячы ад сваіх неадступных думак, ад адчування, што дарэмна пражыта жыццё. А можа, не дарэмна? Можа, быў у яе адрачэнні нейкі глыбокі сэнс, які яна не можа спасцігнуць зараз? А ўсё ж месца ў раі мне, напэўна, падрыхтавана»,— з сарказмам падумала яна. І спалохалася. Як часта ў апошні час да яе прыходзяць незразумелае жаданне кпіць і здзекавацца.

«Гэта — бабскае. Усе гады я старалася заглушыць у сабе голас плоці. А паміраю тым, кім нарадзілася — бабай».

Яна замітусілася на ложку. Перасохлымі вуснамі папрасіла:

— Дай мне што-небудзь кіслае. Хаця адну журавінку.

Градыслава схілілася, падторкнула плашчаніцу:

— Зараз табе апельсінаў прынясуць.

«Не, яна не разумее мяне. Усё чужое. І сястра, з якой пражылі поруч столькі гадоў, чужая. Мы з ёй ілгалі адна адной. Я не забывалася, што калісьці цераз яе згубіла самае для мяне дарагое. А яна не даравала мне, што я адправіла яе ў манастыр. Я ілгала, калі пераконвала сябе, што толькі адрачэнне — сэнс майго жыцця. А яно дало мне ўладу, аб якой я марыла яшчэ ў дзяцінстве. Дало славу — і я ўчула яе смак. Я ілгала богу, абяцаючы яму вернасць, бо ніколі не магла забыць Рамана. Адно толькі не лічу за грэх — зрабіла нешта для зямлі, якая мяне нарадзіла. Там, далёка-далёка, ідуць зараз доўгія асеннія дажджы і рыжыя балотныя купіны абсыпаны чырвонымі журавінамі. І нехта чытае кнігі, напісаныя маімі рукамі, і вучыцца любіць гэты самотны, ціхі край, і марыць, як я, зрабіць яго магутным і шчаслівым...»

Мерны, нягучны голас загучаў над ёй. Яна расплюшчыла вочы — чалавек у архіепіскапскім адзенні стаяў каля яе.

«Значыць, гэта ўжо ўсё? Значыць, я паміраю. Паміраю... А ўсё я зрабіла, што хацела? Не! Значыць, з гэтым мне і паміраць — што

перамог ён? Перамог дабро, справядлівасць? Не! Я павінна яшчэ жыць! Я не хачу паміраць! Калі я пацалую крыж, які ён трымае ў руках — значыць, я зноў схлушу. Схлушу, што прымірылася са смерцю. А я не хачу яе! Няўжо я павінна канчаць жыццё маной?»

Глуха стукнуўся аб падлогу крыж: усе знямелі. Еўдакія з плачам кінулася да сястры:

— Яна трызніць, яна ўжо памірае!

Яна падняла крыж і амаль сілай прыклала да нерухомых вуснаў сястры. Тая не зварухнулася. Горкая ўсмешка з'явілася на твары.

«Я так і ведала. Хіба дазволяць мне памерці так, як я хачу? Я ўсё жыццё не магла зрабіць таго, што хацела, бо ўсё роўна была аблытана зямнымі законамі».

— Адпушчаю грахі твае, Ефрасіння...

«Грахі? Якія ж былі ў мяне грахі?»

Гарэла галава. Пачыналася трызненне. І яна ўжо не разумела, ці сон, ці ява гэта: гарачы чэрвеньскі поўдзень, тоненькая ганарлівая дзяўчына, і высокі хлопец у кашулі наросхрыст, з цёплым, жалудовага колеру загарам на шырокіх грудзях, і вочы яго — сінія-сінія, з пушыстымі цёмнымі вейкамі. Будзіць дрымотны поўдзень імя яе — даўняе, напаўзабытае, якім наракла яе маці:

— Прадыслава... Прадыслава-а-а!

Высахлы архіепіскап доўга ўслухоўваўся ў яе словы, а потым выйшаў у калідор, дзе сабраліся амаль усе манашкі:

— Памірае прападобная Ефрасіння! І ўсё, прасветлая, славіць бога. Уславім і мы госпада разам з ёй!

Звінелі тонкія галасы. Гудзелі магутныя званы. І губляўся між імі ледзь чутны шэпт:

— Прадыслава-а-а...

## ЧЫТАЙЦЕ

## ў наступным нумары аповесць Лідзіі АРАБЕЙ «ВАЎЧКІ»

Хведар ЧЭРНЯ





## *Маналог вежавага крана*

Хваліцца — прафесія не мая.
Падумаеш — проста ўмора.
І ўсё ж, дзе з'яўляюся я,
Там пачынаецца горад.

Усё пачынаецца нібы здаля:
Пад рэйкі зямлю разгладзяць,
Паставяць на ногі мяне, а пасля
Дзюбу-руку прыладзяць.

Затым забярэцца ў кабіну маю
Такі вось анёлак без страху
І так, брат, накруціць за дзень мазгаўню —
Не знаеш, дзе поўдзень, дзе захад.

Бываюць і ночкі. Бяруць на змор.
«Аўрал!» — як зацягнуць хорам,
То круцішся зноў між ліхтарыкаў-зор —
Не зачапіць бы каторай.

Ды хныкаць — прафесія не мая.
Работы уперадзе — горы,
Бо там, дзе з'яўляюся я,
Там пачынаецца горад!

●

Ёсць дзіўнаваты нейкі смак
У смакаванні параўнанняў:
«А да вайны было не так!..»
І — з даваенным — зноў спатканне.

Ды што і лепш было, што горш,
Што даражэй ці дзешавей што,—
Не ў гэтым соль, хаця і грош,
Як і чырвонец, любіць рэшту.

Ну, параўноўвай жа далей...
Дапусцім, мода. Ну прыцэлься:

Як па праспекце, па сяле
Дзяўчаткі ходзяць, бы прынцэсы.

І не праз пару шыб-акон —
Дзядку палескаму
                    з экрана
Стаў увесь божы свет відзён
Ад Мазыра да Тэгерана.

І дзе той корч са смаляком,
Дзе пры лучыне доля-праца?
Штоночы юны наш Лукомль
Падміргвае такому ж Брацку!

Ёсць дзіўнаваты нейкі смак
У смакаванні параўнанняў...

●

Выспявала навальніца
У завоблачнай цішы,
Быццам тэма-чараўніца
Ў растрывожанай душы.

Са спакоем небывалым,
На краі каўказскіх стром
Рыхтаваўся запявала —
Басавіты першы гром.

І калі зямля дыхнула
Цеплынёй яму у твар,
Раптам неба ўскалыхнула
Дум прыцішаных абшар.

Бліскавіц начных свячэнне
Над зямлёй плыло штоміг,
Як высокае натхненне
Незвычайных душ людскіх.

Навальніца! Моцы колькі!
Горы ўцягвалі гарбы,
На гарачыя асколкі
Разляталіся дубы.

Безаглядна і адчайна
Малацілі перуны.
І з зімовага маўчання
Прарасталі дні вясны.

І плыла на захад дрэма,
Праясняўся далягляд,
Як уступ да той паэмы,
Што даніша лістапад.

❖❖❖



● Алесь ПАЛЬЧЭЎСКІ



● Мал. У. ПАШЧАСЦЕВА

# ГЛАДЫЁЛУСЫ

АПАВЯДАННЕ



Раніцай у суботу Андрэй Ласток прачнуўся ў добрым настроі: наперадзе былі два выхадныя, а за акном — цудоўнае надвор'е. Ён падняў галаву, паглядзеў на жончыну пасцель. Крысці там ужо не было. Яна сядзела каля туалетнага століка і расчэсвала валасы.

— За косамі ты і ў выхадны не можаш лішнюю гадзіну паспаць.

— А сам, нябось, любіш бачыць прычасанай,— зірнула Крысця ласкавым паглядам на мужа.

— Даўно раіў табе адрэзаць іх, зрабіць хімічную завіўку: клопату ніякага, а хараство не меншае, чым з косамі.

— Гэта каму што падабаецца, Андруша,— пады-шла яна да мужа і пацалавала.

Андрэй адсунуўся да сцяны, і Крысця прысела на краёчак ложка, дапляታючы другую касу. Па ўсім было відаць, што яна таксама ў добрым настроі.

— А ці не паехаць нам, Крысцечка, да маёй сястры на пару гадзін? — вырашыў Андрэй парадаваць жонку.— Раніца прарочыць на пагодлівы дзянёк. Можа там грыбоў ці ягад якіх назбіраем...

Андрэева прапанова ані не ўзрадавала Крысцю. Закручваючы косы на галаве, яна спытала:

— А з чым паедзем? З пустымі рукамі? Памятаеш, колькі чаго навезла Наста, як прыязджала да нас? Зарплату па нядзелі толькі атрымаем — і я, і ты.

Андрэй чмыхнуў ад такіх довадаў:

— Успомніла пазалеташні снег! А што ёй каштавала тое, як ты кажаш, навезенае? Кілбасы, сала, сыр, сушаныя грыбы яна не купляла. Усё сваё. Нават перапечкі, што напякла з магазіннай мукі, магла напячы са сваёй. Яны ж атрымліваюць на працадні не толькі грошы, але і збожжа.

— Ну і няхай атрымліваюць... А я з паўкілом сушак ці цукерак ехаць у госці ды свяціць там вачыма не хачу... Не ўгаворвай, Андруша, нічога не будзе.

Ён і сам разумеў: не зусім прыстойна, хоць і сястру, наведваць з бедным гасцінцам. Але неадольнае жаданне паказаць Насці сваю пакупку падшыхвала з глыбіні душы. Хутка месяц, як Андрэй набыў «масквіча», а Наста яшчэ і не бачыла, а можа і не ведае пра гэта. Дачуецца ад людзей, падумае — заганарыўся брат перад сястрой.

Некалькі выхадных дзён Андрэй аб'язджаў машыну, як маладога каня, паблізу горада, а сёння наважыўся пусціцца ў большую дарогу. Хацелася, каб гэтую радасць раздзяліла з ім жонка, але тая наадрэз адмовілася. Прыйшлося паехаць толькі з сынам.

Дарога да Кнотава, дзе жыла Наста,— шасейная, толькі невялікі адрэзак, убок ад шашы — селавая. Нешта праз гадзіны паўтары машына плаўна спынілася каля Насцінай сядзібы. Андрэй кароткімі гудкамі падаў знак аб прыездзе госця, але адчыняць вароты ніхто не выходзіў з хаты. Прыйшлося Андрэю зрабіць гэта самому.

— Можаш, Пеця, вылазіць,— адчыніў ён дзверцы кабіны.— Прыехалі.

— Гэта тут і жыве цётка? — спытаў хлапчук, выпростваючы далоняй пакамечаныя штонікі. Адною рукой ён цягнуў калашыну ўніз, а другою — гладзіў.

— Тут, ды, бачыш, нікога няма дома. Я зараз даведаюся ў суседзяў, дзе яны, а ты паглядзі, што за хараство ў тваіх стрыечных сястрычак пад акном,— паказаў бацька на кветнік.

Але ісці Андрэю не давялося. Як толькі машына спынілася, адна з дзяўчынак, што гулялі на суседнім двары, сказала другой:

— Гэля, нехта к вам прыехаў. Хадзем пагдядзім.

Але трое хлапчукоў апярэдзілі дзяўчынак. Яны стаялі ўжо каля Насціных варот і разглядалі машыну, а разам і прыезджага хлапчука, свайго равесніка.

У іх і спытаў Андрэй, дзе гаспадыня.

— Не так даўно дома была,— сказаў большы,— а куды пайшла, не ведаем. Вунь іхняя Гэлька, спытаць можна,— паказаў другі на адну з дзяўчынак і гукнуў, каб тая ішла хутчэй.

Дзяўчынкі падбеглі абедзве.

— Во якая ты, Гэля, вырасла ўжо,— пагладзіў Андрэй бялявую галаву дзяўчынкі.— А ведаеш, хто я?

Гэлька кіўнула галавой і прызнала дзядзьку. Яна добра запамятала той дзень, як хавалі тату, як мама абняла дамавіну і не хацела выпускаць, а дзядзька Андрэй з цёткай Крысцяй адцягвалі яе і прасілі не плакаць, не ўжальвацца, каб не здарылася чаго благога з самой. «Хто тады дзяцей будзе гадаваць? Падумай, яны і так ужо сіроты».

— А дзе ж мама? — спытаў дзядзька.

— Вунь на агародзе, каля поплава, агуркі выбіраюць з Соняй. Я збегаю паклічу.

— Не трэба, Гэлечка, я сам схаджу. А вы пазнаёмцеся з Пецем і пагуляйце сабе тут.



Пеця моўчкі стаяў каля машыны. Гэльчына сяброўка глянула на Пецю і надзьмула шчокі. Дзяўчынкі пырснулі смехам і пабеглі зноў на суседні двор. Ну якая гэта можа быць гульня, няхай сабе і на сваім двары і са стрыечным братам, калі прыехалі госці з горада, а мама нічога не ведае? І Гэля як мага пабегла з навіною ў агарод.

Андрэй назваў дзяўчынак дзікімі козамі і наказаў сыну быць каля машыны і не чапаць яе, а сам пайшоў да сястры. Яму хацелася паглядзець, што расце на былым бацькавым агародзе цяпер, як урадзілі агуркі.

«Калісьці бацькі завальваліся імі. Было і сабе і людзям. На копы лічылі, не тое, што цяпер — кілаграмамі цюркаюцца, ды яшчэ дрыжаць, каб крыха якая не перапала пакупцу... Цюцелька ў цюцельку адважаць»,— прыгадваў Андрэй, ідучы разораю.

Над адною градою ён нагнуўся, расхінуў у радочку націнне морквы, выбраў таўсцейшае і вырваў карацельку. Вырваў і ўспомніў, як малым, гадоў трыццаць назад, крадком ад бацькоў цягаў яе, тоненькую яшчэ, сабе і сябрам на пачастунак.

На нейкі момант Андрэй спыніўся і, аскрабаючы ножыкам моркаўку, перанёсся думкамі ў дзяцінства. Так яскрава паўстала мінулае. Колькі папахадзіў ён тут босымі нагамі, колькі папанасіў зелля свінням, як маці палола грады, а ўвосень — мяшкамі, кашамі — варыва. Быць бы яму, меншаму сыну ў бацькоў, гаспадаром гэтага агарода, калі б у свой час пасля вайсковай службы не пакінуў назаўсёды Кнотава. Андрэй не каяўся, што зрабіў так. Сям'я ў яго добрая і кватэра таксама. І ўсё ж крупінка зайздрасці, што не ён гаспадарыць тут, дала сябе адчуць.

Пасля смерці бацькоў ні Андрэй, ні старэйшы яго брат Антон не згадзіліся вяртацца ў калгас. Тады Наста перайшла з мужам і дзецьмі ў бацькаву хату, а сваю, меншую, прадала і грошы аддала братам. Нікому не было крыўдна: дачцы дасталася большая хата, а сыны ў спадчыну атрымалі сваю долю грашыма.

Трымаючы ў падоле фартуха сабраныя з грады агуркі, Наста заспяшалася насустрач Андрэю. Здалёк гукнула:

— Ты чаго ж, братка, стаіш там? Ідзі сюды.

Андрэй абудзіўся ад думак, нібы ад сну. «І сапраўды, чаго я стаю?» — здзівіўся і тут жа знайшоў адказ:

— Каштаваў, што за моркаўка вырасла ў тваім гародзе.

— А братка ты мой, а дарагі мой госць, як жа гэта ты надумаў ашчаслівіць нас? — абняла Наста за шыю Андрэя.— Гэта ж ад пахавання майго Валодзі ты і не быў на бацькаўшчыне.

— Ды вось так: узяў ды прыехаў,— пацалаваў сястру ў шчаку Андрэй.— Можа грыбоў якіх ці ягад назбіраем, а заадно і вас праведаем.

— Грыбоў, братка, няма яшчэ: сухавата ў лесе. А ягады скончыліся. За прыезд — дзякуй... Мне цяжэй выбрацца да вас, а пабачыцца хацелася. На машыне, казала Гэлька, прыкаціў. Можа на сваёй?

— На сваёй.

— Ну і дзякаваць богу. А чаму ж Крысці не ўзяў?

— Пасаромелася без гасцінцаў ехаць. Узяў Пецьку.

— Братка ты мой, любы ты мой, навошта тыя гасцінцы? Ні босыя, ні абшарпаныя, дзякаваць богу, не ходзім. Сама хоць бы прыехала ды праведала братавую з дзецьмі, і то мне шчасце.

— І я казаў гэта. Не захацела. Ведаеш жа, якая яна...

— Ну чаго ж мы тут стаім? Соня, хопіць выбіраць. Заўтра кончым,— гукнула дачцы, а Андрэю сказала: — Хадзем, братка, на по-

плаў, паможаш занесці агуркі. Якраз у пару прыехаў: возьмеш і сабе трохі. Лішняя капейка астанецца ў кішэні.

Соня сарамяжліва павіталася з дзядзькам. Андрэй не прамінуў пахваліць яе за стараннасць.

— Яны ў мяне абедзве малайчыны. Што ні скажу — усё зробяць. Бачыў, напэўна, якія кветкі ў агародчыку? Гэта ж яе дагляд. У якім класе? У шосты перайшла, а гэта,— паказала на Гэльку,— у чацвёрты. Коля за восем здаў экзамін... Хоча ісці на трактарыста вучыцца, а я кажу, каб дзесяць канчаў.

Андрэй слухаў і паглядаў на агуркі. На поплаве, каля градаў, стаяў поўны мяшок іх, а побач ляжалі проста на мураве. Свежыя, зялёныя, адзін у адзін, яны радавалі вока. Андрэй падняў адзін, абцёр востранькія пупышкі, адкусіў і пахваліў — салодкія.

Наста з Соняй памаглі Андрэю закінуць за плечы мяшок з агуркамі, сабралі астатнія ў кош, у фартух, а Гэлька палажыла некалькі большых на сагнутую ў локці руку, і цугам пайшлі разораю дахаты. Падыходзілі ўжо да вуліцы, як пачуўся працяжны аўтамабільны гудок.

«Ото, неслух, колькі разоў казаў не залазіць у кабіну без мяне і не чапаць там нічога. Трэба будзе замыкаць і дзверцы... Натварыць бяды нядоўга»,— прыбавіў крок Андрэй.

У кабіне быў зусім не Пеця, а адзін з хлапчукоў. Як толькі Андрэй пайшоў з двара, яны мігам апынуліся каля «масквіча». Знаёмства ў дзяцей адбываецца вельмі проста і хутка. Спыталі, як зваць незнаёмага равесніка, у якім класе вучыцца, ці ўмее ён ездзіць, і па-сур'ёзнаму сталі аглядаць машыну.

— Каб у нас была свая машына, я даўно навучыўся б ездзіць. Мне тата часта дае патрымацца за руль на самазвале. Адзін раз на полі праехаў за рулём, вунь як да той бярэзіны,— паказаў адзін з хлапчукоў на дрэва, што стаяла за некалькі хат ад Насцінай.— А гудок басавіты ці тонкі? — не пераставаў ён цікавіцца і тут жа, не дачакаўшыся Пецевага адказу, адчыніў дзверцы і сеў за руль. Ён ашчарэпіў абедзвюма рукамі баранку, прыўзняўся трошкі з сядзення і завурчэў, як матор, а потым націснуў на гукавы сігнал. Прарэзлівы гудок і пачуў Андрэй.

Хлапчукі заўважылі, як з агарода на вуліцу выйшаў гаспадар машыны, і драпанулі за хлевушок, адтуль на суседні двор.

Андрэй, паставіўшы мяшок з агуркамі на ганку, пагразіў сыну:

— Каму я казаў не чапаць машыны? Не будзеш слухацца, другі раз не прасіся ехаць, не вазьму. Так і знай.

Збянтэжаны Пеця развёў толькі рукамі: не ён жа вінаваты.

Наста і дзяўчынкі занеслі свае агуркі ў сенцы і выйшлі паглядзець на машыну.

— Нейкая ж харошая надта. «Запарожац», ці як яна называецца? — правяла рукой па гладкай паверхні Наста.

Пеця пакрыўдзіўся:

— Што вы, цётка, гэта ж «Масквіч-412». Няўжо вы не разбіраецеся ў машынах? Школьнікі першага класа і то ведаюць.

— Можа і ведаюць. Цяпер яны з малых гадоў вучаныя ўжо. А ты ведаеш, што за машына «Даўгава»?

Пляменнік пацiснуў плячыма: ён першы раз чуе такую назву машыны.

— Ну вот бачыш, і ты не ўсё ведаеш, выходзіць. А цётка твая каторы ўжо год дваццаць пяць кароў выдойвае ёю. Ручаёк малака да Мінска дабегчы мог бы ад нашага Кнотава, што я надаіла ёю.



Андрэй падміргнуў сыну:

— Бачыш, Пеця, якая ў цябе цётка. Голымі рукамі не бяры — паколешся.

— Ты ўжо, братка, хоць не смейся з сястры...

— І не думаю, Настачка... І ты навучылася кіраваць той машынай?

— А ці ж твая сястра, браток, такая безгаловая? Вучыліся людзі, вучылася і я. У нашай рабоце інакшай нельга. Гэта ж не дома адну карову падаіць, а ў нас іх больш за дзвесце. Дзе тых даярак набрацца, калі не карыстацца машынамі?

— Ты малайчына, Наста, і дома ўсё да толку, і на рабоце спраўляешся.

— Не хвалі надта, братка. Дзеці шмат у чым памагаюць. Хадзем лепш у хату, перакусіце з дарогі... А машына, братка, харошая ў цябе. Карыстайся здаровы ды сястру часцей наведвай.

Андрэй падзякаваў за добрае слова, замкнуў дзверцы і пайшоў у хату. Першае, што кінулася яму ў вочы, як адчыніў знаёмыя дзверы ў пакой,— перагародка, аклееная шпалерамі. Вялікі пакой, у якім прайшло яго дзяцінства, быў падзелены на зал і спальню. «Кватэра з двух пакояў»,— падумаў і пахваліў сястру, што добра зрабіла. Вялікую печ, што займала калісьці амаль чвэрць хаты, замяніў стаяк, а за ім выходзіла тыльнай сцяной невялічкая кухонная печ. Заміж прыпечка была двухканфорная пліта. «Газу толькі няма»,— зазначыў сам сабе Андрэй. У спальні стаялі два нікеляваныя ложкі, засланыя квяцістымі капамі, на іх — падушкі з маленькімі ясікамі наверсе. «Жаночая палавіна,— усміхнуўся Андрэй,— дзяўчынкі разам, відаць, спяць, а можа маці з меншай». У зальчыку каля перагародкі стаяла трохі пашарпаная канапа — Колеў ложак. Пасцель яго на дзень выносілі ў спальню. На покуце стаяў тэлевізар «Рэкорд». Кут каля дзвярэй займала пастаўленая наўскасяк люстраная шафа на тры створкі.

— Ну што ж, добра абсталявала хату, сястрыца. Многім гарадскім кватэрам не ўступіць,— зайшоў Андрэй на кухню, дзе Наста рыхтавала пачастунак. На адной канфорцы смажылася маладая бульба, на другой — стаяў чайнік. Соня наразала пачышчаныя пад смятану агуркі, а Гэля з Пецем насілі на стол талеркі, відэльцы.

— Стараюся, братка, не адставаць ад людзей. Канапу і шафу ў магазіне ўзяла. На шафу прэмію пусціла, што далі за вялікі надой малака, а тэлевізар Казіміравы па дзяшоўцы ўступілі. Сабе яны прывезлі з Мінска з вялікім прасветам.

— Ой, мама, як ты гаворыш? Трэба казаць — экранам,— паправіла Соня, але Наста паўтараць за дачкою не стала.

— Добра зрабіла, што адгарадзіла пакой на спальню. Хата лепш глядзіцца, а то як стадола якая была. Не ўмелі бацькі нашы жыць...

— Гэта ж як пабыла ў цябе ды ўбачыла твае два пакоі, дык і сама́ю падшыхнула хэнць мець такую кватэру. Выпрасіла ў старшыні дошчак, а Казімір адбіў.

— Як ён жыве цяпер?

— Маўчы, умазаўся твой даўнейшы дружок у бруд па самыя вушы. Гарэлка ўсё тая губіць. А мог бы жыць лепш за ўсіх. Капейку свежую заўсёды можа мець, акрамя таго, што ў калгасе добра зарабляе... Што ён — пераверадзіўся, адбіваючы ў нас перагародку? Два вечары пастукаў, паляпаў — пятнаццаць рублёў узяў. І то, кажа, як для цябе, Наста, што некалі з вашым Андрэем сябраваў. Цесляры, сталяры, печнікі цяпер, братка,— самыя паважаныя людзі ў калгасе. З маладых не вельмі хто кідаецца вучыцца такой рабоце...

— Ну і што ж зрабіў Казімір? Пабіўся з некім?

— Каб пабіўся, то не такі хоць сорам быў бы перад людзьмі... Мяшок жыта з камбайнерам насыпалі ды схавалі пад капою саломы. Збіраліся вечарам на гарэлку, відаць, абмяняць недзе. А нехта ўбачыў і падказаў старшыні, той і накрыў іх. Міліцыя прыязджала, пратакол склалі. Судзіць будуць пасля ўборкі. Ён, кажуць, прасіў ужо старшыню, каб даравў. Абяцаў вокны і дзверы ў клубе адрамантаваць задарма, але Мялешка і гаварыць не даецца. Старшыня ў нас цяпер новы, строгі. Прывучае ўсё не запускаць рукі ў калгаснае дабро.

— Так і трэба. Некалі нам тата казаў: не бяры чужога і не бойся нікога.

— Ото та ж... Летась з буракамі злавіў Паўліху і вечарам адразу — на таварыскі суд. Людзей у клуб набілася поўна. Можа з гадзіну пратрымаў яе на сцэне, а сам усё гаварыў. Паўліха то бялела, то чырванела ў твары, а ён, як пракурор той, даказваў, да чаго могуць прывесці чалавека гэтыя буракі. Праўда, ні штрафу, ні адсідкі Паўлісе не далі, а сораму кабета набралася на ўвесь век. Казала пасля нам на ўборцы, што гатова была за тыя буракі ўсё са свайго агароду аддаць, абы дазволілі са сцэны сысці...

Наста расказвала калгасныя навіны, а на скаварадзе сквірчэла падрумяненая на масле бульба. Прыемны пах казытаў у носе. Наста сказала дачцы палезці на гарышча і ўзяць з кошыка з вечкам кілбасу, а ў кубельцы — сала. Дзяўчынка ўмомант прынесла ўсё і нарэзала скрылікамі.

— Ну, госцейкі, усё гатова, проша да стала. І вы, дзяўчаткі, сядайце. Разам паабедаем,— сказала Наста.

На стале перад кожным стаяла талерачка, ляжаў відэлец. Наста вынесла з спальні бутэльку наліўкі.

— Можа чарачку вып'еш, братка?

Андрэй пакруціў галавою.

— Ні грама. Я ж за рулём.

— Дык хіба ты сягоння паедзеш?

— Сягоння. На мяне не зважай, выпі чарку.

— Якое гэта піццё адной? Вынесу, каб і не спакушала.

Ідучы з спальні да стала, ласкава дакарала:

— Што ж ты, братка: так доўга не быў і на такі кароткі час заявіўся? Пабудзь, пераначуй, а раніцай паедзеш. У цябе ж два выхадныя. Пайшлі б з сынам на поле, паглядзелі, як што ўрадзіла ў калгасе. Цяпер не тое, што было пры табе. Угнаенні такія даюць, што жыта ў твой рост парасло. Некалі за могілкамі толькі грэчку сеялі на тых пясках, а цяпер каб ты паглядзеў, якая бульба расце. Да зямлі прыхінуліся людзі, і яна ласкавейшая стала да іх. Праўда, і людзі намнога паразумнелі...

— Мы трохі бачылі ўжо, едучы сюды, а назад паедзем другою дарогаю і яшчэ пабачым.

— Глядзі, братка, табе відней. Рабі як знаеш. Тады сілкуйцеся лепш, каб у дарозе есці не захацелася.

Андрэй і так, без просьбы, у ахвоту закусваў сам і падахвочваў сына:

— Еш, Пеця, еш. Кілбасу бяры. Цётчыны кілбасы смачныя. Усё ў меру: і соль, і прыправы, і падсушаны як след. Такія некалі твая бабуля рабіла. Ні ў кога ў вёсцы не было смачнейшых.

— Адкуль ты, братка, ведаеш, якія ў каго кілбасы былі? — усміхнулася Наста.



— Ведаю. Каго частавала мама, усе хвалілі... Табе, сястрыца, дасталася ў спадчыну не толькі хата, але разам з ёю — маміна дабрата з яе ўмельствам. Ты і з твару на маму падобная... Еш, Пеця, еш, пакуль даедзем дадому — пратрасешся.

— Жывеш на гаспадарцы, дык трэба ўсё ўмець рабіць. Ад мамы шмат чаго навучылася. Гэта праўда. І дачок цяпер прывучаю да ўсякай работы. Памятаеш — некалі мама казала: «Дай божа ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць...»

— Рана, небаракі, пайшлі ад нас, рана. Каб жывыя былі, дык і ў Мінск мог бы цяпер звазіць на машыне...

— Не суджана было ім дачакацца такога шчасця, братка... Сілкуйцеся, сілкуйцеся, зараз чай прынясу. Бяры, Пеця, яечню,— і, не дачакаўшыся, пакуль возьме, паднялася і паклала яму на талерачку.

— Ты сама еш ды дзяцей падахвочвай. Пеця сябе ў крыўду не дасць, у бацьку ўдаўся.

— Не зважай на нас, братка, мы дома. Калі каторая прагаладаецца — сама паесці знойдзе. Нічога не замыкаецца, нічога не запіраецца... А можа ты, братка, усё ж астанешся пераначаваць? Я чаму прашу — хачу, каб ты пагаварыў з Колем. Як мужчына з мужчынам. Ён цяпер пры камбайне ў другой брыгадзе. Увечары прыедзе. Хоча з восені кінуць школу ды ісці вучыцца на трактарыста. Няхай бы, як людскія дзеці, кончыў яшчэ дзявяты і дзесяты, а там — як хацеў бы... Можна было б і вышэй падацца ў навуку. Ці ж ён менш здатны за сваіх суседзяў: Лявонаву Ларысу ці Максімавага Толю? Вучацца ж тыя: адно ў Мінску, другое ў Брэсце. Дырэктар і сам раіў і мне казаў угаворваць, каб не кідаў школы. А ён — ні прыступу. Хоча стаць механізатарам і памагаць ужо мне гадаваць іх,— кіўнула на дачок.— Цяпер механізатары добра ў нас жывуць, хоць і ўсе не скардзяцца... А нашто мне, братка, яго тая дапамога? Унь Соня на праполцы буракоў сама ўжо дваццаць рублёў зарабіла. На кніжкі ды на сукенку якую прыдбала. І Коля ўсё жніво — дзень у дзень — працуе. Таксама добра атрымае. Цяпер, братка, і ў нас, хто не гультуе ды не прапівае, жывуць у дастатку.

— Пра Колю сам не ведаю, што параіць, сястрыца. Ці трэба адгаворваць хлопца? Пацягне на вучэнне — зможа вячэрнюю кончыць. А то пазней, як пасталее, сам схамянецца і кінецца даганяць упушчанае.

Да чаю Наста падала сыр, масла і сушкі — Андрэеў гасцінец. Паставіла сунічнае варэнне.

— На большае, братка, і ты, пляменнічак, выбачайце,— нібы адчуваючы віну перад гасцьмі, прасіла Наста.— Каб ведала, што прыедзеце, можна было спячы пірог. Ці каб асталіся начаваць, то штонебудзь лепшае можа прыдумала б.

— Ну што ты, сястрыца, перажываеш? За скрылік сыру, што пакаштуеш у цябе, і то варта прыехаць. Нідзе такога смачнага не еў. Палажы кавалачак Крысці, няхай і яна паспытае.

— А можа ёй падсушаны возьмеш? Свежага ў мяне больш няма, а пачаты пасылаць брыдка.

— Загарні, яна не пакрыўдзіцца. І падсушаны палажы. Кароўка, відаць, у цябе добрая на малако?

— Не крыўдую. Літраў дзесяць дае. А пасля ацёлу да пятнаццаці.

— А памятаеш, колькі ў нашых бацькоў давала?

— Цяпер такіх, братка, не трымае ніхто. У каго былі яшчэ, летась



увосень калгас замяніў на пародзістых, а нашы забраў на нарыхтоўкі.

Гаворка чаплялася адна за адну, як у тым ланцужку колца за колца. Ужо некалькі разоў Наста паглядала на ходзікі. Нарэшце Андрэй заўважыў сестрыну нецярплівасць і сказаў сыну канчаць есці, бо цётцы трэба ісці на работу.

Наста загарнула ў газету сыры. Брат падзякаваў і папрасіў, ці нельга ўзяць пару скрылікаў кілбасы Крысці. Сястра зірнула на талерку, дзе сапраўды ляжалі тры скрылікі, і сумелася. Ну хто гэта дзе пасылаў братавай столькі кілбасы? Хіба на смех людзям і сорам сабе. І яна сказала дачцы прынесці з гарышча цэлае колца.

— Мама, там усяго дзве кілбаскі асталося,— нясмела напомніла Соня.

— Ну вот і падзелімся з дзядзькам: нам адна, а цётцы Крысці — другая.

У сенцах Андрэй адсыпаў трохі з мяшка агуркоў сястры на засолку, астатнія занёс у багажнік.

— Мяшок я прывязу, Настачка. Будзе прычына прыехаць.

— Можаш зусім не прывозіць, братка. У нас цяпер магазін прадае іх. А самі без прычын прыязджайце. Цяпер у цябе такі конь, што як слова сказаць прымчыцца сюды і назад адымчыць. Некалі тата на кані за два дні ледзь асільваў такую дарогу.

— А цяпер — дзве гадзіны. Тэхніка не тая пайшла, сястрыца... Хацелася б і бульбы трохі прывезці, каб не ісці заўтра Крысці на рынак, але што падумаеш ты пра брата? Смачнейшай бульбы, як з нашага Кнотава, я не еў у Мінску.

Маці глянула на Соню, і тая вынесла ў вядзерцы на дне. Андрэй зірнуў і спахмурнеў. Наста заўважыла братаву скруху і пачала вінавата апраўдвацца:

— Ты не сказаў раней, а самі мы не здагадаліся, можна было яшчэ накапаць... Нічога, другім разам больш набярэш.

— Я і купіць магу мяшок які на зіму. Прадае, відаць, увосень хто-небудзь з кнотаўцаў?

— А божачка мой, ёсць пра што гаварыць. Будзе яшчэ ў людзей бульбу купляць, сястру сараманіць. Возьмеш у мяне, колькі трэба: мяшок, два, тры — хто з гэтым будзе лічыцца? А сягоння я спяшаюся на ферму. Паедзем. Ты ж хацеў падвезці мяне.

Ёй не так хацелася пад'ехаць на машыне, як паказаць людзям, кім стаў Андрэй, яе брат. Цяпер ён, калі Наста захоча, у любы час можа прыехаць узяць яе сям'ю, звазіць у горад і прывезці назад.

— Зараз мы вас пракоцім з ветрыкам! — выціраючы шкло ад пылу, падахвочваў Андрэй.— Толькі няхай букецік гладыёлусаў






дзяўчаткі возьмуць. Каб людзі бачылі, што з кветкамі нас праводзіце.

Соня хуценька схадзіла па нажніцы. Шкода ёй было зразаць стройных прыгажуноў, ды адмовіць госцю нельга. Цвілі яны хораша, дружна. Шмат у каго былі кветнікі ў вёсцы, але такога, як у Соні, ніхто не меў. І ганарылася дзяўчынка найбольш чорным, як аксаміт, гладыёлусам. Многія спыняліся і любаваліся такім хараством. Сяброўкі зайздросцілі, прасілі на той год удружыць ім на развод. Дзяўчынка зрэзала па адным: белага, ружовага, крэмавага, фіялетавага і чырвонага колераў і падала дзядзьку.

Андрэй пацалаваў пляменніцу і зрабіў заўвагу, што ў букеце не хапае яшчэ аднаго колеру.

— Ой, дзядзька, у мяне чорны толькі адзін расцвіў,— скрывілася дзяўчынка.

— Праз тры-чатыры дні яшчэ расцвітуць. Бачыла, колькі атожылкаў ідзе з куста? Не шкадуй для цёткі, яна вельмі любіць іх.

— Пайдзі зрэж, дачушка. Дзядзька добра кажа, не шкадуй. Да той нядзелі ў цябе зноў распусцяцца.

Дзяўчынка не кранулася з месца. Наста ўзяла ў яе нажніцы і пайшла сама ў агародчык, а Соня — у хату.

— Ну во, цяпер букет што называецца. Мама зацалуе нас з табой, Пеця. Добра было б абгарнуць карэньчыкі мокрай фанцінай,— дастаў ён з кішэні насовачку.

— Занясі, Гэля, нажніцы ў хату, намачы дзядзькаву хустачку і скажы Соні, каб ішла пракатацца на машыне.

Дзяўчынка вярнулася толькі з мокрай хустачкай, а пра сястру сказала:

— Яна не хоча ехаць. Чытае кнігу.

— Загневалася на дзядзьку?

— А не зважай, братка. Дзіця. Пагневаецца ды перастане. Паехалі, а то я спазнюся.

Пеця сеў на сваё месца, каля бацькі, але Андрэй сказаў яму і Гэльцы садзіцца на задняе сядзенне, а сястры — спераду. Аддаў ёй букет, каб усе бачылі, што Наста праводзіць іх не абы-як.

— Зайдзіце гляньце на маю работу,— запрасіла Наста брата і пляменніка, як толькі машына спынілася каля кароўніка.

Андрэй з сынам упершыню бачылі, як машынамі дояць кароў. Хлопчык аж цмокаў ад здзіўлення:

— Во здорава як!

Назад вяртацца праз Кнотава Андрэй не захацеў. Ён павольна паехаў у аб'езд праз другую брыгаду. Гэта падоўжыла трохі дарогу, але чаго не зробіш для роднай сястры, ды яшчэ на сваёй машыне...

## ● Іван КАЛЕСНІК





●

А я сыноў не дакараю,
Што ім не выпала прайсці
Па вогненным і мінным краі,
Іржавай багне і трысці.

Я ведаю,
што ў жылах іхніх,
Як і ў бацькоў —
такая ж кроў.
Таму ніколі не аціхне
У сэрцах нораў змагароў.

Не ўзяць і іх
рукою голай —
Я ведаю сваіх сыноў.
Пакорліва не схіляць голаў
Перад чужынцам
і мной...

●

Такое квецені ніколі
У садзе нашым не было.
Не кроны яблынь прада мною,
А воблакі бялюткія плывуць.
Я вёску раніцою пакідаў,
З-за гаю сонца выплывала.
Яно барвяным бляскам абдало
І луг, і поле, і сады.
У небе сінім жаўранкі трымцелі,
Азерцы ўсміхаліся здаля.
Такой красы, спакою, раўнавагі,
Здавалася, не будзе больш нідзе.



Мінуў я поле. Сцежка перабегла
Адразу ў пералесак-маладняк.
Кляны, бярозы і асіны
Адзелі ўжо гарнітур трапяткі.
Ні ветрыка, ні гуку — цішыня,
І толькі дух зялёнае лістоты
Пяшчотна мне дыханне казытаў.
Ішоў далей паціху. Нечакана
На цуд дзівоснейшы натрапіў:
З акопа, што асыпаўся даўно,
Бела-ружовыя суквецці ззялі.
Яны спынілі зрок і ўразілі мяне.
І цесна, і няўтульна гэтай дзічцы —
Яна на месцы смерці прарасла...

●

Кажуць,
Хто дрэўца адно пасадзіў,—
Не змарнаваў ён жыццё.

Кажуць,
Хто ўзгадаваў чалавека,—
Не дарэмна на свеце жыў.

Кажуць,
Хто адшукаў крыніцу,—
Не лішнім быў на зямлі.

Дзічкі,
Што вынес калісьці з лесу,—
Садам гамоняць.

Клопат,
Які я аддаў сынам,—
Радуе добрых людзей.

Ручай
Вынікае з крыніцы.
Я ў працы яе шукаю.



Алесь ДЗЯТЛАЎ

Мал. В. САКАЛОВА



# ПОЕЗД ІШОЎ ПРАЗ НОЧ

АПАВЯДАННЕ



Вагон ляцеў у белую, віхурную каламуць. Там, за акном, густая мітуслівая цемень, там усё вірыць, круціцца, і аднекуль з цемені несупынна нясе і нясе цяжкі снегавы вал.

А поезд ідзе і ідзе; глуха дзесь пад вагонам пастукваюць колы, вагон лёгка гайдае.

Сяргею не сядзелася. Ён узняўся, прайшоўся па купэ, зноў сеў. Нешта вярэдзіла душу, яму як бы не хапала паветра. Такое бывае, калі трапляеш у цесны і душны пакой без вокан і ведаеш, што выйсця адсюль няма. На верхняй лаўцы чытае кнігу малады хлопец. Яго дробны, як у дзядка, тварык густа ссыпаны рабаціннем і выдае, што гэта наліплі макавыя зярняткі. Ён спакойны, нат марудны. Гартае кніжку, шастае старонкамі, і нібы нічога няма на белым свеце, апрача яго. Толькі час ад часу ён павядзе сваім тонкім даўгаватым носікам, як чым нездаволены, ды зноў утаропіцца ў кніжку.

А поезд ляціць і ляціць у густую шалёную ноч...

«Не, мне трэба цяпер жа, у гэтую мінуту, выйсці ў калідор. Я не магу больш, я не ведаю, што са мною. Мне дрэнна, гэта адзінае, што мне вядома. Яно пройдзе, але калі? І што мне рабіць?»

Сяргей неяк паспешліва адпіхнуў дзверы, з глухім ляскатам яны адышлі ўбок. У вузкім і доўгім калідоры было ціха. Толькі ў далёкім канцы паціху размаўляла маладая пара, ды ў суседнім купэ, дзверы ў якое былі трохі адчынены, нешта бубніў густы бас. Сяргей прыхінуўся да халаднаватага акна; аднекуль біў халодны тоненькі струменьчык. На нейкім снежным паўстанку поезд прыпыніў на якую хвіліну свой бег, потым зноў наперадзе завухкаў паравоз, пачаў набіраць разгон. Марудна праплыў назад жоўты ліхтар, знік у цемнаце тоўсты камель дрэва — і зноў часта грукочуць колы.

«Трэба штосьці рабіць. Я не магу далей ехаць, не магу. Нешта трымае мяне, вярэдзіць душу, нібы я вінаваты прад кім. А ў чым, у чым мая віна? Здавалася, усё было зразумела і... проста. І гэтыя апошнія дзесяць дзён выбілі мяне з прывычнай каляіны. Хто я цяпер? Хто?»

Сяргей уздыхнуў, выцягнуў цыгарэту, прыкурыў. Яму трэба чымсьці заняць рукі, штосьці рабіць, бо яму боязна заставацца сам-насам з думкамі. Ён цяпер ведаў, што было б лепш, каб ён нікуды не ехаў, каб заставаўся там, у сваёй Хатылянцы, дзе школа, настаўнікі, вучні, усё блізкае і знаёмае. Ён ухапіўся за гэтую тоненькую і, як яму здалося, надзейную нітачку, якая дапаможа яму пра ўсё забыцца, улагодзіць думкі, стаць тым, ранейшым. «Не, не,— запярэчыў нейкі нутраны голас.— Тое нельга забыць, ён не зможа... Трэба рашаць вось тут. Там, дома, будзе позна...» Гэтая думка ўразіла яго больш, чым усё, што было да гэтага часу. «Як проста ўсё, да жахлівасці проста і — бязмерна складана!» — падумаў ён.

Згарэла цыгарэта, ён кінуў недакурак і запаліў другую.

Дзесяць дзён назад Сяргея Шчэрбіча выклікалі ў аблана і ўключылі ў камісію па праверцы сярэдняй школы ў суседнім раёне. Ён згадзіўся, бо работа гэта была яму знаёмая, дый захацелася хоць на тыдзень ад'ехаца куды-небудзь. Сяргей ехаў у раён, і нешта трывожыла яго. Ён нібы адчуваў, што павінна штосьці здарыцца. Так бывае з чалавекам, які сасніў нейкі сон, а раніцай ніяк не можа ўцяміць, што ён такое бачыў.

У райана ён даведаўся, што прозвішча дырэктара школы, куды едзе камісія,— Прышчэпка. Нешта кальнула ў сярэдзіне: «Няўжо Трахім, з якім пачынаў настаўнічаць? Няўжо? І што, што сталася з Трахімам? Такія абвінавачванні: прымяняе адміністрацыйныя метады, акружыў сябе падхалімамі, грубы... Ах, Трахім, Трахім... Я не хацеў бы цяпер з ім сустракацца. А мо не, мо наадварот — трэба?»

Сяргея мучылі сумненні. Прайшло толькі пяць гадоў, як яны атрымалі дыпломы. Яны сустрэліся ў райана. Прыехалі сюды па накіраванні. Так здарылася, што і адначасова зайшлі да загадчыка райана ў кабінет.

— Фізік, гісторык,— прачытаў услых дыпломы загадчык.— Віншую, таварышы! Вельмі, вельмі чакалі вас.— І адразу: — Хочаце ў Навасёлкі, у сярэднюю школу? Возера, лес, але далёка ад райцэнтра. Цяжкасцяў — во, а ўсё астатняе пабачыце самі. Згодны?

Сяргей глянуў на Трахіма. Той пазіраў кудысьці праз акно. Разгубленая ўхмылачка гуляла на яго вострым, хітраватым твары. Яму карцела штосьці сказаць, ён нат парываўся ўстаць, але не адважваўся.

— Я згодзен,— сказаў Сяргей.

Трахім маўчаў. Нарэшце, як бы перасіліўшы сябе, ціха папытаў:

— Магчыма, у вас ёсць што іншае? Ну, бліжэй да райцэнтра?

— Гісторыкі, дарэчы, у райцэнтры не патрэбныя. А месцы ёсць, шчэ далей...— хмурна адказаў загадчык райана.

Трахім марудзіў. Відаць, яму не хацелася ехаць у тыя Навасёлкі.



Ён пачырванеў так, што знікла нават рабацінне, якое густа ўсеяла твар і шыю.

— Пішыце,— нарэшце выціснуў ён.— Але вельмі прашу — калі будзе якое месца, перавядзіце бліжэй. Здароўе ў мяне...

— Ну што, радуйся. З гэтага часу ты яго вялікасць педагог! — пажартаваў Сяргей, калі яны выйшлі на вуліцу.— Ты нясеш святло, і радасць, і шчасце ў тыя Навасёлкі.

Трахім нічога не адказаў. А па дарозе ў школу ў аўтобусе прызнаўся:

— Буду паступаць у аспірантуру. Я, мусіць, створаны ўсё ж не для гэтай чорнай работы. Хочацца нечага большага.

Сяргею не хацелася з ім спрачацца. Можа быць, гэта ўсё наноснае, настрой мінуты. Чалавек знаходзіцца на крутым павароце, сум па доме, невядомасць уперадзе.

...Сяргей адарваўся ад дум, глянуў у акно. Поезд нёсся скрозь ноч. У мутным снегавым месіве хоць бы дзе агеньчык. У канцы калідора нікога не было, не бубнеў і той таўсматы бас у купэ — вагон



спаў. Некуды прайшла ўжо немаладая праваднiца ў берэціку і чорным форменным кіцелі, пільна глянула на адзінокага пасажыра, што нудзіўся ля акна...

Навасёлкі сапраўды былі зусім новай вёскай: за які год звезлі хутары ў адно месца, узвялі школу, ды не абы-якую, а мураванку пад бляшаным дахам. Побач праўленне калгаса, а далей заклалі падмурак новай камяніцы — клуба. І вёска штодзень большала: на тым канцы, ад возера, гакалі тапары — калгасныя цесляры стаўлялі для хутаран новыя пяцісценкі. Пройдзе шчэ які год, і вёска заверне ажно за той лапік лесу, што за паўкіламетра ўпіраўся ў самую дарогу.

Работа адразу захапіла абодвух. Трахім, здаецца, забыўся, што ехаў сюды нехаця, куды падзеўся яго скепсіс. Жылі яны ў школе, у невялікім пакоі пры інтэрнаце. Трахім загарэўся арганізаваць школьны музей, сякія-такія экспанаты ўжо адшукаў. А вясною ўсё паглядваў на невялікі курганок па-над возерам. Улетку раскалупаў той грудок, вёска ўся хадзіла дзівіцца. Ды нічога там не знайшлі, толькі нейкі цагляны падмурак.

Усярэдзіне чвэрці, ужо на другім годзе работы, Трахім нечакана падаў заяву аб пераводзе ў раённы цэнтр. Навіна гэта здзівіла Сяргея. Яны тады пагаварылі сур'ёзна.

— Разумееш, іду ў вячэрнюю школу. Праўда, пакуль на паўстаўкі. Але затое — у горадзе. Мне пашанцавала: нечакана звольніўся гісторык,— даводзіў Трахім.

— Ты ж добры гісторык. Раскапаў той грудок. Там нічога не знайшлі, затое якая радасць дзецям. Яны ж можа ўпершыню адчулі сябе даследчыкамі, археолагамі, следапытамі. А музей? Гэта ж тваё дзецішча. А там, у горадзе? Што там? — горача даказваў Сяргей.

— Галоўнае, зачапіцца, а там будзе відаць,— холадна разважаў Трахім.— Ды і ў аспірантуру будзе больш часу рыхтавацца... А потым пажартаваў: рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек — дзе рыба.

Праз колькі месяцаў Сяргей атрымаў ліст ад Трахіма:

«Прабач, дружа, я сапраўды эгаістычны, нізкі чалавек. Я ўцёк, пакінуў школу, дзяцей, сваю гісторыю. Але, ведаеш, я зрабіў гэта дзеля высокай мэты: я хачу вучыцца. Ты можаш мяне ненавідзець, але няхай у тваёй душы застанецца хоць адзін куточак, дзе будзе месца для чалавека, з якім ты пачынаў работу. І тады, можа, ты зразумееш гэты мой учынак і не будзеш так строга судзіць мяне».

Потым іх дарогі разышліся: Сяргея перавялі ў суседні раён, некуды паехаў і Трахім....

На нейкай глухой станцыі ў вагон зайшла сям'я: ён — мажны, здаровы, нібы наліты, і яна — маленькая чарнявая жанчына. Ён шумна нёс два вялікія чамаданы, спыняўся ля кожнага купэ, ставіў чамаданы на падлогу і адсоўваў дзверы — шукаў свабодныя месцы. Яны нарэшце знайшлі купэ, з шумам пачалі ладкавацца...

Сяргею ізноў успомнілася нядаўняе...

Школа, дзе дырэктарстваваў Трахім, была ў невялікім пасёлку. Асфальтаваная магістраль рассякала селішча на дзве роўныя часткі, яна была і адзінай вуліцай. Ад яе ў розныя бакі адыходзіла некалькі кароценькіх, як куксы, завулачкаў. У адным з іх стаяў белы двухпавярховы будынак школы. Прасторны школьны двор ушчыльную датыкаўся да маладога бярэзнічку.

Трахім, як угледзеў сярод членаў камісіі Сяргея, спачатку збляднеў, а потым узяў сябе ў рукі, супакоіўся.

— Вось мы і стрэліся,— сказаў вымучана, нібы вінаваціўся.
Крыху памуляўся, дастаў насовачку, чамусьці акуратна выцер далоні і разгублена дабавіў:
— Вось так...
— Разумееш, Трахім, мой прыезд сюды, да цябе,—Сяргей націснуў на слова «цябе»,— чыстая выпадковасць. Мяне ўключылі ў камісію, і толькі ў райана я даведаўся, што ты дырэктар гэтай школы. Ты павінен зразумець мяне.
Чаму Сяргей так падрабязна тлумачыў свой прыезд сюды, ён і сам, пэўна, не мог бы сказаць.
Трахім зноў неяк разгублена ўсміхнуўся:
— Так, так... я разумею... Разумею. Мне цяжка, вельмі цяжка... Я хацеў, каб як лепш, а вось бачыш. Магчыма, я тут вінаваты. Не ведаю, рашайце самі....
Дні праз два Трахім падышоў да Сяргея:
— Ты не забыўся пра наша жыццё ў Навасёлках? Давай стрэнемся, пагаворым. Я думаю, нам ёсць пра што пакалякаць. Прыходзь да мяне — свой домік, ніхто не перашкодзіць.
Сяргей чакаў, што Трахім падыдзе да яго. Ён і баяўся гэтай размовы, і хацеў яе: чым далей ішла праверка, тым ясней станавілася яму: Трахім у многім вінаваты. Але вось чаму ён так рабіў, што яго вяло — невядома.
— Добра, Трахім, прыйду. Сёння ўвечары,— згадзіўся Сяргей.
Акуратны фінскі домік на тры пакоі Трахім паставіў амаль што ля самай школы. Адразу было відаць, што жыў ён не шыкоўна, нат сціпла. Трахім запрасіў Сяргея ў невялікі зальчык. Сяргей прысеў, агледзеўся. Канапа, не вельмі модная, але і не старая, круглы стол на тоўстых, як аглоблі, ножках, якія даўно выйшаў з моды, у кутку — паліца з кнігамі і тэлевізар.
— Вось так жывём, небагата, як можам. Жонка, сын,— стрымана растлумачыў Трахім.
Ён прысеў на канапу побач, змоўк. Потым яны крышку пагаварылі пра надвор'е, шчэ пра тое-сёе, а вось пачаць сур'ёзную размову ніхто не адважваўся.
— Помніш, Трахім, Навасёлкі? Для мяне гэта — цудоўнейшая пара. Ты малады, поўны сіл, і сам, усё сам павінен пачынаць: і жыццё, і работу...
Трахім глянуў на Сяргея, здрыгануўся, нібы датыкнуўся да нечага халоднага. Ён як бы баяўся нечага. Але сказаў спакойна, нат абыякава:
— Мне таксама падабаліся Навасёлкі. Але... але не заўсёды ў жыцці складваецца так, як хочаш...
Апошнія словы Трахім вымавіў з нейкім шкадаваннем, нібы хацеў вярнуцца назад, праз гады, у Навасёлкі, пачаць жыццё спачатку. А мо гэта толькі здалося Сяргею.
— Мне здаецца, Трахім, што ты стаў нейкім ціхім, у цябе з'явілася нейкая задаволенасць, пакорнасць лёсу. Можа тым і вабнае жыццё, што ў ім трэба ўсяго дабівацца самому, перайначваць па-свойму. Гэта цяжка, вельмі цяжка... Але без гэтага няма і жыцця...
— Усё гэта так. Але... Але ў аднаго хапае пораху, а другі, мінуўшы два-тры жыццёвыя павароты, сціхае. Ды калі шчэ жыццё плясне разы тры ў гразюку, то тады запяеш па-іншаму. Я марыў, я хацеў дабіцца нечага большага, але...
— Мы любім, мы нат навучыліся гэтак прыгожанька хавацца за рознымі прычынкамі. Мы гэта ўмеем. Толькі не можам адкрыта і шчыра сказаць: мы вінаваты. Будзем, Трахім, гаварыць шчыра. У цябе ў школе штосьці не так. Я не ведаю, якія вывады зробіць камісія, але... Навошта ты выжыў добрага матэматыка? За што? Ён не так мысліць, як ты хацеў бы. Чакай, чакай, усё пачалося з гэтага. А твой метад кіраўніцтва? Ты — адзін, ты — анёл, а ўсе астатнія...
Трахім закурыў, зацягнуўся, павольна выпусціў дым. Потым сеў, абхапіў галаву рукамі. Ён хацеў запярэчыць, але махнуў рукой і яшчэ ніжэй схіліў галаву. Словы, што кідаў Сяргей, нібы вялізным цяжарам ціснулі на яго.
— Я, здаецца, пачынаю разумець... Мне цяпер цяжка, вельмі цяжка. Патрэбны тыдні, месяцы, а можа, і гады, каб перайначыць сябе, каб пачаць жыць па-інакшаму,— выціснуў Трахім.
Ён скончыў, і зноў павісла глухая цішыня. Абодвум было няёмка; кожны разумеў адзін другога і кожнаму не хацелася цягнуць гэтую гаворку. Сяргей атрос попел з цыгарэты, пільна глянуў на Трахіма. Яму стала на нейкае імгненне шкада яго. «Мо сапраўды пайсці, пакінуць яго аднаго, няхай сам разбіраецца ў сваім жыцці».
— Ты не так жыў, Трахім. Не так.
Трахім здрыгануўся, узняў галаву.
— З самага пачатку ты ўзяў фальшывую ноту. Ты хацеў прайсці па жыцці, як па асфальтаванай магістралі. Павароцік? Калі ласка — за сто метраў указальнік. Ты баяўся збочыць. Помніш—«рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек — дзе рыба?..»
— Хопіць, хопіць з мяне! — закрычаў Трахім.— Хопіць. І ты з імі, з усімі!..
Ён сціх гэтак раптоўна, як і ўзарваўся. Дрыжачымі пальцамі выцягнуў цыгарэту, прыкурыў і прагна зацягнуўся.
— Прабач мне. Нервы... Я цябе разумею. Ты маеш права так гаварыць са мной. Маё права цяпер адзінае — слухаць. Бо я сам... сам... вінаваты.
— Падумай, Трахім. Сам, толькі сам вінаваты,— ціха сказаў Сяргей...
...Поезд ляцеў у белую каламуць. «Сам,— паўтарыў Сяргей.— Больш ніхто. На гэтым мы тады закончылі размову. Што яна дала Трахіму? Ці зразумеў ён? Я ведаю, як цяжка перайначыць сябе, стаць іншакшым. А я сам? Я зрабіў палову справы, выказаў усё адкрыта, але...»
Сяргей зайшоў у купэ, прысеў. Хлопец на верхняй лаўцы адклаў убок кніжку, пацягнуўся, абыякава сказаў:
— Штосьць спаць не хочацца...
— Не хочацца,— кіўнуў і Сяргей.
Памаўчалі. Той, на верхняй лаўцы, паёрзаў, як бы што муляла яму, зірнуў на гадзіннік.
— Куды едзеце, малады чалавек? — папытаў Сяргей.
— Еду? Рыба шукае дзе глыбей, а чалавек... Хі-хі-хі...
Смяшок скаціўся зверху, дробненькім жвірыстым пясочкам рассыпаўся па купэ.
— Вы сказалі — рыба? Рыба... Ах, рыба... І дзе глыбей...
Сяргей сціснуў лоб усёю пяцярнёю, задумаўся. «Рыба, рыба... Што гэта я раскіс? Не, гэта нейкае ідыёцкае насланнё. Рыба... А-а-а, ды гэта ж тады, у Навасёлках, гэтак казаў Прышчэпка. І гэты з вострым тхарыным тварыкам... Круг замыкаецца. Я, здаецца, толькі цяпер зразумеў цябе, Трахім. Вось гэты, на верхняй лаўцы, дапамог мне... Але ж я спазнаў і сябе: я ведаў, што бываю слабым, але ж не ведаў, калі і ў чым».

І ён раптам зразумеў, што тады, пасля праверкі, зрабіў памылку. Усю дарогу яна не дае яму спакою, гняце, вярэдзіць душу: той акт праверкі, які склала камісія, ён не падпісаў. Выдумаў сваё, асобае меркаванне.

Сяргей амаль зненавідзеў гэтага, з вяснушкамі. Ён нібы ўбачыў вось у гэтым блазнюку таго, маладога Трахіма. А можа каго іншага. Ён не мог прыйсці да чагосьці пэўнага, спыніцца на чымсьці адным. Нейкія абрыўкі думак скакалі, мяшаліся, знікалі і зноў мітуслівa роіліся ў галаве.

«Чысценькі, чыстаплюйчык, судзіш іншых, а сам... сам схаваўся за асобае меркаванне. Абы было цішэй, лепш. А каму? Каму лепш?»

І ён зразумеў, што вось цяпер ён павінен нешта зрабіць, інакш будзе позна. Усё жыццё будзеш вяртацца да гэтага імгнення, і тут, перад ім, спыняцца ў роспачы, і з болем у сэрцы паварочваць назад. Раптоўна нешта цяжкае сцяло глотку, нібы і дыхаць стала цяжэй. Сяргей паспешліва засунуў палец пад тугі вузел гальштука. Узняўся, зрабіў два крокі па вузенькім і цесным купэ, хацеў адсунуць дзверы, але павярнуўся і рыўком таргануў на сябе вагонную фортку. Тра-та-та, тра-та-та,— ірвануўся ў купэ густы і часты гук, яго на нейкае імгненне здуў шалёны снегавы напор, а потым зноў — тра-та-та... Вецер ірваў, шкуматаў белую занавеску, адразу выстудзіў усё купэ. Тра-та-та, тра-та-та...

— Ух, добра-а...

Тра-та-та, тра-та-та...

Той, на верхняй лаўцы, адразу сагнуўся, зморшчыўся, стаў яшчэ драбнейшым. Ён закрыўся абедзвюма рукамі, хацеў нешта сказаць, але новы парыў ветру хістануў на яго белую занавеску, закрыў твар. Тра-та-та... тра-та-та... Вецер ірваў, гудзеў, скавытаў, вагон хістала, несла кудысь у белую калатнечу...

Сяргей выйшаў на першай станцыі, дзе прыпыніўся поезд. Праз гадзіну ён ехаў назад.

**У студзеньскім нумары выступяць паэты**
**Мікола АРОЧКА,**
**Артур ВОЛЬСКІ,**
**Рыгор СЕМАШКЕВІЧ,**
**Іосіф СКУРКО**

**Іосіф ВАСІЛЕЎСКІ**





## *Ля кастра*

Туман дыміцца ад вады,
І захад пабляднеў.
А месяц, коршак малады,
На стог паважна сеў.

Юнацтва верны сябра мой,
Як хутка час прабег!
Ці помніцца, як я з табой
Імчаўся на начлег?

І сябру даўняму ізноў
Я рады памагчы.
Да ранку бульбу з ім гатоў
У прысаку пячы.

Дзяўчат чакаць,
Не звёўшы воч,
Гатоў з табой удвух,
Пакуль з прыполу зоркі ноч
Не высыпле на луг.

Зноў будуць ростані дарог,
Зноў будуць стрэчы ў нас.
І нам з табой дванцаты стог
Вяршыць у добры час.

## *Нарач*

Мы не спяшаліся,
Каб нанач
Патрапіць да сяброў якраз.
Нас закалыхавала Нарач,
Сасновы бераг клікаў нас.

Нібы жывая,
Плынь стаяла,
На дне гулялі акуні.
І зліток сонца доўга таяў
У зеленаватай глыбіні.

Пасля палаў касцёр смалісты,
Дуб кратаў голлямі акно.
Спяшаўся зноўку я на прыстань,
Якая вабіла даўно.

Там я стаяў
І доўга мроіў
Пра запаўсветны шлях вугроў.
Яны праз шторм —
Любой парою —
Плывуць да родных берагоў.

## Ранак

На золку ўехалі ў Крутое,
Насустрач плыў нам сонца круг.
І сцежкай, як да вадапою,
Праменні беглі цераз луг.

Туман збіраў з кустоўя кросны.
І ледзь касцёр зары патух,—
Жалейкаю на выган росны
Паклікаў статак свой пастух.

Жніва камбайны ўжо чакалі
І выйшлі аж на край сяла.
Яны зіхотка фарбай ззялі,
Дзе ніва жытняя плыла.

І сонца глянула з-за бору,
Твар спаласнуўшы у расе.
І дзень над велічным прасторам
Устаў ва ўсёй сваёй красе.

З рускай пераклаў
Іван КАЛЕСНІК.



# ПУБЛІЦЫСТЫКА

- Сцяпан КУХАРАЎ
- Анатоль ДЗІК
- Міхаіл БАРОЎСКІ
- Людміла ЧАРНОВА
- Мікалай НЯКРАСАЎ
- Сяргей ВАРЛАМАЎ
- Сяргей АНІСАЎ
- Юры ТАПАРАШАЎ
- Віталь СІНЕНКА
- Ніна ВАТАЦЫ
- Тамара ТАРАСАВА
- Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ
- Альфрэд МАЙХРОВІЧ
- Мікола ГУЛІЦКІ
- Нэля ПРЫВАЛАВА
- Мікола ЖЫГОЦКІ
- Уладзімір КАЗБЯРУК
- Ілья РЭЗНІК
- Іван ШПАДАРУК
- Ізот ЛІЦІНЕЦКІ
- Змітро БЯСПАЛЫ
- Аляксей СУЭЦІН



# СЛАВЕНСКІЯ ДАЛЯГЛЯДЫ

**ПЯЦЬ ІНТЭРВ'Ю З КАЛГАСА**

● Сцяпан КУХАРАЎ

Мал. Янкі РАМАНОЎСКАГА

Калі пачалася калектывізацыя, у Славенях было аж тры калгасы. Затым яны аб'ядналіся ў адзін, названы імем Кірава. Славенцы перад вайной упэўнена сталі на шлях заможнага і культурнага жыцця.

Як і ўсім вёскам, вайна нанесла Славеням шмат гора і пакут. З франтоў і партызанскіх лясоў не вярнуліся пад родныя стрэхі многія мужчыны і хлопцы. Зямля апусцела і здзічэла. Абжывацца давялося ледзь не на пустцы — ацалелі толькі хаты, і тыя не ўсе.

Славенцам не шанцавала на старшыняў. Адзін за другім мяняліся яны, а зруху да лепшага не адчувалася. Да Славеняў далучыліся вёскі Заполле, Клін, Пронцаўка, Мікіцінічы... Аб'яднанай, узбуйненай гаспадаркай стала кіраваць яшчэ цяжэй, і промахі няўдалага гаспадарання праявіліся неўзабаве больш выразна — гаспадарка марнела, і ў людзей апускаліся рукі.

Запомніўся 1958 год. Напрадвесні па прапанове райкома партыі і райвыканкома на пасаду старшыні калгаса імя Кірава быў рэкамендаваны малады камуніст Васіль Пархоменка. Трэба сказаць, што прынялі тады яго без асаблівага энтузіязму: «Змянілася чатырнаццаць, не доўга пастаршынюе і гэты, пятнаццаты. Ды яшчэ кінамеханік! Яму хіба ў галаву прыйдзе што сур'ёзнае, абы кіно круціць...» Толькі пятнаццаты аказаўся цвёрды на характар. Хутка ўсе, нават злосныя скептыкі, пераканаліся, што новы мае і гаспадарчую кемлівасць, і волю кіраўніка. Першае, за што ён узяўся, — гэта дысцыпліна. Яго апорай выступілі камуністы і камсамольцы, стаўшы на самыя адказныя ўчасткі гаспадаркі.

За якія два-тры гады Славені акрыялі. Калгас пераадолеў хранічнае адставанне. Тая ж зямля, а радзіць пачала ўдвая. Тыя ж людзі, а працаваць сталі — люба паглядзець.

Прайшоўшая восьмая пяцігодка з'явілася стартавай пляцоўкай для далейшага магутнага ўздыму — за пяць гадоў былі закладзены асновы комплекснага развіцця ўсіх галін сельскагаспадарчай вытворчасці, пераходу на спецыялізацыю гаспадаркі — мяса-малочную жывёлагадоўлю.

Абнаўляюцца, маладзеюць старыя Славені. На месцы даўніх замшэлых хацін будуюцца светлыя, прасторныя дамы — пад шыферам, на падмурках. У гонар 50-годдзя Савецкай улады пачалася забудова новага сельскага цэнтра — у пасёлку Юбілейным пяцьдзесят дамоў. Гэта сучасны пасёлак, дзе да паслуг жыхароў усе гарадскія выгоды. Пасёлак увойдзе ў ансамбль забудовы новага вясковага цэнтра, які вызначан генеральным праектам рэканструкцыі вёскі.

Такое, вядома, дасягнута стараннай і дружнай працай калектыву.

Мы сустракаліся з людзьмі рознага ўзросту, з камуністамі і камсамольцамі. «Я — пяцігодцы, пяцігодка — мне», — так можна сфармуляваць коратка тое, пра што ішла гаворка з сельскімі працаўнікамі.

**В. Г. ПАРХОМЕНКА, старшыня праўлення калгаса, Герой Сацыялістычнай Працы:**

— Нашы планы напружаныя: 50 цэнтнераў збожжа з гектара, 300 цэнтнераў бульбы, 10 цэнтнераў ільну. Дзесяць гадоў назад сказалі б, што мы — фантазёры. А сёння, бачыш, людзі напісалі гэтыя лічбы ў сваім плане на бліжэйшыя гады. На чым яны грунтуюцца, высокія нашы лічбы? На рэзервах, якія мае калектыўная гаспадарка, на магчымасцях, якія адчуваюць у сабе людзі.

Зямля — наша карміцелька. Хлеб і бульба — аснова. Гаспадарка наша пайшла ўгору іменна пасля таго, як мы калектывам узнялі паляводства і здолелі забяспечыць высокія і ўстойлівыя ўраджаі. Людзі паверылі ў сілу зямлі, у магутнасць гектара. У нас 4003 гектары зямельных угоддзяў. У структуры пасяўных плошчаў збожжавыя займаюць 48,5 працэнта, кармавыя культуры — 30,5, лён — 10,2, бульба — 7,1 працэнта. Культурныя пашы займаюць каля 900 гектараў. За апошняе пяцігоддзе ўраджайнасць збожжавых і льну падвоілася, рэзка павысіўся ўраджай бульбы, буракоў, траў.

Першы і галоўны рэзерв — людзі, нашы паляводы і жывёлаводы. Іх многа. Заўтра іх будзе яшчэ больш. Гэта закон жыцця, руху наперад. Усе ў нас ведаюць механізатараў шырокага профілю, камуністаў Леаніда Акімава, Івана Шакальца, Міколу Храмцова, Аляксея Шчарбакова, камсамольцаў Міколу Дударава, Аляксандра Вараб'ёва, жывёлаводаў Ганну Сляпцову, Якава Драздова, Валянціну Новікаву, Любоў Радкевіч, Веру Папкову, Ніну Сімакову, Уладзіміра Вараб'ёва.

Старанныя, працавітыя людзі і нашы льнаводы — пажылыя калгасніцы. Ім, вядома, спатрэбіцца замена, і для нашай камсамольскай арганізацыі ёсць над чым паразважаць, каб не заціхла слава нашага славенскага льну.

Хочацца сказаць пра нашага галоўнага агранома, камуніста Ніну Іванаўну Ніканаву. Яна прыйшла ў Славені пасля заканчэння Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Не мелі б мы тых паказчыкаў, такога раслінаводства, каб не настойлівасць і энергія такога спецыяліста, як Ніна Іванаўна. Лубінізацыя палёў — яе ініцыятыва, яе пошук. Мы цяпер маем і незамянімае зялёнае ўгнаенне і каштоўны корм для жывёлы.

Абмяркоўваючы план сацыяльна-вытворчага развіцця калгаса на новую пяцігодку, мы прыступілі да рашэння надзённай складанай задачы — пераводу жывёлагадоўлі на прамысловую аснову. Наша гаспадарка ў хуткім часе стане фабрыкай ялавічыны і малака. Прадукцыя дзяржаве будзе паступаць няспынна, круглы год. Наш мяса-малочны канвеер магчымы толькі пры інтэнсіўным, навукова арганізаваным адкорме жывёлы.

У гэтым напрамку зроблены першыя крокі. Здадзена ў эксплуатацыю першая чарга механізаванага жывёлагадоўчага комплексу — галоўны корпус на 1200 адкормачнікаў. Іх абслугоўваюць тры чалавекі. Набыта тэхніка для ўборкі траў, нарыхтоўкі кармоў па сучаснай тэхналогіі. На зіму нарыхтавана 2000 тон сенажу.

Увесь комплекс складаецца з трох будынкаў са зборнага жалезабетону, дзе ўсе працэсы — нарыхтоўка, раздача кармоў, паенне, уборка гною механізаваны. Знойдзе тут прымяненне і аўтаматыка. Ужо гатова гнаясховішча, куды гной падаецца па пнеўмаправодзе. Ажыццяўляецца ідэя: поле — ферма. Кармы, у тым ліку і зерне, апрацоўваюцца на месцы.



У комплексе прадугледжаны свірны, камбікормавы і крухмальны заводы, сянажныя вежы, траншэі для сенажу і сіласу, памяшканне для санітарнай апрацоўкі жывёлы. Ужо збудаваны дом жывёлавода — прыгожы, сучасны будынак гарадскога тыпу. У ім — кабінеты для спецыялістаў, пакоі адпачынку, бібліятэка, лабараторыя.

Адначасова шырокім фронтам вядзецца забудова новага цэнтра па генеральным праекце. Тут будзе Палац культуры, стадыён, кафэ-рэстаран. Такі наш заўтрашні дзень, такая будучыня чакае нашу змену — маладых працаўнікоў, на якую бацькі ўскладаюць сваю вялікую надзею і аддадуць ім самае лепшае, што яны заваявалі і адстаялі ў барацьбе і працы — зямлю.

**Кацярына МАКАРАВА, звеннявая па льне, Герой Сацыялістычнай Працы:**

— Мая пяцігодка была вельмі шчаслівая. Працавала я па льне і раней, з самых маладых год. Па душы мне яго сінія разлівы ў пару квітнення. Люблю лён, калі ружова-жоўты стаіць ён у снапах, а бліскучыя галоўкі, як званочкі. Большай радасці не трэба, калі лянок прымаюць у нарыхтоўку і прыёмшчыкі кажуць: «Зноў, Сяргееўна, прывезла харашуна, такі на покуце толькі стаўляць...»

Апошнія гады, можна сказаць, маё звяно заўсёды наперадзе. Кажуць, што нам то зямля лепшая выпадзе, то дзень удалы трапіцца, калі засяваем поле. Магчыма, што і шчасце нас, жанчын, не мінае, але ж, скажу шчыра, да шчасця трэба, каб і рукі не стамляліся, каб рупіў той лянок і ранецька і позненька...

Цяпер мы, каторыя лянок росцяць, не пяклуемся так, як бывала, тыя гады па вайне. То ж, бывала, рачкуеш рук не чуючы, пакуль выбераш усё пустазелле, увесь драсён ды кукаль, а цяпер самалёт прагурчэў сюд-туд над засценкамі — і ўся тая праполка. Праўда, бывае, што хімікаты пырніку не знішчаюць, не даецца ён, не жаўцее, але нічога — з пырнікам мы і самі ўпраўляемся. Зноў жа — уборка. Бывала, дзярэш-скубеш яго, бracenніка любага, аж рукі праўцом стануць, а во ўжо гады тры, як цярэбім лён камбайнам. За які тыдзень, глядзіш, і ўпраўляемся з ільном.

Віктар Храмцоў, камбайнер наш, майстар сваёй справы, спраўна цярэбіць, а мы, жанчыны, следам вяжам у снапы. Тады саломкай і здаем на пункт. Мой лянок ідзе, як правіла, «адзінкай» і «паўтарачкай». Харошы лён. Ужо аж тры медалі маю за лён з Масквы, з Усесаюзнай выстаўкі...

Планы ў нас ясныя і зразумелыя. У сёлетні год, думаю, што не ўпусцім першага месца. Дзесяць цэнтнераў семя і дзесяць валакна выйдзе. І на пяцігодку падмеліся не меней, як па дзесяць штогодна!..

**Аляксей ШЧАРБАКОЎ, камбайнер:**



— Як памятаю, усе апошнія пяць гадоў — значыцца, за ўсю пяцігодку — першае месца маё. На ўборцы мой «СК-4» выганяе па паўтары нормы за лета, не менш. Першынство маё не толькі па гектарах, але і па намалоту зерня, па чысціні жніва. Працуем мы цяпер групавым метадам, некалькі машын на адным полі. У нас закон — калі што не ладзіцца ў суседа, спыніся, паглядзі, што здарылася, дапамажы. Дысцыпліну мы трымаем моцную. Калі што якое, то не пасаромемся, прапануем і каласкі падабраць. А што ж, каласок да каласка — глядзі, і цэнтнер на гектары... А жыта якое сёлета было — сцяна, каласы на пядзю! Цяжка нам, камбайнерам, вядома, але і прыемна — 37 цэнтнераў жыта намалацілі ў сярэднім з гектара — гэта, калі хочаце, рэкорд. Канечне, на сёлетні сухі год... Праўда, у брыгадзе Івана Гапеева намалочвалі і раней, яшчэ ў 1965 годзе, амаль па 33 цэнтнеры, але ж гэта — на лепшых участках. А цяпер — 37 цэнтнераў па калгасе. Веру, што і гэта — не мяжа, нашы землі здольныя на большае.

У калгасе працуюць свае курсы, ды і ў школы механізацыі па пуцёўках калгас накіроўвае юнакоў. Праўда, дзяўчаты не надта, а хлопцы — ідуць пасля школы ахвотна. І тыя, што адслужылі вайсковую службу, вяртаюцца ў вёску. Яно і вядома, механізатар сёння — самы патрэбны чалавек у вёсцы. Без яго не абыдзешся і на полі, і на ферме. Вядома, і плата механізатару — чырвоная. Вазьміце ўлетку, я зарабляю да 500 рублёў у месяц. У нас цяпер, як і ў рабочых, аплачваемы адпачынак, выхадныя дні. Але ж мы, механізатары, ведаем, што калгас — цэх пад адкрытым небам, і ў прыпар працуем, не зважаючы ні на якія там выхадныя. Летні ж дзень — год корміць.

Нам, камбайнерам, трэба таксама паразважаць, падумаць, як кажуць, галавою. Ураджайнасць расце. На канец пяцігодкі падмеліся па 50 цэнт-

нераў збожжавых мецъ. Вядома, і атрымаем. Значыць тое, што было рэкордам, заўтра стане нормаю. Я ўжо колькі гадоў працую без памочніка. І даю столькі, колькі іншыя ўдвух. Вось вам, калі хочаце, і зноў жа — рэзерв. Мне яшчэ рупіць, каб падрыхтаваць сабе добрую змену — няхай спакайней будзе на сэрцы. Наша ж поле — сваё поле!...



**Валянціна НОВІКАВА, даярка Запольскай фермы:**

— Здаецца, нядаўна тое было, як сама атрымала першацёлак, усё дапытвалася ў старых вопытных даярак, прыглядалася, як гэта ў іх усё рабілася лёгка і спрытна, і не заўважыла, як і мяне пачалі вылучаць у калектыве, як назвалі між лепшых даярак. І вось першы поспех: надаіла па 3000 кілаграмаў малака ад каровы — рэкорд раёна.

Трэба сказаць шчыра, што цяпер можна рабіць нам, каторыя на фермах, у жывёлагадоўлі, абы толькі была твая ахвота, абы не лянота-матухна. Кармоў для жывёлы хапае, ваду на сабе не цягаем — устаноўлены аўтапаілкі. А ўлетку наша добрая, загонная пасьба ў нас, сеяныя травы, падкормкі зялёнай удосталь. Даяркі нашы цяпер у белых халатах, як тыя медсёстры. Усё ў нас, як у гарадскіх — і выхадны дзень, і водпуск. Жыві ды радуйся...

Прывучаю я да працы і сваіх дзяцей. А як жа інакш! Яны мае памочнікі. Коля ўжо і корм падвязе, і станкі памагае пачысціць, а Надзя і з апаратам умее абыходзіцца — яна ў мяне ахвотніца. Можа калі і даяркай будзе. А што? Каму і не да спадобы, а мне мая праца вельмі падабаецца. Я пабыла ўжо і ў Мінску, і ў Маскве. Свету пабачыла. Нават у конкурсе даярак вобласці ўдзельнічала. На скорасць мы спаборнічалі. Я не заняла першае месца, бо трохі, праўду сказаць, разгубілася. А каб ужо ў другі раз, то і я, можа, яшчэ б паспаборнічала... А так у сваім калгасе я і летась надаіла ад кожнай каровы па 3987 кілаграмаў, заняла першае месца, і ў сёлетнім годзе не сплахавала. Былі месяцы, што Ніна Сімакова, наша самая старая даярка, абганяла мяне, але за год, відаць, будзе зноў больш у мяне. Падмелася ж я па 4000 кілаграмаў надаіць, то і надаю. Яшчэ і больш надаю, за ета я паручаюся!..

**Леанід ВЫДРОЎ, шафёр, камсамолец:**

— Мне падабаецца мая спецыяльнасць. Хлапчуком я ўсё круціўся каля бацькі, праводзіў час ля машын, а бацька нам ніколі не забараняў, як іншыя сваім дзецям, а наадварот, заахвочваў наша захапленне — бывала, і правязе ў кабіне, і пакажа, як і што да чаго ў машыне. Я нейк і сказаў у той час, што стану шафёрам. Бацька толькі заўсміхаўся: «Добра, сынок! Будзеш чалавекам, калі не цураешся бацькавай справы». Вось закончыў школу, адслужыў у арміі — і за руль.

Канечне, наша работа нялёгкая, усё на нервах і заўсёды трэба быць начыку, умець сябе трымаць у рамках дысцыпліны. Гэтае лета было цяжкае — пыл стаяў з раніцы да позняй ночы, дарогі нашы яшчэ, як і пры дзядах; цэлыя суткі іншы раз за баранкай, а тады зноў у рэйс. Але мы, шафёры, народ не слабага племя...



Часта чуеш, як маладыя скардзяцца, што ў вёсцы сумна, што для сучаснай моладзі ў сельскай гаспадарцы няма нічога цікавага, творчага. Але гэта не зусім так. У нашых Славенях не сумна і ёсць шмат цікавай работы. Будоўлі, механізацыя, машынны парк — усюды можна знайсці занятак і работу па душы, была б толькі ахвота. А ў наладжванні культурнага адпачынку многае залежыць ад саміх камсамольцаў, ад таго, які ў калектыве будзе важак.

Праўда, у Славенях камсамольская арганізацыя невялікая — 46 юнакоў і дзяўчат — сказаліся вынікі таго, што некалі моладзь старалася з'ехаць абы-куды, толькі б не быць ля бацькавага крыла. Цяпер становішча змянілася. Юнакі і дзяўчаты не спяшаюцца ў вялікія гарады, нават калі не паступілі на вучобу — з гэтага няма трагедыі. Ахвотна застаюцца ў вёсцы і хлопцы, якія вяртаюцца з арміі. Змянілася вёска, змяніліся і адносіны кіраўнікоў калгаса да моладзі. Маладым праўленне выдзяляе ў першую чаргу кватэры ў новых дамах, дае стыпендыі і забяспечвае пуцёўкамі на вучобу, уладкоўвае на работу, якая адпавядае густу і схільнасці маладога чалавека.

Нашы камсамольцы цяпер рыхтуюцца да ўсесаюзнага заліку «Мы справе партыі верныя». Кожны член ВЛКСМ узяў асабістыя абавязацельствы. Камітэт камсамола пастаянна цікавіцца, як камсамольцы павышаюць свой палітычны і агульнаадукацыйны ўзровень, як у брыгадах і звеннях арганізавана сацыялістычнае спаборніцтва. Камсамольцы ўзялі шэфства над калгаснымі будоўлямі, накіроўваюць дадаткова юнакоў і дзяўчат на работу ў жывёлагадоўлю. Адным словам, мы стараннай працай і плённай вучобай сваю адданасць партыі дакажам!

Калгасная пяцігодка. Яна стала жывой творчай справай калектыву, які аб'яднаны адным жаданнем — здзейсніць задумы і планы партыі — свае, калектыўныя планы.

**Калгас імя Кірава,**
**Шклоўскі раён.**

# БРЫГАДА

Неяк гадоў сем назад прыехаў вясною да мяне ў госці бацька.

— Давай, сынок, з'ездзім да нашых сваякоў,—сказаў ён.—Гэта недзе побач з Даўгінаўскім трактам. Як туды едзеш—па левай руцэ яны жывуць. На хаце саламяная стрэшка. Я гэта добра памятаю.

— Што ты, тата?!—засмяяўся я.— У Мінску і днём з агнём не знойдзеш саламянай стрэшкі.

Але старога не так проста переканаць. Я наняў таксі, і мы паехалі на пошукі тае хаты. Скалясілі паўгорада і, канечне, ніякай саламянай стрэшкі нідзе не знайшлі.

— Я калі быў на курсах бухгалтараў, дык, здаецца, добра ведаў Мінск,—збянтэжыўся бацька.—Прайшло нейкіх пятнаццаць гадоў... Не, сынок, не той гэта Мінск. Не той... Як усё перамянілася!

...Будаўнік—бадай, самая старажытная прафесія, але яна і сёння самая маладая і самая патрэбная. Таму будаўнікамі сёння лічацца не толькі муляры, цесляры, тынкоўшчыкі і маляры. Будаўнік сёння—гэта і электразваршчык, і кранаўшчык, і арматуршчык, і бетоншчык, і электрык, і мантажнік—людзі самых розных і складаных спецыяльнасцяў.

Асноўным выканаўцам будаўнічых работ з'яўляецца брыгада. Некалькі брыгад складаюць участак, некалькі ўчасткаў—упраўленне, некалькі ўпраўленняў—трэст, некалькі трэстаў—міністэрства. Такая «субардынацыя» на будоўлі.

Пра брыгаду, якая з'яўляецца асновай будоўлі, пойдзе наша размова.

На будоўлю прыязджаюць па камсамольскіх пуцёўках, прыходзяць выпускнікі гарадскіх прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў, вярбуецца, адслужыўшы ў арміі, моладзь, наймаюцца і пажылыя людзі.

Навічкоў неахвотна бяруць да сябе брыгады, бо з імі шмат клопату: пакажы, падкажы, навучы. І яшчэ. Брыгадзіра заўсёды свідруе думка-пытанне: а ці будзе ён, навічок, працаваць? Ці стане ён кадравым рабочым? Ці атрымаецца з яго сапраўдны будаўнік? Яго прафесія не з лёгкіх. Каб стаць сапраўдным будаўніком, трэба быць чалавекам мужным. І, апрача ўсяго, трэба палюбіць сваю прафесію, умець бачыць у ёй суровую і прыгожую рамантыку.

З ГПТВ моладзь прыходзіць на будоўлю слаба падрыхтаваная. Толькі некаторыя з выпускнікоў вучылішчаў могуць самастойна выконваць нескладаныя заданні, прачытаць просты чарцёж. Іх трэба ставіць побач з вопытным рабочым. Прыходзяць яны з вучылішчаў з другім-трэцім разрадам, і патрэбен час, пакуль навічок абатрэцца і наб'е сабе руку. Цікава, чаму ўсяго гэтага не можа даць вучылішча?

А вось Мінскае ГПТВ-55 рыхтуе добрых спецыялістаў. Яго выпускнікі ўжо ў першыя дні могуць самастойна выконваць нескладаныя аперацыі. Выпускнікоў іншых вучылішчаў, як, напрыклад, Брэсцкага ГПТВ, даводзіцца вучыць і вучыць, нібы яны прыйшлі з вуліцы. Кажу пра гэта, спасылаючыся на свой вопыт і на вопыт сваіх сяброў-будаўнікоў, да якіх прыходзіць папаўненне.

Моладзь пасля арміі ідзе на будоўлю, бо тут ёсць інтэрнаты, можна атрымаць сталічную прапіску і мець перспектыву на будучае—жыць у сваёй кватэры. Пажылыя людзі пераважна ідуць з такім разлікам: пабудаваць сабе кааператыўную кватэру, і тады—бывайце здаровы.

Прываблівае будоўля навічкоў яшчэ і тым, што на агульнабудаўнічых работах у першы месяц працы можна атрымаць другі разрад і зарабляць нядрэнна.

Рыхтуюць кадры з навічкоў непасрэдна на будаўнічай пляцоўцы. Але робіцца гэта як мокрае гарыць, бо гэтаму не надаецца належнай увагі. А дарэмна. Пры добрых майстрах можна тысячы навічкоў зрабіць кваліфікаванымі рабочымі за нейкія дватры месяцы. Пра гэта варта падумаць адпаведным будаўнічым арганізацыям, тым больш, што яны растуць і множацца.





●

У сасновым бары, побач з вёскай Ганалес, стаіць зграбны дзевяціпавярховы будынак пансіяната са сваёй кацельняй і пральнямі. Недалёка ад пансіяната, на самым беразе Мінскага мора, будуецца міжнародная база адпачынку моладзі—дванаццаціпавярховая гасцініца на 500 месц, амфітэатр на 740 месц, харчблок, рэстаран на 200 месц, банкетная зала, танцавальная пляцоўка, якая будуецца на моры, прыстань, спартыўныя пляцоўкі. Будуе гасцініцу сёмы будаўнічы трэст г. Мінска. З 1969 года гэты трэст стаў спецыялізавацца на ўзвядзенні ўнікальных збудаванняў нашай сталіцы і яе ваколіц. Яго шматлікія аб'екты знаходзяцца ў Мінску, Заслаўі, Ждановічах, на Мінскім моры і ў іншых месцах. Аднак трэст да 1969 года быў толькі аддзелачным: тут працавалі тынкоўшчыкі, маляры, сталяры, паркетчыкі, плітачнікі-абліцоўшчыкі, мазаічнікі. Калі трэсту даручылі весці ўнікальныя збудаванні, яму тэрмінова спатрэбіліся электразваршчыкі, бетоншчыкі, цесляры, арматуршчыкі, мантажнікі і ў першую чаргу—муляры.

Будаўнічыя трэсты Мінска прыслалі сюды некалькі сваіх вядучых спецыялістаў—на абжытак, але гэтага было вельмі мала, і праблему кадраў трэба было рашаць самім. Вось тады ЦК ЛКСМ Беларусі звярнуўся да моладзі. З усіх куткоў нашай рэспублікі паехалі ў Мінск па камсамольскіх пуцёўках юнакі і дзяўчаты. Значная частка іх была прынята на работу ў БУ-34 будтрэста № 7.

Моладзь радавалася, што будзе рабіць такую важную і цікавую справу—узводзіць унікальныя збудаванні. Камсамольцы прыйшлі на будоўлю з гарачым жаданнем працаваць, але яны пакуль што не валодалі ніводнай будаўнічай спецыяльнасцю. Іх трэба было вучыць нялёгкай прафесіі будаўніка.

Але пакуль вучыць, дык дзе пасяліць маладых будаўнікоў? Падумалі, паразважалі і адных уціснулі ў інтэрнаты, другіх часова пасялілі ў будучых пральнях пансіяната. Быў май, стаяла цеплыня, з аднаго боку—сасновы бор, а з другога—мора, рыбка, лодачная станцыя, пляжы—жыві і радуйся. Заставалася нявырашаным адно пытанне—як быць з харчаваннем?

Працаваў тут, праўда, буфет, дзе прадавалі каньяк, піва, папяросы ды цукеркі. Быў і невялічкі магазін, але і тут можна было знайсці толькі гарэлку, віно, рыбныя кансервы—кільку, траску, салаку. За гэта ахрысцілі хлопцы той магазін карчмой пры дарозе.

Аднак з харчаваннем неўзабаве справа наладзілася. Запрасілі талковых кухараў, і ў пансіянаце «Юнацтва» адкрылі сталовую для будаўнікоў. Ежу пачалі гатаваць смачную, танную.

Пад восень будаўнікі пераехалі ў Мінск. У мікрараёне «Усход-2» трэст выдзеліў новы жылы дом пад інтэрнат. У ім пасялілі хлопцаў. Дзяўчат уладкавалі ў інтэрнаты па вуліцах Чырвонай і імя Варвашэні.

А як жа нашы навічкі асвоіліся з работай? Іх разбілі на дзве вялікія брыгады муляраў. Брыгадзіры Язэп Галубка і Віктар Клімовіч былі мулярамі.

Хлопцам і дзяўчатам выдалі кельмы, мулярскія малаткі і паставілі на кладку сцен амфітэатра. Тут было многа ручной працы. Цэгла і раствор падаваліся наверх пад'ёмнікам, а там па ўсёй даўжыні сцен усё гэта разносілі насілкамі, развозілі тачкамі. Вежавы кран да амфітэатра ледзь даставаў толькі з аднаго боку, але і ён увесь час быў заняты на галоўным аб'екце. Для пабудовы амфітэатра быў прызначаны другі кран, але яго чамусьці павалілі, разабралі, пагрузілі на цягачы і павезлі ў Мінск. Гэта пастараўся будтрэст № 4, які пачынаў гэты аб'ект. Тады і пайшлі ў рух насілкі, тачкі і маласільны пад'ёмнік.

Аднойчы навічок Міша Крукоўскі, заўважыўшы, што матарыст пад'ёмніка некуды адышоўся, вырашыў сам замяніць яго і націснуў на пульце не на тую кнопку. Пляцоўка пад'ёмніка пайшла ўгору, а не ўніз, як гэтага хацеў Міша. Хлопец разгубіўся. Падскочыў матарыст, націснуў на другую кнопку, і пляцоўка папаўзла ўніз.

— Без мяне каб тут нічога не чапалі!—строга прыкрыкнуў ён на Крукоўскага і на хлопцаў.—Матарыстам з вас кожны можа стаць, але для гэтага спачатку трэба дасканала разабрацца ў пад'ёмніку, вывучыць яго і быць вельмі пільным, бо гэта машына, а наверсе і ўнізе—людзі. Зразумеў?

— Ум-гу,—уздыхнуў Міша і пачаў накладваць цэглу на пляцоўку пад'ёмніка.

Не слухалася Мішу і кельма-расшыўка, якой між радамі цэглы расшываюць швы, каб сцяна выглядала прывабнай і зграбнай; мулярскі малаток і той наравіў стукнуць па цагліне не ў тое месца, куды хочаш і куды трэба. Іншы раз з цагліны трэба зра-

біць трохчацвёрку, а яна возьме ды разломіцца пад малатком на дзве палавінкі, або малаток сарвецца і не па цагліне, а па пальцах—цюк! Цяпер здаецца ўсё гэта смешным, бо мураваць—справа даволі простая і зразумелая, але навічкам ой як не проста ўсё даецца, як не лёгка! Само сабой зразумела, і заробак у іх быў сціплы.

Паглядзелі на будоўлі, што ў навічкоў справы ідуць слаба, і разаслалі іх па іншых брыгадах.

●

Андрэй Макарэвіч даўно прыглядаўся да хлопцаў і выношваў ідэю стварыць брыгаду з навічкоў, з тых хлопцаў, якія, як і ён, Андрэй, прыехалі па камсамольскіх пуцёўках. Летась у маі Андрэй сабраў сваіх сяброў па рабоце: Рыгора Марцінкова, Ігара Ліпавога, Мішу Крукоўскага, Сяргея Дараневіча, Федзю Курловіча, Міколу Клімовіча і імногіх іншых і прапанаваў стварыць камсамольска-маладзёжную брыгаду. Хлопцы падтрымалі яго.

— Цяпер і мы не лыкам шыты,—сказаў Рыгор Марцінкоў.—Можам смела браць любы новы аб'ект.

Брыгаду Макарэвіча зацвердзілі загадам па ўпраўленні, але аб'екта ёй не далі. Яе пачалі пасылаць на «вузкія» месцы—на прарыў. Дзе толькі яна ні пабывала! На будаўніцтве гасцініцы «Юнацтва» яна «падабрала» ўсе хвасты-недаробкі і «грахі» іншых брыгад. Адтуль яе перакінулі ў Заслаўль. Узрадаваліся хлопцы: «Нарэшце ў нас будзе свой аб'ект!» Пачалі з «нуля» закладку пяціпавярховага дома. Стараліся, працавалі з поўнай аддачай сіл. Вывелі фундамент, падвальную частку дома, перакрылі плітамі, і... брыгаду ў спешным парадку перавезлі ў санаторый «Крыніца»—знайшлася хлопцам аўральная работа. Зрабілі што трэба—адтуль на «Белгіпрагандаль», узводзіць дапаможны корпус інстытута, які знаходзіцца на вуліцы імя Берсана.

Гэты корпус—у двары інстытута. Сюды вежавы кран не паставіш, бо няма месца. Пляцовак для разгрузкі матэрыялу не хапае. Цесната. На ўзвядзенні дапаможнага корпуса адна брыгада наламала дроў, як кажуць, і ўцякла адсюль. Прыслалі другую, але і ў тае справы ішлі цераз пень калоду. Абедзве брыгады вывелі першы паверх напалову. Пасля сюды прыслалі брыгаду Андрэя Макарэвіча. Далі гусенічны кран з вялікім вылетам стралы. Ён выгадны і незаменны тым, што можа манеўраваць па цесным двары. За справу ўзяліся дружна. Узважыўшы свае магчымасці, члены брыгады ўзялі павышаныя абавязацельствы ў гонар XXIV з'езда КПСС і перавыканалі іх. Аб'ект быў вельмі складаны, але навічкі не спасавалі перад цяжкасцямі і ў кароткі тэрмін, пры добрай якасці работы, здалі яго.

Пасля «Белгіпрагандлю» брыгаду паслалі ў Курасоўшчыну, дзе будуецца санітарна-эпідэміялагічная станцыя. Хлопцаў паставілі на будаўніцтва дапаможных памяшканняў і гаражоў. Аднак работы праз некаторы час спыніліся не па іх віне.

— Не даюць нам добра разагнацца,—скардзіцца Рыгор Марцінкоў.

— Далі б нам новы аб'ект, каб мы яго пачалі і скончылі,—падтрымлівае Рыгора Ігар Ліпавы.—Мы б паказалі, чаго варты.

— На будоўлі яшчэ дрэнная арганізацыя працы,—гаворыць Андрэй Макарэвіч.—Бывае такое, што сёння прывезлі адну машыну цэглы, а заўтра—зусім не вязуць, затое паслязаўтра дадуць адразу пяць-сем машын, і ўсё—з цэглай. Такелажнікі цэлы дзень разгружаюць—кран заняты, муляры стаяць, раствор сохне, чарсцвее. Добра было б, каб кожны дзень давалі ўсяго ў меру: цэглы, раствору, пліт. А то як у дрэннай гаспадыні—калі густа, а калі пуста...

— Інструмент муляра—кельма ды мулярскі малаток—служыць доўга,—заўважае Федзя Курловіч,—а калі зломіцца, на замену няма — на складах не прывыклі трымаць запас інструменту.

— Мы ніяк не можам зразумець,—паціскае плячыма Сяргей Дараневіч,—чаму нам, мулярам, не выдаюць абутку? Даюць нам адны валёнкі, якія не вытрымліваюць і двух сезонаў. А што абуваць на ногі летам, восенню, вясной?..

...У чэрвені было шмат работы, і брыгада Андрэя Макарэвіча заняла першае месца па БУ-34. Вось вам і навічкі!..

— А які ў вас заробак, хлопцы?

— Сярэдні 125—130 рублёў у месяц,—адказваюць яны.—Тыя брыгады, што маюць свае аб'екты, зарабляюць больш.

У брыгадзе Андрэя Макарэвіча пры размеркаванні заработнай платы ўведзен каэфіцыент працоўнага ўдзелу кожнага. Вызначае яго агульны сход брыгады. На сходзе выбіраецца савет, які затым складае ведамасць размеркавання заработку. Савет можа пазбавіць прэміяльных за парушэнне тэхнікі бяспекі, за брак у рабоце, за прагул без уважлівай прычыны.

У брыгадзе, скажам, чатыры чалавекі, якія маюць чацвёрты разрад і адпрацавалі па 168 гадзін у месяц. Сярэдні заробак кожнага згодна з тарыфам за гэты час склаў 105 рублёў. Калі ж прымяніць каэфіцыент удзелу, становішча мяняецца. Першы працаваў добра і атрымаў каэфіцыент 1,5. Другі дапусціў брак у рабоце. Таму яго каэфіцыент раўняецца адзінцы. Трэці груба парушыў тэхніку бяспекі, і яму паставілі 0,5 каэфіцыента. Чацвёрты хоць і выходзіў усе дні, але лайдачыў, і яго каэфіцыент будзе раўняцца нулю.

Зыходзячы з гэтага, у першага прыробак складае 67 рублёў. Яму, апрача таго, належаць 30 рублёў прэміі, і заробак, такім чынам, перавысіць 200 рублёў. У другога прыробак—45 рублёў і 20 рублёў прэміі. Яго зарплата—170 рублёў. Трэці атрымае 138 рублёў (22 рублі прыробак і 10 рублёў прэміі). Чацвёрты ж атрымае «голы» тарыф свайго разраду, г. зн. 105 рублёў.

Безумоўна, такая сістэма стымулюе працу, садзейнічае павышэнню яе прадукцыйнасці. Гультаю сядзець на «голым» тарыфе вельмі нявыгадна, і ён становіцца перад дылемай: альбо працаваць добра, альбо пакінуць брыгаду.

...Брыгада Андрэя Макарэвіча дабілася, нарэшце, свайго аб'екта—ёй, як адной з лепшых брыгад упраўлення, даручылі весці рэстаўрацыю будынка былога касцёла пад Дом кіно Саюза кінематаграфістаў БССР.

Адна з самых вялікіх і прыгожых плошчаў у Мінску носіць імя У. І. Леніна. Плошча вабіць і радуе сонцам, прасторай, багаццем зеляніны, прыгожымі сучаснымі будынкамі, у архітэктурны ансамбль якіх цікава ўпісваецца будынак касцёла.

Праектам прадугледжана рэканструкцыя фасадаў з захаваннем існуючых элементаў архітэктурнага афармлення будынка. Усе адна- і двухпавярховыя прыбудовы, узведзеныя пазней—зносяцца. У корпусе размесціцца зала для прагляду кінафільмаў на 220 месц, канферэнц-зала з выкарыстаннем яе для паказу экспазіцый, кафэ на 50 месц, більярдная, фільматэка, бібліятэка і праўленне Саюза кінематаграфістаў БССР. У інтэр'ерах для аддзелкі ўжываецца каменная тынкоўка, медзь, чорны кованы метал. Свяцільнікі будуць зроблены па індывідуальных малюнках.

Увесь участак Дома кіно абносіцца агароджай вышынёю ў 70 сантыметраў з чырвонага колатага граніту. Маляўнічае рашэнне ўчастка ўтварае архітэктурнае асяроддзе, куды лёгка і свабодна ўплятаюцца падпорныя сценкі, скульптурныя кампазіцыі, фантан, кафэ, невялікі амфітэатр, альпінарый, стаянка для аўтамашын. Сядзіба Дома кіно будзе ўтульным месцам адпачынку.

Работы тут непачаты край! Хлопцы разумеюць усю важнасць і адказнасць даручанай ім справы і адносяцца да яе ўдумліва, сур'ёзна. Яны ведаюць, што на працу іх рук будуць глядзець тысячы мінчан і госці нашай сталіцы.

●

У брыгадзе Андрэя Макарэвіча 19 чалавек. Іх моцна згуртавала маладосць і дружба. Дэвіз брыгады: «Адзін за ўсіх і ўсе за аднаго!»

Прыехалі хлопцы ў Мінск халасцякамі. Чатырнаццаць з іх ажаніліся, і ў кожнай з чатырнаццаці сем'яў ужо ёсць дачка або сын.

Аднойчы Андрэй Макарэвіч прыйшоў на работу радасны, узрушаны і аб'явіў:

— Хлопцы! У мяне нарадзілася дачушка!..

Хлопцы па-змоўніцку пераглянуліся, тройчы падкінулі Андрэя на «ўра» і сардэчна павіншавалі яго.

Жарты, смех, агульнае ажыўленне. У канцы змены «скінуліся» і купілі Андрэевай дачушцы каляску. Расчулены бацька не знаходзіў слоў, каб падзякаваць таварышам, і ўсё круціў галавой, прыгаворваючы:

— Ну і хлопцы! Што прыдумалі... Такую карэту...

Неўзабаве ў Рыгора Марцінкова быў дзень нараджэння. Хоць ён і не сказаў пра гэта нікому, але брыгада аднекуль даведалася. Рыгора спачатку пацягнулі за вушы—«каб вялікі рос», з жартамі і смехам падкінулі ўгору, а пасля работы паднеслі падарунак. За год кожны член брыгады бывае імяніннікам. І кожнаму—сяброўскія віншаванні, падарункі, цяпло чалавечай увагі...

Урачыста адзначаюцца ў брыгадзе Макарэвіча наваселлі, адведкі, вяселлі... Традыцыі брыгады збліжаюць і родняць між сабою не толькі будаўнікоў, але і іх сем'і.

Хлопцы з брыгады Андрэя Макарэвіча разам наведваюць кінатэатры, цырк, Палац спорту, філармонію. І не дзіва, што такой дружбе зайздросцяць нават старыя рабочыя.

Праблема жылля застаецца вострай. У брыгадзе Макарэвіча толькі пяць сем'яў з чатырнаццаці жыве ў кватэрах падменнага фонду. Астатнія дзевяць—у інтэрнатах.

Трэба будаваць жыллё для маласямейных. Гэта праблема не толькі сёмага будаўнічага трэста. Жыллём і толькі ім можна «вылечыць» усе будаўнічыя арганізацыі ад цякучасці кадраў. Тады і тэмп будаўніцтва рэзка ўзрасце, бо любая брыгада кадравых рабочых, якой, напрыклад, ужо стала брыгада Макарэвіча, працуе зладжана, рупліва, рытмічна, скарачае тэрміны здачы аб'ектаў пры добрай якасці работы.

**Анатоль ДЗІК.**

# ТВАЯ ПРАФЕСІЯ

Абраць прафесію—гэта вызначыць свой шлях у жыцці, знайсці сабе працу на доўгія гады. І хоць у нас ставіцца задача падрыхтаваць усебакова развітага працаўніка, які будуе камуністычнае грамадства, але гэтая ўсебаковасць не азначае, што чалавек у адзін і той жа час будзе і ўрач, і ткач, і аграном, і металург, і г. д. Праўда, у нашай сацыялагічнай і філасофскай літаратуры сустракаліся і падобныя выказванні. Але іх з кожным годам усё меней, бо гэтыя выказванні не маюць трывалага грунту.

У век росквіту навукі і тэхнікі немагчыма быць добрым спецыялістам у многіх галінах адначасова. І калі гавораць пра ўсебакова і гарманічна развітага чалавека, то перш за ўсё маюць на ўвазе чалавека, які дасканала валодаў асноўнай сваёй спецыяльнасцю, які ўмела спалучае вытворчую работу з удзелам у грамадска-палітычным жыцці, у мастацкай самадзейнасці, спорце і г. д.

Пераход ад адной спецыяльнасці да другой разглядаецца як пераход да іншай спецыяльнасці ў рамках адной і той жа прафесіі. Хіба і цяпер мала ёсць сельскіх механізатараў шырокага профілю, якія паспяхова працуюць на трактары, камбайне і аўтамабілі. Ёсць рабочыя, якія адначасова валодаюць спецыяльнасцямі токара, слесара, наладчыка станкоў, рамонтніка... Вядома, людзі змяняюць не толькі спецыяльнасці, але і прафесіі. Рабочыслесар, які паспяхова выступае на сцэне народнага тэатра, можа стаць і прафесійным акцёрам. Праўда, тут яшчэ патрэбна, каб такі чалавек валодаў пэўнымі здольнасцямі і каб гэтыя здольнасці маглі праявіцца і развіцца. Зразумела, што патрэбна і адпаведная адукацыя. Па меры пераходу да камуністычнага грамадства ў сувязі з ростам адукацыі, павышэння культуры і павелічэннем вольнага часу магчымасці для ўсебаковага развіцця асобы будуць няспынна пашырацца.

Выбар прафесіі—гэта выбар справы на ўсё жыццё, гэта, па сутнасці, вызначэнне самога сябе, самапазнанне чалавека. Важна не проста выбраць спецыяльнасць, але знайсці такую працу, якая ператварылася б з захаплення ў глыбокую страсць, пры якой чалавек мог бы паспяхова спалучаць свае асабістыя здольнасці і схільнасці з інтарэсамі і запатрабаваннямі грамадства, пры якой з найбольшай паўнатой і карысцю для грамадства мог бы праявіцца яго талент.

Невыпадкова, што гэты пошук, выяўленне сябе ў такіх вялікіх людзей як Леў Талстой ішлі праз усё жыццё. У выбары прафесіі вельмі важна, каб юнак ці дзяўчына самі маглі знайсці свой напрамак у жыцці і рабоце. Як самы выдатны ўрач не можа ведаць лепш за самога хворага адчування яго болю, так і ніхто не можа ведаць лепш за самога чалавека, да чаго ляжыць яго душа.

Выбраць прафесію нялёгка яшчэ і таму, што цяпер у нас, можна сказаць, практычна бясконцае мноства прафесій, і колькасць іх усё павялічваецца.





А чым большы выбар, тым ён цяжэйшы.

Не будзем аднак залішне ўскладняць пытанне: для некаторых юнакоў і дзяўчат, якія скончылі школу, такіх пакутлівых праблем не існуе. Яны ўжо даўно абралі, чаму прысвяціць сваё жыццё. Асабліва гэта датычыць тых, хто ідзе бацькоўскай дарогай. Яны кожны дзень чуюць ад сваіх маці альбо бацькі пра іх занятак, і паступова прафесійныя інтарэсы бацькоў становяцца ім блізкія і дарагія. Хаця так бывае не заўсёды.

Новасібірскія сацыёлагі правялі і такі эксперымент: яны апыталі юнакоў і дзяўчат, якая прафесія іх найбольш прываблівае. І зноў жа выявілася, што хлопцы больш цэняць прафесіі, якія звязаны з фізікай, тэхнікай, дзяўчатам жа падабаецца працаваць у галіне аховы здароўя, культуры, асветы. У гэтых фактах у ліку іншых момантаў адлюстроўваецца сур'ёзны ўплыў на выбар прафесіі надзвычай шпаркіх крокаў навукова-тэхнічнага прагрэсу. Цяпер вельмі актуальна гучаць словы У. І. Леніна, што ў сучасным грамадстве «або трэба пераадолець вышэйшую тэхніку, або быць раздушаным». У той жа час неабходна адзначыць, што для грамадства не зусім карысна такое раздзяленне прафесій паміж мужчынамі і жанчынамі. Вельмі шмат у нас гавораць пра тое, што працэс навучання і выхавання дзяцей у школе патрабуе, каб сярод педагогаў было больш мужчын.

Няцяжка бывае выбраць сабе спецыяльнасць і тым школьнікам, у якіх ужо ў раннім узросце праяўляецца пэўная здольнасць і захапленне радыёсправай, хіміяй, схільнасць да малявання і г. д. Але і такім юнакам і дзяўчатам трэба своечасова дапамагчы ў выбары прафесіі. Справа ў тым, што маладыя людзі спрабуюць часам паступіць у такія навучальныя ўстановы, выбраць сабе такія прафесіі, да якіх у іх не вельмі праяўляюцца асабістыя здольнасці. І наадварот, яны часам не звяртаюць увагі на свае, нават ярка акрэсленыя, здольнасці ў пэўнай галіне. Гэта адбываецца па многіх прычынах, і галоўная з іх тая, што чалавек сам для сябе не вырашыў пытанне: «Што я такое?» Часта бывае, што схільнасці, імкненні, жаданні не супадаюць з індывідуальнымі магчымасцямі, здольнасцямі маладога чалавека. Спецыялісты па прафесійнай арыентацыі, напрыклад, сцвярджаюць, што далёка не кожны можа быць лётчыкам, мантажнікам ці зборшчыкам механізмаў з дробных дэталяў. Такому зборшчыку, напрыклад, трэба валодаць не проста добрым зрокам, а вялікай зрокавай увагай, каб з многіх падобных дэталяў выбраць хутка і дакладна патрэбныя; такому спецыялісту неабходна мець і вялікую адчувальнасць, каб пальцы ці іх «працяг»—пінцэт маглі самі без удзелу зроку выбіраць патрэбныя дэталі, даючы адпачынак вачам.

Пытаннямі прафесійнай арыентацыі займаюцца ўрачы, педагогі, сацыёлагі, супрацоўнікі аддзелаў навуковай арганізацыі працы і г. д. Шчыра скажам, што ў гэтым напрамку яшчэ трэба вельмі многа зрабіць. Прафесійная арыентацыя заклікана не толькі падказаць, для якой дзейнасці ў пэўнага маладога чалавека ёсць найбольшыя задаткі, пазнаёміць яго з рознымі спецыяльнасцямі, але напомніць і пра тыя прафесіі, у якіх найбольшую патрэбу мае народная гаспадарка ў сучасны момант.

Многія юнакі і дзяўчаты, якія скончылі школу мінулым летам, ужо вызначылі свой жыццёвы шлях, паступіўшы ў інстытуты, тэхнікумы, прафесійна-тэхнічныя вучылішчы, а таксама пайшоўшы працаваць на розныя прамысловыя прадпрыемствы, на калгасныя палі і фермы. Але вось некаторыя, нават маючы ясную мэту, засталіся незадаволеныя, таму што не змаглі паступіць у раней абраны інстытут: не прайшлі па конкурсе. Што ж параіць гэтым юнакам і дзяўчатам? Імкнуцца ажыццявіць сваю мэту. Ісці да яе настойліва, упарта. Мне заўсёды прыгадваецца ў такіх выпадках наша выдатная суайчынніца, славуты матэматык і пісьменніца Соф'я Кавалеўская. Прага да матэматыкі ў яе выявілася рана і даволі выпадкова. У доме Кавалеўскіх не хапала шпалераў. І дзіцячы пакой, па шчаслівай выпадковасці, абклеілі паперай, на якой былі запісаны лекцыі акадэміка Астраградскага па дыферэнцыяльным і інтэгральным вылічэнні, якія ў маладосці слухаў бацька Соф'і. «Мяне вабіла,—апавядала яна пра сваё першае захапленне матэматыкай,—разглядаць гэтыя пажоўклыя ад часу лісты, усе спісаныя нейкімі іерогліфамі, сэнс якіх зусім не даходзіў да мяне, але якія, я гэта адчувала, павінны былі азначаць вельмі разумнае і цікавае,—я, бывала, гадзінамі стаяла перад сцяною і ўсё перачытвала там напісанае».

Імкнучыся да навукі, да матэматыкі, С. Кавалеўская пераадолела нямала цяжкасцяў: супраціўленне сям'і, кансерватызм тагачаснага грамадства, у якім жанчынам былі зачынены шляхі ў навуку. Яна нелегальна наведвала лекцыі, з дапамогай фіктыўнага шлюбу вырвалася з-пад апекі сям'і, паехала за мяжу. Але і за мяжой, у Германіі, ёй, жанчыне, не дазволілі наведваць універсітэт, давялося браць

прыватныя ўрокі і з вялікім напружаннем займацца самаадукацыяй.

У нашай свабоднай сацыялістычнай краіне ўсе дзверы ў навуку адчынены. І калі ты адчуваеш прызванне, то не схіляй галавы пры першай няўдачы.

Не паступіў у інстытут? Не бяда. Ідзі працаваць, а рана ці позна ты свайго дасягнеш, бо ты жывеш у краіне, дзе створаны ўсе ўмовы для росквіту таленту.

Давайце падумаем і пра іншае. А ці абавязкова ўсім адразу ж ісці пасля заканчэння школы ў інстытуты або тэхнікумы? Зразумелае жаданне павышаць сваю адукацыю. Гэтага патрабуе час навукова-тэхнічнага прагрэсу. Але ж павышаць сваю адукацыю можна і без адрыву ад вытворчасці.

Ці не лепш спачатку папрацаваць на вытворчасці: на фабрыцы, заводзе, калгаснай ферме, у камбінаце бытавога абслуговаўння? А працуючы, прыглядацца да прафесій, да людзей, ды і самому глыбей унікаць у сваю спецыяльнасць. Вядома, дрэнна, калі выбар працоўнай дарогі зацягваецца ў некаторых на доўгія гады. Але яшчэ горш, калі выпускнікі школ падаюць заявы не па закліку сэрца, а пад уздзеяннем розных чыста фармальных і выпадковых фактараў: «у педінстытут паступае сяброўка, пайду і я», або паступаюць у тую навучальную ўстанову, якая бліжэй ад дому.

У нашай краіне, як ні ў адной іншай краіне свету, патрабуюцца рабочыя розных спецыяльнасцяў. На XXIV з'ездзе партыі ішла вялікая гаворка пра тое, што нашым будоўлям, фабрыкам, заводам, сельскай гаспадарцы, сферы абслугоўвання патрэбна вялікае папаўненне новымі кадрамі. У гэтай пяцігодцы патрэба ў рабочай сіле будзе задавальняцца на 70—80 працэнтаў з ліку моладзі. Пры гэтым адным з важных напрамкаў падрыхтоўкі такіх кадраў з'яўляюцца прафесійна-тэхнічныя вучылішчы, у якіх моладзь будзе атрымліваць побач з пэўнай спецыяльнасцю і агульную сярэднюю адукацыю.

З кожным годам усё больш механізуецца сельскагаспадарчая праца, палі і фермы чакаюць маладых спецыялістаў, адукаваных, энергічных. Не так даўно ішла цікавая размова пра сельскія прафесіі, пра любоў да роднай зямлі за «круглым сталом» у саўгасе «Рудакова», што недалёка ад Віцебска. З канторы саўгаса бачны агні абласнога горада. Многія як мага хутчэй стараюцца пакінуць вёску. Але не ўсе. Жыццё ж у саўгасе з кожным годам становіцца ўсё больш цікавым, багатым, а прафесія сельскага працаўніка напаўняецца новым зместам. Менавіта творчы характар працы больш за ўсё і прываблівае моладзь. Механізатар саўгаса Уладзімір Несцяркоў пасля дэмабілізацыі з Савецкай Арміі мог застацца ў Маскве, але не застаўся. Ён вярнуўся ў родную вёску і тут знайшоў занятак па сваёй душы, стаўшы механізатарам.

Тут жа, на вечары, выпускнікі сярэдняй школы Надзя Пашчанка, Ніна Салаўёва і іншыя далі слова на вернасць вёсцы. Яны рашылі стаць жывёлаводамі. Яны добра ведаюць, якая цяжкая, але захапляючая праца іх чакае. Дзяўчаты пайшлі дарогай сваіх бацькоў.

Падчас можна пачуць, што вось, маўляў, прафесія лётчыка, геолага, артыста—рамантычная, а вось токара, кандытара, цырульніка—пазбаўлена рамантыкі. Але хіба нам не вядомы сумныя, не задаволеныя сваёй справай інжынеры, геолагі, навуковыя супрацоўнікі? Ну а калі яны самі сумуюць, то, безумоўна, яны і іншым людзям, калектыву не прыносяць радасці; такія людзі перашкаджаюць, тармозяць творчасць у калектыве. І рана ці позна яны змяняюць прафесію.

У той жа час колькі людзей сапраўды апантаных, якія з творчым агеньчыкам працуюць у так званых «простых» прафесіях! Вы паслухайце, з якой гордасцю пра сваю прафесію гаворыць токар-універсал Мінскага аўтамабільнага завода, кавалер ордэна Леніна Віктар Жукоўскі: «Часта задаюць мне пытанне: ці люблю я сваю работу? Люблю?—не тое слова. Работа—частка мяне самога. Я ж не кажу, што люблю сваю руку ці галаву. Лічу, што праца мая цікавая, па-свойму рамантычная».

Выступаючы на XVI з'ездзе ВЛКСМ, Леанід Ільіч Брэжнеў сказаў пра рамантыку прафесій: «...яна ёсць ва ўсякай важнай, патрэбнай народу справе. Яна заўсёды з тымі, хто здольны па-новаму глядзець на справу, прапанаваць новае, патрэбнае рашэнне».

Возьмем сферу абслугоўвання. З кожным жа годам тут занята ўсё больш людзей. Толькі ў Мінску цяпер у сферы абслугоўвання працуе больш чым 100 тысяч чалавек, з іх палова—моладзь. У адным Мінскім універмагу—365 камсамольцаў.

Часта можна было пачуць, што, маўляў, ісці працаваць прадаўцом ці цырульнікам неяк няёмка чалавеку з атэстатам сталасці.

Што грэх таіць, на гэта ёсць свае аб'ектыўныя прычыны. Адна з іх—слабая механізацыя працы ў сферы абслугоўвання. Хіба гэта добра, калі дзяўчына цягае скрынкі з гароднінай ці гарэлкай?

Бывае, у гандаль саромеюцца ісці і таму, што, маўляў, грамадскі прэстыж



гэтай прафесіі не вельмі высокі: у гандлёвую сетку трапляюць часам людзі несумленныя, нячыстыя на руку. Што ж, здараецца і такое. Усё гэта трэба выпраўляць. Нельга ж забываць, што з кожным годам колькасць людзей, занятых у сферы абслугоўвання, будзе павялічвацца. Прытым тэмпы гэтага росту значна вышэйшыя, чым у прамысловасці і ў сельскай гаспадарцы. Але хочацца сказаць і іншае: менавіта ад маладых, энергічных юнакоў і дзяўчат, якія ведаюць і любяць сваю справу, якія прыйшлі ў гандаль, у камбінат бытавога абслугоўвання, у многім залежыць тое, каб сфера абслугоўвання стала сапраўды службай добрага настрою.

...Вельмі многа можа зрабіць моладзь. А самае галоўнае—ідучы пасля школы працаваць на вытворчасць, будаўніцтва, транспарт, у сферу абслугоўвання, на палі і фермы, юнакі і дзяўчаты пройдуць добрую школу прафесіянальнай арыентацыі, якая дапаможа ім лепш адчуць сваю спецыяльнасць, палюбіць працу і людзей працы, знайсці сябе і сваё месца ў жыцці.

На Мінскім аўтазаводзе адну з камсамольска-маладзёжных брыгад у ліцейным цэху шэрага чыгуну ўзначальвае Дзіна Мельнікава.

На пытанне: «Што дапамагае дабівацца поспехаў?» член брыгады, малады камуніст Яўгенія Кулакоўская адказала: «Навуковая арганізацыя працы. А яшчэ дружба». «І яшчэ вучоба»,—дапоўніла сяброўку Дзіна. Многія маладыя рабочыя брыгады вучацца на вячэрніх аддзяленнях ВНУ і тэхнікумаў, усе наведваюць гурток сацыялістычнай эканомікі. У гэтых маладых людзей вучоба і праца крочаць побач: вучоба дапамагае паспяхова працаваць, а праца—беспамылкова абраць прафесію, знайсці сваё месца ў жыцці.

...Калі чалавек прагне ведаў, то яму нішто не перашкодзіць. «Мой шлях у інстытут аказаўся даволі складаны,—гаворыць студэнт першага курса Беларускага політэхнічнага інстытута Рамуальд Стасевіч.—Пасля заканчэння школы ў 1967 годзе здаваў экзамены ў БПІ, але першая спроба аказалася няўдалай. Затым рабочы калектыў і служба ў арміі. Тут уступіў у члены КПСС».

Камандаванне вайсковай часці параіла выдатнаму воіну стаць слухачом падрыхтоўчага аддзялення БПІ. І вось цяпер ён—студэнт інжынерна-эканамічнага факультэта.

Як бачна, вучыцца ніколі не позна. І зусім не гожа, калі юнакі і дзяўчаты, якія атрымалі спецыяльнасць і добра зарабляюць, не жадаюць працягваць сваю адукацыю. Адукацыя не толькі садзейнічае павышэнню кваліфікацыі, росту свядомасці і дысцыпліны, але і ўзбагачае ўнутраны духоўны свет чалавека, робіць яго жыццё больш багатым і яркім. Адукацыя садзейнічае развіццю творчасці, рацыяналізацыі, дзе б чалавек ні працаваў. Таму часам дзіўна чуць развагі асобных нашых вучоных-сацыёлагаў, якія сцвярджаюць, што, маўляў, для пэўных спецыяльнасцяў не патрэбна адукацыя, што яна нават недарэчы, бо нярэдка маладыя людзі, атрымаўшы адукацыю, не жадаюць працаваць там, дзе можна абысціся і без такой адукацыі. Адукаваны чалавек можа праявіць элементы творчасці на любой рабоце, ён сам можа ўздзейнічаць на яе змяненне. Не варта забывацца, што мы жывём у эпоху навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, якая інтэнсіўна развіваецца і кожны дзень прыносіць новае. Ды і сама яна немагчыма без адукаваных людзей. У той жа час сустракаюцца маладыя людзі, якія на вучобу ў вышэйшай навучальнай установе глядзяць як на справу моды. Нядаўна мне давялося пачуць ад адной дзяўчыны, якая паступала ў інстытут і да якога, дарэчы, у яе наогул не было ніякай цікавасці, такія разважанні:

— Пайду, цяпер жа ў інстытутах усе займаюцца, а працаваць буду пасля вучобы па сваёй цяперашняй спецыяльнасці. Сёння ж без вышэйшай адукацыі і замуж не возьмуць...

Адукацыя, у тым ліку і вучоба ў інстытуце—гэта не мода, а неабходнасць, што вынікае з патрабавання самога жыцця, з тых задач, што ставіць наша грамадства—выхоўваць шырока адукаванага, духоўна багатага, маральна чыстага і фізічна развітага чалавека. У гэтым выяўляецца сэнс сацыялістычнага гуманізму—усё для чалавека, усё ў імя яго ўсебаковага развіцця. А такі чалавек не можа сфарміравацца без працы творчай, патрэбнай людзям, грамадству.

**Міхаіл БАРОЎСКІ,**
**кандыдат філасофскіх навук.**

## —Дарогі, якія мы выбіраем



Максім БАГДАНОВІЧ.

ДА 80-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

Мал. Янкі Раманоўскага.



М. А. НЯКРАСАЎ.

ДА 150-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ



Сяргей ЦУКАНАЎ. Харчатрад.



Памочнік брыгадзіра комплекснай брыгады калгаса імя Кірава Шклоўскага раёна камсамолка Галіна Вараб'ёва.

Мал. Янкі Раманоўскага.




# 1972

**1110**

гадоў назад (862) упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца г. Полацк.

**875**

гадоў назад (1097) упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца г. Пінск.

**830**

гадоў назад (1142) упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца г. Гомель.

**455**

гадоў назад (1517) пачаў сваю дзейнасць беларускі першадрукар Францішак (Георгі) Скарына.

**410**

гадоў назад (1562) Сымон Будны, беларускі асветнік, пачаў выдаваць кнігі на беларускай мове ў Нясвіжскай друкарні.

**380**

гадоў назад (1592) праваслаўнае брацтва арганізавала ў Мінску школу.

**200**

гадоў (1772) з часу ўз'яднання ўсходняй часткі Беларусі (гг. Гомель, Магілёў) з Расіяй.

**165**

гадоў назад (1807) нарадзіўся В. І. Дунін-Марцінкевіч, вядомы беларускі пісьменнік. Памёр у 1884 г.

**110**

гадоў з пачатку выдання (1862) газеты «Мужыцкая праўда».

**100**

гадоў назад (1872) пачалося будаўніцтва галоўнай лініі Беларускай чыгункі (паміж станцыямі Ландварава і Вільня праз Мінск, Гомель, Бахмач да Ромны) акцыянерным таварыствам Ландварава-Роменскай чыгункі.

**85**

гадоў назад (1887) мінскія сацыял-дэмакраты наладзілі непасрэдную сувязь з групай «Вызваленне працы».

Францішак (Георгі) Скарына.



В. І. Дунін-Марцінкевіч.



Андрэй Ушакоў.



**75**

гадоў назад (1897) у Брэсце ўзнікла тайнае таварыства рабочых і рамеснікаў, якія праводзілі рэвалюцыйную работу.

**70**

гадоў з пачатку выхаду (1902) у Мінску рэвалюцыйна-дэмакратычнай газеты «Северо-Западный край».

**70**

гадоў назад (1902) нарадзіўся С. Ф. Куніцкі, беларускі крытык і літаратуразнаўца. Памёр у 1940 г.

**60**

гадоў назад (1912) нарадзіўся Андрэй Ушакоў, беларускі паэт. Загінуў у 1942 г.

**50**

гадоў з часу арганізацыі (1922) Інстытута беларускай культуры (Інбелкульта).

**50**

гадоў з часу выхаду (1922) «Маладняка», грамадска-літаратурнага часопіса маладзёжнай пісьменніцкай арганізацыі «Маладняк». Выходзіў да 1928 г.

**40**

гадоў назад (1932—1933) арганізаваны Саюз мастакоў БССР.

**40**

гадоў назад (1932) на базе газетнага аддзялення Камвуза імя У. І. Леніна быў створаны Камуністычны інстытут журналістыкі (КІЖ).

**35**

гадоў з дня адкрыцця (1937) Дзяржаўнай філармоніі БССР.

## СТУДЗЕНЬ

**1**

**53 гады з дня ўтварэння (1919) Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.**

60 гадоў з дня нараджэння (1912) Г. Ф. Бржазоўскага, беларускага мастака-жывапісца.

**3—10**

45 гадоў назад (1927) праходзіў X з'езд КП(б) Беларусі.

**4**

60 гадоў з дня нараджэння (1912) С. П. Маргунскага, вучонага ў галіне дзяржавы і права, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР.

**6**

60 гадоў з дня нараджэння (1912) Л. М. Абеліёвіча, кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

**7**

75 гадоў з дня нараджэння (1897) Я. А. Адамовіча, старшыні Савета Народных Камісараў БССР. Памёр у 1937 г.



Г. Ф. Бржазоўскі.

Л. М. Абеліёвіч.





Р. Р. Шырма.

**10**

40 гадоў назад (1932) адбыўся I Усебеларускі з'езд вынаходнікаў.

**14**

75 гадоў з дня нараджэння (1897) В. А. Шашалевіча, беларускага драматурга. Памёр у 1942 г.

**18**

30 гадоў назад (1942) адбыўся радыёмітынг прадстаўнікоў беларускага народа ў Маскве.

**20**

80 гадоў з дня нараджэння (1892) Б. А. Тарашкевіча, вядомага беларускага пісьменніка, вучонага і грамадскага дзеяча, сапраўднага члена Акадэміі навук БССР, старшыні Беларускай сялянска-рабочай грамады. Памёр у 1937 г.

**21**

80 гадоў з дня нараджэння (1892) Р. Р. Шырмы, пісьменніка, этнографа-фальклярыста, народнага артыста СССР.



М. М. Федарэнка.

**23**

50 гадоў з дня нараджэння (1922) М. М. Федарэнкі, мастака-жывапісца.

**23—28**

40 гадоў назад (1932) праходзіў XIV з'езд КП(б) Беларусі.

**24**

75 гадоў з дня нараджэння (1897) В. Ф. Купрэвіча, вучонага-батаніка, члена-карэспандэнта Акадэміі навук СССР, прэзідэнта Акадэміі навук БССР. Памёр у 1969 г.

**30**

20 гадоў назад (1952) адкрыўся XVII з'езд ЛКСМ Беларусі.

50 гадоў з дня нараджэння (1922) Г. А. Ісаевіч, мастачкі.

**31**

80 гадоў з дня нараджэння (1892) А. К. Гурло, беларускага паэта. Памёр у 1938 г.



Г. А. Ісаевіч.



А. К. Гурло.



# ПЯСНЯР НАРОДА

Каля ста гадоў таму назад, у 1874 годзе, Някрасаў напісаў у вершы «Элегия»:

Я лиру посвятил народу своему.
Быть может, я умру неведомый ему,
Но я ему служил — и сердцем я спокоен...

Усё дакладна ў гэтых словах паэта: і афарыстычна выказаная думка пра напрамак і мэты сваёй творчасці, і ўпэўненасць у правільнасці выбранага шляху, і гатоўнасць служыць народу не дзеля славы і папулярнасці, а па глыбокім маральным перакананні. Няправільна толькі адно — сумненне паэта.

Вершы Някрасава сталі вядомы народу, спяваліся як песні на студэнцкіх вечарынках, тайных сходках рэвалюцыянераў, былі неабходнай часткай духоўнага жыцця лепшых людзей — сучаснікаў Някрасава, увайшлі і ў наша жыццё як любімая і дарагая спадчына. І сёння мы, людзі сямідзесятых гадоў дваццатага стагоддзя, гаворым: Мікалай Аляксеевіч, дарэмнае Ваша сумненне, мы памятаем і любім Вас, мы гаворым з Вамі, як з жывым, таму што Вы жывяце ў сваім паэтычным слове, у ім Ваша душа, Вашы пачуцці і думкі.

Пра Някрасава прынята гаварыць: ён пісаў пра народ, для народа і мовай народа. Гэтае вызначэнне сутнасці яго творчасці не падлягае сумненню. Ужо ў самым пачатку свайго творчага шляху Някрасаў называе сваю паэзію роднай сястрой прыгнечанага народа:

Вчерашний день, часу в шестом,
Зашел я на Сенную;
Там били женщину кнутом,
Крестьянку молодую.
Ни звука из ее груди,
Лишь бич свистал играя...
И Музе я сказал: «Гляди!
Сестра твоя родная!»

Вобраз музы-сялянкі праходзіць праз усю творчасць паэта.

В убогой хижине, пред дымною лучиной,
Согбенная трудом, убитая кручиной,
Она певала мне — и полон был тоской
И вечной жалобой напев ее простой.

Да яе звернуты і развітальныя перадсмяротныя вершы паэта:

О муза! наша песня спета.
Приди, закрой глаза поэта
На вечный сон небытия,
Сестра народа — и моя!

Народжаная акіянам народных пакут някрасаўская Муза помсты і смутку носіць у сабе высакародныя, усеабдымныя пачуцці — любоў і нянавісць. У гэтых адносінах паэзія Някрасава блізкая творчасці Гогаля, які прапаведаваў любоў «варожым словам адмаўлення...» Зноў і зноў паэт гаворыць пра сваю любоў і нянавісць, ён ставіць гэтыя

пачуцці побач, ён хоча растлумачыць іх пастаяннае «суіснаванне» ў яго вершах. Чаму заўсёды побач з любоўю — нянавісць? Паэт на гэта адказвае:

То сердце не научится любить,
Которое устало ненавидеть.

Гэтая ж думка знаходзіць свой працяг у вершы «Праздник жизни — молодости годы»:

...кипит в тебе живая кровь,
Торжествует мстительное чувство,
Догорая, теплится любовь,—
Та любовь, что добрых прославляет,
Что клеймит злодея и глупца...

З някрасаўскай любові і нянавісці нараджаецца лірычны вобраз спакутаванага, але і прыгожага ў сваёй веліччы народа і сатырычны воблік крывасмока — памешчыка і буржуа.

Вобраз народа ў творчасці Някрасава — гэта, з аднаго боку, увасабленне пакут і пакорлівасці:

Лохмотья жалкой нищеты,
Изнеможенные черты
И выражающий укор
Спокойно-безнадежный взор...

Паэт любіць шматпакутнага працаўніка і, любячы, не хоча мірыцца з яго пакорлівасцю:

Всё ту же песню ты поешь,
Всё ту же лямку ты несешь,
В чертах усталого лица
Всё та ж покорность без конца...
. . . . . . . . . . .
Чем хуже был бы твой удел,
Когда б ты менее терпел?

Някрасаў малюе і іншы вобраз народа — увасабленне фізічнага і духоўнага здароўя, вялікай маральнай сілы:

Красавица, миру на диво,
Румяна, стройна, высока,
Во всякой одежде красива,
Ко всякой работе ловка...
. . . . . . . . .
В игре ее конный не словит,
В беде — не сробеет,— спасёт:
Коня на скаку остановит,
В горящую избу войдет!

Смутак і гордасць, песні журбы і ўрачыстыя гімны народнай красе — такі дыяпазон паэзіі Някрасава, песняра рускага народа. Ягоная бізуном высцебаная Муза, шматпакутная і гордая, патрабуе расплаты за народныя пакуты. Някрасаў бачыць свой галоўны абавязак перад народам, абавязак патрыёта-грамадзяніна, у тым, каб служыць яму. І такая вялікая была яго любоў да народа, і так моцна ў ім было развіта пачуццё велізарнай адказнасці перад ім, што паэт пачынае дакараць сябе за тое, што мала зрабіў, што, у параўнанні з акіянам народных бедаў, яго работа — кропля ў гэтым акіяне.

Я призван был воспеть твои страданья,
Терпеньем изумляющий народ!
И бросить хоть единый луч сознанья
На путь, которым бог тебя ведет;
Но, жизнь любя, к её минутным благам
Прикованный привычкой и средой,
Я к цели шел колеблющимся шагом,
Я для неё не жертвовал собой,
И песнь моя бесследно пролетела
И до народа не дошла она,
Одна любовь сказаться в ней успела
К тебе, моя родная сторона!





Някрасаў будзіць і выхоўвае ў нас пачуццё маральнай адказнасці перад сваім народам. Так будзе заўсёды, так будзе вечна. Таму што якіх бы вышынь не дасягнуў чалавек, ён імкнецца да ўсё большага ўдасканальвання жыцця і самога сябе. А значыць, заўсёды з намі будзе і Някрасаў з яго абвостраным пачуццём грамадзянскага абавязку перад народам.

Паэт рэвалюцыйнай дэмакратыі, Някрасаў заўсёды абараняў чалавека-працаўніка ад прыгнёту паноў. З якім тонкім гумарам малюе ён у вершы «Железная дорога» самазадаволенага тупога генерала, які лічыць, што ўсе каштоўнасці на зямлі ствараюць яны, генералы ды графы Клейнміхелі! І ўжо ў востра сатырычным асвятленні паўстае перад намі вобраз буржуа, драпежнага, цынічнага, які і сёння выклікае агіду да дзялкоў капіталістычнага свету, да іх «всеберущего, всехватающего, всеворующего» саюза.

Паэзія Някрасава не толькі гаварыла праўду пра тагачаснае становішча народа, але і была адрасавана яго будучыні. І калі верш «Размышления у парадного подъезда» заканчваўся пытаннем, звернутым да народа:

Ты проснешься ль, исполненный сил,
Иль, судеб повинуясь закону,
Всё, что мог, ты уже совершил,—
Создал песню, подобную стону,
И духовно навеки почил?..

— то ў «Железной дороге» паэт ужо ўпэўнена гаварыў:

Да не робей за отчизну любезную...
Вынес достаточно русский народ,
Вынес и эту дорогу железную —
Вынесет все, что господь ни пошлет!
Вынесет все — и широкую, ясную
Грудью дорогу проложит себе.

Невыпадкова ў творчасці Някрасава многа вершаў пра дзяцей і для дзяцей. З дзецьмі ён звязваў будучыню Расіі, таму так многа пісаў пра іх і для іх. Дарэмна непакоіўся паэт, што выконваў свой абавязак перад народам не так, як належала б. Ужо аднаго таго, што ён уносіў «прамень свядомасці» ў асяроддзе маладога пакалення Расіі, дастаткова, каб быць удзячным яму, але ён і акрамя таго рабіў вельмі многа. Ён змагаўся супраць пошлай маралі, якая закалыхвае розум і душу і заклікае: «Ниже тоненькой былиночки надо голову клонить», якая ўзаконьвае пакорлівасць народа. У «Песне Еремушке» ён спявае хлопчыку іншую, рэвалюцыйную песню:

...силу новую
Благородных юных дней
В форму старую, готовую
Необдуманно не лей!
Жизни вольным впечатлениям
Душу вольную отдай,
Человеческим стремлениям
В ней проснуться не мешай.
С ними ты рожден природою —
Возлелей их, сохрани!
Братством, Равенством, Свободою
Называются они.

«Холопскому терпению» паэт супрацьстаўляе

Необузданную, дикую
К угнетателям вражду
И доверенность великую
К бескорыстному труду.

Паэт звязвае будучую рэвалюцыю — «навальніцу» з моладдзю Расіі. Матыў рэвалюцыі — ачышчальнай навальніцы, буры («Буря бы грянула, что ли?»), які прагучаў у някрасаўскай паэзіі як чаканне, папярэднічае горкаўскаму закліку-сцвярджэнню: «Буря! Скоро грянет буря!» Някрасаў не можа не сумаваць пры думцы, што ён не дачакаецца дня свабоды, але яго радуе ўсведамленне таго, што свабода немінуча прыйдзе да спакутаванага народа. Ён шле свае прывітанне будучым пакаленням і, звяртаючыся да маці-Радзімы, хоча

...знать, умирая,
Что стоишь ты на верном пути,

Что твой пахарь, поля засевая,
Видит ведреный день впереди:

Чтобы ветер родного селенья
Звук единый до слуха донес,
Под которым не слышно кипенья
Человеческой крови и слез.

Часам Някрасаў малюе карціны будучай Расіі, поўныя геніяльных прадбачанняў. Такая карціна будучыні вялікай рускай ракі Волгі, якую паэт назваў «рекою рабства и тоски»:

Иных времен, иных картин
Провижу я начало
В случайной жизни берегов
Моей реки любимой:
Освобожденный от оков,
Народ неутомимый
Созреет, густо заселит
Прибрежные пустыни;
Наука воды углубит:
По гладкой их равнине
Суда-гиганты побегут
Несчетною толпою,
И будет вечен бодрый труд
Над вечною рекою...
Мечты!.. Я верую в народ...

Гэтая вера вялікага паэта ў светлую будучыню свайго народа, у яго стваральную працу блізкая і нашаму часу, поўнаму грандыёзных здзяйсненняў у імя яшчэ больш цудоўнай будучыні. Някрасаў верыў, што

...народу русскому
Пределы не поставлены:
Пред ним широкий путь.

Мы — відавочцы і ўдзельнікі гэтага руху нашай краіны па шырокім шляху мірнай творчасці і прагрэсу. І як жа быў правы Мікалай Аляксеевіч Някрасаў, калі пісаў у канцы свайго жыцця:

Кто, служа великим целям века,
Жизнь свою всецело отдает
На борьбу за брата человека,
Только тот себя переживет.

**Людміла ЧАРНОВА.**



**● М. А. НЯКРАСАЎ**

## *На смерць Шаўчэнкі*

Не паддавайцеся чорнай тужлівасці:
Вынік задуманы, вынік прадбачаны.
Гіне ў Расіі так з божае літасці
Кожны, хто геніем светлым адзначаны.
З даўняга часу: юнацтва цяжкое,
Поўнае страсці, надзей, захаплення,
Смелыя словы, жыццё без спакою,
Потым — цямніцы турэмнай скляпенне.

Зведаў усё ён: астрог пецярбургскі,
Вобыскі, допыты, ўхмылкі жандараў,
Зведаў бязмежны стэп Арэнбургскі,
Зведаў прыволле ягоных казармаў.
Жыў у галечы там, светам забыты,
Церпячы здзекі з салдатамі разам,
Мог, як салдат, быць і палкай забіты,
На што спадзяваўся, магчыма, ён часам.

Ды, скараціць не хацеўшы нягоды,
Яго захавала ў трудныя годы
Рускага генія доля гуллівая.
Дні мінавалі яго нешчаслівыя,
Усё, што не ўбачыў ён ў маладосці,
Што дорага сэрцу, яму заўсміхалася.
Тут яму бог пазайздросціў:
Жыццё абарвалася.

З рускай пераклаў
**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

## *Школьнік*

— Ну, паціху рушым, з богам!
Неба нізкае, хмызняк —
Невясёлая дарога...
Да мяне сядай, бядак! —

Непамыты, басаногі,
Світка стлела на плячах...
Не саромейся, нічога!
Гэта многіх слаўны шлях.

Бачу я у торбе кніжку:
Ты вучыцца йдзеш. Ну што ж!
Бацька, ведаю, не з лішку
Аддаваў апошні грош.

І старэнькая дзячыха
Даставала пятачок,
Што праезджая купчыха
Падавала на чаёк.

А ці можа быць з дваровых
Ты адпушчаны?.. Даўно

Выпадак такі не новы —
Не палохайся адно!

Сам пазнаеш хутка ў школе,
Як архангельскі мужык
Па сваёй і боскай волі
Зразумеў, як свет вялік.

Не заўсёды ў гневе неба,
Не без добрых сэрцаў свет,—
Завязе ў Маскву хто-небудзь,
Трапіш ва ўніверсітэт.

Там ужо абсяг шырокі:
Зведай родную зямлю...
Вось за што цябе глыбока,
Русь раздольная, люблю!

Тая шчодрая прырода,
Той яшчэ не згінуў край,
Што дае з глыбінь народа
Столькі слынных, памятай! —

Добрых і высакародных,
Моцных духам і душой,
Між глухіх, тупых, халодных,
Задаволеных сабой.



Калі дыхне вайны жуда
І множацца ахвяры бою,
Мне друга, жонкі не шкада,
Мне нават не шкада героя...
Паплача жонка да відна,
І друга лепшы друг забудзе;
Ды ёсць яшчэ душа адна —
Яна да скону помніць будзе!
Між нашых крывадушных спраў,
Між рознай пошласці і прозы,
Адны я ў свеце назіраў
Найшчырыя, святыя слёзы —
Няшчасных матак... Дзе ж ён, сын,
Знайшоў навечны свой спачын?
Дзяцей матулям не забыцца,
Як не падняць вярбіне ніцай
Сваіх абніжаных галін...



Радкі мае! Засведчыце, жывыя,
Як шмат праліта слёз!
Вас нарадзіў у хвілі злыя
Нялёгкі лёс.
І ў сэрцы б'ецеся людскія,
Як бураўзняты плёс.

З рускай пераклаў
**Рыгор БАРАДУЛІН.**

## *Навальніца*

Доўга не здвалася Любачка-каханка,
Потым мне шапнула: «У садзе ёсць альтанка.

Як сцямнее толькі — разумееш ты?..»
Я чакаў пакутліва ночкі-цемнаты.

Кроў бурліць у жылах, не дае спакою.
Ды на неба гляну — божа, што такое!?

Неба аблажыла хмарамі кругом...
Дождж паліўся раптам, пракаціўся гром!

Я нахмурыў бровы і пайшоў панына —
«Вось я і сустрэўся са сваёю мілай!

Люба беларучка не прыйдзе, вядома,
Любачка пястуха не выбежыць з дома;

Праўда, ёй не страшнай была б навальніца,
Ды ці ж закахалася моцна чараўніца?..»

Без надзеі, сумны, прыходжу ў альтанку,
Прыходжу і бачу Любачку-каханку!

Прамокла-прастыла, аж ляскаюць зубкі...
Тут не шкадаваў я цяпла для галубкі!

Затое з той ночы хмурны не хаджу я,
Толькі усміхаюся, калі гром пачую...

З рускай пераклаў
**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**





Сяргей ВАРЛАМАЎ,
былы начальнік штаба дыверсійнага партызанскага атрада імя А. Неўскага

# РУДНІЦКІ РЭЙД

Невялікая, на паўтара дзесятка хат, вёсачка Заазер'е ў цэнтры Нарачанскіх лясоў стала нашым домам. Тут базіраваўся наш дыверсійна-падрыўны атрад, створаны па ініцыятыве Вілейскага падпольнага абкома партыі 1 чэрвеня 1943 года.

Камандзірам атрада стаў Мікалай Сцяпанаў, камісарам прызначылі Нікіфара Гашчанку, начальнікам асобага аддзела — Дзмітрыя Захадзякіна.

Стаялі апошнія пагодлівыя дні восені. Сонца, цёплае, але нейкае вялае, падымалася раніцой над Нараччу. У нашым Заазер'і ішла вучоба. Атрад разбілі на групы. Да паходу рыхтавалася першая група атрада. Камандзірам яе прызначылі мяне. За вёскай кожную раніцу старшы лейтэнант Бабравіцкі і капітан Васіленка вучылі палявому бою. Мы са Сцяпанавым «выкладалі» партызанскую тактыку—паводзіны ў начных паходах, пры сутычках, блакадах; прыёмы рукапашнай схваткі.

Хутка выступаць... Паход гэты павінен замацаваць за намі «плацдарм» Віленскага чыгуначнага вузла—Рудніцкія лясы.

Ад Вільні адыходзіла пяць ветак: на Маладзечна, Ліду, Гродна, Каўнас—Рыгу і Даўгаўпілс. Рудніцкая пушча ляжала ў трохкутніку паміж чыгункамі Вільня—Гродна і Вільня—Ліда. Лясы гэтыя густыя, балоцістыя, месцамі непраходныя. З паўночнага ўсходу на паўднёвы захад пушчу перасякае вузкая, месцамі глыбокая, рэчка Мерачанка з дрыгвяністымі берагамі, з буралпмам. Месца вельмі зручнае для дыверсійных груп. За доўгую асеннюю ноч можна было выйсці на любую з пяці дарог—нават за Вільню,— правесці аперацыю і зноў знікнуць у нетрах пушчы. У гэтых лясах здаўна сяліліся літоўскія, беларускія і польскія сяляне. Вёсачкі невялікія, пяць — шэсць хат. Мноства хутароў. У двух мястэчках—Полукнах і Пакрэмпах стаялі паліцэйскія і вайсковыя гарнізоны. Непадалёку ад Пакрэмпаў была запланавана і наша база.

Пад восень 1943 года, калі мы прыйшлі ў гэтыя мясціны, тут ужо дзейнічала некалькі такіх груп, два атрады: «Баявы» і «Грозны» і брыгада Юргіса—літоўскае злучэнне, якое прыйшло з усходу. Базіравалася брыгада ля вёскі Інклерышкі. Старажыламі пушчы былі партызаны атрада «Бацї» — мясцовага васьмідзесяцігадовага старога.

У такіх мясцінах, з такімі суседзямі, маючы ў групе людзей, якія добра ведаюць пушчу, мы і павінны былі разгарнуць баявыя дзеянні, каб паралізаваць работу чыгуначнага вузла Вільні.

Мінуўшы чыгунку, перайшлі па масце рэчку Мерачанку ля вёскі Сорак Татар.

Гадзіны чатыры ішлі мы па лесе, нарэшце, мінулі вёсачку Звярынец і падышлі да месца будучай сваёй базы. Заставалася прабрацца праз балота на выспу. І тут нас кінуў на зямлю ціхі вокліч: «Стой! Хто ідзе?» Зашчоўкалі затворы. Цемра. Напружанне выключнае: хто-небудзь не вытрымае — бой... Адчуваю, у цемры нашы, партызаны. Пачынаю перагаворы. Доўга і асцярожна цягнецца «дыпламатычная» працэдура. Нарэшце, мы сустрэліся з камандзірам групы, якая запыніла нас. Гэта быў Міхаіл Прачуханаў, камандзір спецгрупы. Прывялі нас на «нашу» выспачку — а яна ўжо аказалася занятай: прачуханаўскія хлопцы нядрэнна тут уладкаваліся.

Сустрэлі нас па-сяброўску, дапамаглі абсушыцца, абагрэцца, накармілі. Прачуханаўцы — такая ж група, як і наша, і задачы ў нас такія ж—так мы і засталіся на гэтай выспе.

Выйшлі з зямлянкі. Пад раніцу зямлю прыхапілі першыя замаразкі. Паветра свежае, ядранае. Там, дзе гарэў касцёр, пераліваўся святлом затухаючае вуголле. І раптам у марозным паветры, у гэтай глухой цішы ясна пачулася каманда... на нямецкай мове!

— Немцы?!

— Немцы,— спакойна адказаў Міхаіл.

Я не мог зразумець, чаму ён не падымае людзей.

— Адсюль да гарнізона ў Пакрэмпах каля васьмісот метраў па прамой: балота, лес, Мерачанка — і Пакрэмпы. У ціхія вечары або раніцой чуваць, як яны там паверку робяць, каравул мяняюць. Зараз,— ён глянуў на гадзіннік, — змена...

Міхаіл мне спадабаўся. Вельмі прыгожы — шапка густых, чорных, бы смоль, валасоў, чорныя вочы...

З першага задання вярнулася група Васіленкі.

— У 11.30...— дакладваў капітан,— з жывой сілай... Да фронту не дайшоў!

— Ну, таварыш капітан,— пажартаваў хтосьці,— далі вы нам фору! Цяпер наша чарга.

Гэта так: час уключацца ў баявую работу.

14 лістапада Захадзякін з групай пайшоў на чыгунку Вільня—Гродна. Я са сваёй сямёркай у той жа вечар накіраваўся на «жалезку» Вільня—Каўнас. Кожная група ўзяла з сабою па тры зарады. Мэта паходу — адначасова паралізаваць рух на дзвюх артэрыях, якія звязваюць Вільню з захадам. Дарога да каўнаскай веткі была незнаёмая. Ішлі мы без праваднікá. Перайшлі чыгунку ля станцыі Ліндварава. А ля шашы на Сувалкі давялося доўга ляжаць у канаве: увесь час ішлі матарызаваныя часці. Нарэшце шум матораў сціх. Але толькі мы перайшлі дарогу, як шаша зноў ажыла. Пад раніцу спыніліся на хутары ў нізіне. Днёўка прайшла спакойна.

Пакінулі хутар, калі сцямнела.

У 21.00 на поўнач ад станцыі Рыканты ўзляцеў у паветра цягнік, які ішоў з Вільні на Каўнас. Адыходзілі пад грукат вагонаў, што ляцелі пад адхон.

Наперадзе павінна была хутка паказацца шаша, але яе ўсё не было. Ящчэ крыху — і мы ўткнуліся ў насып. Трэба было хутчэй адыходзіць. Пайшлі ўздоўж дарогі і... выйшлі на месца нашай дыверсіі. Цяпер стала зразумела, што дарога крута забірала ўлева і мы, заблудзіўшыся, зноў прыйшлі да яе. Хутка адыходзім у лес.

Наступнай ночы дачакаліся ў прыбярэжным хмызняку і — зноў на чыгунку. Фашысты паспелі яе ўжо адрамантаваць, і цягнікі адзін за другім ішлі на Вільню. Чыгунка ўзмоцнена патрулявалася. Месца мы выбралі зручнае: высокі насып, абкладзены дзёранам. Доўга ляжалі, цікуючы за патрулямі. У 23.00 на перагоне Ліндварава—Рыканты пад адхон спусцілі яшчэ адзін эшалон. Дзень правялі на беразе Віліі, кіламетры за чатыры ад месца выбуху.

У поўнач зноў на тым жа месцы, дзе і першы раз. Высокі, абкладзены дзёранам насып. Эшалон з аўтамашынамі таксама паляцеў пад адхон.

Відаць, недзе непадалёк была засада: у чорнае неба, ярка асвятляючы наваколле, узляцелі ракеты. Адыходзілі мы на захад у абход Вільні, каб заблытаць сляды. Ішлі ўсю ноч і раніцой былі ўжо на сваёй выспе.

Група Захадзякіна за трое сутак таксама ўзарвала тры эшалоны на ветцы Вільня—Гродна.

Такім чынам, шэсць зарадаў—шэсць эшалонаў ворага. Трое сутак заходні напрамак Віленскага вузла не працаваў.

Жыццё ў лагеры ішло сваім парадкам. Кожную раніцу партызаны рабілі зарадку, мыліся, праводзілі паверку, чысцілі зброю, рыхтавалі зарады. У тыя дні група за групай хадзілі на «жалезку». 18 і 19 лістапада Захадзякін са сваімі «матросамі» ўзарваў два цягнікі на ветцы Вільня—Гродна. 20 і 21—група Васіленкі на тым жа перагоне — яшчэ два эшалоны.

...У зямлянцы цесна: камендант выспы старшына Дубаў, лейтэнант Бабравіцкі, капітан Васіленка, камісар групы палітрук Маркаў, камандзіры груп Пакусаеў, Клотчанка дакладвалі пра падзеі мінулых дзён.

— У ноч на 25 лістапада на перагоне Лесніс—Шкляры ўзарвалі эшалон,— Мікіта Пакусаеў гаворыць павольна, быццам нехаця. — Падманулі засаду...

— У вёсцы? На хутары?

— Не... Ля дарогі. На хутары не заходзілі,— адчуваю, што Мікіта задаво-

лены.— Лес там клінам да палатна падыходзіць. Быццам самае зручнае месца для дыверсіі. Як штосьці штурханула: «Не ідзі туды!» А і сапраўды, думаю, пойдзем да «жалезкі» рэдзенькімі кустамі, а далей — адкрытае, як стол, поле. Але цемра хавае не горш, як лес. А немцы ж днём месца для засады выбіраюць. Вось думаю, калі яны выбралі лес, то і няхай сядзяць там, чакаюць, а мы пойдзем «нязручнай» дарогай. Такім чынам, у 23.00 ірванулі эшалон!..

— Сёння атрыманы даныя праверкі,— дадае Захадзякін.— Цягнік з танкамі і аўтамашынамі.

— Так... Як грымнула на дарозе,— працягваў Пакусаеў,— дык у тым лесе і пачалося: стралялі, як кажуць, з усіх відаў. Там была засада!

— Дазвольце, таварыш камандзір?

—Што ў цябе?

— Ды вось... На базе ўсё нармальна, толькі... новенькі ёсць. Куды яго?

— Што за новенькі?

— Яго Клотчанка прывёў.

— Дакладвайце, лейтэнант Клотчанка, як вы парушылі загад!

— На заданне выйшлі разам з Пакусаевым,— панура пачаў Клотчанка.— Каля Звярынца мы звярнулі да пераезда Клепачы — Рудзішкі. У 23.45 паднялі ў паветра эшалон. Па дарозе назад, пад раніцу, вырашылі абагрэцца ў вёсцы. Гаспадар, дзе мы спыніліся, расказаў, што ў іх хаваецца чырвонаармеец, які ўцёк з палону, і што ён шукае партызан. Ніякіх хітрыкаў у яго расказе я не заўважыў. Пагутарыў з гэтым байцом — Рыбасаў яго прозвішча — і падумаў, што нам жа патрэбны людзі, таварыш камандзір! Вось і прывёў. Здаў Дубаву...

Ён гаварыў, а я думаў пра тое, што пры такім размяшчэнні базы, як у нас, новыя людзі, што прыйдуць у атрад, павінны дзесяць разоў правярацца. Думаў пра тое, што ў Яшунах, непадалёк ад нас, размяшчаецца школа, замаскаваная пад невялікі лагер ваеннапалонных, дзе рыхтуюць агентаў для закідвання ў атрады. Думаў я і пра тое, што ставім пад удар не толькі сябе, але і людзей Міхаіла Прачуханава. Эх, Клотчанка, Клотчанка... Падрыўнік ты выдатны, а вось... Адным словам, ЧП.

— Адкуль гэты Рыбасаў уцёк?

— Кажа, з Германіі.

— Так... Дубаў, не спускаць вачэй з новенькага! Да каравульнай службы і дзяжурстваў не дапускаць.

... *Дзень прайшоў у клопатах.* Дубаў «засакрэціў» узрыўчатку, дзве групы рыхтаваліся да паходу.

Пагутарыў з Рыбасавым. Чалавек як чалавек.

Увечары групы пайшлі на заданне. Адну ўзначаліў Захадзякін, другую — Клотчанка. З ім пайшоў Дубаў. Яны павінны былі вярнуцца гэтай жа ноччу.

Настала раніца. Групы не было. Думаў я, што затрымаліся ў літоўцаў: маршрут ішоў праз базу брыгады Юргіса.

Ледзь толькі сонца выглянула з-за Мерачанкі, начальнік каравула далажыў, што мяне пытаецца начальны камандзіра літоўскай брыгады.

У зямлянку ўвайшоў светлавалосы хлопец у кубанцы.

— Юргіс загадаў перадаць, што, вяртаючыся з задання, ваша група напаролася на засаду. Раненыя вашы ў нашым шпіталі. Іх двое.

— Як гэта здарылася?

— Не ведаю.

— Пачакай пяць хвілін. Зараз пойдзем разам.

Я кінуўся з зямлянкі....

Хутка мы — пяць партызанаў, медсястра Ніна Шабовіч і я ішлі на базу Юргіса.

Клотчанка і Канашэнка, непрытомныя, ляжалі ў зямлянцы.

— Разрыўныя кулі...— растлумачыла сястра-літоўка.— Косці зачапіла ў абодвух, крыві шмат страцілі... Раненні цяжкія.

Ля нараў, дзе ляжалі параненыя, сядзеў Антон Петрушэнка. Ён расказаў нам, як усё здарылася.

Пасля таго, як узарвалі эшалон, вярталіся яны на базу. Нікуды не заходзілі. Ужо блізка ад базы літоўцаў, ля вёскі Ялавец, нарваліся на засаду. Адразу ж, без стогну, упаў старшына Дубаў.

Першымі ж стрэламі былі цяжка паранены Саша Клотчанка і Іван Канашэнка. Упаў Грыша Кульбака. З усёй групы мог абараняцца, рухацца, страляць толькі Антон. Цэлую гадзіну ён адбіваўся ад зграі карнікаў, добра яшчэ, што была ноч.

Стрэлы пачулі літоўцы. Адзін з атрадаў падышоў да месца бою.

— Відаць, гады пачулі, што падмога падаспела. Я не чуў, толькі бачу: штосьці яны перасталі страляць. Думаю — хітрасць. Потым зразумеў — ідуць людзі, шмат людзей. Хто яны? Доўга не падпускаў іх. Усё пытаў, перапытваў... І, здаецца, нават сварыліся. Пахавалі хлопцаў там жа, каля дарогі. *А Івана і Сашу ўзялі сюды. Я тут з імі сяджу...*

З камандзірам літоўскага атрада мы дамовіліся пра тое, што параненыя пабудуць у яго, пакуль іх можна будзе *перавезці на нашу базу. З імі пакінуў* Ніну Шабовіч.

Разам з Антонам Петрушэнкам мы выйшлі да месца начнога бою, да магіл Дубава і Кульбакі. Доўга сталі, зняўшы шапкі... Паклалі на свежыя магілы яловыя галінкі.





У гэту ж ноч на перагоне Клепачы—Рудзішкі ўзляцеў у паветра эшалон. З трыццаці трох платформаў, на якіх стаялі танкі і бронемашыны, дзевятнаццаць апынуліся пад адхонам. Тры вагоны з танкістамі, тэхнікамі, шафёрамі і астатнія платформы налезлі адна на адну і разбіліся. Было знішчана трынаццаць танкаў, семнаццаць бронемашын, трыццаць сем салдатаў і афіцэраў забіта і дваццаць восем паранена. Мы шчасліва вярнуліся на базу літоўскіх партызанаў.

У тую ж ноч група Захадзякіна, *абышоўшы Вільню з захаду, узарвала* састаў з боепрыпасамі, які ішоў на фронт па каўнаскай чыгунцы. Быў разбіты паравоз і 15 вагонаў. Дарога не працавала 16 гадзін. Да базы давялося прабівацца з боем, праз заслон карнікаў. Заняўшы зручную пазіцыю на лясістай сопцы, партызаны ўвесь дзень адбіваліся ад ворага. Ноччу пераправіліся праз Вілію і без стратаў вярнуліся на базу.

...Снежань. Удзень, калі дзьмуў густы заходні вецер і снег «садзіўся» пад нагамі, лес стаў непраходным. Вечарам падмарожвала: памагаў паўночны халодны скразняк. У адзін з такіх вечароў *павёў я* дванаццаць чалавек на дарогу Вільня—Гродна. Такой вялікай кампаніяй нязручна хадзіць на аперацыю: нас лёгка заўважыць.

Але гэты раз я ўзяў «моладзь», якая раней не ўдзельнічала ў такіх дыверсіях: партызанская стажыроўка.

Праваднікам ішоў Барыс Божычка. Лес ён ведаў добра і ноччу бачыў, як кот. Задоўга да поўначы прыйшлі на месца: чыгунка праходзіла па полі, роўным, адкрытым. Непадалёк віднеўся нейкі хутар. Вецер мацнеў, мусіць, пойдзе снег. Гэта добра, замяце сляды. Паляжалі — ні аховы, ні патрулёў. Расставілі пасты. Чакаем.

Была поўнач, калі з боку Гродна пачуўся гул цягніка. Паклалі зарад. Цягнік ужо блізка... Зусім побач... Цяжкі эшалон... Вось паравоз побач з мінай, і... Састаў, грукаючы на стыках, непашкоджаны, шумеў ужо далёка ад месца, дзе незразумела чаму спакойна, быццам звычайны камень, ляжала наша міна. Паўзу да яе. Паўзу і разумею, што паўзу па смерць.

Вось яна! Ляжыць ціха, а ў любую ж секунду... Цёмна. Здымаю кажушок, накрываюся ім і асвятляю ўзрывальнік промнем электрычнага ліхтарыка. Адразу ўбачыў — аж жудасна стала. Спружына ўдарніка была «ўзведзена», нягледзячы на тое, што чака вырвана прайшоўшым цягніком. Што трымае спружыну? Завусеніца? Перакос? Мне горача, вось яна — смерць. Павольна, здавалася, цэлае жыццё адпаўзаю ад міны. Кінуць яе і пайсці? Але ж гэта— варожы эшалон. Узрыўчатку неслі па варожых тылах больш як дзвесце кіламетраў... Трэба здымаць! Сабраў людзей. Растлумачыў.

— Хто здыме ўзрывальнік?

Я ўжо ведаў, што зноў пайду туды, да страшнай міны. Але мне патрэбен памочнік.

Цёмна, ціха. Маўчаць хлопцы.

— Я здыму,— чуецца голас. Гэта Іван Прыдацька.

— Камандзір, я гатовы,— Валянцін Сямёнаў падыходзіць бліжэй.

— Чарку б перад гэтым, але калі няма — можна і так,— Пеця Садоўскі жартуе.

— Ну, Прыдацька, першы назваўся—табе і ісці са мной.

...Вось яна, міна. Прыдацька працуе, а я свячу, захінуўшыся кажушком. Я ўжо другі раз «вітаюся» з мінай, а Прыдацька — упершыню. Калі што, у паветра ўзляцім абодва. Ну, пачалі... Адной рукою прытрымліваючы тол, Прыдацька асцярожна вымае дэтанатар, секунду марудзіць — пачынае выварочваць яго з узрывальніка... Яшчэ імгненне... Ёсць! І ў гэты момант спружына саскочыла і разам з ударнікам скочыла з рук Прыдацькі.

Іван глядзіць на мяне. Мы абодва накрыты кажушком. Стаім на каленях. Ліхтарык усё яшчэ гарыць: я забыўся пра яго.

— Дзве-тры секунды, га? — выцірае пот.— Вясёлая міна нам трапілася, таварыш камандзір...

— Вясёлая, Прыдацька, вясёлая. Калі-небудзь раскажаш — не паверацъ. Добрыя ў цябе рукі, Прыдацька,— тушу ліхтарык, бяру зарад, спускаемся, ідзем да сваіх.

А неўзабаве «вясёлай» мінай на тым жа месцы быў узарваны эшалон, які ішоў з Вільні. Сіла выбуху была такая, што над нашай галавой праляцеў вялізны кавалак катла паравоза. Адыходзілі мы, абгінаючы хутар, што прыляпіўся ля палатна. Праз гадзіну-паўтары спыніліся перадыхнуць. Падыходзіць да мяне Барыс Божычка.

— Дазвольце заўтра даведацца пра вынікі выбуху?

— Як ты гэта зробіш?

— На тым хутары, што ля дарогі, жывуць мая маці і сястра. Яны ўсё будуць ведаць.

Я быў здзіўлены. Што гэта? Маладосць? Бяспечнасць, якая можа дрэнна скончыцца? Такі сур'ёзны, дысцыплінаваны хлопец...

— Як ты мог прывесці нас сюды? Чаму не сказаў пра маці і сястру? Ты ж ведаеш, што немцы зробяць з імі!..

— Прывёў таму, што добра ведаю гэтае месца. Таму, што тут дакладна можна даведацца, колькі фашыстаў пайшло на той свет. Гэта для мяне вельмі важна — ведаць, колькі!

Ён змоўк, адвярнуўшыся. Потым ці-

ха, каб ніхто, акрамя мяне, не чуў, дадаў:

— На гэтым самым месцы фашысты застрэлілі майго бацьку...

А чацвёртай гадзіне мы былі на базе літоўцаў. Праведалі нашых раненых, пачакалі вынікаў разведкі. Барыса я не мог не адпусціць дахаты, толькі паслаў з ім яшчэ двух партызанаў. Позна ноччу яны вярнуліся. Яшчэ раней прыйшла група літоўцаў, яны таксама расказалі пра «наш» эшалон. У ім ехалі са шпіталяў фашысты на адпачынак, у санаторыі... Але на шляху забойцаў стаў беларускі хлопец з ільнянымі валасамі, невысокага росту — Барыс Божычка, і многія з прыблудаў назаўсёды засталіся ў зямлі, на якой прыняў смерць ягоны бацька.

Да поўдня гітлераўцы расцягвалі кранамі патрушчаныя вагоны. Родных Барыса не зачапілі: хутар стаяў далекавата ад паселішчаў, і ніхто не ведаў, што Барыс быў у партызанах.

У ноч з 3 на 4 снежня, паміж станцыямі Веўе і Каўчагоны, група Захадзякіна ўзарвала эшалон. Знішчаны паравоз і 17 вагонаў. Там былі салдаты. Забіта 497, паранена — 328. Дарога была закрыта на 17 гадзін. Захадзякін вярнуўся толькі 6 снежня пад раніцу. Яго было з чым віншаваць.

Перад строем выношу групе падзяку. Настрой ва ўсіх прыўзняты. Адпускаю людзей—няхай адпачнуць.

Узрыўчаткі ў нас засталося на трычатыры аперацыі — і ўсё. Не забываліся мы і пра тое, што базу нашу немцы шукаюць, што сядзім мы, як на бочцы з порахам. Але ў дадзеным выпадку рызыка была апраўданая. Пра гэта гаварылі аперацыі: і наша, і захадзякінская. Пра вяртанне пад Нарач цяпер няма чаго і гаварыць. У пушчы яшчэ не так многа груп, якія займаюцца дыверсіямі. Мы ўсё ж трымаем у напружанні Віленскі вузел. Як жа можна пайсці? Вырашылі з Захадзякіным і камісарам паслаць пад Нарач, у штаб брыгады, невялікую групу на чале з лейтэнантам Бабравіцкім. Няхай аднясуць данясенне пра нашу работу «за справаздачны перыяд», разведданыя, накіды нашых планаў — і дзён праз 15—20 вернуцца сюды або на запасную яўку з інструкцыямі і толам.

А мы пакуль што будзем працягваць тут аперацыі на дарогах і пастараемся здабыць узрыўчатку.

Вось так уяўлялі мы сабе снежань — апошні месяц сорак трэцяга года.

На ўсход ішлі пяцёра партызанаў і медсястра Галя Сіроткіна. Рыбасаў, якога таксама ўключылі ў склад групы, якраз у гэты дзень захварэў.

9 снежня група выступіла ў паход. Мы сказалі ім на дарогу:

— Пакланіцеся ад нас Нарачы!

Ноччу мяне разбудзіў днявальны. Цемра — нічога не бачна. Выкручваю кнот лямпы. Сярод зямлянкі стаіць Бабравіцкі; твар, адзенне, рукі — усё ў крыві.

— Вася?! Што здарылася? Ты паранены?

— Не... Я... людзей страціў, камандзір... Засада.

Вось што адбылося. Мост яны прайшлі ўдала. За паўсотню метраў ад берага быў адхон, парослы лесам і кустамі, наверсе ішла чыгунка. Паміж ракой і адхонам — адкрытае месца, снег. Калі прайшлі палову шляху да дарогі—на іх абрушыўся агонь. Двое партызанаў адразу былі смяртэльна паранены. Бабравіцкі, не бачачы яшчэ параненых, дае каманду адыходзіць да ракі. У гэты момант упала Галя Сіроткіна. Лейтэнант з двума таварышамі адышлі пад бераг Мерачанкі і адкрылі агонь па засадзе. Гэтым яны прыкрылі Сіроткіну, і яна, уся ў крыві, таксама дапаўзла да берага, але адразу ж страціла прытомнасць.

Ледзь адарваліся ад немцаў.

Двое забітых, двое параненых — Галя Сіроткіна ў руку і абедзве нагі разрыўнымі кулямі і адзін партызан — у руку аўтаматнай куляй—такі вынік гэтага няўдалага паходу. Галю, якую нельга было везці, пакінулі на хутары Старыя Мацэлі.

Забітых і параненых на падводзе прывезлі на нашу базу. Раніцой двух сяброў — Малькова і Качаржынскага пахавалі. Усе моўчкі стаялі ля магілы і ўспаміналі, як прыйшлі да нас гэтыя хлопцы. Іх падабрала адна з падрыўных груп пры вяртанні з баявой аперацыі. Сябры прабіраліся на ўсход пасля ўцёкаў з канцлагера. Яны былі больш падобны на прывідаў, чым на людзей. Калі іх пасадзілі ля агню і яны грэлі над ім рукі — рукі свіціліся наскрозь і здаваліся ружавата-жоўтымі... Калі яны ўсміхаліся, мы адварочваліся. Такіх агентамі на засылаюць: яны жылі адной прагай жыцця. Іх паслалі пад апеку старшыны Дубава: на «адкормку». Яшчэ не акрыяўшы, не здольныя да баявой работы, яны былі адпраўлены з Бабравіцкім на базу брыгады — і вось... Іх магіла. Побач высокая сасна. Вымяраем крокамі адлегласць, заносім лічбы: «Ад дарогі столькі метраў, ад леснічоўкі столькі...» Звесткі запісваюцца ў журнале асабовага складу групы — у крайняй графе справа... Родныя будуць ведаць, дзе ляжаць іх сыны, мужы, браты... А калі-небудзь тут паставяць помнік. Бо яны — Малькоў і Качаржынскі — былі салдатамі. Калі-небудзь... Стаім над магілай са знятымі кубанкамі. Маўчым, не салютуем. Страляць нельга — немцы побач.

Пад раніцу наступнага дня вярнуўся з Ліпнякоў Міця Захадзякін. Было яшчэ зусім цёмна, але мы ўжо не спалі: чакалі групу падрыўнікоў з паходу.

У зямлянку спусціўся дзяжурны па лагеры.

— Рыбасава нідзе няма. Яму ў нарад заступаць, бульбу чысціць, а яго няма. Як скрозь зямлю...

— Як няма?! — Міця замёр.— Пайшлі!

Паднялі людзей па трывозе, абшукалі ўсю выспу — знік чалавек. У гэты час адзін з пастоў дакладваў, што затрыманы хлапчук, які просіць «прэндзэй» (хутчэй) правесці яго да «камандзіра Неўскага». Гэта быў трынаццацігадовы сын ліпнякоўскага старасты Адамовіча, які з'яўляўся нашым сувязным.

— Дзядзечка камандзір! Дзядзечка...— загаварыў хлапчук.— Бацька не мог так бегчы, як я... Паслаў мяне наперад... Ён сказаў, што хутка тут будуць немцы... Яшчэ сказаў, каб вы хутчэй адыходзілі...

— А дзе бацька?

— Чакае вас там,— хлапчук махнуў рукой у лес.— Не мог больш бегчы...

— Ты зможаш адвесці нас да яго?

— Вядома, дзядзечка, змагу!

Старасту мы сустрэлі ўжо каля нашага сакрэта.

— Божухна, паспеў! — толькі і вымавіў ён. Цяжка дыхаючы, пачаў расказваць, спяшаючыся, глытаючы словы.

Яму ўчора загадалі ранічкай з'явіцца ў камендатуру Пакрэмпаў. Яго часта выклікалі туды, і гэта не ўсхвалявала старасту. Яшчэ зацемна ён быў у камендатуры. У пярэднім пакоі, дзе звычайна знаходзіўся дзяжурны, нікога не было. Дзверы ў кабінет каменданта былі адчынены. Адамовіч бачыў канапу, на якой сядзелі два нямецкія афіцэры. Відаць было і крэсла, на якім, спіной да старасты, сядзеў чалавек у старым салдацкім шынялі. Абутак яго і вопратка былі ў гразі. Ён гаварыў на рускай мове. Перакладчык, якога не было відаць, перакладаў. Камендант працягнуў таму, хто сядзеў у крэсле, цыгарэту — той закурыў і працягваў расказваць немцам пра атрад імя Неўскага... Пра размяшчэнне, узбраенне, дыверсіі на чыгунках, пра сувязі з мясцовымі жыхарамі, пра тое, што з базы можна выйсці толькі па кладках, што навокал балота... Казаў, што вось ён прайшоў праз тоню таму, што мароз, і што немцам трэба спяшацца.

— Пасля гэты чалавек успомніў пра нейкую партызанку, што ляжыць на хутары. Ну, зразумеў я, што гэта гніда ад вас да немца прыбегла. Выйшаў я ціхенька з камендатуры і бягом да вас,— закончыў Адамовіч свой расказ.

— Дзякуем табе, бацька,— Прачуханаў абняў старога.— Ідзі дахаты, а то спахопяцца. І мы пойдзем. Спяшацца трэба: немцы ў такой справе спрытныя...

— З богам, дзеткі, з богам!

Займаўся ўжо скупы снежаньскі дзень, калі мы падрыхтаваліся да маршу: схавалі ўсё, што не маглі ўзяць, у балоце, падрыхтавалі раненых...

Няўдача з групай Бабравіцкага, уцёкі здрадніка Рыбасава, недахоп толу — усё гэта вымушала нас вяртацца на базу брыгады.

І вось мы на хутары Старыя Мацэлі. Міця толькі два словы сказаў, а гаспадар ужо запрагаў каня. Заскочыў у хату. Галіна ўся ў крывавых бінтах, прыкусціўшы губу, садзіцца, хоча ўстаць—падае, стогне.

Я ўзяў яе на рукі.

— Галя, пацярпі. Немцы, Галя...

Мы былі ўжо ў лесе, калі з пагорка спусціўся да хутара ланцуг гітлераўцаў...

Глухімі ляснымі дарогамі ў абход Ліпнякоў і Звярынца ішлі мы на поўнач да Вільні. Падвечар былі на часовай базе.

Раненых перавязалі і накармілі.

Партызаны спалі. Ціха ў трывожным сне стагнала Галіна. Няхай паспяць яшчэ трохі хлопцы — заўтра цяжкі дзень.

Світала, калі мы былі на захадзе ад вёсак Звярынец, Ліпнякі, Старыя Мацэлі — там начавалі карнікі. Зараз яны ўжо пацягнуліся ланцугамі на ўсход да дарогі Вільня — Ліда і гоняць нас на кулямёты. Не, мы таксама навучаныя. Пусты лес прачэсваеце вы. Праўда, яшчэ можна сустрэцца з адгалоскамі вашай блакады, калі пойдзем на ўсход, але тады мы будзем ужо без раненых. У поўдзень развіталіся з групай Пермякова і Галяй Сіроткінай: яны пойдуць на базу Юргіса.

— Папраўляйся, Галя. Запрашай на вяселле!

Яна квола ўсміхнулася, прашаптала:

— Шчаслівай дарогі! Прывітанне ўсім у Заазер'і...

Немцы крыху запазніліся, і нам удалося абхітрыць іх.

Мы ішлі следам за карнікамі, за іх спінамі, заходзілі на хутары, разведвалі абстаноўку.

...Нас заўважылі, калі мы прабіраліся па хлюпкай халоднай багне да Мерачанкі. З моста цераз раку ўдарыў кулямёт, потым яшчэ адзін, яшчэ...

Галавы не падняць. Маскіруемся высокімі імшыстымі купінамі, ідзём па шыю ў балоце... Да павароту Мерачанкі так і паўзлі па жыжцы — павольна, доўга. Дапаўзлі. Усе — жывыя. За

паваротам ракі нас ужо не відаць— сопка закрывае. Перайшлі Мерачанку па ілістым дне, ломячы лёд. На другім беразе — дробныя кусты, а праз сотню метраў — векавыя сосны. Пушча. Прарваліся! Шлях на ўсход адкрыты. І хоць наперадзе яшчэ вялікая і нялёгкая дарога—дзвесце кіламетраў,— галоўная небяспека ззаду.

Праз некалькі месяцаў — у першы раз, а затым праз шмат гадоў — у другі, я даведаўся, што ўсю нашу групу немцы лічылі знішчанай там, у дрыгве ля Мерачанкі. З моста, адкуль яны вялі агонь, балота здавалася голай роўняддзю: схавацца няма дзе. Яны і не думалі, што мы будзем паўзці па ім, прыкрываючыся купінамі. Так і далажылі начальству: група партызанаў-падрыўнікоў знішчана. Такая ж гісторыя выйшла і з Прачуханавым. Пра яго групу таксама пайшло данясенне: перабіты ў балоце. Такім чынам, ніхто з тых, хто жыў на сопцы, не выратаваўся. Так лічыў і Рыбасаў.

Мы вярнуліся ў Заазер'е.

Выстраіліся ля хаты, дзе размяшчаўся штаб атрада. Рапарт прымае Мікалай Сцяпанаў і новы камісар Іван Гукаў.

— Таварыш камандзір, група ў складзе 36 чалавек вярнулася на базу атрада...

●

Час аддаліў ад нас вайну на чвэрць стагоддзя. У нас дзеці выраслі, і ў дзяцей нашых — дзеці... Паехалі мы з дачкой Наташай на адкрыццё Хатыні—і бачыў я, як глядзіць яна на жахлівыя трубы — шкілеты спаленай вёскі, як слухае званы... І ўспомніў я 1941 год... І канцлагеры. Успомніў Барыса Божычку, «Бацю», Юргіса...

А зараз крыху пра лёс тых, з кім сустракаўся чытач у гэтых запісах.

Камандзір нашага атрада Мікалай Сцяпанаў пасля вайны працаваў начальнікам цэха суднабудаўнічага завода ў Ленінградзе. У 1968 годзе ён памёр.

Юргіс (сапраўднае прозвішча камандзіра брыгады літоўскіх партызанаў, якія ваявалі з намі плячо ў плячо, Генрых Зіманас) працуе ў Вільнюсе рэдактарам рэспубліканскай газеты «Ціеса».

Міхаіл Прачуханаў таксама жыве ў Вільнюсе. Працуе намеснікам міністра ўнутраных спраў Літвы.

У начным баі пад Аранамі (цяпер Варэна) мы страцілі мужнага хлопца Барыса Божычку. Пры злучэнні з часцямі Савецкай Арміі старшы лейтэнант Васіль Бабравіцкі стварыў каманду і, стаўшы на чале яе, пайшоў з войскамі біць фашыстаў да пераможнага канца.

— Пасля вайны ўбачымся! — махнуў ён мне. Не ўбачыліся, і які яго лёс — не ведаю.

Пра Рыбасава трэба расказаць асобна.

У 1947 годзе прыйшлі да мяне два чалавекі. Адрэкамендаваліся: супрацоўнікі дзяржбяспекі.

— Мы ведаем, што вы партызанілі ў лясах пад Вільняй. Ці помніце вы чалавека па прозвішчы Рыбасаў?

— Здрадніка Рыбасава, хочаце сказаць?

— Гэта патрабуе доказаў.

— Калі ласка,— і я паказаў ім запісы ў журнале атрада, які я вёў там, на выспачцы ля Пакрэмпаў, старонкі майго дзённіка, дзе апісаны падзеі тых дзён.

Чэкісты падзякавалі мне і пайшлі.

У адзін з летніх дзён 1958 года мяне выклікалі ў Камітэт дзяржбяспекі і паклалі перада мною тры фотаздымкі.

— Гэта Рыбасаў,— паказаў я на адзін з іх: я пазнаў яго адразу.

Аказваецца, ён доўга хаваўся і нарэшце вынырнуў у Кіеве, дзе прыйшоў у адпаведныя органы і запатрабаваў даведку пра тое, што ў часе вайны быў партызанам атрада імя Аляксандра Неўскага. Ён сцвярджаў, што атрад у выніку здрады быў поўнасцю знішчаны ў балотах ля гарнізона ў Пакрэмпах. Ён, як і фашысты, што расстрэльвалі нас тады на балоце, думаў, што мы ўсе загінулі. Але Рыбасаў зрабіў яшчэ адну памылку. Усе партызаны дыверсійнай групы на выспе называлі мяне «камандзірам». Я і быў камандзірам групы і начальнікам штаба атрада. Гэтага здраднік не ведаў. І калі там, у Кіеве яго спыталі, хто камандаваў атрадам імя Аляксандра Неўскага, ён назваў мяне... Пакуль разматвалі гэту нітачку — прайшлі гады. Але здраднік не мінуў кары.

...Зусім нядаўна сабраліся мы ўсе— партызаны брыгады імя Варашылава— на сустрэчу ў Мінску. Прыйшоў і былы сакратар Вілейскага падпольнага абкома партыі Іван Фролавіч Клімаў.

Гаварылі, успаміналі. Потым хадзілі па вячэрнім Мінску. Я думаў пра дачку, пра моладзь, пра будучыню...

**Літаратурная апрацоўка Навума ЦЫПІСА.**



# САМЫЯ ЮНЫЯ

1927 год для працоўных Заходняй Беларусі быў трывожны, цяжкі. Ён пачаўся незвычайным наступам акупантаў. У ноч з 14 на 15 студзеня, акурат у той час, як працоўныя па старым звычаі спраўлялі Новы год, урад Пілсудскага прыступіў да масавых арыштаў грамадаўскага актыву. А ў сакавіку 1927 года Грамада была абвешчана нелегальнай арганізацыяй. Бацькі, браты, родныя многіх дзяцей піянерскага ўзросту былі таксама арыштаваны. Але не страх і не спалох авалодаў імі, не слязьмі горычы і адчаю напоўніліся іх вочы. Горкая крыўда, боль і нянавісць да акупантаў зрабіла іх не па гадах сур'ёзнымі і сталымі. Пры сустрэчах і размовах са старэйшымі яны кляліся адпомсціць акупантам. І гэта былі не проста словы. Жыццё паказала, што дзеці працоўных могуць рабіць вялікія справы.

З 28 жніўня па 4 верасня 1927 года ва ўсіх краінах праводзіўся Чырвоны дзіцячы тыдзень. Апошні дзень яго супадаў з Міжнародным юнацкім днём. МЮД, як вядома, у тыя гады праводзіўся штогод у першую нядзелю верасня. Камсамольцы Заходняй Беларусі мелі тады багаты вопыт у наладжванні масавых выступленняў моладзі пры святкаванні МЮДа.

28 жніўня, у першы дзень Чырвонага дзіцячага тыдня, моладзь і дзеці збіраліся на масоўкі, мітынгі. Спявалі рэвалюцыйныя песні, пратэставалі супраць белага тэрору і патрабавалі ўвядзення закона аб ахове дзіцячай працы, бясплатнай школы на роднай мове, бясплатнага забеспячэння школьнымі прыладамі. Адначасова была распаўсюджана адозва ЦК КСМЗБ, у якой гаварылася: «...Дзеці працоўных ледзь жывуць, яны галадаюць. Беспрытульнасць, якая ўвесь час узрастае, аддае дзесяткі тысяч дзяцей ва ўладу вуліцы, асуджае іх на хваробы і смерць. Восемдзесят працэнтаў пралетарскіх дзяцей хварэюць туберкулёзам. Пры дапамозе штыка і нагайкі польскія капіталісты і памешчыкі імкнуцца выхаваць дзяцей у духу рабскага падпарадкавання, у духу польскай буржуазнай дзяржаўнасці. Беларускія школы закрываюцца, беларуская мова праследуецца. Настаўнікі-беларусы заменены палякамі. У школах пануе самаўпраўства настаўніка над вучнямі. У якасці метаду «выхавання» прымяняюцца бясссэнсавыя пакаранні, а часам і пабоі»...

Адозва заканчвалася заклікам да дзяцей:

«Уступайце ў дзіцячыя камуністычныя групы!»

1 верасня пачаўся новы навучальны год. Камсамольцы праводзілі з дзецьмі гутаркі пра Чырвоны дзіцячы тыдзень, пра тое, як жывуць і вучацца дзеці ў Савецкім Саюзе, пра стварэнне дзіцячых камуністычных груп у Заходняй Беларусі. Потым пачалі наладжваць сходы, масоўкі па класах, чытаць са школьнікамі адозвы ЦК КСМЗБ, развучваць песні савецкіх піянераў. А калі надышло 4 верасня — дзень МЮДа, камсамольцы змаглі так арганізаваць сваю работу з моладдзю і дзецьмі, што ў Вільні, напрыклад, 80 працэнтаў рабочай моладзі не выйшла на работу, абвясціўшы аднадзённую забастоўку. На многіх фабрыках Беластока юнакі і дзяўчаты таксама баставалі. На вуліцах гарадоў і мястэчкаў, а таксама ў вёсках у гэты дзень было надзвычай шумна і весела. Дзеці хадзілі вялікімі групамі, спявалі песні, вывешвалі транспаранты, на платах і сценах дзяржаўных будынкаў расклейвалі адозвы ЦК КСМЗБ пра Чырвоны дзіцячы тыдзень. Як толькі паблізу паяўлялася паліцыя, рабяты імгненна знікалі і праз некалькі хвілін паяўляліся ў другім месцы. За час Чырвонага дзіцячага тыдня камсамольскія арганізацыі выявілі актыўных рабят і стварылі з іх першыя дзіцячыя камуністычныя групы. Але гэта не была яшчэ піянерская арганізацыя.

Кіраўніцтва КПЗБ станоўча ацаніла стварэнне дзіцячых камуністычных груп і адначасова абавязала ЦК КСМЗБ, нізавыя партыйныя арганізацыі быць уважлівымі да гэтых груп, абагуліць практыку іх работы і прыступіць да арганізацыйнага афармлення піянерыі.

Ініцыятыву ў стварэнні першых піянерскіх атрадаў узялі на сябе віленскія камсамольцы. У малодшых класах беларускай гімназіі яны арганізацыйна аформілі піянерскія атрады. З канспіратыўных меркаванняў гэтыя атрады аб'ядноўвалі ўсяго па 5—7 чалавек.

Піянеры і камсамольцы разгарнулі вялікую растлумачальную работу сярод навучэнцаў пра годнасць і гонар свайго народа, пра яго правы быць свабодным, карыстацца роднай мовай ва ўсіх дзяржаўных установах, мець школы на роднай мове, мець светлую шчаслівую будучыню. Разам з тым яны распачалі выданне літаратурнага часопіса «Золак». Членам рэдкалегіі гэтага часопіса быў прызначаны піянер Валянцін Таўлай.

Часопіс адразу заваяваў сярод навучэнцаў вялікі аўтарытэт. Вакол яго згуртаваліся амаль усе гімназісты. Усім ім падабалася тое, што часопіс паказваў шлях да

шчасця і свабоды прыгнечанага народа, заклікаў навучэнцаў да барацьбы з акупантамі.

Не да спадобы прыйшлося гэта толькі дырэктару гімназіі Астроўскаму. Ён забараніў выдаваць часопіс «Золак». Аднак камсамольцы і піянеры не спынілі рэвалюцыйную дзейнасць. Яны адразу ж прыступілі да выдання новага часопіса — «Пралескі». Па сутнасці, зменена была толькі назва часопіса, а яго палітычная накіраванасць засталася ранейшай. Астроўскі гэта заўважыў і «Пралескі» таксама забараніў выдаваць. Але гімназісты не здаваліся. Параіўшыся з кіраўніцтвам камсамольскай арганізацыі Вільні, яны пачалі выдаваць газету «Вучнёўскі голас». Рэдактарам гэтай газеты выбралі Валянціна Таўлая.

Тым часам становішча ў краіне яшчэ больш ускладнілася. Рэпрэсіі і праследаванні супраць камуністаў, камсамольцаў узмацніліся. «Вучнёўскі голас» хоць і асцярожна, але паслядоўна выкрываў палітыку акупантаў у Заходняй Беларусі». Тады Астроўскі і прымяніў сілу свае ўлады. Ён ужо не толькі забараніў выданне «Вучнёўскага голасу», але спыніў работу ўсіх вучнёўскіх гурткоў самадзейнасці, а кіраўнікоў іх — пераважна камсамольцаў выключыў з гімназіі. Паліцыя толькі і чакала гэтага. Яна адразу ўсіх выключаных з гімназіі арыштавала і пасадзіла ў турму.

Рэпрэсіі, якія былі прыменены да камсамольцаў-гімназістаў, выклікалі ўсеагульнае абурэнне не толькі сярод навучэнцаў гімназіі, але і ва ўсёй Заходняй Беларусі. Піянеры старэйшага ўзросту ў адказ на рэпрэсіі ўступалі ў рады камсамола і бралі на сябе выкананне абавязкаў арыштаваных камсамольцаў. У ліку іх быў і Валянцін Таўлай. Ён напісаў паэму, прысвечаную Грамадзе, і назваў яе «Непераможная».

Напал класавай барацьбы ў краіне ўсё больш узрастаў. Актыўнасць дзяцей і моладзі таксама мацнела. У жыцці Віленскай беларускай гімназіі адлюстроўвалася ўсё тое, што адбывалася ў той час у Заходняй Беларусі. Каб зламаць рэвалюцыйны настрой вучняў і выхаваць з іх пакорлівых слуг акупантаў, Астроўскі пачаў вымагаць халуйскага падпарадкавання. У сістэму школьнага жыцця ён пачаў уводзіць практыку фізічных пакаранняў, зняваг, прыніжэння.

Навучэнцы не маглі прымірыцца з гэтым. Яны збіраліся на сходы і рашуча пратэставалі супроць фашызацыі школы. З канспіратыўных меркаванняў на сходах ва ўсіх класах, у тым ліку і ў старэйшых, з прамовамі выступалі піянеры. Рабілася гэта для таго, каб увесці ў зман Астроўскага і ўберагчы камсамольцаў ад магчымых арыштаў.

Тым часам акупацыйныя ўлады ўзмацнілі рэпрэсіі. Яны забаранілі скліканне з'езда ТБШ. У адрас віленскага ваяводы пасылаліся пратэсты працоўных. Вучні беларускай гімназіі ў снежні 1928 года таксама выступілі з пратэстам. Як толькі пра гэта даведаўся Астроўскі, ён адразу звярнуўся ў кураторыум з просьбай дапамагчы яму навесці парадак і выклікаў у гімназію паліцыю.

Па баявой трывозе прымчаўся атрад паліцэйскіх. У некаторых класах яшчэ праходзілі вучнёўскія сходы. Паліцэйскія з лютай нянавісцю накінуліся на вучняў, пачалі іх тузаць, біць. Вучні, у сваю чаргу, вымушаны былі бараніцца: кідалі ў паліцэйскіх кнігамі, аблівалі іх чарнілам. Скончылася ўсё тым, што па загадзе кураторыума гімназію закрылі «на канікулы», 27 чалавек — арганізатараў пратэсту — выключылі з гімназіі, а ўсіх астатніх паліцыя на этапе накіравала дадому і здала пад распіску бацькам.

Пасля «канікулаў» піянеры старэйшага ўзросту адразу ўступілі ў камсамол і ўзялі на сябе абавязкі арыштаваных камсамольцаў. Было вырашана правесці забастоўку пратэсту супроць фашызацыі гімназіі з патрабаваннем вызваліць з турмы кіраўнікоў Грамады і арыштаваных гімназістаў.

Забастоўку прызначылі на 27 лютага 1929 года. І гэта невыпадкова. 28 лютага павінна было адбыцца пасяджэнне апеляцыйнага суда ў Вільні па справе асуджаных кіраўнікоў Грамады, і КПЗБ, КСМЗБ у сувязі з гэтым наладжвалі масавыя выступленні працоўных з патрабаваннем вызвалення грамадаўцаў. Вучні Віленскай беларускай гімназіі палічылі сваім ганаровым абавязкам прыняць актыўны ўдзел у барацьбе за вызваленне кіраўнікоў Грамады і сваіх арыштаваных таварышаў.

І вось надышло 27 лютага. Гімназісты прыйшлі на заняткі без кніг і намнога раней, чым заўсёды. Адбыліся кароткія масоўкі ва ўсіх класах, а пасля загучалі рэвалюцыйныя песні. Калі песні заціхалі, чуліся гнеўныя прамовы піянераў. Пасля кожнага выступлення грымела шматгалосае «ўра!» і заклікі: «Слава кіраўнікам Грамады!», «Слава арыштаваным змагарам за свабоду і шчасце беларускага народа!», «Далоў белы тэрор!». Тут жа прымаліся рэзалюцыі пратэсту.

Астроўскі на гэты раз рабіў выгляд, што не звяртае ўвагі на ўсё гэта. Але як толькі «тройка» — Валянцін Таўлай, Юра Тарасюк і Мікола Гаўрылюк — разам з прадстаўнікамі ад кожнага класа прынеслі яму рэзалюцыі пратэсту і сказалі:

— Патрабуем аднаўлення ў правах выключаных гімназістаў і вызвалення іх, а таксама вызвалення кіраўнікоў Грамады,— крыкнуў:

— Вон!.. Ваша справа вучыцца, а не палітыкаваць!.. Вон! — і загадаў даць званок на ўрок.

— Пратэстуем супроць фашызацыі гімназіі... У знак пратэсту аб'яўляем забастоўку,— адказалі яму дэлегаты. У падтрымку ім загучалі песні. А на вуліцы ў гэты час пачалася масавая дэманстрацыя працоўных Вільні. Гімназісты адразу ж накіраваліся на вуліцу і далучыліся да дэманстрантаў.





— Бунтаўшчыкі!.. Я знайду на вас управу... Я пакажу вам і забастоўку, і дэманстрацыю,— з нянавісцю шыпеў наўздагон ім Астроўскі. У гімназію па яго просьбе зноў прыбыла паліцыя. На гэты раз яна арыштавала 47 гімназістаў.

Піянерскія атрады ў той час дзейнічалі таксама ў Беластоку, Гродна, на Брэстчыне, Слонімшчыне. У многіх населеных пунктах існавалі дзіцячыя камуністычныя групы. Да камуністаў і камсамольцаў дзеці адносіліся з асаблівай павагай: ахвотна выконвалі іх даручэнні, арганізоўвалі выступленні супраць настаўнікаў-паланізатараў. Вялікую цікавасць яны праяўлялі да сем'яў палітзняволеных, наведвалі іх родзічаў, дапамагалі ўбіраць ураджай, актыўна змагаліся супроць тайных агентаў паліцыі — канфідэнтаў. На варотах і хатах, дзе тыя жылі, пісалі дзёгцем: «Тут жыве паліцэйскі сабака — здраднік народа». Здараліся выпадкі, калі дзяцей арыштоўвала паліцыя.

Асноўным асяродкам піянерскай работы ў тых умовах быў піянерскі гурток, які ў пэўнай меры можна было параўнаць са звяном савецкіх піянераў. Піянерскія гурткі ствараліся па тэрытарыяльна-вытворчым прынцыпе. Гурток аб'ядноўваў дзяцей-падлеткаў пэўнай фабрыкі, вуліцы, вёскі, школы і нават класа. Да кожнага такога гуртка прымацоўваўся камсамолец. Усёй піянерскай работай кіраваў аддзел піянерскай работы раённага, гарадскога, акруговага камітэта.

У пачатку 1929 года камсамол Польшчы і Заходняй Беларусі разгарнуў работу па падрыхтоўцы да Міжнароднага дзіцячага тыдня, які праводзіўся з 15 па 21 мая. У адозве ЦК КСМЗБ, якая была прысвечана гэтаму Тыдню, гаварылася:

«...Міжнародны дзіцячы тыдзень — гэта тыдзень барацьбы за лепшае становішча дзяцей працоўных; тыдзень барацьбы з мілітарызацыяй і фашызацыяй моладзі і дзяцей; тыдзень прапаганды і папулярызацыі піянерскай арганізацыі; тыдзень вярбоўкі дзяцей у піянеры, узмацнення работы піянерскіх атрадаў».

Вынікі гэтага Тыдня пераўзышлі ўсё, што ад яго чакалася. Піянерскія атрады былі створаны пры многіх камсамольскіх ячэйках.

Народжаныя ў агні жорсткіх класавых баёў, піянерскія атрады выхоўвалі ў сваіх радах надзейных і баявых памочнікаў камсамола і партыі. І хаця яны па сваім складзе былі яшчэ маладзі, але ўяўлялі сабой баявыя адзінкі, якія захоўвалі строгі парадак і дысцыпліну.

У 1930 годзе ў Вільні выйшаў першы нумар піянерскай газеты «Сцяг піянера». У артыкуле «Ад рэдакцыі» гаварылася: «Сцяг піянера» ў нас будзе іскрынкай вялікага настаўніка пралетарыяту ўсяго свету — Леніна. «Сцяг піянера» будзе дапамагаць усім піянерам у іх цяжкай працы»...

У артыкуле «Раўняйцеся на баявыя выступленні віленскіх піянераў» расказвалася пра тое, што 3 чэрвеня 1930 года ў горадзе Вільна, ля будынка Лукішскай турмы, піянеры наладзілі масоўку. У ёй прымалі ўдзел дзеці працоўных Вільні, у тым ліку і тыя, бацькі, браты і сёстры якіх знаходзіліся ў турме за рэвалюцыйную работу. У часе масоўкі яны ўзнялі перад будынкам турмы чырвоны сцяг і крычалі: «Аддайце нашых матак! Аддайце нашых бацькоў! Далоў буржуазію і ўладу, якая забірае ў нас бацькоў!»

Атрад паліцыі разагнаў масоўку. Многія дзеці былі збітыя, а 10 хлапчукоў і дзяўчынак ад 7 да 14 гадоў паліцыя схапіла і кінула ў турму.

Піянерскі рух у Заходняй Беларусі рос і пашыраўся. У жніўні 1931 года ў бюлетэні ЦК КСМЗБ паведамлялася:

«...17 ліпеня ў вёсцы Славацічы на Брэстчыне адбылася дэманстрацыя піянераў. Дэманстранты — калона дзяцей са спяваннем рэвалюцыйных песень прайшлі па ўсёй вёсцы. Дэманстранты выкрыквалі лозунгі: «Далоў урад Пілсудскага — урад вайны, голаду і грабяжу працоўных! Няхай жыве Радзіма вялікага Леніна — краіна Саветаў! Баявое прывітанне піянерыі Савецкага Саюза! Няхай жыве КПЗБ і КСМЗБ!» 18 чэрвеня ў Славацічах адбыўся злёт піянераў, на які прыбылі піянеры з усяго раёна, за выключэннем асобных вёсак. З аднаго толькі Дамачова прыбыло 60 піянераў».

Злёт піянераў ва ўмовах падполля — падзея вялікай важнасці. Яго рыхтавалі камсамольцы. Наогул такія злёты скліkаліся ў выключных выпадках, для азнаямлення дзяцей з важнымі пастановамі партыі і камсамола пры строгім захаванні ўсіх правіл канспірацыі.

Характэрна для піянераў Заходняй Беларусі і такая дэталь: пры першай жа сустрэчы яны неяк, па ўласцівай толькі ім інтуіцыі, беспамылкова пазнавалі адзін аднаго.

— На акупанта! — ускінуўшы над галавой сціснуты кулачок, урачыста вітаўся адзін.

— Заўсёды гатовы, на акупанта! — з такой жа ўрачыстасцю і бадзёрасцю адказваў другі.

Піянеры трыццатых гадоў!

Самыя юныя змагары ў арміі падпольшчыкаў! Не па ўзросце сур'ёзныя, асцярожныя, босыя, у лахманах, галодныя — дзеці гарадской і сельскай беднаты. Хоць і незайздросны мелі яны выгляд, але якім агеньчыкам гарэлі іх вочы! Яны заўсёды спявалі:

Ленін — пароль.
Лозунг — Савет.
І рэвалюцыя — наш маршрут!

Піянеры Слонімшчыны пачалі выдаваць у вёсцы Мелькановічы сваю газету «Піянер». Матэрыялы рыхтавалі тры хлопчыкі з гэтай вёскі: Валодзя Бялько, Піліп Маркевіч і Антон Бішкарэвіч. Адказным рэдактарам газеты быў Валодзя Бялько. Усёй істотай ён цягнуўся да ведаў. У 1929 годзе яго выключылі з Віленскай гімназіі, але Валодзя працягваў працаваць самастойна. Ён вывучаў геаграфію, прыродазнаўства, захапляўся мастацкай літаратурай, пісаў вершы. Лепшыя з іх змяшчаў у газеце «Піянер».

Пісалі газету ад рукі, а потым размнажалі на шапірографе. Так цягнулася некалькі гадоў, і паліцыя ніяк не магла даведацца, дзе і кім газета выдаецца.

Вясной 1932 года ў вёсцы Мелькановічы быў забіты правакатар. Паліцыя арыштавала групу падлеткаў. Іх падазравалі ў забойстве правакатара. У ліку арыштаваных былі Валодзя Бялько, Піліп Маркевіч і Антон Бішкарэвіч. Паліцэйскія здзекаваліся з арыштаваных падлеткаў, але іх прыналежнасць да забойства не была ўстаноўлена. На другі дзень пасля вызвалення піянераў выйшаў наступны нумар газеты «Піянер». Там паведамлялася: «Рука рэвалюцыйнага правасуддзя прыбрала правакатара. Так будзе з кожным, хто пасмее выдаць у рукі катаў каго-небудзь з лепшых сыноў і дачок беларускага народа».

Увосень таго ж года паліцыя зноў схапіла Валодзю і кінула ў турму. Праз два месяцы ён выйшаў на волю, але нечалавечыя здзекі, катаванні падарвалі яго здароўе. Неўзабаве Валодзя памёр. Паліцыя забараніла моладзі прыняць удзел у пахаванні юнака.

Дзеці і моладзь цяжка перажывалі смерць свайго любімага сябра і таварыша. Уначы яны сабраліся на могілках, на свежую магілу паклалі вянкі, кветкі і правялі масоўку. Дзеці кляліся адпомсціць фашыстам, давесці да пераможнага канца тую справу, якой самаадданa служыў Валодзя.

Гаворачы пра баявы шлях слаўных юнакоў — членаў рэдкалегіі газеты «Піянер», нельга не сказаць пра іх кіраўніка, стваральніка піянерскай арганізацыі — Ваню Дабрыяна. Ён таксама вырас у камсамольскага важака-падпольшчыка. У 1932 годзе на яго долю выпала кіраўніцтва райкомам камсамола, а ў 1933 годзе ён стаў сакратаром Слонімскага акружкома камсамола. Паліцыя напала і на яго след. Дабрыян вымушаны быў перайсці на нелегальнае становішча. Затым нейкі час працаваў сакратаром Навагрудскага акружкома камсамола. Сваёй упартасцю, мужнасцю, самаадданасцю і настойлівасцю ў рабоце Іван Дабрыян заваяваў вялікі аўтарытэт і павагу ў камсамоле і партыі Заходняй Беларусі. Яго вылучылі ў члены ЦК КСМЗБ, абралі дэлегатам II з'езда КПЗБ. Аднак горкі лёс падпольшчыка не абышоў і яго. Фашысты кінулі Івана Дабрыяна ў турму. Гэта быў страшны час. Урад Славой-Складкоўскага па прыкладзе Гітлера ажыццяўляў палітыку фізічнага знішчэння камуністаў. Пакутліва марна цягнуўся час у турме.

Але вось надышоў 1939 год... Фізічна знясілены Іван Дабрыян — на свабодзе, і ён адразу ж уключаецца ў барацьбу за ўстанаўленне новага парадку ў вызваленай роднай краіне. Народ аказвае яму высокае давер'е, выбірае дэпутатам Народнага Сходу ў Беластоку. Забыўшыся пра ўсе свае хваробы, Іван Дабрыян аддае ўсе сілы стварэнню органаў Савецкай улады на Слонімшчыне. А калі над краінай узнялося полымя Вялікай Айчыннай вайны, былы арганізатар піянераў стаў арганізатарам партызанскага атрада імя Дзяржынскага. Уся баявая дзейнасць атрада імя Дзяржынскага непасрэдна звязана з яго арганізатарам — Дабрыянам, нязменным камісарам гэтага атрада.

Піянеры Заходняй Беларусі былі ў слаўнай баявой арганізацыі. Яны хадзілі няходжанымі сцежкамі, дапамагалі камсамольцам рыхтаваць забастоўкі і дэманстрацыі. Масавымі выступленнямі піянеры на справе даказалі, што з'яўляюцца надзейнай зменай камсамола.

**Сяргей АНІСАЎ.**



● **Юры ТАПАРАШАЎ**

# ТРЭЦІ БОК ТРОХКУТНІКА

## ГІСТОРЫЯ АДНАГО ЗЛАЧЫНСТВА

Відаць, гэта і ёсць месца здарэння, — сказаў шафёру капітан Хаменка і паказаў у бок аднаго з гаражоў. — Пад'язджай прама туды...

Каля расчыненых насцеж варот стаялі людзі. Мяркуючы па жэстах, яны ажыўлена размаўлялі. Але, заўважыўшы міліцэйскі газік, нібы па камандзе спынілі гаворку.

Капітан лёгка саскочыў з прыступкі і падышоў да гаража.

— Добры дзень, таварышы. Што тут здарылася?

Ад групы аддзяліўся мужчына і падышоў да Хаменкі. Глянуўшы на яго, на разгублены твар, нейкую ненатуральна мітуслівую паходку, капітан здагадаўся: пацярпеўшы. І не памыліўся.

— Добрай раніцы, таварыш... — мужчына асекся, не ведаючы, як назваць работніка міліцыі, што стаяў перад ім.

— Інспектар крымінальнага вышуку капітан Хаменка...

— Гамянюк, — працягнуў руку мужчына, — Іван Канстанцінавіч. Добра што вы прыехалі. Дарэчы, прабачце, я зусім не тое кажу, — махнуў ён рукой: — Усё пераблыталася ў галаве...

— А вы пачніце спачатку, — параіў капітан. — І давайце падыдзем да гаража. Туды ніхто не заходзіў?

— Не-не! — энергічна пакруціў галавой Гамянюк. — Праўда, я зайшоў, але да машыны не дакрануўся...

Капітан пахвальна кіўнуў галавой, затым павярнуўся ў бок газіка, дзе стаялі яшчэ двое ў цывільным. Аднаму з іх, які трымаў у руках невялікі цёмна-карычневы чамадан, ён зрабіў запрашальны жэст рукой:

— Пачнём агляд. Падрыхтуй фотаапарат і ўсё астатняе. А вы, Уладзімір Міхайлавіч, — звярнуўся Хаменка да другога, — агледзьце ўсё каля гаражоў. Хады, выхады, пад'езды. Ды і як там у суседнім двары... Пайшлі!

— Вось ён, мой «масквіч», — сумна сказаў Гамянюк, спыніўшыся ля ўваходу ў гараж. — Што нарабілі, нягоднікі! Зусім раздзелі машыну...

— Та-ак, — спачувальна працягнуў капітан, разглядаючы машыну з голымі дыскамі. — Гума новая была?

— Амаль новая, таварыш капітан. Ды не толькі гуму сцягнулі. Відаць, знаёмыя з аўтамабілем — ведалі, што браць...

Пакуль яны гутарылі, спадарожнік капітана, эксперт-крыміналіст, раскрыў свой чамадан, дастаў фотаапарат, успышку, нейкія прабіркі, пэндзлікі. Некаторы час ён чараваў ля замка, разглядаў праз лупу невялікую ўмяціну на варотах. Пасля павярнуўся да Хаменкі.

— Элементарны ўзлом,— сказаў ён. — Хутчэй за ўсё — манціроўкай. Умелая работа. Пачнём агляд машыны?

Капітан кіўнуў, і яны ўвайшлі ў гараж. Унутры было даволі светла — летні дзень пачынаўся з цёплай сонечнай раніцы. Інспектар паволі хадзіў па гаражы, задаючы часам гаспадару машыны пытанні аб прыналежнасці той або іншай дэталі, інструмента, зашмальцаванага адзення. Не выключана, што зладзеі маглі, спяшаючыся, што-небудзь згубіць. Але пацярпеўшы ўпэўнена пазнаваў усё — усё было яго.

— Чыста зроблена, — падвёў вынік Хаменка.— Ніякіх слядоў...

— Не, сёе-тое, здаецца, ёсць,— пачуўся голас з-за багажніка: — Падыдзіце сюды, таварыш капітан!..

Прысеўшы ля задняга бампера, крыміналіст асцярожна вадзіў шырокім мяккім пэндзлем па нікеляванай паверхні.

— Пальцы? — коратка спытаў інспектар.

— Далонь,— гэтак жа коратка пацвердзіў эксперт.— Даволі вялікі ўчастак. Папілярныя лініі адбіліся выразна. Зараз перанясу на плёнку...

— Вы зможаце пад'ехаць з намі ва ўпраўленне? — спытаў Хаменка пацярпеўшага. — Там у спакойнай абстаноўцы пра ўсё раскажаце. Трэба будзе ўсё запісаць.

Гэты крадзеж аўтамабільных частак быў не першы ў горадзе. Літаральна два дні назад аператыўнікі выязджалі на палігон аўтагонак на Лагойскі тракт. Там здарылася штосьці небывалае і малазразумелае. Прачнуўшыся ўранні, гоншчыкі ўбачылі, што ад васьмі «масквічоў» і «волгаў» зніклі колы. Агледзеўшыся, сёй-той не далічыўся і сваіх рэчаў: прапалі чамаданы, касцюмы, абутак, дакументы...

Яшчэ некалькі падобных крадзяжоў было зарэгістравана ў розных раёнах Мінска раней. Па метадах, часе (рабіліся яны ўначы) усе гэтыя злачынствы нагадвалі адно другое. У аддзеле крымінальнага вышуку ўпраўлення ўнутраных спраў г. Мінска прыйшлі да думкі: працуе адна і тая ж група. Весці гэтую справу даручылі Васілю Фёдаравічу Хаменку, далучыўшы да яго намесніка начальніка аддзялення крымінальнага вышуку Ленінскага райаддзела ўнутраных спраў Уладзіміра Міхайлавіча Ахрамяню і інспектара гэтага ж аддзялення Пятра Іванавіча Шапарава. Усе трое — вопытныя работнікі вышуку, яны добра ведаюць звычкі аматараў да чужога дабра. Але пакуль што яны не маглі пахваліцца поспехам. Папка напаўнялася ўсё новымі рапартамі аб учыненых крадзяжах, пратаколамі агляду месц злачынства, заявамі і пратаколамі допытаў пацярпеўшых, а злачынцы разгульвалі на волі. І працягвалі рабіць дзёрзкія налёты на гаражы аўтааматараў, арганізацый і прадпрыемстваў.

Заслухаўшы даклад Хаменкі пра новы крадзеж і вынікі агляду месца злачынства, начальнік аддзела крымінальнага вышуку палкоўнік Пяткоўскі згадзіўся з меркаваннямі капітана.

— Так, тут, як і ў іншых крадзяжах, выразна адчуваецца работа добра арганізаванай групы, — сказаў ён. — І ўсё гаворыць за тое, што ў распараджэнні злачынцаў ёсць аўтатранспарт. Але які?

— Хутчэй за ўсё легкавы, — адказаў Хаменка. — Уцягнулі якога-небудзь уладальніка машыны і арудуюць на ёй.— І тут жа, нібы ўгадаўшы пытанне палкоўніка, задаў яго сам: — Чаму не грузавік? Ну, перш за ўсё, грузавікі ноччу павінны стаяць у гаражах. Ды і вельмі ўжо рызыкоўная справа, наўрад хто з шафёраў, ды яшчэ на грузавіку, пойдзе на гэта — ужо занадта будзе кідацца ў вочы. Асабліва ноччу. І да таго ж не ўсюды грузавікам дазволен рух.

Начальнік аддзела ўважліва выслухаў довады капітана, а пасля павярнуўся да Ахрамені:

— А што вы скажаце, Уладзімір Міхайлавіч?

Той крыху падумаў і адказаў:

— Наогул слушная думка накошт легкавой. Хаця ў нас былі выпадкі, калі выкарыстоўвалі і грузавікі. Напрыклад, крадзеж колаў і іншых запасных частак з гаража па вуліцы Захарава, зусім побач з плошчай Перамогі. Злачынцы спакойна загрузілі «ГАЗ-51» і паехалі. Было гэта ў самым пачатку ночы — многія вокны былі яшчэ асветлены. Але нікому і ў галаву не магло прыйсці, што побач арудуюць зладзеі...

— Значыць, нельга выключаць ні тое і ні другое, — заўважыў Пяткоўскі. — Тое, што ў іх машына, будзем лічыць за аксіёму — без транспарту ім не справіцца. Значыць, трэба заняцца выяўленнем, што менавіта маюць злачынцы ў сваім распараджэнні. Што датычыць грузавікоў, то тут прасцей: пацікавіцца ў аўтагаспадарках тымі машынамі, якія не начуюць на сваіх стаянках. Работнікі дзяржаўтаінспекцыі хутка гэта зробяць. Горш з асабістым транспартам. Тут патрэбны ўжо іншыя метады — больш працаёмкія і якія патрабуюць шмат часу. А вось часу, павінен я вам сказаць, малавата. Мне ўжо там,— Пяткоўскі паказаў пальцам на столь,— зусім ясна сказалі: з гэтымі налётамі на гаражы трэба канчаць. Што я і даводжу да вашага ведама, паважаныя пінкертоны. А вывады, спадзяюся, вы самі зробіце. Пра пошукі прашу дакладваць штодзённа...

Засеўшы ў кабінеце Хаменкі, яны доўга моўчкі і сканцэнтравана дымілі цыгаркамі. Нарэшце маўчанне парушыў Ахрамяня.

— Паслухай, Васіль Фёдаравіч, — пачаў ён,— а ці не варта нам пашукаць канец ніткі з іншага боку?

Хаменка пільна паглядзеў на яго.

— Цябе не наводзяць ні на якую думку тыя абставіны, што крадзяжы носяць дзёрзкі, я б сказаў, упэўнены характар? Так можа дзейнічаць толькі...

— Вопытны злачынца, ты хочаш сказаць?—даканчыў за яго капітан.—Бадай... Тады гэта некалькі аблегчыць пошук. Да таго ж цяпер у нас ёсць адбітак часткі далоні. Калі яго пакінуў чалавек, які ўжо быў раней асуджаны, то ўсё будзе элементарна проста: нам паведамяць і яго прозвішча, і фотаздымак дадуць. Тады ўжо справа чыстай пошукавай тэхнікі — без усялякіх галаваломак. А калі не...

— То і тады не варта адмаўляцца ад гэтай версіі, — прадоўжыў Ахрамяня. — Зусім не выключана, што адбітак мог пакінуць і неасуджаны. Што з гэтага? На групу дастаткова мець і аднаго рэцыдывіста — арганізатара ўсіх зладзейскіх аперацый. Таму, мне здаецца, нам трэба, не чакаючы вынікаў даследавання адбітка і яго зверкі, а гэта, як табе вядома, зойме не так ужо мала часу, тое-сёе рабіць. Я даручу Шапараву пацікавіцца жыццём некаторых былых зняволеных, якія ў апошні час вярнуліся з калоній. І асаблівую пільную ўвагу ўдзяліць тым, хто не спяшаецца заняцца карысная працай.

— Што ж, — згадзіўся Хаменка, — як адзін з варыянтаў гэта зусім падыходзячы. Толькі ці не зойме такая праверка шмат часу?

— Не думаю, — паківаў галавой Ахрамяня. — Шапараў — хлопец спрытны. І пасля, ён мае некаторы вопыт у такіх справах. Ва ўсякім разе, ён павінен укласціся ў той тэрмін, пакуль мы будзем заняты аўтамашынамі.

Крыміналісты расчаравалі іх: адбітак пакінуў чалавек, які не значыцца сярод тых, хто ўжо раней прыцягваўся да крымінальнай адказнасці і быў прыгавораны судом да пазбаўлення волі.

Затое ў старшага лейтэнанта Шапарава ўжо вызначылася некалькі кандыдатур з былых крымінальнікаў. Той-сёй з гэтых тунеядцаў пасля сур'ёзнай размовы з участковымі паспяшаўся ўладкавацца на працу. Але некалькі чалавек упарта не жадалі працаваць. Сярод іх быў і Леанід Войлакаў, які нядаўна вярнуўся дадому пасля працяглага зняволення за крадзяжы. Шапараў адшукаў яго справу ў судовым архіве і ўважліва азнаёміўся з ёю. Так, гэтым хлопцам варта заняцца — злодзеем ён быў зухаватым і дзёрзкім. На злом галавы кідаўся ў самыя рызыкоўныя авантуры. І доўгі час выходзіў сухім з вады. І справа тут была не ў сляпым вязенні, а хутчэй у нейкім абвостраным зладзейскім чуцці на небяспеку, уменні правільна выбраць аб'ект злачынства, вызначыць час яго здзяйснення.

У Войлакава была зладзейская мянушка — «Баламут». Паназіраўшы за ім некаторы час, Шапараў знайшоў, што яна як нельга лепш падыходзіць да яго. Леанід быў шумлівы, мітуслівы, хутка прыліпаў да мужчынскіх кампаній. Асабліва калі такое знаёмства абяцала выпіўку. Дарэчы, з'ява не такая ўжо незвычайная ў асяроддзі зладзеяў: лёгка набытыя грошы лёгка разыходзяцца на так званае шыкоўнае жыццё, на сістэматычныя выпіўкі, якія часта ператвараюцца ў шматдзённыя п'яныя оргіі. А канчаюцца грошы — злачынцы зноў выходзяць на здабычу.

Першыя назіранні інспектара крымінальнага вышуку пацвярджалі, што Войлакаў зноў ступіў на тую ж сцежку, якая яго прывяла ў папраўча-працоўную калонію. Ён не працаваў, п'янстваваў, праўда, у асноўным за чужы кошт. Хутка знаёміўся і гэтак жа хутка разыходзіўся з выпадковымі сабутэльнікамі. Рана ці позна яго павінна было пацягнуць на старое — пра гэта гаварыла жыццё, якім ён жыў. Ці адзін ён пойдзе на злачынства, ці будзе шукаць саўдзельнікаў? А магчыма, ён ужо і пачаў аднаўляць старыя сувязі або завёў новыя?

Гэтыя пытанні хвалявалі Шапарава, і, як паказалі наступныя бурныя падзеі, не дарма...

...Тамару Сотнікаву даўно цягнула ў горад. Рослая, досыць прывабная маладая жанчына пакутавала ад суму між палёў і лясоў.

— Не, калі жыць, то толькі ў горадзе, — казала яна сваім сяброўкам. — Там тэатры, кіно, цырульні і наогул цывілізацыя. А тут што? Вёска, нудота!..

Муж не падзяляў яе імкнення да перамены месца жыхарства. Але гэта не трывожыла Тамару. Пытанне яна вырашыла проста: разышлася з ім. Засталося дзіця. Але не цягнуць жа яго з сабой на «прасторы цывілізацыі!» Угаварыўшы маці прыглядзець унука, пакуль яна не абжывецца на новым месцы, Сотнікава падалася ў Мінск.

Рабочыя рукі патрэбны ў вялікім горадзе — пра гэта штодзённа паведамляецца ў газетах. Знайшлося б месца і для Тамары на адным з прадпрыемстваў сталіцы, але яна не спяшалася пачынаць працоўнае жыццё. Тыя сціплыя сродкі, якія яна прывезла з сабой, далі ёй магчымасць некаторы час пагультаяваць. Але ў хуткім часе яны скончыліся. Трэба было выбіраць: ці ісці ўладкоўвацца на працу, ці вяртацца ў вёску. Дарэчы, другое адпала: маладая бяглянка баялася гэтага «ганебнага» вяртання. Хто яго ведае, як бы склалася яе жыццё, калі б не адна падзея...

Неяк у адзін з вечароў Тамара бязмэтна блукала па вуліцах. На душы ў яе было тужліва і пахмурна. Без знаёмых і сяброў горад здаваўся чужым, непрыветным. Калі яшчэ былі грошы, яна магла дазволіць сабе маленькія забавы: абышла амаль усе кінатэатры, пабывала на двух-трох канцэртах модных гітарыстаў-шумавікоў, заглядвала ў недарагія кафэ. А цяпер што? Ад невясёлых думак яе адарваў бадзёры мужчынскі голас:

— Што сумуеш, птушачка?

Яна азірнулася: да яе прыладжваўся хлопец з усмешкай на твары.
— Я таксама сумую, — паведаміў ён, не перастаючы ўсміхацца. — Проста не ведаю, куды дзецца ад суму. Паміраю...
Тамара мелькам глянула на яго: нічога сабе хлопец. Толькі апрануты неяк неахайна, ды і пагаліцца яму б не шкодзіла. А наогул...
— Ну, дык будзем знаёміцца? — і, не чакаючы адказу, спадарожнік працягнуў руку: — Леанід. Можна проста Лёнька.
Было ў яго непасрэднасці штосьці прывабнае. Такім не адмаўляюць.
— Тамара,— адказала яна на яго моцны поціск рукі,— Сотнікава...
— Прозвішчамі не цікавімся, — засмяяўся Лёнька. — Гэта табе не аддзел кадраў. Чым ты занята сёння?
Гэтая фамільярнасць, імгненнае «ты» ніколькі не шакіравалі Тамару. Яна інакш і не ўяўляла сабе гэта выпадковае і маланкавае знаёмства. А таму і чэсна адказала:
— Нічым не занята. І ўчора таксама. І заўтра...
— Вось і цудоўна! — зусім павесялеў яе новы знаёмы. — Зараз схопім рабуху, ну, таксі,— растлумачыў ён, злавіўшы няўцямны позірк,— і рушым да аднаго майго сябра. У яго сяброўкі сёння дзень анёла. Павесялімся, паскачам. Плёнкі ў яго мадэрнавыя — шэйкі, твісты... Падыдзе?
— Падыдзе,— усміхнулася Тамара.— Толькі вось падарунак трэба б, а ў мяне...
— Пра што гаворка! — пляснуў рукамі Лёнька.— У бліжэйшым гастраноме нам наладуюць пакет з гаручым. Вось табе і падарунак.
Так выпадак увёў Тамару Сотнікаву ў кола мінчан. А сустрэчы з Леанідам сталі пастаяннымі. І гэтак жа хутка, як і знаёмства, перараслі ў вельмі цесныя адносіны.
— У нас у горадзе жыццё ідзе больш імклівa, — растлумачыў ёй новы сябар.— Гэта ў вас там, у вёсцы, гадамі ўздыхаюць на лавачцы і глядзяць на месяц. Паэт жа сказаў: «И жить торопятся, и чувствовать спешат»...
...Паяўленне ў Леаніда Война... Войлакава сяброўкі не прайшло незаўважаным для інспектара крымінальнага вышуку Шапарава. Гэта здарэнне магло азначаць развіццё далейшых падзей, ва ўсякім разе, у двух напрамках. Не выключана, што Леанід закахаўся. Гэта быў бы лепшы варыянт. Калі яна сур'ёзная дзяўчына, то, напэўна, прымусіць яго працаваць. А калі несур'ёзная? Калі іх адносіны носяць характар выпадковай сувязі? Калі, калі... Трэба ўсё выведаць.
Па даручэнні Шапарава ўчастковы інспектар хутка даведаўся пра Тамару Сотнікаву. Яму нават удалося пагутарыць з ёй і паглядзець яе пашпарт. Участковы папабацькоўску сказаў ёй, што нельга жыць нічога не робячы. Тамара дала слова ў бліжэйшы час уладкавацца на працу.
— Але па ўсім відаць, — сказаў Шапараву ўчастковы, — што думкі пра работу яе не асабліва хвалююць. У галаве ў дзяўчыны зусім іншае — прыгожыя рэчы. Дарэчы, у апошні час, як мне сказала яе хатняя гаспадыня, яны пачалі паяўляцца ў Сотнікавай, потым — прычоскі, вясёлыя прыгоды. І яшчэ вось што, таварыш старшы лейтэнант. Я ўважліва, вельмі ўважліва паглядзеў яе пашпарт. Асабліва там, дзе стаіць штамп прапіскі ў Мінску. Прапіска ў яе пастаянная, але... яўна падробленая. Хатняя гаспадыня і не заўважыць ліпы. Можа яна прайсці і ў якім-небудзь аддзеле кадраў. Такія выпадкі бываюць — вы гэта ведаеце. Але на наша натрэніраванае вока...
— Усё зразумела, — спыніў яго Шапараў. — Вы добра справіліся з заданнем. Дзякуй. Магчыма, вам яшчэ давядзецца вяртацца да гэтай мінчанкі.
Вынікі работы Шапарава зацікавілі капітана Хаменку. Асабліва ў сувязі з тым, што ў горадзе адбылося запар тры крадзяжы з гаражоў. На гэты раз зладзеі рызыкнулі нават зрабіць налёт на адну з дзяржаўных аўтагаспадарак, якая ахоўваецца ўзброеным вартаўніком.
— Такім чынам, давайце разгледзім факты, — прапанаваў ён Шапараву. — Як вы гаворыце, Войлакаў вядзе ў апошні час вясёлае і яўна шыкоўнае жыццё са сваёй знаёмай. Яны наведваюць рэстараны, п'янствуюць за горадам. Мяркуючы па ўсім, ён ёй робіць падарункі: Сотнікава пачала добра апранацца. І якраз у гэты ж час у горадзе адбываюцца крадзяжы дарагіх аўтамабільных частак. Ці не ваш гэта, Пётр Іванавіч, кліент так стараецца?
— Не выключаю, — коратка адказаў Шапараў. — Але калі ён, то яўна не ў адзіночку.
— Вядома, — згадзіўся капітан. — Аднак я вельмі сумняваюся, што ў напарніках у яго дзейнічае Тамара Сотнікава. Хаця, як вы кажаце, жанчына яна маладая і не слабая.
— Куды ўжо ёй,— рассмяяўся старшы лейтэнант. — Аўтамабільныя колы зусім не той цяжар, які здольны перацягваць жанчыны.
— А калі гэтак, то вам неадкладна трэба брацца за ўстанаўленне сувязяў Войлакава. Не выключана, што ён знайшоў і іншую крыніцу нажывы. Але ў любым выпадку мы павінны гэтым заняцца. Бо факт з'яўлення ў тунеядцаў сродкаў на вясёлае жыццё сведчыць: Войлакаў пайшоў па злачынным шляху. Такім чынам, Пётр Іванавіч, сувязі і яшчэ раз сувязі.
...Леанід Войлакаў знік. Гэтая вестка была нечаканай, бы гром сярод яснага неба. Спачатку Шапараў нават разгубіўся. Не хацелі верыць гэтаму і Хаменка з Ахраменяй.
— Не можа быць,— у здзіўленні пацісну плячыма капітан.— Вы ўсё праверылі?
Замест адказу старшы лейтэнант развёў рукамі.
— А Сотнікава? — спытаў Ахраменя.
— Тут, у Мінску. Адна шастае. Першыя два дні была як бы чым прыгнечана. А зараз зноў павесялела. Дамоў прыходзіць позна. А зрэдку і наогул невядома дзе прападае, не начуе...
— Невядома дзе... — задуменна паўтарыў Хаменка. — Трэба неадкладна перетрэсці ўвесь горад, але ўстанавіць, куды знік Войлакаў. Ён тут, я ў гэтым упэўнены. Нечага яму было ў такі момант зматвацьвудачкі. Справы ішлі ў яго, калі падыходзіць са зладзейскай меркай, як па масле. Усе ўключаемся ў пошукі прапаўшага.
...Яго знайшлі позна ўвечары таго ж дня. Шапараў пазваніў з морга, і праз дзесяць мінут Хаменка быў ужо на месцы.
— Вось ён, — сказаў старшы лейтэнант, калі служачы морга падвёў іх да накрытага мерцвяка.— Тры дні ляжаў без апазнання...
— А цяпер?
— Апазнаны, — адказаў Шапараў. — Тут была яго сястра.
— Зразумела. Як гэта здарылася і калі?
— Судмедэксперт заключае, што ўтапіўся. Ды гэта і так зразумела — яго ж вылавілі ў рэчцы.
— Дзе?
— Крыху ніжэй моста ля стадыёна «Дынама». А вось калі, не зусім зразумела... Эксперт гаворыць — дні тры-чатыры назад. Якраз, калі ён знік з нашага поля зроку.
Смерць Войлакава, здавалася, абарвала тую адзіную нітку, якая працягнулася паміж крадзяжамі і іх арганізатарамі. Усё ўскладнялася яшчэ і тым, што, як устанавіў судмедэксперт, яна не насіла яўных слядоў гвалтоўнай смерці. Таму давялося адкінуць версію і наконт таго, што яго маглі па тых або іншых меркаваннях лiквідаваць саўдзельнікі. Але, мяркуючы па даследаванні экспертаў, непасрэдна перад смерцю Войлакаў быў моцна п'яны. У такім стане прымяняць гвалт над чалавекам зусім няма ніякай патрэбы. З ім можна зрабіць усё, што хочаш. Напрыклад, позна ноччу падвесці на мост і скінуць. Наўрад ці зразумее ён, што апынуўся ў вадзе. А яго знайшлі амаль побач з мостам... Каму ж і навошта спатрэбілася смерць Войлакава? Ці гэта трагічная выпадковасць?
Цяпер ад адказу на гэтыя пытанні залежала многае. Але дзе знайсці гэты адказ? Калі затрымаць Сотнікаву, то зусім не выключана, што можна напалохаць тых, з кім быў звязаны яе знаёмы. Амаль што можна сцвярджаць, што ён, напэўна, пазнаёміў яе з імі і яна ўдзельнічала ў сумесных выпіўках. Хаця аператыўнікі такіх звестак яшчэ не мелі. Ведала яна пра тое, чым займаюцца сабутэльнікі або не, не вырашала пытання. Сам факт яе раптоўнага знікнення пасля затрымання навёў бы іх на думку аб выкрыцці або блізкай магчымасці правалу. Тады злачынцы, натуральна, пайшлі б у глыбокае падполле. Але ўсё роўна Сотнікавай неабходна было займацца і далей. Тым больш, што праверка грузавога транспарту нічога не дала. Нават тыя шафёры, якія не ставілі замацаваныя за імі машыны ў гаражы ў той час, калі адбыліся крадзяжы, змаглі грунтоўна і праўдзіва растлумачыць гэтыя парушэнні службовай дысцыпліны. Пры сустрэчных праверках іх алібі цалкам пацвердзіліся.
Устанавіць магчымасць выкарыстання асабістага легкавога транспарту для ўчынення крадзяжоў пакуль што было немагчыма.
Пасля апазнання сваячка загінуўшага не з'яўлялася ў міліцыю некалькі дзён, нягледзячы на тое, што Шапараў пасылаў ёй ужо колькі позваў. Нарэшце, яна прыйшла, сказаўшы, што доўга хварэла. Пра брата гаварыла мала. Пасля вяртання са зняволення ён пажыў крыху ў яе, потым суткамі і тыднямі пачаў некуды знікаць, а там і зусім перастаў паяўляцца. Як і на што ён жыў, не ведала. Пра тое, ці былі ў яго якія-небудзь сябры, ёй таксама нічога невядома. Ды і якія могуць быць сябры ў п'яніцы. Вядома — такія ж, як і ён сам.
— Дарэчы, — сказала ў канцы допыту сястра, — не так даўно, позна ўвечары, ён наведваўся. Выглядаў дрэнна. Быў злёгку выпіўшы, балбатаў.
«Прыехаў, — кажа, — сяструха, за сваімі шмоткамі. Хату сваю цяпер маю. Прыходзь у госці...»
— Я тады яго яшчэ спытала, — працягвала сведка, — на чым гэта ён прыехаў. Ужо ці не машыну набыў уласную?
«Ага, набыў,— рассмяяўся ён і падвёў мяне да акна: — Вось, глядзі, стаіць мой лімузін. А за рулём — асабісты шафёр».

— Якая машына была? — стараючыся быць абыякавым, спытаў Шапараў. — Маркі якой?

— Маркі?— перапытала сведка. — Цемнавата ўжо было... Дайце падумаць... Здаецца, «пабеда». Так-так, сапраўды «пабеда». Дах у яе ззаду закруглены — цяпер жа такіх не робяць...

— А колер?

— Я ж вам сказала — цёмна было. І машына была цёмная. Калі б светлай афарбоўкі...

— Зразумела, — спыніў яе Шапараў. — Наконт нумара і знешняга аблічча вадзіцеля не пытаюся. Гэта вы не заўважылі. Ці не так?

— Так, вядома. Цёмна...

З'яўленне ў справе легкавой аўтамашыны ўсяляла надзею, што пошук на правільным шляху. І ў хуткім часе гэта пацвердзілася яшчэ адной надзвычай цікавай весткай: Тамара Сотнікава знайшла сабе новага паклонніка. Не ў прыклад першаму, ён быў элегантны, абыходлівы, ва ўсякім разе — знешне, і ўжо немалады, што было хутчэй станоўчым, чым заганным: новы знаёмы ведаў толк у прыгожым жыцці. Гэтаму нямала садзейнічалі тыя абставіны, што ён меў уласную аўтамашыну. Вядома, шукальніца падазроных прыгод з вялікім задавальненнем сядзела б уззяючай лакам і нікелем «волзе» або ўжо на крайні выпадак — «масквічы». Але на гэтым этапе жыцця яе пакуль задавальняла і старэнькая, але яшчэ вельмі жвавая «пабеда». І прагулкі за горад з элегантным паклоннікам гаварылі пра тое, што гэты аўтамабіль першы, але далёка не апошні ў жыцці Тамары.

Уладальніка кафейнага колеру «пабеды» № 89—67 МІА ўстанавіць было няцяжка. У дзяржаўтаінспекцыі далі пра яго ўсе неабходныя звесткі: Курчаў Уладзімір Апанасавіч, 1922 года нараджэння, працуе на заводзе імя Вавілава на пасадзе начальніка варты пажарнай часткі...

— А адукацыю, між іншым, мае вышэйшую,— заўважыў капітан Хаменка, калі група сабралася, як звычайна, абмяняцца навінамі.

— Так, вышэйшую,—пацвердзіў Ахраменя.— Інстытут фізкультуры закончыў...

— І мог бы нядрэнна ўладкавацца, — прадоўжыў Шапараў. — Трэнерская работа цікавая, зноў-такі для здароўя карысная і аплачваецца добра.

— Ды ўжо куды лепш, чым яго заробак у пажарнай часці,— усміхнуўся Хаменка.— Для здаровага, відаць, разумнага, мужчыны шасцідзесяцірублёвы заробак... Я б успрыняў такое, як зняважу. Навошта ж было вучыцца ў інстытуце, дыплом атрымліваць?

— А мяне б такая работа цалкам задавальняла, — зрабіў нечаканы вывад Ахраменя і, заўважыўшы здзіўленыя позіркі калег, растлумачыў:—Задавальняла б у тым выпадку, калі б мне быў неабходны вольны час. Які яго графік работы? — спытаўся ён у Шапарава.

— Суткі дзяжурыць, двое адпачывае.

— Вось бачыце — двое адпачывае.

— Але ў яго ўласны дом, сад, гаспадарка, адным словам, — запярэчыў Хаменка, разумеючы, куды хіліць Ахраменя.

— Згодзен, Васіль Фёдаравіч. Няхай сад, дом і гэтак далей. Але не так ужо шмат часу ўсё гэта адбірае. Тым больш што гаспадаркай у яго занята ў асноўным жонка. Ці не так, Пётр Іванавіч? — спытаў ён у Шапарава і, атрымаўшы сцвярджальны адказ, працягваў развіваць сваю думку. — Тады гэтыя свабодныя дні пойдуць у яго на іншыя, далёка не гаспадарчыя мэты...

— Напрыклад, для забаўных паездак з маладымі лэдзі на ўлонне прыроды,—паўжартам растлумачыў Шапараў і ўжо сур'ёзна дадаў: — Дарэчы, удалося ўстанавіць яшчэ адну пастаянную спадарожніцу гэтага старога донжуана. Завуць яе Ніна Масарэнка. Тыпаж, дарэчы, той жа, што і Сотнікава. Ласая да прыгожага жыцця і мала задумваецца над сэнсам жыцця наогул.

— Але каханне патрабуе ахвяр, ці не так? — спытаў Ахраменя і сам жа адказаў на гэтае пікантнае пытанне: — Так, патрабуе. А якую ахвяру на алтар юнага кахання можа прынесці Уладзімір Апанасавіч Курчаў, якому праз паўгода будзе пяцьдзесят?

— Кафейную «пабеду», — адказаў на гэты раз Шапараў.

— І не толькі «пабеду», але і падаруначкі сваім спадарожніцам па загарадных вылазках, віно, цукеркі і іншыя аксесуары, неабходныя для арганізацыі пікнікоў.

Капітан Хаменка слухаў гэты дыялог сваіх таварышаў, адгадваючы за крыху жартаўлівай яго формай добрае, можна сказаць, перадстартавае становішча. Так, цяпер амаль з выключнай відавочнасцю можна было рабіць вывады, што паяўленне трагічна выбыўшага з гульні Войлакава на «пабедзе» ля дома сястры, а затым сяброўства ўладальніка машыны з Сотнікавай — невыпадковае супадзенне. Яна, гэтая жанчына, нібы сувязны вугал паміж двума бакамі трохкутніка...

Капітан, слухаючы Ахраменю і Шапарава, вывеў на лісце паперы два бакі раўнабедранага трохкутніка. Затым адзначыў вугал паміж імі і надпісаў: «Т. С.» І ля бакоў: «У. К.», «Л. В.» Паглядзеўшы на гэтыя абазначэнні, ён усміхнуўся думцы, якая раптоўна прыйшла ў галаву: «Chercher la femme», шукай жанчыну — старая, не раз праверaная ісціна крыміналістаў. Глядзі ты, і ў нас справа разгортваецца, як у якім-небудзь вялікасвецкім дэтэктыўным рамане. Праўда, персанажы некалькі драбнейшыя. І ніхто яшчэ не даведаўся, што больш вопытны і моцны пакарыцель жаночых сэрцаў адправіў свайго менш удалага суперніка да прадзедаў. Ды наўрад ці дзеля нашай Клеапатры ён адважыўся на такую рызыкоўную справу.

З задумення яго вывела пытанне Ахрамені:

— Ці не час, Васіль Фёдаравіч, заняцца гэтым аўтааматарам?

— А ці не рана? — адказаў пытаннем на пытанне капітан. — Вось тут, — ён паказаў на свой геаметрычны малюнак,— павінен быць трэці бок!..

— Вы так думаеце?

— Амаль упэўнены. Паразважце самі: утраіх больш зручна працаваць. Адзін сядзіць у машыне. Нага ў яго на стартэры. Другі — арудуе ў гаражы. Адкручваць і самому ж падносіць дэталі да свайго транспарту вельмі нязручна. І, перш за ўсё, гэта патрабавала б многа часу — не заўсёды ж можна паставіць машыну зусім блізка ад аб'екта налёту. Выходзіць — неабходны трэці. Пажадана малады і моцны чалавек. І мы павінны ўстанавіць яго...

Інспекцыйная праверка заводскай пажарнай амаль адказала на пытанне, хто ж трэці. З размоў з шафёрамі, якія звычайна спадарожнічаюць такога роду праверкам, удалося выявіць, што начальнік варты Курчаў падтрымлівае найбольш цесныя сяброўскія адносіны з адным з пажарнікаў — Уладзімірам Карзюк-Залескім. Працуючы пад кіраўніцтвам Курчава, ён часта разам з ім хадзіў з работы, быў, як кажуць, на кароткай назе, хаця і быў амаль напалову маладзейшы за начальніка. Любіў выпіць і не рабіў з гэтага ніякага сакрэту. Высокі, добра развіты фізічна, ён як нельга лепш падыходзіў для таго трэцяга ўдзельніка шайкі зладзеяў, пра якога гаварыў Хаменка.

— Вось цяпер можна і пагутарыць з уладальнікам кафейнай «пабеды», — вырашыў кіраўнік групы. — Гэтым зоймецеся вы, Пётр Іванавіч, пад кіраўніцтвам свайго непасрэднага начальніка,— Хаменка паказаў на Ахраменю. — Знайдзіце прычыну больш праўдападобную і запрасіце яго да сябе. А лепш што-небудзь па лініі дзяржаўтаінспекцыі. Які-небудзь агляд машыны або яшчэ што-небудзь такое. Дарэчы, не мне вас павучаць. А я займуся Тамарай Сотнікавай. Узгадніце свае дзеянні так, каб яе затрыманне ўчастковым, як тунеядкі, цалкам супала з часам прыходу яе апекуна ў міліцыю. Неабходна, каб хто-небудзь быў і побач з уладальнікам двайнога прозвішча — Карзюк-Залескім. Ён трэці або не ён, а на выпадак, калі яго ўсхвалюе доўгая адсутнасць начальніка, трэба падтрымаць чалавека ў гэткую цяжкую хвіліну.

...— Дазвольце?— спытаў сярэдняга росту, хударлявы, але даволі моцны мужчына, упэўнена заходзячы ў кабінет.

— Вядома, — адказаў яму інспектар крымінальнага вышуку Шапараў. — Тым больш, што вы ўжо ўвайшлі. Сядайце.

— Дзякую вам,— далікатна адказаў мужчына, прыладжваючыся ля стала. — Чым магу служыць? — пацікавіўся ён, закладаючы нагу на нагу. — З машынай у мяне ўсё ў парадку. Правілаў руху я таксама як быццам бы не парушаў...

— Менавіта так, як быццам бы, — на ўсякі выпадак сказаў Шапараў. Ён не хацеў загадзя раскрываць карты, і гэтая гульня пакуль была яму на руку. Да таго часу, пакуль Ахраменя робіць вобыск у кватэры і гаражы Курчава, які ён пачаў адразу ж, як толькі той увайшоў у кабінет Шапарава. — У вас з сабой правы і тэхнічны талон?

— Так, вядома, — пацісную плячыма Курчаў. — Вось, калі ласка.

У гэты ж самы час, але толькі ў другім кабінеце, капітан Хаменка гутарыў з Тамарай Сотнікавай. Тая спачатку таксама рабіла здзіўленыя вочы і нават вырашыла, пусціўшы слязу, уздзейнічаць на псіхіку Хаменкі. Спроба не ўдалася — нервовая сістэма ў капітана была ў поўным парадку. Пераканаўшыся ў гэтым, Сотнікава спакойна выцерла з такімі цяжкасцямі выціснутую слязу і коратка спытала:

— Што вас цікавіць?

— Усё, — сказаў інспектар. — Усё пра вас і вашых мінскіх сяброў.

— Пра якіх менавіта?

— Вы ведаеце...

Яна расказала павольна, але падрабязна, у дэталях пра свае прыгоды. Пра тое, як у Курчава часамі з'яўляліся вялікія грошы, нейкія рэчы: кофты, плашчы, курткі...

— Ён вам не казаў, дзе ўсё гэта браў?

— Не. Але я лічыла, што Уладзімір Апанасавіч чалавек забяспечаны. Грошы ён траціў шчодра, не задумваючыся...

— Карзюк-Залескі п'янстваваў у вашай кампаніі? — спытаў капітан

— Валодзька, ці што?

— Так, Уладзімір Уладзіміравіч.
— П'янстваваў. Ды яшчэ як! Да чорцікаў напіваўся.
«Значыць, гэта трэці, — падумаў Хаменка. — Усё стала на сваё месца. Вось і трэці бок трохкутніка».
А сам сказаў:
— Вось што, Тамара, калі не хочаш вяртацца дадому, давядзецца табе, хочаш ты гэтага ці не, пачынаць людскае жыццё. Працаваць трэба.
— Дзе гэта мне працаваць?
— Што-небудзь знойдзем...
...У Шапарава ўсё было без змен: ён моўчкі пералістваў вадзіцельскія дакументы Курчава і ўжо вывучыў кожную літару, а той таксама моўчкі назіраў за гэтай малазразумелай работай. Нарэшце ён не вытрымаў:
— Ці не лічыце вы, таварыш міліцыянер, што яны фальшывыя? Павінен вас расчараваць — дакументы сапраўдныя і...
Яго перапыніў тэлефонны званок.
«Нарэшце! — узрадаваўся Шапараў. — Цяпер пачнём».
Знешне гэтая радасць ні ў чым не праявілася. Ён пачакаў, пакуль будзе яшчэ адзін званок, затым спакваля зняў трубку:
— Слухаю вас. Так... Вядома. Я вас разумею. Усяго добрага.
— Ну вось, грамадзянін Курчаў, — сказаў інспектар, падаючы правы, — вашы дакументы на права ваджэння машыны ў поўным парадку...
— Мне можна ісці? — заспяшаўся Курчаў. — Заседзеўся я тут у вас.
— Адну хвілінку, — спыніў яго Шапараў. — Я ж сказаў толькі пра дакументы. А вось як быць з сумленнем?
— З якім сумленнем?
— Не з якім, а з чым, — сказаў старшы лейтэнант. — Удакладняю, з вашым сумленнем.
— Я дарослы чалавек, — пачаў быў з выглядам зняважанага дабрачынцы Курчаў, але, зірнуўшы на твар супрацоўніка міліцыі, тут жа асекся—у ім не было ні ценю нядаўняй разгубленасці і абыякавасці. Цяпер на яго глядзелі вельмі ўважлівыя, вывучаючыя вочы, у глыбіні якіх, як яму здавалася, часам успыхвалі вострыя маланкі.
— Што вам яшчэ трэба? — напусціўшы як мага больш фанабэрыстасці, спытаўся затрыманы.
— Вы самі падлічыце ўсе колы, якія сцягнулі з узламаных гаражоў, або вам дапамагчы? — нібы не заўважаючы гэтай фанабэрыстасці, спытаў Шапараў.
На імгненне ўсталявалася маўчанне. Затым Курчаў павольна падняўся з крэсла і хрыпатым голасам перапытаў:
— Колы? Якія колы?
— А вось гэтыя хаця б, — сказаў інспектар і падышоў да дзвярэй. Расчыніўшы іх, ён сказаў у калідор: — Уваходзьце, таварышы.
У кабінет, павольна коцячы перад сабой два колы, увайшлі нейкія людзі. Тыя самыя два колы з чатырох, якія яны так удала знялі з «масквіча»...
«Гэтыя два я прадаў свайму суседу, — пранеслася ў галаве. — Зараз і ён павінен з'явіцца. Усё — пагарэў!»
І тут жа ў кабінет, азіраючыся, увайшоў Пётр Казіміравіч Забуцкі.
— Добры дзень, сусед,— здзівіўся ён, заўважыўшы Курчава. — Чаго гэта ты тут?
— Трэба,— прабурчэў тоў у адказ.— Справы...
Шапараў не мог стрымацца і ўсміхнуўся, назіраючы гэтую сцэну. Пасля, калі супрацоўнікі, паставіўшы колы, выйшлі разам з іх новым уладальнікам, ён звярнуўся да сумнага Курчава:
— Не будзем траціць часу. Пазабаўляліся і хопіць. Але перш чым вы пачняце свой доўгі і змястоўны расказ пра дзесяткі крадзяжоў, і, прашу заўважыць, не толькі аўтачастак, растлумачце смерць вашага кампаньёна.
— Утапіўся! П'яны ўтапіўся Лёнька, — спуджана ўскрыкнуў затрыманы. — Пілі мы ў «Дынама», а пасля яму прыйшло ў галаву купацца...
— Добра, вернемся да гэтай размовы пазней, — спыніў яго інспектар. — Зараз вы крыху ўсхваляваны. Такім чынам, пачнём з крадзяжоў...
— Мне няма пра што расказваць, — раптам заўпарціўся Курчаў. — Трэба падумаць...
— Што ж,—паціснуў плячамі Шапараў,— ваша справа. Не мне, дык каму іншаму, але ўсё роўна давядзецца расказаць пра свае злачынствы.
— Чаму іншаму?
— Таму, што крымінальны вышук на гэтым сваю работу заканчвае. Справа перадаецца ва ўпраўленне ўнутраных спраў. Ёю цяпер зоймецца старшы следчы Каранкевіч. Ды ўсё ж — прыйдзецца загаварыць і вам, і вашаму былому падапечнаму, а таксама саўдзельніку Карзюк-Залескаму.
І яны загаварылі...





# МАЦНЕЙ ЗА ЎСЕ БЕДЫ

*Здарылася няшчасце — страшэннае, непапраўнае. Здаецца, што няма ратунку, няма выйсця — наперадзе глухая, непрабіўная сцяна. У адных апускаюцца рукі — яны гінуць. Але сапраўдны чалавек прадаўжае змагацца, і тады сцяна абвальваецца,— і ён зноў бачыць сонца. Я сяджу ў невялічкім, утульным пакоі. Паліцы з кнігамі, пісьмовы стол, на ім пішучая машынка. Тут жыве чалавек, які вярнуў сабе сонца.*

●

— Прозвішча ваша? — сівы, з выгляду вельмі строгі выкладчык звярнуўся да маладога хлопца-першакурсніка.
— Маё? Рашкоўскі...— трохі збянтэжана адказаў той.
— Будзеце старшым у групе. Я прыеду ў калгас пазней.
Жыццё навучыла гэтага чалавека разбірацца ў людзях. Ён быў упэўнены, што хлопец з такім добрым і ў той жа час упартым позіркам не падвядзе.
Калі першакурснікі вярнуліся ў інстытут, яны аднагалосна выбралі Лёню сакратаром сваёй камсамольскай арганізацыі. Пабегалі вясёлыя, клапотныя дні. Лекцыі, трэніроўкі, бібліятэка. Ён паспяваў рабіць усё. У сябра гінула каханне — Лёнька ратаваў гэтае каханне; нехта дрэнна займаўся — ён растлумачваў, памагаў; хлопцу, якому не было дзе жыць, дабіваўся месца ў інтэрнаце.
Аднойчы сусед па пакоі, негаваркі, вечна сонны трэцякурснік паскардзіўся яму:
— У цябе, Рашкоўскі, ёсць талент мець шмат сяброў. А мне вось не шанцуе. Маркотна без сяброў.
— А помніш, ты неяк сказаў: «Я маю тры ідэалы: першы — снеданне, другі — абед, трэці — вячэра. Болей мне нічагусенькі не трэба». Дык вось, відаць, у гэтым уся справа...
Але бяда падсцерагала вясёлага, нястомнага Лёньку. Іх валейбольная каманда заваявала права ўдзельнічаць ва Усесаюзных студэнцкіх гульнях у Ленінградзе. Ужо заказаны білеты на самалёт. Апошняя трэніроўка скончылася позна вечарам. Лёня вяртаўся ў інтэрнат. Хацеў пераскочыць лужыну, але раптам востра кальнула ў нагу.
«Глупства, пройдзе»,— падумаў ён.
У іх пакоі на трэцім паверсе яшчэ гарэла святло. Лёня звыкла скокнуў адразу на трэцюю прыступку і адчуў, як яго працяў той жа боль. Раніцой нага не разгіналася.
...Урачы ўжо нічым не маглі дапамагчы. Дыягназ — рассеяны склероз. Паралізаваны абедзве нагі. Яго свет звузіўся да чатырох сцен пакоя, пісьмовага стала, акна. Гэта жудасна. Асабліва для чалавека, які заўсёды хацеў бачыць сябе на «лініі агню».
Лёнька пачаў ненавідзець ночы, калі заставаўся адзін. Ён ляжаў з расплюшчанымі вачамі і ўсё думаў, думаў. Цішыня душыла, малаткамі стукала ў скроні. Няўжо жыццё ў пазыку, у крэдыт?
Ён стараўся забыцца, але думкі вярталіся зноў і зноў — неадчэпныя, безнадзейныя.
Падыходзіла матуля, добрая, ласкавая матуля. Лёнька заплюшчваў вочы, рабіў выгляд, што спіць. Маці папраўляла коўдру і ціхенька выходзіла. За сцяной варочаўся і цяжка ўздыхаў айчым.
Але ў Лёнькі ўжо ажываў другі голас:
«Не... Я не дам роспачы так проста ўзяць сябе за горла. Хіба ж я — слабак? Паражэння не існуе, пакуль сам чалавек не прызнаў сябе пераможаным». Прыйдзе час, і гэтая думка запульсуе ў радках яго верша.

Будут трудности — пусть!
Не согнусь!
Устою!

Я хочу быть с друзьями в едином строю.
Я хочу быть с Отчизной
в труде и борьбе!
И я делаю вызов судьбе и себе!

Дзверы ў яго хату не зачыняліся да позняга вечара. Маленькі сабачка ўжо не сустракаў залівістым брэхам незнаёмых людзей: прывык. А Лёнька працаваў. Прыходзілі хлопцы з гаркома камсамола, прасілі аформіць «Пражэктар», давалі розныя даручэнні. Заходзілі сябры, суседзі. Людзі памагалі яму змагацца, памагалі паверыць у сябе. Ён раней пісаў вершы, але не надаваў ім сур'ёзнага значэння. Цяпер жа неяк цягнула выказаць на паперы свае думкі, пачуцці.

Аднойчы з пісьмовага стала ў яго знікла некалькі вершаў. «Напэўна, узяў іх нехта з хлопцаў, для насценгазеты»,— падумаў ён.

А праз некаторы час гэтыя вершы былі надрукаваны ў рэспубліканскай маладзёжнай газеце. Іх абмяркоўвалі на пасяджэнні літаб'яднання «Вясёлка». Радкі пачынаючага паэта краналі сваёй свежасцю, аптымізмам, вялікай верай у чалавека. Удзельнікі літаб'яднання Галя Банішэўская, Уладзімір Пак і Уладзімір Аляхновіч пажадалі бліжэй пазнаёміцца з аўтарам і ў адзін з выхадных дзён паехалі ў Барысаў. Яны падрабязна пагаварылі з Лёнем пра яго вершы, пра іх моцныя і слабыя бакі, расказалі пра сваё літаб'яднанне, свае планы. Лёня быў узрушаны. Ён ніколі не мог падумаць, што яго радкі могуць каго-небудзь так зацікавіць.

З гэтага часу ў Лёні паявіўся свой асаблівы свет, імя якому — паэзія. Лёня стаў арганізатарам і кіраўніком гарадскога літаратурнага аб'яднання. Хлопцы збіраліся ў Лёні, абмяркоўвалі свае вершы, спрачаліся, вучыліся. Тут былі і Мікола Федзюковіч, і Міхаіл Гелер, і Анатоль Сакалоў, у якіх цяпер выйшла не адна кніжка вершаў.

Былі няўдачы, былі зрывы. Іншы раз хацелася ўсё кінуць. У такія хвіліны лезлі надакучлівыя думкі: «Ці патрэбна тое, што я раблю, іншым? Ці паэзія гэта»?

І на вялікае шчасце, часцей за ўсё ў такія хвіліны ў кватэры званіў тэлефон, і з тэлефоннай трубкі ў Лёнькаў пакой урывалася чыстая і радасная мелодыя «Вясёлага ветру» Дунаеўскага: «Кто привык за победу бороться...»

Лёнька ўжо ведаў, што гэта звоніць з Мінска Анатоль Сербантовіч. Ён насвістваў гэтую песеньку ў пачатку размовы. На Лёню абрушваўся цэлы вадаспад навін. Анатоль пытаў, ці не падрыхтаваў ён што-небудзь новенькае.

— Чакаем твае вершы,— звычайна гэтак заканчвалася размова.

І зноў вярталася ўпэўненасць. Хацелася пісаць, пісаць...

Мы все немножко лилипуты,
Когда, печальны и горьки,
Приходят слабости минуты
И неосознанной тоски.

Но мы сильны, как гулливеры.
И ростом вышли в самый раз,
Когда в самих себя мы верим
И кто-то
очень верит в нас.

Лёня гаворыць пра свае вершы, што ў іх ёсць усё, «акрамя маскараду». Радкі нараджаліся розныя — і журботныя, і вясёлыя, але іх аб'ядноўвала адно: жыццесцвярджальная сіла, аптымізм. Лірычны герой паэта горда, смела ідзе па зямлі. Ён гаспадар свайго лёсу, ён мацней за ўсе беды.

...И я пишу о парне строки,
Волнуясь за него вдвойне,
А он уже на новостройке,
А может быть — на целине.
Он люб и дорог мне,
не скрою,
Я с ним всегда по жизни шел.
А имя моего героя
Весьма простое —
комсомол.

Вершы Леаніда Рашкоўскага ўсё часцей друкуюцца ў рэспубліканскіх выданнях, ён становіцца прызёрам творчага конкурсу, аб'яўленага «Медицинской газетой». За словы да песні «Дарогай бацькоў», якую ён напісаў разам з самадзейным кампазітарам Яўгенам Карпуцём, Лёня атрымоўвае дыплом лаўрэата Усесаюзнага злёту пераможцаў паходу па дарогах баявой і працоўнай славы. У 1968 годзе ў выдавецтве «Беларусь» выходзіць першы зборнік вершаў «Няхай не паміраюць зоркі», а ў 1970 годзе — кніжка вершаў для дзяцей «Як пінгвіну шылі фрак». І вось зусім нядаўна Леанід Рашкоўскі стаў членам Саюза пісьменнікаў.

Гэта не проста творчыя поспехі. Гэта велізарная перамога чалавека над сваім лёсам.

— Паэзія — гэта маё жыццё,— гаворыць Лёня.— Міхаіл Зошчанка ў каментарыях да сваёй аповесці «Вернутая маладосць» параўноўвае творчы працэс з аўтамабілем, які нясецца на вялізнай хуткасці. Спыніць гэты працэс для пісьменніка ўсё роўна, што вадзіцелю рэзка націснуць на тармазы. У абодвух выпадках аварыя. Для мяне яна была б смяротнай.

Лёня расказвае пра людзей, цудоўных людзей, з якімі яго звёў лёс.

— Я заўсёды буду абавязаны гэтым людзям,— гаворыць ён.

Я слухаю Лёню і ўспамінаю дзяўчыну, хворую поліяміэлітам, якая таксама страціла магчымасць хадзіць. У Тамары Мельнік не было родных. Яна прасіла праз газету падзякаваць дзяўчатам з суседняга магазіна, якія прыносілі ёй дахаты прадукты. Тамара доўга расказвала мне пра людзей, якія падтрымалі яе, пе-



# жыццю насустрач



Леанід Рашкоўскі чытае сябрам свае вершы.

рад якімі яна заўсёды ў даўгу. Адным з першых яна назвала Лёню Рашкоўскага.

І зусім невыпадкова, калі выйшаў у Лёні камсамольскі ўзрост, на яго білеце ў гарадскім камітэце камсамола напісалі: «Такія з камсамола не выбываюць».

— Я вельмі неарганізаваны,— скардзіцца Лёня.— Не магу жыць па распарадку. Пастаянна не хапае часу. Зараз падціскаюць экзамены ва ўніверсітэце,— (ён завочна займаецца на чацвёртым курсе факультэта журналістыкі)—рыхтую да друку два новыя зборнікі. Акрамя ўсяго, трэба прачытаць столькі цікавых кніг...

Нечакана нашу гаворку перапыняюць. Да Лёні прыходзяць дзяўчына і хлопец. Аднойчы Лёня чытаў свае вершы на фабрыцы мастацкіх вырабаў і, як заўсёды, знайшоў яшчэ некалькі новых сяброў. Сярод іх — гэтыя двое. Люда Грыгор'ева расказвае пра Новасібірск, дзе правяла адпачынак, пра тайгу, пра тое, як вудзіла рыбу на Обі. Лёня жартуе, расказвае, як сам рыбачыў.

Я слухаю размову сяброў і пачынаю разумець, што ў гэты пакой прыходзяць не ад жалю, не для таго, каб наведаць хворага і выканаць нейкі абавязак. Не. Проста тут жыве добры, таленавіты чалавек. І тут цікава.

У Лёні ёсць верш пра матроса, якога прыкавалі да галеры і пусцілі ў мора насустрач пагібелі. Але мужны чалавек змагаецца, ён не кідае вёслы, ён ніколі не скарыцца бядзе.

У канцы паэт гаворыць:

И я всю жизнь грести намерен,
Пусть нелегко придется мне,
Как он,
Прикованный к галере,
Навстречу яростной волне.

**Віталь СІНЕНКА.**

# ЛЁГКІХ ШЛЯХОЎ НЕ ШУКАЎ

Імя Максіма Багдановіча стала сімвалам гарачай юнацкай любві да Радзімы і веры ў творчыя сілы народа. У змрочныя дні рэакцыі, калі беларуская мова лічылася выключна «мужыцкаю» моваю, ён марыў аб тым часе, калі беларускі народ стане поруч з самымі культурнымі народамі свету і ўнясе свой дар у скарбніцу сусветнай культуры. Сваё кароткае, але мэтанакіраванае жыццё ён аддаў развіццю беларускай культуры. Цяжка нават паверыць, што за 10 гадоў юнак мог стаць выдатным паэтам, публіцыстам і першым беларускім крытыкам і літаратуразнаўцам, які намеціў асноўныя шляхі развіцця маладой беларускай літаратуры.

Першы свой твор «Музыка» М. Багдановіч апублікаваў у ліпені 1907 года, калі яму яшчэ не споўнілася 16 год, а ў маі 1917 года дваццаціпяцігадовага паэта не стала. І калі жыццесцвярджальная паэзія Максіма Багдановіча была дзіўнай казкай, то само жыццё паэта падобна на прыгожую, але трагічную легенду.

Пра жыццё і творчасць Багдановіча напісана нямала цікавых кніг. І з кожнай новай кнігай мы адкрываем усё новыя старонкі жыцця паэта. Але закрытых для нас старонак яго жыцця яшчэ вельмі многа. І таму нас цікавіць кожны новы факт з яго біяграфіі.

Большую частку біяграфічных звестак пра паэта мы даведваемся з успамінаў яго бацькі, вядомага беларускага этнографа Адама Ягоравіча Багдановіча, напісаных у 1923 годзе па просьбе Інстытута беларускай культуры.

Успаміны Адама Ягоравіча знаёмяць нас з сям'ёй, з яе нацыянальнымі традыцыямі, расказваюць пра дзіцячыя і юнацкія гады паэта, пра ўмовы, у якіх ён рос, вучыўся і фарміраваўся як мастак.

Максім вырас у інтэлігентнай беларускай, але абруселай сям'і. Рос і выхоўваўся далёка ад Радзімы, на берагах Волгі. Што ж прымусіла яго стаць адным з самых яркіх песняроў Беларусі, першым крытыкам і тэарэтыкам беларускай літаратуры? «...Чым вытлумачыць выбар пастаноўкі мэты?— задае сабе пытанне Адам Ягоравіч і адказвае:—Перш за ўсё ўнутраным, відавочна непераадольным захапленнем роднай стыхіяй, інтуіцыяй, унаследаванай ад продкаў».

Сам Адам Ягоравіч таксама ўнаследаваў ад продкаў любоў да родных мясцін, да нацыянальных традыцый, да беларускіх звычаяў і вуснай народнай творчасці. Ён беражліва збіраў мілыя яго сэрцу як успаміны дзяцінства старыя казкі і паданні. Але ў тыя змрочныя часы ён не верыў у магчымасць развіцця нацыянальнай беларускай культуры. У сваёй кнізе «Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Этнографический очерк» (Гродна, 1895) Адам Ягоравіч сцвярджаў, што «...жыццё беларуса і яго творчая дзейнасць носяць выразны адбітак няразвітасці, адсталасці, забітасці».

Максім Багдановіч усю сваю творчую дзейнасць прысвяціў таму, каб наблізіць час, калі беларуская літаратура ўнясе свой уклад у скарбніцу сусветнай культуры. «Наша пісьменнасць... вялікім пачуццём напоўнена..., не на грашовых справах трымаецца яна і ніколі не пойдзе чысціць боты капіталу».

У 1923 годзе Інстытут беларускай культуры распачаў пошукі літаратурнай спадчыны Максіма Багдановіча і звярнуўся да Адама Ягоравіча з просьбай напісаць успаміны пра сына. Толькі азнаёміўшыся з рукапісамі, бацька зразумеў, якую тытанічную працу прарабіў яго сын. Характарызуючы рысы характару Максіма, Адам Ягоравіч пісаў: **«У працы быў настойлівы і ўпарты. Паставіўшы якую-небудзь мэту, ён цвёрда і няўхільна імкнуўся да яе ажыццяўлення». І далей: «З той жа ўпартасцю ён адносіўся і да вывучэння беларускай мовы і да пісання вершаў на ёй. Калі прыняць пад увагу неабходнасць вучэння і ўсе абставіны яго жыцця, то нельга не прызнаць яго работу ў гэтай сферы велізарнай. І нельга не палічыць гэтага прадпрыемства нават дзёрзкім. Не пайшоў жа ён па лініі найменшага супраціўлення: не стаў пісаць па-руску. Яго пераклады сваіх жа вершаў сведчаць, што ён і па-руску мог бы пісаць нядрэнныя вершы. Але ён гэты лёгкі шлях яшчэ ў дзяцінстве адвергнуў і смела рашыў пераадолець велізарныя цяжкасці, каб пісаць прыгожыя вершы і ўзбагаціць гэтую мову новымі мастацкімі формамі. Да апошняй мэты ён імкнуўся зусім свядома...**

**Якія цяжкасці ён пераадолеў на гэтым шляху, сведчаць яго рукапісы і сшыткі: колькі там выпісак са слоўнікаў, зборнікаў і старадрукаваных кніг! Які з паэтаў, хто ўсмактаў беларускую мову з малаком маці, узнімаў гэтую цяжкую, карпатлівую, крахаборчую працу? А ён, слабагруды, хілы, паднаў. І нёс яе цярпліва, упарта і для мяне і для ўсіх, хто яго акружаў, непрыкметна».**

Пачынаючы з 1923 года, Адам Ягоравіч пачаў збіраць раскіданыя па розных дарэвалюцыйных выданнях публікацыі Максімавых твораў, дамаўляўся з Максімавымі таварышамі, каб напісалі ўспаміны. Збіраючы матэрыялы, спісваўся са сваякамі.

Ніжэй публікуюцца ў скарочаным выглядзе пісьмы Адама Ягоравіча да Веры Іванаўны Кунцэвіч. Пасля смерці Веры Іванаўны (1949 год) іх захоўвала яе дачка—Наталля Глебаўна Кунцэвіч, якая жыве ў Горкім па вуліцы Мініна, д. 29, кв. 1.

У 1964 годзе Наталля Глебаўна перадала іх мне, і цяпер яны захоўваюцца ў Дзяржаўнай бібліятэцы імя У. І. Леніна.

**15/IX-25 г.**
**Яраслаўль.**

**Дарагая Верачка,**[1]

**шаноўная цётка і ўсе любыя майму сэрцу пляменніцы і ўнучкі!**

**Я таму цябе, Верачка, паставіў на чале пісьма, што дзелавая частка яго цябе датычыць.**

**Зрабі ласку—падыдзі ў мясцовую Цэнтральную публічную бібліятэку на Варварцы, спытайся там т. Драніцына і папрасі яго пашукаць «Ніжаг[ародскі] Ліст[ок]» за 1915 г., прыблізна 90-я нумары. У іх надрукаваны пераклад Максімаў апавядання Франка**[2]**. Заканчэнне гэтага апавядання ў № 98 ёсць, так што друкаваць не трэба. І наогул пагартай Лісток за гэты год: ці не знойдзецца яшчэ чаго-небудзь Максімавага—передрукуй**[3]**. Колькі ўся гэтая аперацыя з перасылкамі і трамваем будзе каштаваць— прышлі рахунак, я вышлю грошы.**

**Усё гэта трэба зрабіць як мага хутчэй: затрымліваецца размеркаванне матэрыялу.**

**Пасля папрасі пашукаць «Украінскае жыццё» за 1914-ты год № 11—12 (лістапад—снежань) з артыкулам Максіма «Аб гуманізме і неабачлівасці» і таксама передрукуй. Ведаю, што ты занятая. Калі сама не зможаш— папрасі каго-небудзь...**

**Запіску да Драніцына прыкладаю...**

**Твой дзядзька Адам.**

**9/Х-25 г.**

**Дарагая Верачка!**

**Як шкада, што ты мне позна адказала і пры тым адмоўна. А я ўжо абнадзеіў Мінск, што справа на мазі. Няважна—ці будзе артыкул передрукаваны або перапісаны. Адзін фельетон перапісаць няцяжка. Можна абмежавацца толькі артыкулам у «Ніжаг. Лістку», а «Украінскае жыццё» пакінуць у спакоі: яго лягчэй дзе-небудзь знайсці, «Лісток...» жа не знойдзеш.**

**Калі ты не можаш гэтага зрабіць— папрасі каго-небудзь іншага, напрыклад, Андрушу, калі ён дома. І тады дай яму рэкамендацельнае пісьмо і ўсе неабходныя ўказанні. Калі Андрушы няма—магчыма знойдзецца яшчэ хто-небудзь, хто зможа зрабіць гэтую нескладаную справу. Што будзе каштаваць—я заплачу.**

**Я ведаю, што Вы вельмі холадна адносіцеся да выдання твораў Максіма. Але ўжо не да такой ступені варожа, каб не выканаць маёй просьбы па адшуканні добраахвотніка. Рускія артыкулы пойдуць у дадатак і таму яшчэ не позна. Аднак занадта доўга марудзіць не варта...**

**Ваш. А. Багдановіч.**

**15/Х-39 г.**

**Дзякуй табе, дарагая Вера, за пры-**

---

[1] Вера Іванаўна Кунцэвіч (народжаная Гапановіч), пляменніца Адама Ягоравіча, дачка яго сястры Магдаліны. Жыла ў Горкім, працавала машыністкай, памерла 10 лютага 1949 г.

[2] Апавяданне І. Франка «Муляр» перакладзена М. Багдановічам з украінскай на рускую мову («Каменщик») і апублікавана ў газеце «Нижегородский листок», 1915, № 94 ад 9 красавіка і № 98 ад 13 красавіка.

[3] У «Нижегородском листке», 1915, № 188 ад 13 ліпеня апублікаваны верш І. Франка «На реке вавилонской», перакладзены на рускую мову М. Багдановічам.

сылку выразкі аб выданні вершаў Максіма ў зборніку. Пасля далучэння Заходняй Беларусі цікавасць да яго ажывілася, бо адначасова мне прыслалі артыкул у «Литературной газете» № 54 нейкага Мазалькова вельмі хвалебны, з якога я даведаўся, што група паэтаў... выпускаюць у бліжэйшы час зборнік «Выбраных вершаў» М. Багдановіча ў сваіх перакладах на расійскую. Пераклады, наколькі я магу меркаваць па некаторых узорах, невысокай якасці, але ўсё ж сведчаць аб наяўнасці цікавасці да пісьменніка з *нашай сям'і*. З Максімам Багдановічам у цэлым знаёмы вельмі нямногія, бо выданні яго «Твораў» Белар. Акад. навук [Інстытута беларускай культуры] у продаж не пускаліся, а толькі служылі матэрыялам для абмену з іншымі выдавецтвамі. Зборнік «Вянок», выдадзены ў абмежаванай колькасці экземпляраў, яшчэ пры жыцці паэта ўвесь разышоўся. Дарэчы, у Вільні ён быў перавыдадзены ў 20-х гадах ды, напэўна, і яшчэ перавыдаваўся. Цяпер Вільню мы перадаем Літве—абставіны наўрад ці спрыяльныя для выдання беларускіх аўтараў: яна будзе адрэзана ад Беларусі. Але пажывем, то ўбачым, калі не я, дык ты...

Будзь здарова.
Твой дзядзька Адам.

Асобныя штрыхі з жыцця Максіма могуць быць і ў іншых пісьмах сваякоў і родзічаў. У свой час Адам Ягоравіч прасіў некаторых знаёмых напісаць успаміны пра сына. Можа і яны дзе захаваліся. Рукапісныя матэрыялы трэба шукаць, каб па крупінках сабраць як мага больш кветак у вянок памяці паэта.

Ніна ВАТАЦЫ.

# ПАМЯЦЬ ЗАСТАЕЦЦА ЛЮДЗЯМ

Кожны раз, спыняючыся ў музеі Янкі Купалы ля партрэта Уладзіславы Францаўны Луцэвіч, задумваешся, як лепш расказаць нашым наведвальнікам пра «цёцю Уладзю», гэтага незвычайнага чалавека, чалавека адкрытай душы і вялікага сэрца, актыўнага грамадскага і культурнага дзеяча, шчырую сяброўку і спадарожніцу Янкі Купалы, а пасля яго смерці — арганізатара і стваральніцу Літаратурнага музея паэта, першага яго дырэктара.

Сёлета ёй споўнілася б 80 гадоў. Нялёгкім і складаным быў жыццёвы шлях Уладзіславы Францаўны. Нарадзілася яна 26 снежня 1891 года ў мястэчку Вішневе Ашмянскага павета былой Віленскай губерні. Бацька, Франц Станкевіч, працаваў леснікам, а маці — Эміля Манэ, настаўніца па адукацыі — вучыла навакольных дзяцей грамаце. Бацька Уладзіславы Францаўны беларус, а маці — францужанка.

Сям'я Станкевічаў жыла ў маленькім чысценькім доміку, каля якога быў невялічкі садок, а ў доме — «прыгожая жанчына з пасівелымі валасамі, заплеценымі ў тоўстыя доўгія косы, зашпіленыя на галаве ў цяжкі пук, які, здаецца, адцягваў назад яе маленькую стройную галоўку. Вялікія ўважлівыя вочы яе,— успамінае Канстанцыя Буйла,— помняцца мне дагэтуль. Яна была маёй настаўніцай, кіраўніком і другам. Стары, вопытны педагог, Эмілія Станкевіч шмат часу аддавала на заняткі са мною. Яна кіравала маёй самаадукацыяй, выбіраючы мне кнігі для чытання, вяла доўгія і цікавыя гутаркі, адкрываючы вочы на ўсе з'явы жыцця і асяроддзя, у якім мы знаходзіліся тады. Усё гэта вельмі дапамагала ў жыцці, і я да апошняга дня з глыбокай любоўю і пашанай успамінаю маю лагодную і строгую, добрую і патрабавальную настаўніцу». Як пазней жартавала Уладзіслава Францаўна, ад маці яна ўзяла вясёлы і неспакойны характар, а знешняе падабенства — ад бацькі.

З партрэта работы мастака П. Сергіевіча на нас глядзіць стройная маладая дзяўчына ў беларускім нацыянальным уборы, з разумнымі ўважлівымі вачыма, з ясным прыгожым тварам. Ад бацькоў яна ўспрыняла ўсё лепшае, што можа быць у чалавеку: багацце натуры, душэўную чуласць і дабрату, крыштальную чысціню і сумленнасць, працавітасць. Жыццёвую сваю сцяжынку Уладзіслава Францаўна выбрала пад уплывам маці. Брат Уладзіславы Францаўны — Вінцэнт Станкевіч (цяпер пенсіянер, жыве ў Польшчы, г. Люблін) успамінаў, што малодшая ад яго на пяць гадоў сястра рашыла так, як і яе маці, аддаць свае сілы настаўніцкай рабоце. Яна вельмі любіла дзяцей, добра іх разумела, і не было нічога дзіўнага, што і дзеці хутка прывязваліся да сваёй выхавальніцы.

Атрымаўшы экстэрнам сярэднюю адукацыю ў Вільні, а потым закончыўшы двухгадовыя педагагічныя курсы ў Варшаве, Уладзіслава Францаўна пачынае сваю працу ў віленскай дзіцячай установе, падначаленай «обществу попечительства о бедных», карацей кажучы — у дзіцячым прытулку.

Вільня ў той час была сапраўдным асяродкам лепшых літаратурных і рэвалюцыйных беларускіх сіл. Перадавая прагрэсіўная моладзь групавалася вакол газеты «Наша ніва», збіралася на сходы, хоць яны і былі забаронены, а таму прыходзілася збірацца асцярожна, часта мяняючы месцы. Актыўны ўдзел у такіх сходах прымае і Уладзіслава Францаўна. Не менш асцярожна даводзілася трымаць сябе і на рабоце, бо не рэдкімі гасцямі дзіцячых прытулкаў былі паліцэйскія, якія наведваліся, каб паглядзець, ці не пахне і тут крамолаю. Беларуская мова ў той час была пад забаронаю, але Уладзіслава Францаўна настойліва вучыць дзяцей роднаму слову, развучвае з імі беларускія вершы і песні.



Уладзіслава Францаўна ў Вільні.



Уладзіслава Францаўна ў дзіцячым прытулку.

Працуючы ў прытулку, Уладзіслава Францаўна вядзе сярод працоўнай моладзі актыўную работу ў розных культурна-асветных і нелегальных гуртках, за што яе ў 1909—1911 гг. двойчы аддавалі пад суд.

Тут, у Вільні, у беларускай кнігарні на Завальнай, № 7, адбылася першая яе сустрэча з Янкам Купалам. «Калі я першы раз убачыла Купалу,— успамінала яна,— ён мне тады чамусьці не спадабаўся. Захапляючыся яго вершамі, я стварыла ў сваім уяўленні нейкі незвычайны вобраз паэта. Сваім сціплым выглядам ён нагадваў звычайнага сялянскага хлопца». Але гэта было першае ўражанне, а, як вядома, яно часцей за ўсё бывае памылковым. Так атрымалася і на гэты раз.

Пазнаёміўшыся з Я. Купалам, З. Бядулем, Цёткай, Станкевічанка (як яе тады называлі сябры) часта бывае ў рэдакцыі газеты «Наша ніва», збірае

і прыносіць сюды дапісы, інфармацыі. Часам і проста заходзіць, каб падзяліцца думкамі, уражаннямі, параіцца, а то і памагчы ў чым-небудзь, бо Купала і Бядуля ў той час «...жылі больш чым скромна, звычайна куплялі за 5 кап. «абрэзкаў» у каўбаснай краме і хлеба — гэта была іх вячэра. Заходзячы пасля працы да Купалы і Бядулі, — прыгадвала Уладзіслава Францаўна,— я часам прыносіла з сабою «складчыну» — булкі і бутэрброды, кладучы іх на агульны стол. Купала бурчэў і казаў, што ён не галодны, а Бядуля чырванеў, паўтараючы: «Што гэта ты робіш, Станкевічанка?» Аднак урэшце ўсе мы згодна садзіліся вячэраць».

Дабрата, клопаты аб чалавеку, увага да яго — гэтыя рысы характару былі ўласцівы Уладзіславе Францаўне на працягу ўсяго жыцця.

Шчыры прыхільнік беларускай мовы і літаратуры, яна памагала распаўсюджваць друкаванае слова ў народзе, разносячы кніжкі па розных беларускіх паветах і мястэчках. «У нядзелю ці ў іншы вольны дзень,— успамінала яна,— прыходзілася пераходзіць з месца на месца, пераносіць беларускія газеты, календары, кніжкі. Часта маім кампаньёнам і памочнікам у гэтай справе быў Янка Купала». А ў 1916 г. Уладзіслава Францаўна назаўсёды звязвае з ім свой лёс. У імперыялістычную вайну паэт быў прызваны ў армію, і яна ездзіць разам з ім па розных гарадах Беларусі. Брат Уладзіславы Францаўны Вінцэнт Станкевіч паспрыяў таму, каб Я. Купала трапіў да яго ў падначаленыя, і Купала служыць у дарожна-будаўнічым атрадзе Варшаўскай акругі шляхоў зносін. Вінцэнт Станкевіч вельмі любіў свайго родзіча і расказваў, што Купалу вылучалі вялікая тактоўнасць у адносінах з людзьмі, нейкая падкупляючая лагоднасць. Усё гэта здабывала яму шматлікіх прыхільнікаў. А вось сястра Уладка была зусім іншая: проста жывое срэбра, вясёлая, гаманлівая, поўная невычэрпнай энергіі. Але жылі яны добра, згодна, вельмі паважалі і кахалі адно аднаго.

У гэты цяжкі і складаны час Уладзіслава Францаўна не пакідала сваёй педагагічнай дзейнасці. Працуе нястомна, самаахвяра, з душою. Спачатку ў Маскве (1915—16) — настаўніцай-выхавальніцай у дзіцячым паказальным прытулку для дзяцей бежанцаў з Беларусі, затым (1917—19)— настаўніцай-выхавальніцай у дзіцячых дамах Смаленска і Полацка.

Педагагічнай дзейнасці не пакідае Уладзіслава Францаўна і ў савецкі час. Працуе дашкольным інспектарам Наркамасветы г. Мінска, настаўніцай-выхавальніцай 8-га беларускага паказальнага дзіцячага сада. А колькі клопатаў і ўвагі аддавала яна рабоце ў Мінскім палацы піянераў, дзе працавала да самай Вялікай Айчыннай вайны!

Працуючы інспектарам дашкольных устаноў, Уладзіслава Францаўна часта бывае ў дзіцячых дамах, уважліва назірае за жыццём дзяцей, памагае ім, чым толькі можа. Пры яе непасрэдным удзеле ў адным з такіх дамоў быў арганізаваны літаратурны гурток, дзе частымі гасцямі былі беларускія пісьменнікі.

Яна і сама спрабуе свае літаратурныя здольнасці, збірае і змяшчае матэрыялы ў дзіцячым часопісе «Зоркі», рэдактарам якога ў той час быў Змітрок Бядуля. Ёю складзены «Зборнік вершаў для дашкольных устаноў», «Народныя дзіцячыя песенькі», апрацаваны народныя казкі «Пых», «Як пеўнік казу прагнаў» і іншыя, а ў пазнейшы час яна — аўтар многіх артыкулаў, успамінаў пра Янку Купалу, Змітрака Бядулю, Цётку; складальнік многіх музейных зборнікаў аб жыцці і творчасці паэта, член рэдакцыйнай калегіі па выданні Збору твораў Янкі Купалы ў 6-ці тамах (1952—1954), а таксама Збору твораў (1961—1963).

Сваёй шчырай адданасцю, умельствам яна дамагалася таго, што тыя ўстановы, дзе ёй даводзілася працаваць, лічыліся ўзорнымі. Мала хто так пяшчотна і аддана, як Уладзіслава Францаўна, клапацілася пра сваіх маленькіх выхаванцаў. Настаўнік М. Сеўрук успамінае: «Працуючы ў акруговым аддзеле асветы, мне не раз даводзілася прысутнічаць на святочных раніцніках. Разам з бацькамі дзетак і мы, госці, радаваліся таму, як добра выхоўваліся тут маленькія савецкія грамадзяне. Як радасна свяціліся іх вочкі, як зладжана яны спявалі, дэкламавалі вершы, скакалі. Чысціня, парадак, мноства кветак у памяшканні — проста здзіўлялі. Як родная маці, як добры і ўмелы кіраўнік, Уладзіслава Францаўна акружала сваімі клопатамі гэтых дзетак».

Той, хто добра ведаў Уладзіславу Францаўну, не мог не звярнуць увагі на адну яе асаблівасць: незвычайную любоў да кветак. І дома, і там, дзе яна працавала, заўсёды было мноства кветак. Невялічкі кавалачак зямлі ля дома па Омскім завулку, 7, дзе жыла Уладзіслава Францаўна, проста патанаў у кветках. Яна сама іх клапатліва даглядала, аддаючы ім увесь вольны час. Гэта была яе радасць, яе ўцеха. Любоў да ўсяго жывога, прыгожага гаворыць аб вялікім багацці душы чалавека, аб яго чуласці і сардэчнасці.







Уладзіслава Францаўна сярод удзельнікаў ІІ-га з'езда пісьменнікаў Беларусі.

1941 год. Парушана мірная стваральная праца савецкіх людзей. Уладзіслава Францаўна, як і Купала, мужна пераносіць усе цяжкасці і нягоды ваеннага часу. Прыехаўшы ў Маскву, яна і там ні хвіліны не сядзіць без справы. Хвораму Купалу цяжка было выходзіць з дому, і Уладзіслава Францаўна старалася сама ўладкаваць усе яго справы: хадзіла ў рэдакцыі, да знаёмых, прымала актыўны ўдзел у рабоце мясцовай супроцьпаветранай абароны, дзяжурыла па доме за сябе і мужа, а то і за другіх людзей.

У канцы кастрычніка 1941 года Я. Купала збіраецца пераехаць у Казань, дзе ў гэты час знаходзілася Акадэмія навук Беларусі. У час падарожжа паэт вельмі дрэнна сябе адчуваў. Яго мучыў кашаль, даваў сябе знаць хранічны плеўрыт. На пераправе праз Волгу ў раёне пасёлка Печышча (Чувашская АССР) давялося затрымацца. Дырэктар мясцовага млынзавода І. Я. Наякшын, даведаўшыся, што на пераправу прыехаў Янка Купала, запрасіў яго да сябе, прыняў Уладзіславу Францаўну і Купалу, як родных. Пазней у адным з пісьмаў Уладзіслава Францаўна пісала: «Мы прыйшлі нібы ў родны дом. Я да канца жыцця не забуду гэтай сям'і. Я настойвала на пераездзе ў Казань, але Купала катэгарычна заявіў, што нікуды не хоча ехаць, застанецца жыць у Печышчы».

Хворы Я. Купала і тут не спыняе актыўнай грамадскай і літаратурнай дзейнасці. Ён удзельнічае ва Усебеларускім антыфашысцкім радыёмітынгу ў Казані, дзе выступае з прамоваю, піша публіцыстычныя артыкулы, вершы, заклікаючы народ на барацьбу з лютым ворагам. Уладзіслава Францаўна ўсяляк аберагае Купалу ад розных турботаў і клопатаў, усімі сіламі імкнецца аблегчыць яго становішча.

Купала цяжка пераносіў зіму, перамену клімату. З кожным днём пагаршалася яго здароўе. І. Я. Наякшын успамінае, што ў гэты час Купала «часта хварэў, скардзіўся на боль у правай руцэ, моцную задышку, празмерна нерваваўся і скардзіўся, што хвароба не давала яму магчымасці поўнасцю выкарыстоўваць свае сілы ў барацьбе з ворагам».

У чэрвені 1942 года па выкліку ЦК КПБ Янка Купала збіраецца зноў у Маскву. Набліжаўся яго юбілей — 60-годдзе з дня нараджэння,— і апрача таго, Купала хацеў звярнуцца да маскоўскіх урачоў — яму вельмі нездаровілася.

Як не хацелася Уладзіславе Францаўне адпускаць яго ў Маскву аднаго, нібы адчувала сэрца, што гэта

апошняе развітанне з Купалам. Так яно і здарылася. Нечаканая вестка аб смерці мужа пякучым болем адгукнулася ў яе сэрцы. Уладзіслава Францаўна добра разумела, якую страту панесла не толькі сама, але ўвесь беларускі народ.

«Прыйшло пісьмо ад Уладзіславы Францаўны, — успамінае К. Буйло,— што яна не можа вылецець на пахаванне мужа, бо не лятаюць самалёты з-за дрэннай пагоды, і яна сядзіць на аэрадроме. Пісьмо поўнае суму і болю. А калі, урэшце, прыехала Уладзіслава Францаўна, жах ахапіў мяне. Я не пазнала яе. Яна неяк уся счарнела, быццам апаленая сонцам да чарнаты. Трымалася яна мужна, як заўсёды, але гора сушыла яе ідавочна».

Цяпер, пасля смерці Купалы, усю сваю любоў і клопаты перанесла Уладзіслава Францаўна на жывую спадчыну — творчасць паэта, памяць аб ім. Справа Купалы была для яе даражэйшай за ўсё на свеце. «Памяць Янкі — гэта ўсё, што засталося мне ў жыцці»,— пісала яна сваім знаёмым. Амаль кожны яе ліст да блізкіх пачынаўся словамі пра Янку Купалу і канчаўся яго імем. Яна працягвала жыць яго жыццём.

Стварэнню музея, гэтага сапраўднага помніка паэту, Уладзіслава Францаўна аддае ўсе сілы, здароўе, вялікую нястомную энергію. Стаўшы ў 1943 годзе спачатку адказным сакратаром камісіі па ўвекавечанні памяці Янкі Купалы пры АН БССР, а затым (1945—60) клапатлівым арганізатарам і дырэктарам Літаратурнага музея паэта, Уладзіслава Францаўна ездзіць па розных гарадах, сустракаецца з рознымі людзьмі, якія ў свой час былі знаёмыя з Купалам, і клапатліва, па крупінках збірае матэрыялы для будучага музея: пісьмы, рукапісы вершаў, паэм, кнігі, фотаздымкі. Нялёгка было ствараць музей. Дом, у якім жыў паэт, быў дашчэнту спалены фашыстамі, згарэлі ўсе рэчы, велізарная бібліятэка, рукапісы. Апрача таго, немцы вывезлі шмат кніг і рукапісаў з Дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна ў Мінску, сярод якіх былі і купалаўскія.

Як радавалася Уладзіслава Францаўна кожнаму новаму экспанату для музея, кожнаму новаму аркушу, знойдзенаму ў архівах Кіева, Ленінграда ці Вільнюса!

У розныя куткі краіны ляцяць шматлікія пісьмы: яе турбуюць выданні твораў Купалы, пошукі новых матэрыялаў, ушанаванне яго памяці. У пісьмах да адных яна расказвае пра свае музейныя справы, распытвае пра здароўе, асабістае жыццё, другім — спачувае ў горы, з іншымі — падзеліць радасць.

Па меры таго як рос музей, шырыліся фонды, паўставала пытанне аб будаўніцтве асобнага памяшкання пад літаратурны музей паэта. Уладзіслава Францаўна бярэцца за гэтую складаную справу. Проста здзіўляла, адкуль у яе, жанчыны ўжо ў гадах, столькі сіл і энергіі. Будаўніцтва, набыццё мэблі, абсталявання, распрацоўка і размяшчэнне новай экспазіцыі — усё гэта не кожнаму і мужчыну пад сілу. А яе хапала на ўсё, што толькі датычыла памяці Купалы. І як шкада, што дзверы новага музея для першых наведвальнікаў 17 мая 1960 года расчыняліся ўжо без Уладзіславы Францаўны, бо 25 лютага гэтага ж года перастала біцца сэрца гэтага няўрымслівага чалавека.

Савецкі ўрад высока ацаніў плённую дзейнасць Уладзіславы Францаўны. Яна была ўзнагароджана двума ордэнамі «Знак пашаны», медалямі, граматамі, а ў 1959 годзе ёй было нададзена ганаровае званне заслужанага дзеяча культуры БССР.

Цёцю Уладзю добра ведалі далёка за межамі нашай рэспублікі. Усюды яна была самым дарагім і жаданым чалавекам. Шчырая дружба, якая звязвала яе з людзьмі была моцнай і трывалай доўгія гады. Дзверы сціплага дома цёці Уладзі заўсёды шырока былі расчынены для ўсіх: знаёмых і незнаёмых, пісьменнікаў і артыстаў, мастакоў і кампазітараў, дзяцей. Гасцінная і добразычлівая, яна не магла адна сесці за стол, ніколі не выпускала з дому чалавека, не пачаставаўшы яго, не сказаўшы яму добрага слова. З нейкай уласцівай толькі ёй цеплынёю і ўвагай адносілася цёця Уладзя да тых людзей, якія зазналі ў жыцці шмат гора. Няхай гэта былі і малазнаёмыя людзі, але яна ўсяляк дапамагала ім, падтрымлівала ў цяжкую хвіліну маральна і матэрыяльна, знаходзіла цёплыя словы суцяшэння і парады. Чулая і сардэчная, яна заўсёды думала пра іншых і ніколі — пра сябе...

●

З дня ў дзень мы ходзім разам з нашымі шматлікімі наведвальнікамі па залах музея. І заўсёды з намі нябачна ідзе яна, наша цёця Уладзя. Яна назаўжды пасялілася ў Доме Купалы, верны друг, памочнік і дарадчык вялікага песняра.

**Тамара ТАРАСАВА.**





## КРЫТЫКА: ПРАБЛЕМЫ, МЕРКАВАННІ

# ТРАДЫЦЫЯ ДАЎНЯЯ І ДОБРАЯ

З кім толькі ні параўноўвалі крытыка! Памятаеце: вадзіцель трамвая, кандуктар, нервовы пасажыр, своеасаблівы АТК, літаратурны настаўнік... Крытык, якім ён павінен быць,—кожнаму ўяўляецца па-свойму. Выказваліся меркаванні, што крытык—гэта літаратар, які стаіць паміж пісьменнікам і чытачом, каментатар мастацкага твора. Барысу Сачанку, напрыклад, крытык бачыцца непадкупным, прынцыповым і справядлівым суддзёй. Ён не без падстаў наракае на тое, што наша крытыка пакуль што не раскрыла непаўторнасць і характва, гістарычную абумоўленасць і неабходнасць з'яўлення беларускай літаратуры, не паказала глыбіню і багацце таленавітых пісьменнікаў—класікаў і сучасных... У гэтых і іншых аналогіях і меркаваннях шмат праўды, і ўсё ж такі падобная пастаноўка пытання аб'ектыўна надае асобе крытыка падпарадкавальную і нават другарадную ў дачыненні да літаратуры (а значыць і да жыцця) ролю.

Я дапускаю думку, што крытык Ікс нагадвае ў нечым вадзіцеля трамвая (у якім едуць пісьменнікі), а крытык Іграк бярэ на сябе не менш высокія функцыі літаратурнага суддзі. Характар, тэмперамент чалавека непазбежна адбіваюцца на яго творчай індывідуальнасці і стылі работы. І гэта натуральна. Аднак у цэлым, на маю думку, трэба пагадзіцца, што сучасны крытык—перш за ўсё пісьменнік, у творчасці якога па-свойму, своеасабліва адлюстроўваецца якраз тое, што адначасна хвалюе і празаіка, і паэта, і публіцыста, і драматурга,—жыццё ва ўсёй яго шматмернасці і складанасці. А паколькі гэта так, то крытык павінен ведаць жыццё не горш за пісьменніка, бо мэта ў іх, урэшце, адна—здзяйсненне высокай ідэйна-выхаваўчай задачы літаратуры як люстра жыцця.

У сувязі з гэтым востра паўстае пытанне; а ці дастаткова добра ведаем мы, крытыкі, сучаснае народнае жыццё, яго асноўныя з'явы і тэндэнцыі? Ці выразна адчуваем сягонняшні размах камуністычнага будаўніцтва, творчы пафас, якім ахоплена наша грамадства? Жыццёвы комплекс мноства самых разнастайных праблем ва ўсіх галінах грамадскага развіцця—сацыянальных, грамадзянскіх, ідэалагічных, маральных, псіхалагічных, арганічна звязаных паміж сабой? Ці падрыхтаваны мы для іх даследавання, ці ясна бачым мы тыповыя фігуры герояў нашага часу, людзей, якія рухаюць жыццё ўперад, па шляху да камунізма?

Цяжка даць на гэтыя запытанні сцвярджальны адказ. Нашай крытыцы, безумоўна, нестае актыўнасці і баявітасці ў пастаноўцы важнейшых, вузлавых праблем, узаемасувязі жыцця і літаратуры. Пераадолеўшы тэндэнцыі просталінейнасці, якія мелі месца гадоў дваццаць назад, наша крытыка не ўхілілася другой аднабаковасці—аналізу і ацэнкі мастацкіх твораў толькі з эстэтычных пазіцый, замыкаючыся ў катэгорыях чыста літаратурнага раду.

Партыя і ўрад робяць усе захады для таго, каб стварыць літаратарам найбольш спрыяльныя ўмовы для вывучэння жыцця на самых перадавых участках камуністычнага будаўніцтва. Асаблівую актуальнасць і цікавасць у гэтым сэнсе мае, як вядома, тэма

рабочага класа, у асяроддзі якога жывуць і твораць людзі, дзякуючы працы і камуністычнай перакананасці якіх наша жыццё няўхільна імкнецца наперад. Тэма рабочага класа, тэма працы ў нашай літаратуры ўспрымаецца сёння як праблема, якую, у творчым плане, належыць абмяркоўваць, прагназаваць на стыку сацыялогіі (без яе нельга) і менавіта літаратурнай крытыкі. Гэта вельмі адчувальна сёння. Крытыка не можа задаволіцца ўласным запасам прафесійных сродкаў (якія, дарэчы, таксама, патрабуюць абнаўлення), прывычнымі фармуліроўкамі, што адсталіся за дзесяцігоддзі, аналізам, які канстатуе толькі літаратурныя факты, вывадамі, якія паўтараюць ужо здабытыя нашай тэорыяй і практыкай ісціны. Крытыка павінна звярнуцца да новых фактаў самога жыцця, каб рашуча і глыбока супаставіць іх з фактамі мастацкімі, інакш яна не апраўдае аднаго са сваіх прызванняў — разведчыка літаратуры ў жыцці.

Не памятаю выпадку, каб сярод пісьменнікаў, якія знаёмяцца і вывучаюць жыццё заводскага калектыву, былі (за рэдкім і рэдкім выключэннем) крытыкі. А між тым іх прафесіяналізм, абмежаваны вузкім колам назіранняў, ставіць сёння сур'ёзныя перашкоды паміж творчасцю і сучасным народным жыццём. Даўно заўважана, што наша крытыка больш-менш лёгка адчувае сябе толькі сярод тых твораў, што напісаны аб мінулым. Глыбокія праблемныя артыкулы калі зрэдку і з'яўляюцца, дык менавіта на матэрыяле такіх твораў. Па гэтай жа прычыне ў нас амаль не абмяркоўваюцца пытанні, звязаныя з праблемай станоўчага героя сучаснасці.

Ад слабой сувязі з жыццём залежыць і жанравая аднастайнасць нашай крытыкі — гэта ў асноўным рэцэнзіі, агляды, радзей літаратурныя партрэты. Пры гэтым беларуская літаратура, творчасць «сваіх» пісьменнікаў амаль не бярэцца ў кантэксце з іншымі нацыянальнымі літаратурамі, з агульным працэсам.

Нетрывалыя сувязі з сённяшнім жыццём не даюць нам магчымасці станоўча вырашыць праблему спалучэння сацыялагічнага і эстэтычнага аналізу. Недастатковае веданне рэчаіснасці перашкаджае крытыку вырасці ў сапраўдную творчую індывідуальнасць, адмоўна адбіваецца на прынцыповасці ў ацэнках.

Я дазволіў сабе выказацца — у форме самых агульных заўваг — аб рабоце нашай сучаснай літаратурнай крытыкі, не клапоцячыся пра тое, каб захаваць прапорцыі дасягненняў і недахопаў. Пра дасягненні шмат і поўна гаварылі другія таварышы — удзельнікі дыскусій па крытыцы ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» і часопісе «Маладосць».

Беларуская савецкая літартурная крытыка, якая заўсёды (і цяпер таксама) цвёрда стаяла на пазіцыях марксісцка-ленінскай метадалогіі, мае свае даўнія і добрыя традыцыі ўважлівых адносін да таленту, павагі да жыцця, сувяззю і суадносінамі з якім правяраецца праўдзівасць і ідэйна-эстэтычная каштоўнасць мастацкага твора. Няхай гэтыя традыцыі жывуць і развіваюцца.

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ.**






**У. М. КОНАН.**
**ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ЭСТЭТЫКА БЕЛАРУСІ. 1905—1917 ГАДЫ.**
**На рускай мове.**
**Выдавецтва «Навука і тэхніка», Мінск, 1971.**

# ПРА БЕЛАРУСКУЮ ЭСТЭТЫКУ

Параўнаўча невялікі перыяд, які змясціўся ў межах другой паловы мінулага і пачатку нашага стагоддзяў, стаў надзвычай важным у гістарычным жыцці беларускага народа, фарміраванні яго нацыянальнай культуры. Гэта быў час хуткага выспявання сацыяльнай і нацыянальнай самасвядомасці працоўных мас, час, калі магутная хваля вызваленчага руху нарадзіла разнастайныя формы творчай актыўнасці беларускага народа.

Мастацтву, літаратуры, грамадска-палітычнай думцы і сацыяльнаму руху той эпохі прысвечаны многія даследаванні, розныя па жанры. Цікавасць да свайго мінулага — у дадзеным выпадку не такога далёкага — абумоўлена як узмацненнем агульнай тэндэнцыі паглыбленага вывучэння ўласнай гісторыі, што з'яўляецца паказчыкам сталасці кожнай нацыі, так і імкненнем далучыцца да тых духоўных каштоўнасцяў, якія дасталіся нам у спадчыну; праца для будучага — гэта адначасова і ўсебаковае засваенне нялёгкага вопыту мінулага, лепшыя культурныя дасягненні якога павінны стаць арганічным элементам духоўнай атмасферы заўтрашняга дня.

У рэчышчы гэтага агульнага працэсу вывучэння гісторыі нашай культуры знаходзіцца кніга Уладзіміра Конана «Дэмакратычная эстэтыка Беларусі. 1905—1917 гг.» Недалёка адышоў той час, калі пастаноўка пытання пра нацыянальную эстэтыку лічылася беспадстаўнай. Да такога дзіўнага вываду можна было прыйсці толькі пры ігнараванні своеасаблівасці шляхоў развіцця нацыянальнай культуры, пры недастатковай увазе да спецыфікі форм яе выяўлення і бытавання. Механічнае выкарыстанне традыцыйнай эстэтычнай праблематыкі, якая ўзнікла на адметнай культурна-філасофскай глебе, вяло да адмаўлення самога факта існавання беларускай эстэтыкі. У. Конан правільна акрэслівае традыцыйныя крыніцы гісторыі эстэтычнай думкі і адзначае іх нязначную ўдзельную вагу ў гісторыі эстэтычнай думкі Беларусі. Пры гэтым, адзначаючы канкрэтныя гістарычныя абставіны, неспрыяльныя для фарміравання ў Беларусі ў дакастрычніцкі час абстрактна-аналітычнай эстэтыкі як спецыялізаванай філасофскай галіны ведаў, У. Конан гаворыць пра неабходнасць аднаўлення з дапамогай усебакова распрацаванага сучаснай навукай абстрактна-лагічнага апарату цэласнай карціны эстэтычнай дзейнасці, якая знайшла сваё ўвасабленне ў разнастайных формах культурнага жыцця беларускага народа. Задача гэтая складаная і патрабуе намаганняў многіх даследчыкаў, здольных выкарыстаць розныя крыніцы — літаратурна-мастацкія, крытычныя, фальклорныя, этнаграфічныя і інш.

Разумеючы, што вырашэнне гэтай праблемы ў больш-менш поўным аб'ёме справа будучага, таму што патрабуе папярэдняга высвятлення многіх асобных пытанняў, У. Конан ставіць сабе прыватную і больш канкрэтную задачу. Але гэтая прыватная ў адносінах аднаўлення цэласнай карціны эстэтычнай дзейнасці беларускага народа задача з'яўляецца пры цяперашнім узроўні вывучэння нацыянальнай эстэтыкі дастаткова складанай і метадалагічна, і з пункту погляду адбору таго культурна-гістарычнага матэрыялу, які ўводзіцца аўтарам. Карацей кажучы, перад У. Кананам узніклі ўсе цяжкасці першай абагульняючай работы.

У цэнтры ўвагі даследчыка — этап гісторыі духоўнага жыцця нашага народа, калі сфарміравалася і найбольш яскрава выявілася такая шматгранная з'ява нацыянальнай культуры, як дэмакратычная эстэтыка.

У папярэдняй фармуліроўцы сутнасць самога паняцця дэмакратычная эстэтыка вызначана як «напрамак у эстэтычнай думцы і мастацкай культуры, што ўзнік ля народных вытокаў і скіраваны да народа». Пры гэтым ад-

розненне дэмакратычнай эстэтыкі ад эстэтыкі народнай зводзіцца да наступнага: народная эстэтыка з'яўляецца «непасрэдным выяўленнем існых сіл народа, яго светапоглядам», а дэмакратычная эстэтыка ёсць пераступанне межаў непасрэднага, цэласна-мастацкага дадзенага, выхад у сферу крытыкі і філасофіі і адпаведна — у галіну ідэалогіі і палітыкі. Што ж датычыцца храналагічных рамак узнікнення і існавання дэмакратычнай эстэтыкі, дык У. Конан некалькі неакрэслена піша пра паступовасць яе ўзнікнення на працягу ўсяго XIX ст. і робіць цалкам апраўданы акцэнт на 1905—1917 гг., якія сталі вышэйшым этапам яе развіцця.

Паколькі У. Конан разглядае менавіта гэты этап, г. зн. бярэ з'яву ў момант яе найбольшай выразнасці, аформленасці, натуральна, што вытокі яе выпадаюць з цэнтра ўвагі, хаця і не закрануць іх нельга. Зразумела, сама праблема ўзнікнення беларускай дэмакратычнай эстэтыкі заслугоўвае спецыяльнага разгляду, і яе вырашэнне ў немалой ступені залежыць таксама ад дасягненняў нацыянальнага літаратуразнаўства і мастацтвазнаўства. Калі У. Конан, правамерна звязваючы фарміраванне эстэтычнай думкі з развіццём літаратуры, піша пра паступовае ўзнікненне дэмакратычнай эстэтыкі на працягу ўсяго XIX ст., то тым самым якасная пэўнасць рыс, што складаюць яе сутнасць, губляецца ў такіх своеасаблівых з'явах літаратуры мінулага стагоддзя, як гутаркі, «Зайграй, зайграй, хлопча малы» П. Багрыма і «Тарас на Парнасе», дзейнасць так званых беларуска-польскіх пісьменнікаў, сярод якіх В. Дунін-Марцінкевіч займае асаблівае месца, і дзейнасць Ф. Багушэвіча і яго паслядоўнікаў. Тут многае яшчэ не высветлена ў літаратуразнаўчым плане. У прыватнасці, недастаткова ўсвядомлена наватарскае значэнне творчасці Ф. Багушэвіча; больш таго, часамі нават ставіцца пад сумненне яго творчая, мастацкая сіла. А вось прынцыповай важнасці факт пераадолення Ф. Багушэвічам абстрактна-эстэтычнага прынцыпа гарманічнага яднання, які вызначаў агульны характар ідэйна-мастацкай пазіцыі В. Дуніна-Марцінкевіча, і сцвярджэнне Ф. Багушэвічам паслядоўна рэалістычнай накіраванасці на адлюстраванне трагічных супярэчнасцяў народнага жыцця, што стала фундаментам далейшага развіцця беларускай дэмакратычнай літаратуры ў дакастрычніцкі перыяд,— гэта факт нейкім чынам выпадае з поля зроку некаторых даследчыкаў. Што ж датычыць узнікнення дэмакратычнай эстэтыкі, дык думаецца, што У. Конан набліжаецца да выразнага рубяжа, калі піша пра значэнне дзейнасці К. Каліноўскага і Ф. Багушэвіча ў фарміраванні нацыянальнай культуры.

Разам з тым здаецца, што У. Конан закранае з'яву іншага парадку, *калі ў* плане ўзнікнення дэмакратычнай эстэтыкі звяртаецца да дзейнасці беларуска-польскіх пісьменнікаў. У пэўнай ступені гэта апраўдана толькі ў дачыненні да В. Дуніна-Марцінкевіча, але яго роля ў развіцці новай беларускай літаратуры знаходзіцца ў прамой залежнасці ад перарастання рамак «польска-беларускай школы». У адпаведнасці з гэтым і вызначэнне дзейнасці польска-беларускіх пісьменнікаў як прадстаўнікоў «дваранскага перыяду» фарміравання нацыянальнай культуры, акрэсліванне іх ролі ў плане таго, што яны «заклалі асновы новай беларускай культуры», пярэчыць уласнай думцы аўтара пра тое, што яны «мала зрабілі для нацыянальнага адраджэння народа». Але ж відавочна, што сцвярджэнне ідэй і прынцыпаў нацыянальнай культуры, тым больш «закладанне асноў» не можа адбывацца ў адрыве ад агульнага ўздыму нацыянальнай і сацыяльнай самасвядомасці; уласна кажучы, працэс фарміравання нацыянальнай культуры і ёсць выяўленне стваральных сіл народа, яго адраджэння да новых форм жыцця і барацьбы.

Справядліва адзначаючы спрыяльнасць уплыву прагрэсіўнай рускай і польскай эстэтыкі на развіццё эстэтычнай думкі Беларусі, У. Конан імкнецца паказаць своеасаблівасць эстэтычных ідэй і ўяўленняў, якія сцвярджаліся дэмакратычнымі беларускімі пісьменнікамі і публіцыстамі ў пачатку нашага стагоддзя. Матэрыял выкладзены ў шырокім кантэксце агульнакультурных праблем, у цеснай сувязі з развіццём рэвалюцыйна-дэмакратычнай літаратуры і крытыкі, якія з'яўляліся на тым этапе важнейшай формай выяўлення эстэтычнай свядомасці беларускага народа.

У цэлым прырода беларускай дэмакратычнай эстэтыкі 1905—1917 гадоў раскрыта *ў кнізе як арганічнае* адзінства дзвюх форм эстэтычных адносін да рэчаіснасці і ацэнкі яе — рэалістычнай, сацыяльна-крытычнай у адносінах да буржуазна-памешчыцкіх сацыяльных парадкаў, і рамантычнай, якая разгортвалася ў напрамку паэтызацыі лепшых пачаткаў народнага жыцця, эстэтызацыі *каштоўнасцяў народнай* культуры. Гэтае двуахдзінства эстэтычных адносін у канкрэтным выкладанні размеркавана У. Конанам па трох *лініях праблематыкі*.

Першая лінія — праблема ідэалу, які разглядаецца ў двух аспектах: сацыяльна-палітычным (свабода як ідэал) і эстэтычным. Аўтар паказвае, што барацьба за здзяйсненне ідэйна-эстэтычнага ідэалу рэвалюцыйна-дэмакратычных беларускіх пісьменнікаў (Я. Купалы, Я. Коласа, Цёткі) вызначала як рэвалюцыйна-пераўтваральную накіраванасць іх творчасці, так і адкрыццё і сцвярджэнне новых эстэтычных каштоўнасцяў (сцвярджэнне велічы і духоўнай прыгажосці працоўнага народа, эстэтызацыя роднай зямлі, мовы, народнага побыту, песні). Трэба адзначыць, што пры разглядзе гэтай праблемы матэрыял публіцыстыкі пераважае над матэрыялам мастацкім. У. Конан акрэсліў ва ўводзінах тыя крыніцы, якія ён выкарыстоўвае ў сваёй рабоце: крытыка, публіцыстыка, праграмныя літаратурныя творы, некаторыя архіўныя матэрыялы. Абмежаванне ў адносінах да жывых мастацкіх з'яў непазбежна павінна было адбіцца на разглядзе шэрагу пытанняў. Так, пранікненне ў прыроду ідэалу беларускай дэмакратычнай эстэтыкі патрабавала разгортвання праблемнага і фактычнага матэрыялу ў аспекце катэгорыі прыгожага, г. зн. неабходна было ставіць пытанне пра своеасаблівасць канцэпцыі прыгожага ў эстэтыцы адзначанага перыяду. Улічваючы, што літаратура з'яўлялася ў той час найбольш развітай духоўнай формай, якая змяшчала ўсю сукупнасць грамадскіх ідэй, у тым ліку і эстэтычных, можна сказаць, што вырашэнне гэтага пытання намячалася толькі ў напрамку ўважлівага канкрэтнага аналізу тых разнастайных мастацкіх форм, якія афарбаваны святлом ідэалу. І калі сфера ідэалізацыі ў цэлым акрэслена правільна, дык спецыфічныя эстэтычныя характарыстыкі атрымаліся паслабленымі.

У сувязі з праблемай ідэалу хацелася б звярнуць увагу яшчэ на адзін момант у адрозненні дэмакратычнай эстэтыкі ад эстэтыкі народнай, на які ўказвае аўтар: гэта — суадносіны красы і ісціны ў розных тыпах эстэтычнай свядомасці. «У народнай эстэтыцы ісціна выступае ў форме красы, у дэмакратычнай эстэтыцы краса набывае форму ісціны». Перш за ўсё народная эстэтыка не ведае такога супрацьпастаўлення, таму што ёй уласцівы сінкрэтызм падыходу да з'яў рэчаіснасці, у якім непарыўна злучаны эстэтычны, маральны і ісцінны пачаткі. Адносна беларускай дэмакратычнай эстэтыкі трэба сказаць, што заўвага У. Конана пра тое, што «ў дэмакратычнай эстэтыцы краса набывае форму ісціны», хаця і гучыць занадта катэгарычна, адлюстроўвае важную рысу эстэтычнага светаразумення другой паловы XIX ст. Творчасць Ф. Багушэвіча сапраўды сведчыць пра такі этап развіцця эстэтычных уяўленняў, калі дылема — праўда ці прыгажосць — была не толькі выразна адчувальнай, але і ясна ўсвядомленай, калі дысгарманічная рэчаіснасць у яе трагічных, здавалася б, невырашальных супярэчнасцях выступала як далёкая ад якой бы там ні было гарманічнай упарадкаванасці. Разам з тым тэзіс пра існаванне красы ў форме ісціны ў дачыненні да развіцця эстэтычнай свядомасці ў пачатку нашага стагоддзя неправамерны і вядзе да вываду, быццам беларуская дэмакратычная эстэтыка не ведала праблемы ідэалу, праблемы прыгожага. Але з такім вывадам, безумоўна, не згодны і сам аўтар, які прысвяціў першы раздзел сваёй кнігі праблеме ідэалу і тым самым падкрэсліў, што ў гэтым ён бачыць важнейшую характарыстыку духоўнай з'явы, якая ім разглядаецца.

Другая праблематычная лінія ў кнізе — гэта развіццё першай і разам з тым яе канкрэтызацыя ў плане мастацкага метаду. Даецца кароткая гісторыя ацэнак беларускай літаратуры з пункту погляду метаду і мастацкага кірунку. Аўтар схіляецца да вываду, што для «беларускіх пісьменнікаў 1905—1917 гг. быў характэрны своеасаблівы сінтэз рэалізму з рамантызмам». Хоць пра рэалізм і рамантызм беларускай літаратуры пачатку XX ст. напісана не так мала, праблема гэтая належыць да ліку «вечных тэм» нашага літаратуразнаўства і эстэтыкі. Вечных не ў сэнсе бясконцага існавання саміх паняццяў, з дапамогай якіх адбываецца на пэўным этапе пранікненне ў сутнасць ідэйна-мастацкіх з'яў, а ў сэнсе пастаянства пошукаў новых вызначэнняў, якія дапамаглі б з найбольшай дакладнасцю адлюстраваць своеасаблівасць гістарычна канкрэтнай формы мастацтва.

Адносна рэалізму і рамантызму ў беларускай літаратуры пачатку XX ст. можна сказаць, што многае ў вырашэнні гэтай праблемы залежыць, відаць, ад разумення характару самога «сінтэзу». Дарэчы, амаль ва ўсіх формах мастацтва новага і навейшага часу можна знайсці ў той ці іншай ступені сінтэз супроцьлеглых пачаткаў — як у змястоўных, так і ў фармальных структурах; аднак вылучэнне гэтых пачаткаў хоць і ёсць момант набліжэння да спецыфікі пэўных мастацкіх з'яў, яшчэ не дае цэласнага ўяўлення аб іх прыродзе. У. Конан гаворыць пра сінтэз рэалізму з рамантызмам, а таксама пра існаванне рамантызму «ў межах крытычнага рэалізму». Відаць, адрозненні гэтых фармулёвак чыста стылістычныя. Наўрад ці апраўданы тэрмін «фальклорны рэалізм», якім карыстаецца аўтар. У. Конан часта звяртаецца да народнай эстэтыкі, прычым нярэдка ўскладае на яе празмерна шырокія функцыі. Калі ён піша, што паэмы «Яна і я» Я. Купалы і «Но-

вая зямля» Я. Коласа — гэта «найбольш поўнае выяўленне народнай эстэтыкі ў беларускай літаратуры», то ў гэтым выпадку губляюцца ўсякія межы паміж народнай творчасцю і літаратурай як асобным відам мастацтва. Гістарычнае значэнне творчасці Купалы і Коласа, іх выдатная роля ў развіцці беларускай літаратуры заключаецца якраз у тым, што яны стварылі новыя ідэйна-эстэтычныя каштоўнасці, якасна адметныя, з аднаго боку, ад традыцыйна-фальклорных і з другога — ад мастацкіх дасягненняў іх літаратурных папярэднікаў. Нельга пры гэтым не ўлічваць, што народнасць творчасці Я. Купалы і Я. Коласа атрымала больш складанае выяўленне, чым форма прамой сувязі з фальклорным светаадчуваннем.

Па аналогіі з сінтэзам рэалізму і рамантызму ў літаратуры У. Конан разглядае рэалістычную і рамантычную канцэпцыі мастацтва ў эстэтычнай думцы. Першая, рэалістычная, прасочваецца як ідэя адлюстравання жыцця; другая, рамантычная, звязана са сцвярджэннем пераўтваральнай місіі мастацтва ў грамадскім жыцці. Паказваецца ўзаемазалежнасць у эстэтыцы гэтых канцэпцый мастацтва, іх аб'яднанне ў плане шырокай катэгорыі народнасці. Гэта трэцяе кола праблем, якія разглядаюцца ў кнізе. У. Конан закранае таксама некаторыя пытанні развіцця мастацкай крытыкі ў дакастрычніцкі перыяд. Заслугоўвае ўвагі думка пра два этапы развіцця літаратурна-мастацкай крытыкі; этап «асветніцкі» — у шырокім разуменні — як вылучэнне на першы план грамадзянскага моманту (прызначэнне мастацкай творчасці, роля пісьменніка, паэта ў грамадскім жыцці), і этап «эстэтычны», калі грамадзянскасць пазіцыі крытыка спалучаецца з развіццём мастацкага густу і глыбокім веданнем тэорыі і гісторыі мастацтва і эстэтыкі. Цікавымі з'яўляюцца назіранні тэрміналагічнага парадку, якія адлюстроўваюць асаблівасці фарміравання літаратурна-мастацкай крытыкі таго перыяду.

Як першая абагульняючая праца кніга У. Конана каштоўная перш за ўсё самой пастаноўкай праблемы; значэнне гэтага часам недаацэньваецца. Аўтар здолеў высветліць шэраг істотных пытанняў развіцця беларускай эстэтыкі ў пачатку бягучага стагоддзя. Супярэчлівасць асобных меркаванняў абумоўлена цяжкасцямі выпрацоўкі шырокага сінтэтычнага падыходу да багатага і разнастайнага ідэйна-мастацкага матэрыялу, цяжкасцямі пошукаў спецыфічнага метаду гісторыка-эстэтычнага даследавання. Трэба спадзявацца, што кніга У. Конана будзе спрыяць больш актыўнаму абмеркаванню праблем нашай эстэтыкі, вывучэнне якой разгортваецца яшчэ вельмі марудна.

Альфрэд **МАЙХРОВІЧ.**

# У НЯСТОМНЫМ ПОШУКУ

Народная лексіка — жыватворная і невычэрпная крыніца ўзбагачэння слоўніка літаратурнай мовы. З яе чэрпала багацце наша літаратурная мова на пачатку свайго фармавання, ёю папаўняецца, асвяжаецца, жывіцца і ў нашы дні. Таму зразумела і абгрунтавана тая зацікаўленасць, з якою ў апошнія гады збіраюць лексічныя дыялектныя скарбы. І як вынік — на кніжных паліцах побач з «Віцебскім краёвым слоўнікам» М. Каспяровіча (1927), «Краёвым слоўнікам Чэрвеньшчыны» М. Шатэрніка (1929) сталі «Дыялектны слоўнік» Ф. Янкоўскага (выпуск 1959, 1960 і 1970 гг.), «Матэрыялы для слоўніка» пад рэдакцыяй Ф. Янкоўскага (1960), «Дыялектны слоўнік» Г. Юрчанкі (1966), «Дыялектны слоўнік» П. Сцяцка (1970), «Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны» І. Бялькевіча (1970), «Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак» пад рэдакцыяй М. Жыдовіч (1970).

Да такіх прац належыць і частка рукапіснай спадчыны Я. Н. Драздовіча, якая захоўваецца ў акадэмічных бібліятэках Беларусі і Літвы.

У артыкуле А. Ліса «Шляхі і пошукі» («Полымя, 1964 г., № 3) пранікнёна расказ-





валася пра самабытную, каларытную асобу «маленькага беларускага Леанарда да Вінчы» Язэпа Нарцызавіча Драздовіча. Плён працы гэтага чалавека вельмі багаты, спадчына разнастайная. Яна — вынік шматграннай дзейнасці і захапленняў Драздовіча — жывапісца і графіка, этнографа і фалькларыста.

Нарадзіўся Язэп Нарцызавіч у студзені 1888 года ў засценку Пунькі, на ўскрайку Галубіцкай пушчы, на Дзісеншчыне. З двух гадоў застаўся без бацькі і рос пад апекаю маці і чатырох братоў. Маці была чалавекам шчырым і цікавым: надзвычай любіла беларускую народную творчасць, з замілаваннем расказвала сыну казкі, легенды, байкі, ведала безліч прыказак і прымавак; яе захапляла хараство роднай прыроды. Цудоўныя краявіды тутэйшых мясцін зачаравалі і малога Язэпа. З дзяцінства ў яго з'явілася жаданне маляваць. Замест алоўка ў руках было шыла, паперу замяняла лучына і бяроста, на якіх наколваліся розныя малюнкі. Кожная рэч была па-майстэрску аздоблена. Дзіцячае захапленне стала жыццёвай патрэбай. Яно прывяло юнака пасля сканчэння дзісенскай гарадской школы ў Віленскую школу мастацтва, дзе чатыры гады пад кіраўніцтвам прафесара Трутнёва і мастака Рыбакова авалодваў Драздовіч сакрэтамі фарбаў. Радасцю засвяціліся яго вочы, калі, прыехаўшы ў 1906 годзе ў Вільню, узяў у рукі газету «Беларуская доля»— упершыню ўбачанае друкаванае слова на беларускай мове. З гэтых часоў і пачынаецца актыўная дзейнасць Язэпа Нарцызавіча на роднай ніве: спачатку ўдзел у наладжванні беларускіх вечароў, потым стварэнне шматлікіх карцін, арганізацыя выставак, даследаванне гісторыі свайго народа. Вокладка да Беларускага календара на 1910 год была першым малюнкам мастака ў друку. Пазней у мастацкім афармленні Я. Драздовіча выходзяць песенныя зборнікі Антона Грыневіча, «Курганная кветка» К. Буйлы, з'яўляюцца малюнкі на старонках газет, рэпрадукцыі ў падручніку. Непарыўнай была сувязь Язэпа Нарцызавіча з радзімай і тады, калі вучыўся ў Саратаўскай медыцынскай школе, працаваў вайсковым фельчарам: на адрас рэдакцыі «Нашай нівы» здалёку ішлі яго карціны.

Звольнены з-за слабага здароўя з вайсковай службы, Я. Драздовіч жыве на роднай Дзісеншчыне і вядзе культурна-асветную дзейнасць: стварае бібліятэку, аматарскі тэатр, робіць шматлікія пейзажныя замалёўкі. У 1919—1920 гг. становіцца настаўнікам малявання ў Мінску ў беларускай гімназіі і жаночай прагімназіі, адначасова працуе ілюстратарам у літаратурных выдавецтвах і мастаком-дэкаратарам у Таварыстве беларускага мастацтва. Хутка зноў паклікала да сябе зялёная Дзісеншчына. Праз чатыры гады мастак едзе ў Глыбокае — вучыць маляваць у школе.

У гэты час, у 1925 годзе, камісія па ўкладанні слоўніка жывой беларускай мовы Інстытута беларускай культуры ў Мінску выдала «Інструкцыю да збірання народнага слоўніка-тэрміналагічнага матэрыялу ў беларускай мове». Праз год у жніўні віленская газета «Народная справа» перадрукавала гэтую «Інструкцыю» з заклікам: «Збірайце беларускія словы», у якім гаварылася, што «арганізацыю збору матэрыялаў для гэтага слоўніка ў межах Заходняй Беларусі, што пад Польшчай, узяло на сябе Беларускае Навуковае Таварыства ў Вільні... Няхай кожнае слова,— пісала газета,— што ўжываецца ў вашай мясцовасці, хоць і невядомае ў іншых дыялектах беларускай мовы, знойдзе сабе месца на старонках слоўніка».

Зацікаўлены гэтай ідэяй, запаланёны этнаграфічнай працай, Драздовіч ужо восенню 1926 года вандруе па Піншчыне, збірае фальклорныя і этнаграфічныя матэрыялы, робіць малюнкі і запісвае лексіку для «Беларускага этнаграфічнага слоўніка».

У наступныя гады, знаходзячыся то ў Вільні, то ў Радашковічах, то ў Навагрудку, Язэп Нарцызавіч засноўвае пры беларускіх гімназіях Заходняй Беларусі мастацкія гурткі-майстроўні і наладжвае выстаўкі, збірае памяткі старадаўняй архітэктуры. У гэты час наведвае Мір, Трокі, Меднікі, Крэва, Гальшаны, Ліду, з любасцю замалёўвае легендарныя замчышчы і курганы, вясковыя хаты і панадворкі, званіцы і прыдарожныя знакі. Вышыўка і разбярства, узоры беларускага ткацтва, сялянскі посуд і вопратка, прылады працы — нічога не мінула вока мастака. Шмат сабраў ён археалагічных матэрыялаў. Таленавітай рукою былі напісаны партрэты Я. Купалы, Ф. Скарыны, А. Грыневіча.

Спрабаваў сілы Я. Драздовіч і ў літаратуры. Ён напісаў верш «Салдацкая доля», аповесць «Вялікая шышка», брашуру «Нябесныя бегі», некалькі навукова-фантастычных аповесцяў, зрабіў фальклорныя запісы ў вёсках Дзісеншчыны, Піншчыны.

Дыялектная лексіка, сабраная Язэпам Нарцызавічам, мае істотную вартасць. У часе экспедыцыі 1926 года на Піншчыну ён дэталёва абследаваў вёскі Азарычы, Семяховічы, Дубнавічы, зрабіў запісы ў Лозічах, Малоткавічах, Парэччы, Плешчыцах і беражліва склаў, з любоўю аформіў некалькі слоўнічкаў: «Піншчына», «Слоўнікавы матэрыял да беларускай этнаграфічнай энцыклапедыі», «Назвы хатне-гаспадарчых рэчаў Піншчыны» і інш. У выніку стацыянарных запісаў на Дзісеншчыне (іх пачаў рабіць з 1921 года) картатэка папоўнілася яшчэ амаль на тысячу слоў. Праўда, у архівах адшуканы толькі пачатак слоўніка гэтай мясцовасці: знойдзены словы на літары А і Б. Адсутнасць слоў, што пачынаюцца з іншых літар, дае падставу меркаваць, што або не ўсё са спадчыны Драздовіча зберагліся, або не ўсё выяўлена. Збіранне дыялектнай лексікі не было выпадковым і часовым заняткам Язэпа Нарцызавіча. Як сведчаць запісы, датаваныя 1921 годам, ён збіраў народную лексіку для тэрміналагічных слоўнікаў: у асоб-

ных сшытках занатаваў болей за 200 слоў па геаграфіі і геалогіі, па 250 слоў па псіхалогіі, батаніцы і агранаміі, каля 1000 слоў па анатоміі і фізіялогіі. Захаваўся рээстр слоў на літару А, які ахоплівае звыш паўтары тысячы слоў.

Вывучэнне знойдзеных матэрыялаў дае падставу лічыць, што Дараздовіч не проста аматар, а сталы збіральнік дыялектнай лексікі. Запісы рабіліся паводле інструкцыі, і ў іх больш поўна занатаваны назвы жывёл і частак іх цела, назвы будынкаў, гаспадарчых прылад, адзення, абутку, заняткаў людзей. Цікавыя матэрыялы згрупаваны пад назвай «Жывёлы. Пагроза і прывабліванне». Усе запісаныя словы падаюцца з захаваннем асноўных фанетычных асаблівасцяў гаворкі, маюць націскі, паказваецца назва вёскі, дзе зарэгістравана слова, даецца тлумачэнне, пры некаторых ёсць прыклады-ілюстрацыі:

**Гу́нька.** Конская пакрывала. Покры́й коня́ гу́нькой, коб нэ змэрз. Пінішчына, в. Сернікі. **Суходо́л.** Сухапуць. Пое́хаў Паўло́ у Пінск суходо́лом (не лодкай па рацэ, на кані па дарозе). Вв. Плешчыцы, Кнубава і інш.

Спосабы тлумачэння слоў разнастайныя. Пераважае апісальнае тлумачэнне, якое вызначаецца лаканічнасцю, дакладнасцю.

**Асяніны.** Бытавы восенькі памінальны святок, дзяды. Пад'е́ў,— ка́жэ,— як на асяні́нах. Дзісеншчына. **Асьціна́.** Вусік ячнага або жытняга коласа. Асьціна́ ў во́ка папа́ла. Асьціно́й вока запаро́шыў. Дзісеншчына. **Асянчы́на.** Балотна-лугавое, рашонае зёлак, сена. Падкінь каню́ хоць асянчы́ны. Дзісеншчына.

Другі пашыраны спосаб тлумачэння дыялектных слоў — падбор аднаго або некалькіх сінонімаў з агульнанароднай лексікі або з той самай гаворкі. У сінанімічны рад часам ставяцца словазлучэнні.

**Аслы́ць.** Аславіцца, праславіцца, стаць вядомым. Аслы́ў круго́м увакру́жкі. **Аськялёпак.** Шчэпка, адшчэпак дзерава. Паськіпа́ў до́шку на аськялёпкі. **Атру́скі.** Вытраскі, патруха, вотрыны. Атру́скі куляво́й сало́мы.

Сустракаюцца выпадкі, калі пры тлумачэнні сінтэтычна выкарыстоўваюцца некалькі спосабаў: падбор сіноніма і апісанне, апісанне і пераклад на рускую мову.

**Ацяру́шкі. Ацяру́шша.** Астаткі, крошкі ад ацёртага. Патруха. На ве́ніку ліст ацярушы́ўся. Дзісеншчына. **Алаго́джваць** (ад сл. лаго́днасць). Алаго́дзіць, задабры́ць, вызваць прыемнае пачуццё. Алага́джывай яго, як тую скулу́ благу́ю, каб ні расквялі́ць.

Я. Драздовіч выяўляў у словах сэнсавыя і фанетычныя адрозненні, адлюстроўваў іх у запісах:

**Ажарга́ць, ажырга́ць.** Асядлаць. Ажарга́ўшы нага́мі кало́ду. Ажаргаю каня́ і паеду. Дзісеншчына. **Асі́лак, асі́лач.** 1) Чалавек надзвычайнай фізічнай сілы, сілач. 2) Герой-пераможнік. Трэ́ба ж мець чалаве́ку таку́ю ко́нскую сілу, асілак. Пававадзіліся асілкі, ні так як даўне́й. Дзісеншчына. **Аўча́рнік.** Авечы хлеў. **Аўча́рнік.** Драбнейшая парода ваўкоў. Воўк — «канюх» або «жарабя́тнік» і воўк — «аўча́рнік». Дзісеншчына.

Пры некаторых словах даюцца іншыя аднакарэнныя словы:

**Ашча́днасць. Ашча́да, ашча́днасць, ашча́дны, ашча́днік, ашча́дніца.** Ні прыго́жа быць і скна́рай, але няху́да быць і ашча́днікам. Дзісеншчына.

Каштоўнасць запісаў Драздовіча ў тым, што ў іх зафіксаваны невядомыя значэнні слоў ці іх адценні. З 390 слоў, сабраных на Піншчыне і згрупаваных у алфавітным парадку ў асобную кніжачку, 211 маюць іншыя значэнні або зусім не пададзены ў самым вялікім на той час «Слоўніку беларускіх гаворак» І. Насовіча. У слоўніку І. Насовіча слова ба́бка падаецца ў васьмі значэннях. У запісах Драздовіча занатаваны два новыя значэнні гэтага слова: 1) пірог, кірмашовы блін, грыбок. Піншчына, в. Сернікі; 2) матыль, мятлік. Піншчына, в. Азарычы. У слове ста́нцыя (па слоўніку Насовіча) выдзелены два значэнні: 1) кватэра, часовае жыллё; 2) заезны дом. У запісах Драздовіча (вв. Лозічы, Качановічы) гэтае слова зафіксавана з крыху іншым значэннем: ста́нцыя — чыста ўтрымованы дзеля свята і прыёму гасцей канец вясковага дома; чысты канец, гасцінны пакой. Слова хада́к абазначае чалавека, пасыльнога («Пешеходец, состоящий на посылках». Слоўнік І. Насовіча). Драздовічам зарэгістравана ў в. Сернікі, што хада́к, хадакі́ — скураныя лапці (хадакі, чушкі, пасталы).

Многія словы, запісаныя Драздовічам, ад агульнанародных адрозніваюцца граматычным родам. Вядомыя словы жаночага роду затока, пратока, прорва бытуюць на Піншчыне ў мужчынскім родзе — зато́к, прото́к, про́рыў.

Шэраг слоў, сабраных Я. Драздовічам на Дзісеншчыне, Піншчыне, не зафіксаваны ў беларускіх друкаваных слоўніках. Напрыклад, ка́нька — невялічкае на дрыгвяністым балоце азярко, балотнае акно (в. Лозічы); коча́нка — суконная або вайлаковая коўдра (в. Сернікі); лакно́ — вадзяная лілія, плавэчнік, жоўтая кветка (в. Лозічы); мамо́л — вадзяная лілія, плавэчнік, белая кветка (в. Лозічы).

Усе гэтыя акалічнасці робяць спадчыну Я. Драздовіча каштоўнай для мовазнаўчай навукі. Гартаеш лісток за лістком, папку за папкай з творчым набыткам Язэпа Нарцызавіча і ўсё больш пераконваешся, як арганічна зліліся ў яго характары прыроджаны дапытлівы розум, творчая фантазія, тонкая назіральнасць, шырокае кола інтарэсаў з зайздроснай руплівасцю, бескарыслівасцю, самаадданасцю. Міжволі захапляешся, як моцна ўсведамляў ён свой грамадзянскі абавязак і важнасць задач, што стаялі перад інтэлігенцыяй, як прагна вывучаў мінулае народа, як дбайна працаваў на ніве адраджэння яго культуры!

«Падай чалавека ў працы... раскажы пра яго мару і долю. Падымі некранутыя пласты гісторыі»,— такі жыццёвы запавет Язэпа Нарцызавіча Драздовіча. І ён выконваў гэты запавет шчыра, сумленна, самаахвярна.

**Мікола ГУЛІЦКІ.**



# ВЫВУЧАЕЦЦА ДРУГАЯ МОВА

**Авалоданне мовамі братніх народаў і замежнымі мовамі — важнейшы сродак пазнання культурных дасягненняў народаў СССР і лепшых дасягненняў сусветнай культуры, навукі, тэхнікі.**

**У нашай многанацыянальнай краіне двухмоўе—новая з'ява: яно ўзнікла ў выніку ленінскага вырашэння нацыянальнага пытання.**

**Ва ўмовах нашай рэспублікі беларускую мову вывучаюць у школе не толькі вучні-беларусы, але і дзеці небеларускіх нацыянальнасцяў. Веданне яе неабходна для непасрэднай сувязі з вытворчасцю, з грамадскім і культурным жыццём рэспублікі.**

**Прыступаючы да вывучэння другой мовы, дзеці, натуральна, думаюць на сваёй роднай мове; усе паняцці, якімі яны валодаюць, жывуць у іх родным слове. Словы другой мовы на першым этапе яшчэ не маюць сувязі з адпаведнымі значэннямі; гэтая сувязь ажыццяўляецца толькі праз роднае слова.**

**Практычнае валоданне другой мовай (у першую чаргу вуснай) мае на ўвазе ўменне выказваць свае думкі на гэтай мове без дапамогі роднай мовы. Як вядома, для авалодання іншай мовай у вуснай форме трэба навучыцца аўтаматычна карыстацца тымі багатымі і разнастайнымі сродкамі, якія яна мае. Перад школай стаіць задача: навучыць дзяцей разумець беларускую мову, валодаць і карыстацца яе сродкамі аўтаматычна. Каб дасягнуць гэтай мэты, трэба з першых урокаў навучання стварыць у класе атмасферу беларускай мовы. Гэта вельмі важна, і таму настаўнік асабліва ўважліва і прадумана павінен ставіцца да ўліку ўжо вядомых вучням слоў, адбору для кожных заняткаў новай лексікі, падбору слоў і словазлучэнняў, якія патрабуюць перакладу і тлумачэння. Не выклікае сумнення, што на першым этапе нельга недаацэньваць ролі і значэння роднай мовы, бо вучні пакуль што карыстаюцца толькі родным словам.**

**Пры засваенні беларускай мовы, як другой, у працэсе практычнага карыстання ёй адбываюцца змены ў звычках, набытых пры вывучэнні роднай мовы. Вучні авалодваюць пэўным запасам слоў і моўных зваротаў беларускай мовы, вучацца свабодна гаварыць пра з'явы жыцця, пра сябе, вучацца правільна чытаць і разумець тэкст, пераказваць яго змест.**

**Якія ж псіхалагічныя асаблівасці авалодання беларускай мовай вучнямі-небеларусамі? З якімі цяжкасцямі яны сустракаюцца на першых этапах вывучэння мовы? Такія пытанні цікавяць мовазнаўцаў, метадыстаў і псіхолагаў.**

**Мы працяглы час наведвалі ўрокі беларускай мовы і літаратуры (чытання) у III, IV, V класах, назіралі за працэсам засваення беларускай мовы, як другой, і хочацца падзяліцца сваімі назіраннямі пра тое, як засвойваецца лексіка беларускай мовы ў першыя гады яе вывучэння.**

**Наш эксперымент праводзіўся ў лабараторыі псіхалогіі мовы Мінскага педагагічнага інстытута замежных моваў. Для эксперымента прыцягваліся вучні III, IV, V класаў, у якіх родная мова — руская, другая — беларуская, а таксама школьнікі, для якіх роднай мовай з'яўляецца беларуская, другой — руская. Як вядома, у гэтых класах закладваюцца асновы вуснай мовы, найбольш актыўна засвойваецца лексіка, вучні пазнаюць**

асноўныя нормы вымаўлення і граматыкі.

Эксперыментальным матэрыялам з'явіліся знятыя на кінаплёнку асобныя прадметы, назвы якіх на беларускай мове адрозніваюцца ад назваў на рускай мове. Дослед складаўся з дзвюх частак: спачатку вучні называлі прадметы, якія ім паказваліся, на другой мове (першая частка доследу), а потым — на роднай і другой мове (другая частка доследу). Мы фіксіравалі час, які праходзіў ад моманту, калі вучань убачыць прадмет, да моманту, калі ён яго назаве на другой і на роднай мове. Вучні, у якіх першая мова — руская, а другая — беларуская, пры правядзенні першай часткі доследу называлі паказаныя прадметы на беларускай мове, а вучні, для якіх першай мовай з'яўляецца беларуская, другой — руская, называлі прадметы на рускай мове.

Усяго было тры прадметныя серыі. Першая серыя паказвалася вучням III класа. Яна складалася з наступных 20 прадметаў: сякера (топор), дзённік (дневник), вавёрка (белка), лялька (кукла), млын (мельница), відэлец (вилка), шпакоўня (скворечня), сшытак (тетрадь), шафа (шкаф), бульба (картошка), сцяг (флаг), кветкі (цветы), акуляры (очки), цукеркі (конфеты), кропка (точка), коска (запятая), цацкі (игрушки), певень (петух), вожык (ёжик), хмары (тучи).

Большасць прадметаў трэцякласнікі называлі правільна. Пры называнні адных прадметаў (сякера, сшытак, дзённік, акуляры, коска, цацкі і інш.) час, які праходзіў да называння прадмета словамі другой і роднай мовы, быў аднолькавы: вучань называў прадмет словам другой мовы адразу, як толькі гэты прадмет з'яўляўся перад ім. У гэтым выпадку словы другой мовы таксама непасрэдна звязаны з адпаведнымі прадметамі, як і словы роднай мовы, г. зн. у свядомасці школьніка мае месца непасрэдная сувязь слова з уяўленнем і паняццем. Такое валоданне словамі другой мовы называецца беспаракладным. Калі тым жа вучням III класа паказалі іншыя прадметы, то каб іх назваць на другой мове, спатрэбілася часу ў два разы больш, чым каб назваць іх на роднай мове. Розніца ў часе гаворыць пра тое, што паміж прадметам і адпаведным словам няма непасрэднай сувязі. Калі вучань успрымае паказаны прадмет, у яго свядомасці ўзнікае слова роднай мовы, а ўжо потым — слова другой мовы, інакш кажучы, ён робіць пераклад з роднай мовы на другую. Такое валоданне словамі другой мовы называецца перакладным.

Так, у ходзе доследу вучань М., калі яму паказалі вавёрку, адразу назваў яе правільна, прычым да моманту называння на першай (рускай) і другой (беларускай) мовах прайшоў аднолькавы адрэзак часу (тут беспераракладнае называнне). А вучань Н., убачыўшы вавёрку, таксама назваў яе правільна, але для таго, каб ён «знайшоў» слова на другой мове (беларускай), яму спатрэбілася часу ў два разы больш, чым калі ён назваў убачанае на роднай мове (тут перакладнае называнне).

Валоданне другой мовай лічыцца дасканалым у тым выпадку, калі яно беспаракладнае.

Вучні, для якіх першая мова — руская, назвалі без перакладу 43,8 працэнта паказаных прадметаў, у вучняў з першай мовай беларускай беспаракладныя называнні складаюць 78 працэнтаў.

У ходзе правядзення эксперымента былі няправільныя называнні прадметаў. Гэта было звязана або з памылковым вымаўленнем адпаведных слоў (відалец, шаф), або з іх называннем на роднай мове з уплывам беларускага вымаўлення (днявнік, цвяты, пятух). Такія памылкі гавораць пра цяжкасці пры вывучэнні другой мовы, прычына якіх — адрозненне нормаў вымаўлення ў рускай і беларускай мовах.

Некаторыя прадметы вучні называлі на роднай мове (белка замест вавёрка; мельница замест млын; флаг замест сцяг; конфеты замест цукеркі; тучи замест хмары і інш.), хоць ад іх патрабавалася называць гэтыя прадметы словамі беларускай мовы. Гэта — сведчанне таго, што ў свядомасці школьнікаў на дадзеным этапе яшчэ выразна не размежаваны дзве блізкія мовы, і ў выніку — адзначаныя называнні.

Некаторыя прадметы, якія ім паказваліся (лялька, млын, шпакоўня, шафа, кветкі, цукеркі, цацкі, певень, хмары і інш), пэўная частка вучняў наогул не назвала, бо не ведала адпаведных слоў на беларускай мове. Магчыма і іншае: у патрэбны момант сувязі паміж прадметамі і словамі беларускай мовы не ўстанаўліваюцца, і вучні не могуць назваць прадмет, хоць ім здаецца, што гэтыя словы ім вядомы (сякера, млын, кветкі, цукеркі, хмары і інш.). Такім чынам, у вучняў недастаткова развіты такі бок памяці, як гатоўнасць, г. зн. здольнасць хутка знаходзіць у запасах памяці той матэрыял, які неабходны ў дадзены момант.

Пры паўторным паказе прадметаў, калі трэба было называць іх спачатку на роднай мове, а потым — на другой, трэцякласнікі называлі частку тых прадметаў, якія пры першым паказе названы няправільна. Аказваецца, для іх лягчэй знайсці слова на другой мове пасля таго, як яно вымаўлена на роднай мове.

Другая прадметная серыя, якая складалася з 40 прадметаў, дэманстравалася вучням IV класа. Яна ўключала ў сябе тыя прадметы, якія ўжо паказваліся трэцякласнікам, і 20 новых прадметаў: рыдлёўка (лопата), гузік (пуговица), клічнік (восклицательный знак), пытальнік (вопросительный знак), буслы (аисты), кошык (корзина), кішэня (карман), сукенка (платье), шчупак (щука), помнік (памятник), столь (потолок), цвік (гвоздь), ложак (кровать), падлога (пол), гадзіннік (часы), цэгла (кирпич), цыбуля (лук), збан (кувшин), дах (крыша), дыван (ковер).

Правільных называнняў прадметаў у першай палове прадметнай серыі больш, чым у другой, а няправільных называнняў, называнняў на роднай мове, зусім не названых прадметаў больш у другой палове прадметнай серыі. Гэта з'яўляецца сведчаннем таго, што словы, якія вядомы вучням з III класа і ўжываюцца ў вуснай мове чацвертакласнікаў, лепш засвоены, чым тыя, якія выкарыстоўваюцца ў асноўным у межах IV класа (вавёрка, сшытак, кропка і інш.).

Словы, якімі вучні валодаюць беспаракладна, у першай палове прадметнай серыі складаюць большы працэнт, чым у другой, а перакладных называнняў адпаведна больш у другой палове гэтай серыі.

Вучням V класа паказвалася трэцяя прадметная серыя, якая складалася з 60 прадметаў: з іх першыя 20 паказваліся ўжо вучням III і IV класаў (сякера, дзённік, сцяг, певень, вожык і г. д.), іншыя 20 дэманстраваліся толькі чацвертакласнікам (рыдлёўка, гузік, кішэня, помнік, цвік, цэгла і інш.), а наступныя 20 паказваліся ўпершыню: запалкі (спички), люлька (трубка), качка (утка), лічбы (цифры), рамонак (ромашка), пакой (комната), птушка (птица), ручнік (полотенце), коўдра (одеяло), каўнер (воротник), цягнік (поезд), чыгунка (железная дорога), паляўнічы (охотник), шклянка (стакан), абутак (обувь), ружа (роза), гармата (орудие), асілак (богатырь), фарбы (краски), палац (дворец). Такім чынам, пяцікласнікам дэманстраваліся прадметы, назвы якіх яны засвоілі ў III, IV, V класах; прычым у першую частку прадметнай серыі ўвайшлі словы, засвоеныя ў III класе, у другую — словы, якія маюць больш частае ўжыванне ў межах IV класа, і ў трэцюю — словы, найбольш ужывальныя ў V класе. Большая колькасць правільных называнняў прыпадае на першую частку прадметнай серыі, потым ідуць другая і трэцяя часткі. З'ява падобнага роду была адзначана ў доследах з вучнямі IV класа: лепш засвойваюцца тыя словы, якія маюць больш частае ўжыванне ў вуснай мове школьнікаў (сякера, кропка, коска, сшытак, клічнік, буслы і інш.). Колькасць слоў, названых беспаракладна, г. зн. без дапамогі роднай мовы, таксама аказалася большай па першай частцы прадметнай серыі і меншай па трэцяй; другая серыя займае прамежкавае становішча паміж імі.

Праведзены эксперымент паказаў, што колькасць правільных, а таксама беспаракладных называнняў у школьнікаў павялічваецца ад класа да класа.

Ва ўсіх класах (III, IV, V) слова роднай мовы, сказанае ўголас, у некаторай ступені дапамагае назваць адпаведнае слова другой мовы (топор — сякера, вилка — відэлец, шкаф — шафа, флаг — сцяг). Па меры авалодвання другой мовай больш выразна размяжоўваюцца дзве блізкія мовы.

Як гаварылася вышэй, у эксперыменце ўдзельнічалі вучні, для якіх роднай мовай з'яўляецца руская, другой — беларуская, і вучні, у якіх родная мова — беларуская, другая — руская. Аказалася, што авалоданне лексікай другой (рускай) мовы вучнямі, для якіх роднай мовай з'яўляецца беларуская, праходзіць больш паспяхова, чым засваенне лексікі беларускай мовы (як другой) тымі, у якіх родная мова — руская. Гэта, відаць, звязана з пэўнымі прычынамі. Вучні, для якіх родная мова руская, толькі ў III класе пачынаюць вывучаць беларускую мову, у той час як трэцякласнікі, у якіх родная мова беларуская, пачалі вывучаць рускую з II класа. Значыць, вучні небеларускай нацыянальнасці вывучаюць беларускую мову менш працяглы час, чым школьнікі адпаведных класаў беларускай школы авалодваюць рускай мовай, як другой. Варта таксама мець на ўвазе і шырокае ўжыванне рускай мовы (як сродку міжнацыянальных зносін) побач з нацыянальнай мовай нашай рэспублікі — беларускай.

З другога боку, як паказаў дослед, вучні небеларускай нацыянальнасці даволі паспяхова авалодваюць лексікай беларускай мовы. Гэту з'яву, відаць, можна растлумачыць, па-першае, блізкасцю роднасных моваў (рускай і беларускай) і, па-другое, тым, што вучні-небеларусы маюць магчымасць штодня слухаць беларускую гаворку ва ўмовах нацыянальнай рэспублікі.

**Нэля ПРЫВАЛАВА.**

# НОВАЕ ПРА ЯКУБА КОЛАСА

Фонды Літаратурнага музея народнага паэта Беларусі Якуба Коласа папаўняюцца новымі матэрыяламі, фотаздымкамі, рэдкімі выданнямі твораў паэта з яго аўтографамі, рукапісамі пісьмаў і твораў.

Нядаўна з Украіны ў музей паступіла пяць рукапісаў пісьмаў Якуба Коласа, якія былі напісаны ім і адрасаваны ў свой час украінскім пісьменнікам Паўлу Тычыне і Тарэню Масэнку.

У 1935 годзе Якуб Колас разам з Паўлом Тычынам ездзілі на Міжнародны кангрэс абароны культуры ў Парыж. Вярнуўшыся ў Мінск, Якуб Колас напісаў артыкул «На парыжскім бруку». У пісьмах да П. Тычыны народны паэт паведамляе яму аб змешчаным у газеце «Звязда» артыкуле, дзякуе за выступленне Паўла Рыгоравіча з прычыны яго, Коласавага, юбілею. «Дарагі Паўло Грыгоравіч,— піша Колас. — Прыміце маю самую шчырую падзяку за Ваша выступленне па радыё ў дзень трыццацігоддзя літаратурнай дзейнасці. Я сядзеў за сталом разам з сваёю сям'ёю каля прыёмніка і слухаў. Калі Вы ў канцы свайго высокапаэтычнага слова сказалі, што я чую Вас, я не мог стрымацца, каб не сказаць: «Чую, дарагі Паўло Грыгоравіч!»



Якуб Колас і Кастусь Дзятка, жыхар Балачанкі. 1946 г.

У пісьмах да Тарэня Масэнкі Я. Колас паведамляе аб сваім жыцці, творчай і грамадскай дзейнасці, захапляецца перакладам паэмы «Рыбакова хата» з беларускай на ўкраінскую мову, над якім працаваў у той час Тарэнь Масэнка. «Учора,— піша народны паэт,—я атрымаў ізноў пісьмо ад Вас з Вашым перакладам II раздзелу «Рыбаковай хаты». На мой погляд, пераклад зроблен вельмі добра. І асабліва добра выйшла ў Вас песня Марыны свайму маленькаму сыну. Мне здаецца, што і ўкраінец-чытач прачытае яе з прыемнасцю. Жадаю Вам далейшых поспехаў». «Пераклад «Рыбаковай хаты»,—паведамляе народны паэт у другім пісьме,— мне вельмі падабаецца. Зроблен добра. Прадаўжайце работу і далей».

Звыш 400 негатываў перадаў у дар музею народны пісьменнік Беларусі Міхась Лынькоў. У пісьменнікаў шмат было агульнага ў поглядах на жыццё, на літаратурныя з'явы і працэсы. Яны сустракаліся і гутарылі дома ў Якуба Коласа, дзе цяпер музей, на дачы Міхася Лынькова на Нарачы, у доме творчасці беларускіх пісьменнікаў у Каралішчавічах, у Пухавіцкім раёне, дзе любіў адпачываць Якуб Колас. Сярод здымкаў—самыя разнастайныя: Якуб Колас стаіць на лясной паляне з поўным кошыкам грыбоў, сядзіць ля вогнішча на беразе Нарачы, у садзе каля свайго дома, на лаўцы, і гутарыць з М. Танкам, А. Куляшовым, П. Броўкам, М. Лужаніным, М. Лыньковым.

У музей паступіла трыццаць здымкаў работы Ільі Берліна. Сярод іх— партрэты, фатаграфіі народнага паэта саракавых і пяцідзесятых гадоў, беларускіх пісьменнікаў і грамадскіх дзеячаў.

З Курскага дзяржаўнага архіва ў музей даслалі фотакопіі спісу супрацоўнікаў Абаянскага аддзела народнай асветы, а таксама пратаколы з'езда настаўнікаў Вышнерэутчанскай воласці і рэзалюцыі Абаянскай павятовай канферэнцыі работнікаў асветы. У спісе супрацоўнікаў аддзела народнай асветы ёсць і прозвішча Канстанціна Міхайлавіча Міцкевіча, у графе «займаемая пасада» напісана: «раз'язны інспектар». Пратакол з'езда настаўнікаў Вышнерэутчанскай воласці ад 18 мая 1919 года напісаны рукой паэта.



Ля вёскі Балачанка Пухавіцкага раёна. 1948 г.

Некалькі пісьмаў Якуба Коласа паступіла ў музей ад жонкі Я. С. Мазалькова, які з'яўляўся перакладчыкам многіх твораў паэта на рускую мову.

У пісьмах змяшчаюцца цікавыя факты. Народны паэт паведамляў Я. С. Мазалькову аб падрыхтоўцы да выдання сваёй паэмы «Новая зямля» на рускай мове.

«Учора атрымаў Ваша пісьмо,—пісаў Якуб Колас.—Вельмі рады, што Вы напішаце ўступны артыкул да «Новай зямлі». Цяпер госціць у мяне П. А. Сямынін, але, гасцюючы, робіць справу—праглядае вёрстку «Н. З.» (маецца на ўвазе паэма «Новая зямля»—**М.Ж.**), праглядае ўважліва і добрасумленна, як належыць савецкаму паэту. Думаю, што «Н.З.» не сорамна будзе паказаць рускаму чытачу. У паэме многія раздзелы робяць вялікае ўражанне. Апошні раздзел «Смерць Міхала» вельмі ўражальны».

Ёсць у пісьмах і многія іншыя цікавыя факты аб літаратурнай і грамадскай дзейнасці Якуба Коласа, якія ўяўляюць каштоўнасць для даследчыкаў творчай спадчыны народнага паэта.

Цікавыя матэрыялы паступілі ад жонкі нябожчыка акадэміка Гарбунова. Яна перадала звыш сарака рукапі-

саў: пісьмаў, артыкулаў, вершаў, напісаных паэтам у гады Вялікай Айчыннай вайны, публіцыстычныя артыкулы «Беларусь, родная савецкая зямля», «Здраднікі» і іншыя.

Выклікае цікавасць машынапіс артыкула «Дар народа» з праўкамі народнага паэта. Артыкул напісаны ў сувязі з 25-годдзем артыстычнай і грамадскай дзейнасці народнай артысткі СССР Л. П. Александроўскай. «У асобе Ларысы Пампееўны,— піша паэт,— шчасліва і гарманічна спалучылася ўсё лепшае, што ёсць у характары нашага народа: высокая адаронасць, мяккасць сэрца, абаяльнасць фізічнага і маральнага чалавечага вобліку. Беларуская народная песня, льючыся з чыстага сэрца Ларысы Пампееўны, праклала сабе шырокую дарогу ў свет...»

Адно пісьмо Якуба Коласа прыслала ў музей жыхарка вёскі Ваўчуны Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці Анастасія Дуброўская, якая была знаёма з народным паэтам. Народны паэт напісаў ёй цёплае пісьмо, павіншаваў з новым жыццём, з поспехам. «Учора мне даставілі сюды, у бальніцу, дзе я зараз знаходжуся, Ваша пісьмо. Ад усяго сэрца дзякую Вам, Стасенька, за Ваша сардэчнае пісьмо і за запрашэнне прыехаць на Ваша вяселле. І прыехаў бы, каб не быў хворы. Дык дазвольце, мая дарагая Станіслава Уладзіміраўна, ад усяго сэрца павіншаваць Вас з Вашай асабістаю вялікай урачыстасцю, з днём Вашага выхаду замуж. Няхай жа замужаства Ваша будзе радасным і шчаслівым. Таксама віншую і Вашага мужа. Жывіце ў згодзе, у дружбе і шчасці. Цалую вас па-бацькоўску».

Два рукапісы пісьмаў паступілі з роднага сяла паэта Мікалаеўшчыны, адрасаваныя ў свой час Ігнату Юр'евічу Міцкевічу, былому дырэктару Мікалаеўшчынскай школы. Паэт паведамляе пра сваю работу, піша пра свае клопаты.

Цікавым з'яўляецца пісьмо, якое напісаў Я. Колас Юрыю Іванавічу Назаранку. У ім паэт выказвае свае



**На Нарачы.** 1953 г.

думкі адносна гадавіны Янкі Купалы і юбілею Івана Франка. Гэта пісьмо перадаў музею заслужаны дзеяч культуры БССР А. Слесарэнка.

Паступіла ў музей і рэдкае выданне паэмы Я. Коласа «Новая зямля», выпушчанае ў Мінску ў 1934 годзе, з прадмовай «Ад аўтара».

Усе гэтыя матэрыялы значна пашыраюць наша ўяўленне аб жыцці і творчасці народнага паэта. Многія з іх будуць уключаны ў новы збор твораў Якуба Коласа, які рыхтуе да друку Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР.

**Мікола ЖЫГОЦКІ.**



# *БЕЛАРУСКІЯ ВЕРШЫ*
# *АДАМА М~СКАГА*

У 1921 годзе польскі рэвалюцыйны паэт Багдан Жыранік, аўтар вядомай песні «Чырвоны полк Варшавы», апублікаваў у часопісе «Пшымежэ» («Пагадненне») сваю работу «Нарыс беларускай літаратуры». Ён коратка расказаў польскаму чытачу пра літаратурны працэс у Беларусі на працягу стагоддзяў, ахарактарызаваў творчасць усіх больш значных пісьменнікаў, прывёў беларускія вершы ў выдатным уласным перакладзе на польскую мову. Ён пісаў: «...з надзвычайнай лёгкасцю адчувае беларускую душу наш паэт Адам М-скі (Зоф'я Тжашчкоўская). Яго беларускія песні поўныя свежасці і сапраўднай жаночай (у найбольш узвышаным сэнсе гэтага слова) любві да ўсіх, хто пакутуе, каго прыгнятаюць і крыўдзяць. Нягледзячы на бясспрэчную арыгінальнасць твораў М-скага, мы знойдзем у іх водгукі паэзіі ўсіх тагачасных паэтаў Белай Русі. (На жаль, беларускія творы М-скага дагэтуль нідзе не друкаваліся)».

У красавіку 1970 года, знаходзячыся ў Польскай Народнай Рэспубліцы, я звярнуўся да Багдана Жыраніка, які жыве ў Варшаве, з пытаннем, ці не захаваліся ў яго якія-небудзь дадатковыя матэрыялы або звесткі пра беларускую творчасць Зоф'і Тжашчкоўскай. Матэрыялаў такіх у яго, на жаль, не захавалася.

Але архіўныя пошукі пацвердзілі паведамленне Багдана Жыраніка. У Асалінэуме (так называецца славутая Бібліятэка Польскай акадэміі навук у Вроцлаве) захоўваюцца цікавыя пісьмы Зоф'і Тжашчкоўскай да Феліксa Зянковіча. У пісьмах гэтых змешчаны два вершы паэтэсы на беларускай мове: адзін з'яўляецца перакладам папулярнай польскай песні «Каліна» (на словы Тэафіля Ленартовіча), другі — перапрацоўкай вядомай песні Станіслава Манюшкі «Казак» (аўтар тэксту невядомы).

Сама Зоф'я Тжашчкоўская гаворыць пра гісторыю перакладу «Каліны»: «Аднойчы, у мінулым годзе, я пачала спяваць «Каліну» амаль міжвольна на нашай сялянскай беларускай мове і паўтарыла дзяўчатам-служанкам — гэта выклікала захапленне, яны на начах вучыліся. На няшчасце, я не маю голасу і не магу спяваць, ні вучыць іншых. Але магу перакладаць і маю некалькі гатовых песень. Я падумала, што нядрэнна было б можа пашырыць такі песеннік (вядома, толькі жывым голасам) замест агіднасцяў, якія цяпер можна часта пачуць... Пасылаю Вам дзве песні — гэта толькі пачатак — я забылася беларускую мову, хаця вяртаюся да яе цудоўна, як да нянькі дзіцячых гадоў...»

Пісьмо, у якім змешчаны абедзве песні, датуецца 16 мая 1886 года. Такім чынам, пераклады былі зроблены ў 1885 годзе. Гэта важная акалічнасць, таму што да нашых дзён захавалася вельмі мала беларускіх твораў, напісаных у 80-я гады мінулага стагоддзя. Пераклады Зоф'і Тжашчкоўскай узбагачаюць нашы веды пра беларускую літаратуру таго перыяду.

У аддзеле рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве сярод вершаў, прысланых да рэдакцыі часопіса «Życie», захоўваецца яшчэ адзін беларускі твор паэтэсы — пераклад верша Марыі Канапніцкай.

Які лёс іншых беларускіх твораў Зоф'і Тжашчкоўскай — пакуль невядома. Знайсці адказ на гэтае пытанне дапамогуць новыя пошукі ў архівах СССР і Польскай Народнай Рэспубліцы.

Хто ж яна такая, Зоф'я Тжашчкоўская, які яе лёс?

Нарадзілася яна (дзявочае яе прозвішча — Манькоўская) у 1847 годзе на Случчыне, у невялікім маёнтку Дарагавіца. З беларускай мовай, якую яна называла «нянькай дзіцячых гадоў», прыйшлі да яе песні і паданні нашага народа. Яны з'явіліся адной з прычын, што рана абудзілі ў маладой дзяўчыны паэтычнае натхненне.

Першыя літаратурныя спробы сустрэлі прыхільны водгук яе сваяка Уладзіслава Сыракомлі. Аднак далейшыя ўмовы жыцця не садзейнічалі развіццю яе



Зоф'я Тжашчкоўская.

таленту. З. Тжашчкоўская з жалем пісала ў 1871 годзе, што «свет закрыў перад дзяўчынай дарогі, адкрытыя для юнака». У 1886 годзе яна скардзілася ў пісьме да Ф. Зянковіча: «...Прыблізна на працягу дваццаці гадоў я зусім пазбаўлена таварыства людзей з літаратурнай адукацыяй, а раней я была такая маладая, і так мала ў нас дзяўчаты вучацца, што я не мела магчымасці назбіраць сабе запас сякіх-такіх ведаў, і таму кожны хоць бы найменшы прамень іх з'яўляецца для мяне свайго роду адкрыццём».

Маладая паэтэса рана выйшла замуж за афіцэра царскай арміі Вацлава Тжашчкоўскага, з ім жыла ў Расіі, у Разанскай губерні (у Зарайску), адкуль у 1877 годзе ў салдацкім адзенні паехала з мужам на Балканы, дзе пачалася руска-турэцкая вайна. Пасля заканчэння вайны вярнулася ў Расію. У Ноўгарадзе яна пазнаёмілася з польскім ссыльным Феліксам Зянковічам (у пісьмах да яго і былі змешчаны беларускія вершы), які аказаў значны ўплыў на паэтэсу, натхніў яе на літаратурную творчасць. Як сама яна прызнавалася ў пісьме да яго, «першы заахвоціў» і «прыдаў смеласці» ёй.

Арыгінальныя вершы (а таксама шматлікія пераклады) З. Тжашчкоўская друкавала ў розных часопісах, да канца жыцця хаваючы над псеўданімам «Адам М-скі» сваё сапраўднае прозвішча, якога ні чытачы, ні нават літаратурная крытыка (за некаторымі, магчыма, выключэннямі) не ведалі аж да яе смерці. У пісьме да Ф. Зянковіча яна прасіла: «Калі нішто не перашкодзіць, то праз месяц выйдзе з друку (гутарка ідзе пра пераклад на польскую мову французскага паэта-рамантыка А. Ламарціна — **У. К.**), тады і Вам прышлю экземпляр, толькі Вы, будзьце ласкавы, захавайце мне тое прозвішча, якое на гэтай кніжцы выпісана, ці, інакш кажучы, першыя літары імя і прозвішча майго бацькі (яго звалі Адам Манькоўскі.— **У. К.**). Сабою сярод людзей не хачу быць не з-за капрызу, але з увагі на маё сучаснае прозвішча і на магчымую будучыню. Не хачу нікога з сабою звязваць». Сваёй паэтычнай творчасцю на польскай мове яна не хацела пашкодзіць мужу — афіцэру царскай арміі.

Апошнія гады Зоф'я Тжашчкоўская жыла ў Дарагавіцы. Роднай вёсцы яна прысвяціла та́к званыя Дарагавіцкія песні, якія дзеляцца на два цыклы: «Зямля» і «Людзі». Гэтыя творы залічваюцца сучаснымі польскімі даследчыкамі да найпрыгажэйшых і найбольш арыгінальных з яе паэтычнай спадчыны.

У паказе жыцця і лёсу беларускага селяніна вызначыліся гуманістычныя перакананні паэтэсы, уменне бачыць у мужыку блізкага чалавека. Звяртаючыся да яго, яна пісала ў вершы «З нівы» («Z łanu»):

Ты не святы мне і не ідылічны,
Я знаю кожную з тваіх памылак
і заган,
Але тваё дабро і зло — гэта мой
скарб спрадвечны,
Бо ты мой брат.

(Падрадковы пераклад.— **У. К.**).

У другім вершы — «На пажарышчы» створаны малюнак працы беларускіх цесляроў, якія пасля пажару ўзводзяць новыя будынкі. Гэты малюнак аднаўлення жыцця на месцы, спустошаным агнём, дае паэтэсе падставу для філасофскага роздуму над спрадвечнымі праблемамі жыцця, над яго непераможнасцю.

Шматлікія творы Зоф'і Тжашчкоўскай на польскай мове, раскіданыя па розных часопісах і газетах, да сённяшняга дня не сабраны і не дачакаліся асобных выданняў.

Памерла Зоф'я Тжашчкоўская ў 1911 годзе ў Дарагавіцы.

**Уладзімір КАЗБЯРУК.**





# *ЗА РАДКАМІ ПІСЬМАЎ Л. ТАЛСТОГА і Л. АНДРЭЕВА*

Мы ўжо расказвалі чытачам «Маладосці» пра вядомага кінааператара Мікалая Феафанавіча Казлоўскага, які ў дваццатыя гады працаваў на студыі «Белдзяржкіно» і з імем якога звязана зараджэнне беларускай кінематаграфіі («Маладосць» № 3, 1970).

У 1909 годзе Мікалай Феафанавіч Казлоўскі звярнуўся да Льва Талстога з просьбай дазволіць яму наведаць Ясную Паляну і зняць на кінастужку пісьменніка. Неўзабаве ён атрымаў адказ:

«Мікалай Феафанавіч.

Вельмі шкадую, што павінен адмовіць Вам. Тлумачыць прычыну, чаму я адмаўляю, было б і доўга і бескарысна. Прашу Вас верыць, што вельмі шкадую, што не магу зрабіць Вам прыемнае.

*Са шчырай павагай Л. Т.*»

Чаму пісьменнік адхіліў на гэты раз просьбу кінематаграфіста? Магчыма, хоць у нейкай меры адказаць на гэтае пытанне паможа вось гэты запіс у дзённіку Талстога, зроблены 10 чэрвеня, за некалькі дзён да атрымання пісьма ад Казлоўскага:

«Пакутлівае пачуццё беднасці — не беднасці, а прыніжэння, забітасці народа. Даравальна жорсткасць і безразважнасць рэвалюцыянераў... Французскія мовы і тэніс, а побач рабы галодныя, голыя, забітыя работай. Не магу цярпець, хочацца ўцячы...»

А наогул, як сведчыць літаратар І. Тэнерома, Леў Мікалаевіч да кінаработнікаў адносіўся памяркоўна, праяўляючы асаблівую цікавасць і да канструкцыі апарата, і да тэхнікі здымкаў, і да рэпертуару карцін.

Праз некалькі дзён Казлоўскі атрымаў адказ і ад Леаніда Андрэева, да якога ён таксама звяртаўся з такой жа просьбай.

«Паважаны Мікалай Феафанавіч.

Першага пісьма Вашага не атрымаў, на другое затрымаўся з адказам, таму што быў нездаровы. Калі Вам вольна, то прыязджайце да мяне ў канцы тыдня або пазней — як дазволіць надвор'е. *Я ўвесь час дома і нікуды не збіраюся ехаць.*

Было б вельмі цікава паглядзець, што ў Вас выйшла.

З павагай да Вас Л. Андрэеў.

22 чэрвеня 1909 г.»

Як бачым, пісьменнік ахвотна згаджаецца прыняць добра знаёмага яму кінаапаратара, каб прадоўжыць здымкі. Далей Андрэеў гаворыць пра сваё жаданне ўбачыць ужо адзнятыя Казлоўскім кадры, пра якія, дарэчы, ідзе гаворка ва ўспамінах прафесара Н. Гусева, былога асабістага сакратара Л. М. Талстога: «У значнай меры цікавіла Льва Мікалаевіча магчымасць убачыць на палатне кінематографа рускіх літаратараў і грамадскіх дзеячаў. Даведаўшыся аднойчы пра тое, што маецца стужка з Л. Андрэевым, ён сказаў: «Калі ласка, пакажыце яго».

Сам Леў Талстой упершыню стаў перад кінакамерай 28 жніўня 1908 года, у дзень свайго 80-годдзя. На тэрасу яснапалянскага дома выкацілі качалку, у якой сядзеў хворы пісьменнік. З супрацьлеглага боку апаратары ўцягнулі на тэрасу і пачалі ўстанаўліваць груваcткую апаратуру...

У хуткім часе на экранах дэманстраваўся кароткаметражны фільм «Дзень 80-годдзя графа Л. М. Талстога». Пасля смерці пісьменніка была выпушчана ў пракат кінастужка «З жыцця Льва Мікалаевіча Талстога», куды ўвайшлі здымкі 1909—1910 гадоў. Па ўсёй Расіі і за мяжой ішла карціна «Пахаванне Талстога».

Як успрымалі паяўленне на экране вялікага пісьменніка яго сучаснікі? Таксама як і мы — з захапленнем! У «Газеце-капейцы» ад 26 кастрычніка 1909 года пісьменнік Скіталец дзяліўся з чытачамі сваімі ўражаннямі: «Учора я бачыў у сінематографе Льва Талстога... У невялікай зале было каля 100 гледачоў — і было амаль цёмна, але ясна адчувалася, што ўсе гэтыя людзі, якія выпадкова сабраліся, цёпла і сардэчна ўзрадаваны нечаканым падарун-

Многоуважаемый Николай Феофановичъ.

Перваго письма Вашего не получилъ; на второе замедлилъ отвѣтомъ, такъ какъ былъ нездоровъ.

Если Вамъ свободно, то пріѣзжайте ко мнѣ въ концѣ недѣли, или позже - какъ позволитъ погода. Я все время дома и никуда не собираюсь уѣзжать.

Было бы очень интересно посмотрѣть что у Васъ вышло.

Уважающій В.
Леонидъ Андреевъ

22 Іюня 1909 года.

**Фотакопія пісьма Леаніда Андрэева М. Ф. Казлоўскаму.**

кам сінематографа. Яны ўбачылі Талстога — і над імі прайшло штосьці ачышчальнае. Адна за другой праходзілі карціны, якія ўбачаць і нашы дзеці і нашы прапраўнукі...»

Пералічаныя вышэй фільмы выпусціла атэлье пецярбургскага кінапрадпрымальніка А. Дранкова (акрамя гэтага Л. М. Талстога здымалі прадстаўнікі французскай фірмы «Патэ», амерыканскай — «Эдысон», італьянскай — «Чынес»).

Захавалася хлёсткая рэкламная афіша «Першага ў Расіі ўдасканаленага сінематаграфічнага атэлье А. О. Дранкова», у якой яго ўладальнік, былы журналіст і фотарэпарцёр, наваяўлены спрытны кінабізнесмен і будучы белаэмігрант, апавяшчае паноў дэманстратараў, што атэлье мае магчымасць рабіць здымкі любога месца, што да паслуг кліентаў заўсёды гатовы вопытныя майстры, выпісаныя ім з Лондана і Парыжа.

Пра Парыж і Лондан — гэта, вядома, ліна. М. Ф. Казлоўскі быў «выпісаны» з Кіева. У Дранкова проста не было сродкаў на ўтрыманне апаратараў-іншаземцаў. Але дзеля нажывы, сенсацыі ён ні перад чым не спыняўся. Не спыніўся ён і перад гэтым: запрадаў італьянскай фірме «Чынес» большасць негатываў здымкаў Талстога. У нас засталіся толькі пазітывы гэтых кінастужак...

Акрамя экранізацыі раманаў Дастаеўскага «Злачынства і пакаранне», Ганчарова «Абрыў», атэлье Дранкова выпускала ў пракат у велізарнай колькасці хроніку з вялікасвецкага жыцця («Вяселле ў князя Трубяцкога»), грубыя фарсы шавіністычнага і парнаграфічнага зместу («За цара і айчыну, або людзі — браты», «Анэта добра павячэрала»), крымінальна-прыгодніцкія фільмы «Шафа смерці», «Сонька — залатая ручка» і г. д.

Калі чытаеш ва ўспамінах В. Д. Бонч-Бруевіча выказванне У. І. Леніна пра кіно, якое адносіцца да 1907 года, у першую чаргу ўспамінаецца Дранкоў.

«...Кіно, да таго часу, пакуль яно знаходзіцца ў руках пошлых спекулянтаў,— гаварыў Уладзімір Ільіч,— прыносіць больш шкоды, чым карысці, нярэдка разбэшчваючы масы агідным зместам п'ес».

У 1910 годзе М. Ф. Казлоўскі і брат гаспадара кінаатэлье Л. Дранкоў знялі фільм «Багдан Хмяльніцкі». Гэта была экранізацыя сцэн аднайменнай п'есы М. Старыцкага ў выкананні гастралявраўшай украінскай трупы. Кінастужка была паказана Талстому. Калі верыць А. Дранкову, то Леў Мікалаевіч фільм адобрыў, адзначыўшы «даступнасць яго сялянам як па прастаце сюжэта, так і па маляўнічасці карцін». Гэтыя ж апаратары незадоўга да смерці пісьменніка здымаюць кінаагляд «Сялянскае вяселле». Хоць кіравала пастаноўкай дачка Талстога — Таццяна Львоўна Сухоціна, але фільм ствараўся па ініцыятыве і ўказаннях Льва Мікалаевіча. Здымкі старажытнага сялянскага абраду адбываліся ў Качатах — маёнтку Т. Л. Талстой-Сухоцінай пры ўдзеле сялян. Некалькі разоў на здымках прысутнічаў Л. М. Талстой.

Цікава, што і пазней, у 1916 годзе, у самой Яснай Паляне здымаўся фільм «Чым людзі жывы» — экранізацыя аднайменнай аповесці Л. Талстога. Сурэжысёрам-кансультантам аўтара сцэнарыя і рэжысёра В. Гарліцкага і выканаўцам ролі пана быў сын пісьменніка Ілья Львовіч Талстой. А Мікалаю Феафанавічу Казлоўскаму давялося стаць апаратарам адной з экранізацый рамана «Вайна і мір», якая была ажыццёўлена ў 1915 годзе.

21 красавіка 1910 года ў Ясную Паляну на спатканне з Талстым прыехаў Л. Андрэеў. Не мог госць не гаварыць і пра кінематограф.

«За шклянкай чаю ён расказваў Льву Мікалаевічу,— запісвае ў дзённіку сакратар Талстога В. Ф. Булгакаў,— пра крытыка К. Чукоўскага, які ўзняў пытанне аб спецыяльнай драматычнай літаратуры для кінематографа. Сам Андрэеў гэтым пытаннем вельмі захоплены. Леў Мікалаевіч слухаў спачатку досыць скептычна, але пасля, відаць, мала-памалу зацікавіўся.

— Абавязкова буду пісаць для кінематографа! — заявіў ён у канцы гутаркі».

Нельга не прывесці і запіс, зроблены на наступны дзень, 22 красавіка, сакратаром Талстога: «Гаварыў за сталом, што ён усю ноч думаў пра тое, што трэба пісаць для кінематографа.

— Гэта ж зразумела велізарным масам, прытым усіх народаў. І тут жа можна напісаць не чатыры, не пяць, а дзесяць, пятнаццаць карцін.

Я перадаў Льву Мікалаевічу словы Андрэева, што яму больш зручна пачаць пісаць для кінематографа: ён зробіць пачын, а за ім пойдуць і іншыя пісьменнікі, якія першыя не могуць адважыцца пісаць для кінематографа. Андрэеў гаварыў таксама, што калі Леў Мікалаевіч напіша, то ён скажа Дранкову, уладальніку кінематаграфічнай фірмы, і той прывязе ў Ясную Паляну акцёраў і добрага рэжысёра, каб тут жа разыграць і зняць п'есу».

Няма ніякага сумнення ў тым, што Л. М. Талстой зрабіў бы такі пачын. Але гутарка яго з Л. Андрэевым адбывалася ў красавіку, а ў лістападзе яго ўжо не было ў жывых.

І. Тэнерома ў сваіх успамінах пра гутаркі з Талстым (часопіс «Кіно», 1922 год, № 2) прыводзіць словы Льва Мікалаевіча: «Я сур'ёзна задумваўся над п'есай для экрана. Ёсць у мяне і сюжэт... Прыязджалі нядаўна знаёмыя з Курска і расказалі абураючы выпадак, які разбіраўся на судзе і які закончыўся катаргай. Выпадак проста для кінематографа. Ні ў аповесці, ні ў драме не перадасі так. А на экране будзе хараша...» І далей: «Вы ўбачыце,— гаварыў ён таму ж Тэнерома,— як гэтая цокаючая штучка з ручкай, якая круціцца на ёй, пераверне штосьці ў нашым жыцці, у нашым пісьменніцкім. Спатрэбіцца новы спосаб пісання... Кінематограф разгадаў тайну руху, і гэта вялікае. Калі я пісаў «Жывы труп», я валасы рваў на сабе, пальцы кусаў ад болю і злосці, што нельга даць многа сцэн, карцін, нельга перанесціся ад адной падзеі да другой...»

Ідуць дзесяцігоддзі, але не можа жыць сусветны кінематограф без Талстога. Адзін толькі пералік экранізаваных яго твораў заняў бы не адну старонку. Кожнае новае пакаленне кінематаграфістаў вяртаецца да «Вайны і міру», «Анны Карэнінай», «Уваскрашэння»...

У 1912 годзе Леанід Андрэеў напісаў для кіно сцэнарый па сваёй п'есе «Анфіса». Па іншых яго сцэнарыях у далейшым былі пастаўлены фільмы «Гісторыя адной дзяўчыны», «Дні нашага жыцця», «Кацярына Іванаўна», «Кароль, закон і свабода», «Не забі». Гэта ўсё таксама экранізацыі яго п'ес і аповесцяў.

Вядомы Л. Андрэеў і як тэарэтык кі-

намастацтва. Тагачаснаму кінематографу ён дае знішчальную характарыстыку, называючы яго эстэтычным хуліганам, нахабным і ў дастатковай меры агідным для эстэтычна выхаваных людзей. Але затое якой одай кінематаграфіі будучага гучаць вось гэтыя словы пісьменніка: «Цудоўны Кінема! Калі вышэйшая і святая мэта мастацтва стварыць сувязь паміж людзьмі і іх адзінокімі душамі, то якую велізарную, неймаверную сацыяльна-псіхалагічную задачу суджана ажыццявіць гэтаму мастацкаму апашу сучаснасці! Што побач з ім — паветраплаванне, тэлеграф і тэлефон, сам друк. Партатыўны, які можна ўкласці ў каробок — ён па ўсім свеце рассылаецца па пошце, як звычайная газета. Не маючы мовы, аднолькава зразумелы жыхарам Пецярбурга і дзікунам Калькуты,— ён сапраўды становіцца геніем інтэрнацыянальных сувязяў, зближае канцы зямлі і краі душ, уключае ў адзіны ток уздрыгваючае чалавецтва».

Надзвычайная празорлівасць! Улічым, што артыкул «Пісьмо аб тэатры», з якога ўзяты гэтыя радкі, напісаны ў 1911 годзе.

Далей Леанід Андрэеў прадказвае нараджэнне новых «кінемадраматургаў», стварэнне магутнай кінатэхнікі, адчувальнай кінастужкі, якая дасць «прадметам іх натуральную афарбоўку»,— вось яно, прадчуванне каляровага кіно і каляровага тэлебачання!

Дарэчы, пра тэлебачанне. «Уявіце цяпер... што люстэрка было пастаўлена перад сцэнай якога-небудзь славутага і вялікага тэатра са славутымі акцёрамі; яно ж так цалкам усё і адлюструе, паверне, усё паўторыць, усё дасць і будзе даваць бясконца...»

Хіба хто ўсумніцца, што гаворка ідзе не аб трансляцыі па тэлебачанні спектакля, ну, напрыклад, з залы Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы?..

«Гэта будзе люстэрка,— працягвае Л. Андрэеў,— ва ўсю пяцісажнёвую сцэну... (Цяпер гэта завецца будзённа: шырокафарматны кінатэатр — **І. Р.**). Вось адкрываецца заслона — і як бы падае чацвёртая сцяна, у пяцісажнёвым пралёце, як у велізарным акне, паўстаюць жывыя карціны свету... Можаце бачыць усё і ўсіх, што і каго хочаце... Хочаце бачыць сябе — дзіцем, юнаком,— прайсці ўсё жыццё? Хочаце бачыць тых, хто памёр,— вось яны ўваходзяць пакорна, глядзяць, усміхаюцца, і з вамі — з вамі ж, увайшоўшы ў тыя ж дзверы — садзяцца за стол...»



**М. Ф. Казлоўскі** (справа) **накіроўваецца на здымкі.**

Чытаючы гэтыя радкія, я міжволі ўспомніў сваё. Не так даўно мне давялося пабываць у вёсцы Падгаі на Міншчыне, жыхары якой 45 гадоў назад здымаліся ў масавых сцэнах першага беларускага мастацкага фільма «Лясная быль», пастаўленага па аповесці Міхася Чарота рэжысёрам Юрыем Тарычам. Усяго шасцярых былых сялянскіх кінаартыстаў удалося адшукаць. У час размовы яны прасілі прывезці ў вёску і паказаць «Лясную быль» (карціна, на шчасце, захавалася — праўда, не цалкам). Прыемна, казалі яны, убачыць сябе, якімі былі ў маладосці, але, галоўнае, вельмі не церпіцца паглядзець на сваіх бацькоў, з якімі ў фільме ўдзельнічалі,— іх даўно няма ў жывых. Фатаграфіі іх захаваліся, але ў кінакарціне яны ж рухаюцца, усміхаюцца, жывуць... Гэта і дзецям нашым паказаць трэба — няхай бачаць, давядваюцца, як іх дзяды і бацькі па-геройску савецкую ўладу абаранялі.

Ужо за адно тое заслугоўвае павагі кінематограф, гэты цуд XX стагоддзя, глыбокай пашаны, што захаваў для чалавецтва на вякі У. І. Леніна, які ўсміхаецца, выступае перад тысячнай аўдыторыяй, думае, ідзе па плошчы, глядзіць на субяседніка, а нам здаецца, што на нас.

...Ён быў вельмі негаваркі — Мікалай Феафанавіч Казлоўскі. Дапытваліся жонка, дачка, сябры, шматтысячныя вучні на «Белдзяржкіно» і іншых студыях краіны, ці бачыў Талстога, каго яшчэ здымаў.

— Даводзілася і Талстога,— адказваў.

— А Леніна не даводзілася?

— Чаму ж? Даводзілася.— І змаўкаў.

Лічыў недарэчным працягваць размову.

**Ілья РЭЗНІК.**



# ПІША ЎНУК ДАСТАЕЎСКАГА

6 кастрычніка 1506 года Даніла Іртышчавіч атрымаў ад пінскага князя Яраславіча даравальную грамату на сяло Дастоева Пінскага павета Мінскай губерні. Ад гэтага сяла і ўтварылася потым прозвішча продкаў *вялікага пісьменніка Фёдара Міхайлавіча Дастаеўскага*. Праз шмат гадоў (у 1897 годзе) настаяцелю дастаеўскай царквы Аляксандру Кульчыцкаму прыслала пісьмо ўдава Ф. М. Дастаеўскага — Ганна Рыгораўна. Яна, у прыватнасці, пісала: «Мой нябожчык муж, Фёдар Міхайлавіч, шмат разоў гаварыў мне, што род яго паходзіць з Літвы ад пінскага маршалка Дастаеўскага, выбранага ў сейм у 1598 годзе, і яго нашчадкі жылі ў сяле Дастоева». Далей Ганна Рыгораўна Дастаеўская прасіла паведаміць, хто з Дастаеўскіх упамінаецца ў царкоўных запісах. Але яе пісьмо не застала свяшчэнніка ў жывых.

Цяпер *у сяле Дастоеве* Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці, у сярэдняй школе ёсць куток-музей Ф. М. Дастаеўскага. На сцяне аднаго з класаў вісяць партрэты пісьменніка і яго продкаў, аднаўлены запіс даравальнай граматы на сяло Дастоева, некалькі копій дакументаў і іншыя матэрыялы. Энтузіястам збору такіх матэрыялаў стаў дырэктар школы Мікалай Паўлавіч Раманаў. Ён вёў перапіску з унукам пісьменніка — Андрэем Фёдаравічам Дастаеўскім, які жыў у Ленінградзе. Афіцэр танкавых войск, прафесар-механік, аматар літаратуры, А. Ф. Дастаеўскі многае зрабіў для папулярызацыі і мемарыялізацыі літаратурнай спадчыны *свайго славутага дзеда*.

Ніжэй прыводзяцца два пісьмы Андрэя Фёдаравіча і адно пісьмо яго жонкі, Фіры Лявонцьеўны Дастаеўскай, у сяло Дастоева — Мікалаю Паўлавічу Раманаву.

Вось што пісаў Андрэй Фёдаравіч Дастаеўскі М. П. Раманаву 29 снежня 1965 года:

«Паважаны Мікалай Паўлавіч!

На ўвесь 1966-ты год пасылаю Вам (і праз Вас — Вашай сям'і, Вашай школе і ўсім дастаеўцам) шчырыя пажаданні поспехаў, здароўя, усялякіх удач. Вельмі спадзяюся, што ў надыходзячым годзе мне ўдасца пабываць у Дастоеве, Вам дапамагчы і прынесці на месцы некаторую карысць *грамадскасці*.

Як я пісаў раней, у студзені пачну камплектацыю для Дастоеўскай школы матэрыялаў па Дастаеўскім, вядома, удасца не ўсё адразу, буду перасылаць па частках, таму маю намер забяспечваць і метадычнымі заўвагамі.

Па-ранейшаму вельмі заняты. З галоўных пытанняў — гэта ўстанаўленне, арганізацыя і адкрыццё (толькі да 1968—69 гг.) мемарыяльнага музея Ф. М. Дастаеўскага ў Ленінградзе. Сапраўды дзіўна — гэтаму «самаму пецярбургскаму пісьменніку Расіі», які з'яўляецца не толькі нацыянальным гонарам, але і часцінкай славы горада на Няве, дагэтуль у былым Пецярбурзе — Ленінградзе няма вартага яго памяці знака ўдзячнасці і павагі! І другі працяглы мой клопат, сумесна з Ацябрскім райвыканкомам Ленінграда,— гэта прывядзенне ў парадак і здача на захаванне грамадскасці «месцаў, дэталяў і рысаў», звязаных як з жыццём самога Дастаеўскага, так і з жыццём герояў яго твораў,— гэты раён самы «дастаеўскі» раён горада. Ёсць многа іншых чарговых і нечарговых клопатаў і турбот па Дастаеўскім, на ўсё мяне аднаго проста не хапае, а колькасць гадзін у сутках не падвоіш?! Многае даводзіцца рабіць за свае сродкі, але пенсія ж мая зусім, на жаль, не такая ўжо *вялікая, каб хапіла!* Але ў гэтай дзейнасці і мой абавязак і маё задавальненне.

Такім чынам, развітваюся з Вамі, груба кажучы, да канца студзеня — вельмі б хацеў да 9 лютага 1966 года каб Вы атрымалі ад мяне першую партыю матэрыялаў (да дня 85-годдзя з дня смерці Фёдара Міхайлавіча). Будзем спадзявацца, што справлюся!

Усяго добрага, з павагаю да Вас

**А. Ф. Дастаеўскі».**

Другое пісьмо А. Ф. Дастаеўскі напісаў 4—5 лістапада 1966 года.

«Паважаны Мікалай Паўлавіч!

Калі ўжо і к святу (Вялікага Кастрычніка — **І. Ш.**) я не мабілізую сябе, каб напісаць у Дастоева, то не можа мне быць ніякага апраўдання!

Такім чынам, я нават не помню, калі пісаў Вам (10.6?) апошні раз,— копія пісьма ляжыць у архіве, але да яе цяпер не так проста дабрацца. Ва ўсялякім выпадку, гэта было задоўга да 16 чэрвеня г. г. Чаму 16-га чэрвеня? Іменна тады з'явілася ў «Літ. газеце» заметка «Нам пішуць» з Дастоева. Я не ведаю, ці Вы аўтар гэтай заметкі, але скажу Вам не крывячы душой, што за працяглы час **упершыню** чытаў заметку, якая, **калі б не мела перабольшвання** (там гаварылася аб вялізнай рабоце Андрэя Фёдаравіча — **І. Ш.**), то была б мне прыемна. Прыемна, я кажу ў сэнсе яе тону, яе пабудовы, яе эстэтызму. Вось тады ж было напісана мною Вам пісьмо, але тое-сёе змянілася, і я яго не выслаў. Каб пакончыць з заметкай,— я былы салдат і афіцэр **танкавых** (у заметцы — інжынерных — **І. Ш.**) войск, і іменна ў гэтым годзе **мы** — Вы і я, абавязкова дадзім немалы артыкул, пераплятаючы мінулае і сучаснае Дастоева з жыццём і творчасцю Фёдара Міхайлавіча, пачынаючы ад яго продкаў,— **абавязкова!)**

Аднак што ж змянілася, калі я не паслаў Вам нават пісьма? Тады, летам, я меркаваў падрыхтаваць для Дастоева (таксама — для Брэсцкага краязнаўчага музея), для г. Старая Руса, для г. Семіпалацінска — адзіны вопіс, правільней — пералік тых фотакопій, якія камплектна магла б падрыхтаваць для экспазіцый фоталабараторыя Акадэміі навук СССР (ад Інстытута рускай літаратуры). Але на лета фоталабараторыя амаль спыніла сваю работу, у Інстытуце р. літ. таксама пачаліся водпускі, і справа зацягнулася. Тым часам, у Семіпалацінску, наадварот, развілася мясцовая актыўнасць, якая прыняла нездаровыя формы. Давялося тэрмінова ўмешвацца і асобна для іх рыхтаваць **спецыяльны,** сібірскі матэрыял, каб там хоць неяк збалансавалася. Ці азначае гэта, што для Вас не будзе матэрыялу? Вядома, не, наадварот, цяпер ёсць вопыт, цяпер ёсць сістэматызаваны матэрыял, з якога цяпер лёгка выбіраць тое, што патрэбна будзе.

А ўсё ж чаму я працягваў не пісаць? Таму, Мікалай Паўлавіч, што калі раней, у сувязі з маёй дзейнасцю, у мяне не заўсёды было дастаткова часу для нармальнага адпачынку, то цяпер яго не толькі пастаянна не стала, але, акрамя таго, у мяне ўжо не стала часу на перапіску, не толькі асабістую, але і дзелавую. Бачу, што я на сябе бяру надзвычай многа, бяруся за тое, што не пад сілу, не па ўзросце, але што ж рабіць, калі з Дастаеўскіх я застаўся адзін? Да таго ж у мяне ніяк не наладзіцца маё асабістае ўладкаванне, і я паўхаласцяк, паўбяздомны і г. д., а гэта, вядома, зусім перашкаджае нармальнаму рытму.

Шмат часу таму назад я абяцаў Вам дапамагаць. Я гэта памятаю і не адмаўляюся. Як жа і калі ўдалося б што-небудзь рэалізаваць? Паступова я падрыхтую для Вас экспазіцыйны камплект,— гэта будзе гатова яшчэ ў гэтым годзе. Тут два варыянты — ці прывязу я сам гэты камплект або буду прыкаваны да Ленінграда (як, напр., цяпер!) і змагу толькі выслаць. Разгледзім абодва. Прасцей за ўсё, калі я не змагу вызваліцца,— тады ўсё па пошце, і справе канец! Вельмі буду шкадаваць, але, значыцца, мне нельга адарвацца ад тутэйшых спраў. Але я не быў у «водпуску», г. зн. у нейкім мінімальным адпачынку з 1962 года (калі я не быў пенсіянерам, то я адпачываў кожны год, і ў мяне кожны дзень была гадзіна-дзве вольнага часу! Цяпер гэтага зусім няма. Ніколі мне не даводзілася так многа, так цяжка і так «нервова» быць загружаным, як цяпер, калі я заняты грамадскай працай па «дастаеўскіх» тэмах.) Вось я і мару, што здолеў бы, магчыма, вырвацца гэтай зімой і дабрацца да Вас? Што тады? — Прывёз бы ўсю экспазіцыю і дапамог бы ў ёй разабрацца, правёў бы дзве-тры гутаркі на «дастаеўскія» тэмы, напісалі б мы той артыкул, пра які я ўпамінаў у пачатку пісьма. Усё б гэта я справіўся б зрабіць за 18—20 дзён і знайшоў бы часу хоць крышачку перадыхнуць. Адзін ехаць не рызыкнуў бы (усё ж здароўе ўжо зусім не тое. Калі раней быў жалезны, то цяпер хіба што з іржавай бляхі!), значыцца, нам бы дзесьці ўдвух уладкавацца — думаю, знайшлі б памяшканне, каб было магчыма жыць і тут жа працаваць? А з якога боку да Вас зімой дабірацца і як? Іменна гэта мне б вельмі хацелася ў пачатку будучага года правесці, але ці будзе магчымасць у мяне і Вас? (Іменна ў гэты час мне трэба падрыхтаваць праз Саюз пісьменнікаў СССР і праз ЦК КПСС перанос астанкаў Ганны Рыгораўны з Ялты да магілы Фёдара Міхайлавіча ў Ленінградскім Некраполі (стагоддзе іх шлюбу).

Месяц назад я атрымаў ад Вас пасылку з яблыкамі. Дайшла яна вельмі добра, і атрымаў я яе хутка. Яшчэ засталося некалькі яблыкаў, вельмі пахучых і смачных. Як называецца гэты гатунак? Па смаку і выглядзе ён нагадвае гатунак «Напалеон», а маленькія яблычкі падобны на чысты «Размарын». Вялікае дзякуй Вам за гэту прыемнасць. Я звярнуў увагу, што адправіцелем напісана Дастоеўская школа. Бачу ў гэтым напамінак мне, што я па сваіх абяцаннях у даўгу перад школай. Гэта вельмі мяккі прыём! Спадзяюся, калі прыеду, не расчараваць чакання. Нават калі не прыеду.

Галоўны мой занятак тут — гэта музей Дастаеўскага ў Ленінградзе... Каб наладзіць справу лепш, буду цяпер ствараць пры Ленінгр. адд. Саюза пісьменнікаў **ініцыятыўную групу,** якая затым арганізуе **гарадскі аргкамітэт,** які таксама павінен быць зацверджан Ленгарвыканкомам, і **тады ў будучага музея будзе гаспадар.** Але гэтаму аргкамітэту патрэбен адзін пастаянны работнік — сакратар камітэта. Значыцца, мне ж патрэбна дабівацца адной штатнай адзінкі і паставіць на гэта месца падрыхтаванага чалавека — кандыдатура ёсць. Тады за мною застанецца арганізацыйнае і «ідэйнае» кіраўніцтва. Другім жа маім клопатам з'яўляецца ўсё ж узяць верх над Акадэміяй навук, і ўсё ж, акрамя яе 30-томніка (асабліва навуковага), дабіцца 16—17-томніка да стапяцідзесяцігоддзя Дастаеўскага, г. зн. выдання для народа, масавага выдання. Гэта вельмі цяжка, але змагаюся. А колькі ўнутраных і зарубежных сувязяў і клопатаў! Напр., Генрых Бёль, з якім толькі што «матаўся» па «Пецярбурзе Дастаеўскага», ужо запрасіў дапамагаць яму 10—15 мая і далей у будучым годзе па яго сцэнарыі здымаць к/фільм «Дастаеўскі і Пецярбург».

З папярэдняга Вы бачылі крыху маё жыццё. Не прыспешваю з адказам, але ўсё ж чакаю Ваша пісьмо, у якім мне хацелася б прачытаць:

1. Музейная экспазіцыя ў Дастоеве пры школе або пры сельгасарцелі «Чырвоная зорка», або гэта адно і тое ж? Якія магчымасці аплаты 20—30 рублёў, калі фоталабараторыя АН СССР вышле накладным плацяжом на Ваш адрас камплект экспазіцыі?
2. Як дабірацца да Вас зімой і г. д., звязанае з прыездам у Дастоева? Зручны час?
3. Якія ўзаемаадносіны ў Дастаеўскага музея з Брэсцкім краязнаўчым?..
4. Як называецца гатунак яблыкаў (з пасылкі) і вялікіх, і малых?
5. Напішыце, у чым Вас асабіста няхватка з дзелавога — папера, пераплётныя вырабы, капірка, лента да пішучай машынкі і да т. п., або што-небудзь з вучэбных дапаможнікаў? У гэтым не саромцеся, таму што ўсяго гэтага ў Ленінградзе звычайна дастаткова. Магчыма, што-небудзь патрэбна для дзіцяці Вашага?

Усяго Вам і Вашай сям'і добрага! У заключэнне, святочна вітаю Вас — вельмі хачу спадзявацца, што Вы атрымаеце гэта пісьмо да святаў. За Дастоева, за поспехі справы, якія нас звязваюць, падыму абавязкова чарку!

З павагай
**А. Ф. Дастаеўскі».**

І вось праз два гады Мікалаю Паўлавічу Раманаву прыходзіць пісьмо, поўнае смутку, ад жонкі Андрэя Фёдаравіча Дастаеўскага:

«Глыбокапаважаны т. Раманаў!

(Прабачце, я не ведаю Вашага імя і імя па бацьку).

Цяжка пісаць гэтыя радкі, але 18 верасня г. г. (1968 — **І. Ш.**) у бальніцы імя Куйбышава ад рака, які захапіў вельмі многае, памёр Андрэй Фёдаравіч. Ляжаў ён у бальніцы каля месяца, і было яму цяжка, але трымаўся ён мужна і памёр пры поўнай свядомасці.

У апошні час ён працаваў да поўнай аддачы сілы, спяшаючыся апярэдзіць сам час. Толькі ў гэтым годзе ён паспеў пабываць у Маскве, Омску, Семіпалацінску. У чэрвені была праведзена па яго ініцыятыве, яго сіламі (і якімі нервамі!) цырымонія перазахавання Ганны Рыгораўны Дастаеўскай з Крыма ў Аляксандра-Неўскую Лаўру, побач з магілай Фёдара Міхайлавіча. Удзельнічаў у работах кінагруп Г. Бёля з ФРГ і Л. Куліджанава па экранізацыі рамана «Злачынства і пакаранне».

Да апошніх мінут ён працаваў і мысліў.

Фіра Лявонцьеўна Дастаеўская».

З гэтых пісьмаў відаць, як многа сілы і энергіі аддаў Андрэй Фёдаравіч для стварэння музеяў Ф. М. Дастаеўскага, выдання твораў вялікага пісьменніка. Смерць перашкодзіла яму пабываць у Дастоеве, асабіста прывезці камплект-экспазіцыю па Ф. М. Дастаеўскім. Але яго вялікая праца не прапала дарэмна. Амаль усё, аб чым марыў унук пісьменніка, ажыццявілася ў гэтым, юбілейным годзе.

**Іван ШПАДАРУК,**
**кандыдат філасофскіх навук.**

# ЖЫВЫЯ ФАБРЫКІ

Звычайна, калі мы чуем словы «мікробы», «бактэрыі», то перш за ўсё пачынаем думаць пра хваробы. Сапраўды, многія мікробы паражаюць здаровыя тканкі, выдзяляюць яды, узбуджаюць цяжкія захворванні. Але людзі навучыліся змагацца і перамагаць хваробаўтваральныя мікраарганізмы. Адышлі ў мінулае страшэнныя эпідэміі чумы, якія забіралі мільёны чалавечых жыццяў. Мінуў страх перад нябачнымі і невядомымі ворагамі. Чалавек пачаў вывучаць свет мікробаў і знайшоў у ім не толькі сваіх ворагаў, але і сяброў. Не баючыся перабольшвання, можна сцвярджаць, што за апошнюю трэць стагоддзя з неабсяжнага свету жывых арганізмаў чалавек прыдбаў больш за ўсё памочнікаў сярод мікробаў.

Мікробы — гэта выдатныя па сваёй разнастайнасці і дасканаласці хімічныя камбінаты, створаныя прыродай, у якіх «працэс вытворчасці» — сінтэз самых розных арганічных рэчываў адбываецца на дзіва нязменна, з мінімальнай затратай энергіі, у аптымальным рэжыме. Перанесеныя вучонымі з лабараторных колбаў і прабірак у заводскія ўстаноўкі, мірыяды розных мікраарганізмаў выпрацоўваюць з амаль дарэмнай сыравіны — адходаў сельскагаспадарчай вытворчасці, драўніны, прадуктаў перагонкі нафты — мноства патрэбных чалавеку вельмі каштоўных прадуктаў. Ферменты, вітаміны, амінакіслоты, гармоны — вось далёка не поўны спіс толькі групы фізіялагічна актыўных рэчываў, якія атрымліваюць цяпер у прамысловых маштабах дзякуючы надзвычай тонкай і ўмелай сінтэтычнай дзейнасці мікробаў. Мікробам мы абавязаны пачатку эры антыбіётыкаў. Пры адпаведных умовах мікраарганізмы здольны знішчаць пустазелле на палях, ствараць нейлон або іншыя складаныя палімеры рознай трываласці, эластычнасці, афарбоўкі і тэрмаўстойлівасці. Мікробы могуць паскорыць апрацоўку льну і прадоўжыць тэрміны захавання кансерваў, палепшыць смак і знешні выгляд прадуктаў харчавання.

Сучасная сінтэтычная хімія далёка не заўсёды здольна спаборнічаць з прыродай у вырабе многіх складаных рэчываў. Без рызыкі памыліцца можна нават сказаць, што цэлы шэраг арганічных рэчываў у бліжэйшыя 20—30 гадоў не ўдасца сінтэзаваць чыста хімічным шляхам. А мікробы «ўмеюць» многае.

Не так даўно вучоным удалося выявіць у глебе вялікую колькасць невядомых раней азотафіксуючых бактэрый. Значэнне гэтага адкрыцця цяжка пераацаніць. Вядома, што раслінаводства мае патрэбу ў велізарнай колькасці азотных угнаенняў. Наша хімічная прамысловасць з году ў год павялічвае іх вытворчасць. І ўсё ж іх яшчэ не хапае. Выяўленне бактэрый, якія б засвойвалі азот атмасферы, назапашвалі яго ў сваім целе і ўзбагачалі ім глебу, дазволіць значна скараціць дэфіцыт азотных угнаенняў у краіне і будзе садзейнічаць павышэнню ўраджайнасці палёў.

Не менш важнае значэнне для ўзбагачэння глебы азотам маюць пасевы бабовых раслін. Ужо звыш сямідзесяці гадоў прымяняецца нітрагінізацыя — перадпасяўная апрацоўка насення бабовых раслін так званымі клубеньвымі бактэрыямі — мікраарганізмамі, якія знаходзяцца ў своеасаблівых клубяньках, што ўтвараюцца на карэннях бабовых. Гэтыя бактэрыі засвойваюць атмасферны азот. У цяперашні час устаноўлена, што пасля нітрагінізацыі расліны набываюць вялікую ўстойлівасць да розных захворванняў, лепш пераносяць неспрыяльнае надвор'е. Пра ўплыў яе на ўраджай можна меркаваць па дадзеных, атрыманых у Швецыі за пяцьдзесят гадоў. Нават на акультураных глебах нітрагінізацыя дазваляе на 10—25 працэнтаў павялічыць зялёную масу раслін. Палова азоту, які маецца ў збожжы, утворана мікраарганізмамі. У нашай краіне нітрагінізаваным насеннем засяваецца пакуль толькі 10 працэнтаў адведзеных пад бабовыя пасяўных плошчаў. Няма патрэбы даказваць, што нітрагінізацыю насення варта праводзіць усюды.

Хімізацыя сельскай гаспадаркі нарадзіла новую галіну — мікрабіялогію пестыцыдаў. У цяперашні час на палях шырока прымяняюцца гербіцыды (яны знішчаюць пустазелле), фунгіцыды (яны прымяняюцца для барацьбы з грыбковымі захворваннямі раслін). Але яны могуць назапашвацца ў глебе, што прыводзіць да непажаданых вынікаў. Вядомы выпадкі, калі прымяненне гербіцыда сімазіну праз год пасля апрацоўкі поля зніжала ўраджай пшаніцы на 50 працэнтаў. Між іншым, маюцца глебавыя мікробы, якія садзейнічаюць нейтралізацыі ядавітых злучэнняў. Гэтыя маленькія істоты валодаюць надзвычайнай здольнасцю ўплываць на абмен рэчываў у арганізмах. Улічваючы растучыя тэмпы хімізацыі сельскай гаспадаркі, савецкія вучоныя вядуць інтэнсіўную работу па выдзяленні найбольш актыўных культур мікробаў, якія садзейнічалі б раскладанню пестыцыдаў, нейтралізацыі ядавітых злучэнняў.

У наш час розныя страты сельскагаспадарчай прадукцыі складаюць каля адной трэці ўраджаю. Адны з галоўных віноўнікаў гэтага — шкодныя насякомыя. Для барацьбы з імі распрацаваны разнастайныя метады, у прыватнасці і мікрабіялагічны, які за апошняе дзесяцігоддзе атрымаў ўсеагульнае прызнанне і шырока прымяняецца. Сутнасць яго заключаецца ў наступным. У лабараторных ці вытворчых умовах вырошчваецца культура бактэрый, якія могуць паражаць насякомых. Бактэрыяльная маса высушваецца і пры неабходнасці распыляецца над пашкоджанымі палеткамі. З дапамогай такіх бактэрыяльных прэпаратаў у Сібіры, напрыклад, была паспяхова праведзена барацьба з вусенямі сібірскага шаўкапрада. Памянёныя прэпараты маюць надзвычайную вартасць: яны спецыфічныя, г. зн. дзейнічаюць толькі на тых шкодных насякомых, супроць якіх створаны, і не знішчаюць карысных.

Цяпер задача заключаецца ў тым, каб заражаныя шкоднікі самі становіліся крыніцай інфекцыі і распаўсюджвалі б яе сярод сваіх суродзічаў. Вельмі перспектыўныя для гэтых мэтаў вірусы, якія выклікаюць у насякомых гранулёз, поліэдроз і іншыя смяротныя для іх хваробы. Нашы даследчыкі накоплівають вопыт эфектыўных метадаў барацьбы вірусаў з насякомымі-шкоднікамі. У прыватнасці, у Малдаўскай ССР у апошнія тры гады вірусы выйшлі пераможцамі ў барацьбе з белым матылём — шкоднікам садовых дрэў.

Але бадай самай вострай праблемай, якая стаіць перад вучонымі, ёсць праблема бялкоў. Дзве трэці насельніцтва зямнога шара яшчэ пакутуе ад тых ці іншых разнавіднасцяў голаду. І адна з галоўных перашкод, якая стрымлівае рост вытворчасці жывёльных бялкоў — яек, мяса і малака,— недахоп бялкоў для жывёлы.

Як жа тут могуць дапамагчы мікробы? Гутарка ідзе аб арганізацыі ў вялікіх маштабах вытворчасці кармавых бялкоў мікрабіялагічным шляхам, г. зн. з дапамогай штучнага вырошчвання мікраарганізмаў на заводах у спецыяльнай апаратуры.

У натуральным кругавароце рэчываў на нашай планеце мікробы заўсёды выконвалі ролю пасрэднікаў у харчаванні жывёл і раслін. Скарыстоўваючы сонечную энергію, зялёныя расліны сінтэзуюць арганічнае рэчыва з вуглекіслага газу і мінеральных соляў. Арганічныя рэчывы раслін служаць харчам для жывёльнага свету. Загінуўшыя жывёлы і расліны, гэтак жа як і іх прыжыццёвыя адкіды, раскладаюцца мікраарганізмамі зноў да вуглекіслага газу і мінеральных соляў, якія засвойваюцца раслінамі. Такім чынам, кругаварот рэчываў замыкаецца.

Важнейшая вартасць мікрабіялагічнага сінтэзу заключаецца ў тым, што сыравінай для яго могуць служыць усялякія адходы, непрыгодныя для непасрэднага кармлення жывёл. З гэтай прычыны варта напомніць, што ў нашай краіне быў упершыню асвоены спосаб вырошчвання дрожджаў — багатага бялковага корму для жывёлы — на прадуктах гідролізу драўніны. У СССР цяпер працуе шэраг заводаў, якія выпускаюць кармавыя дрожджы. Кармавы бялок знайшоў ужо шырокае прымяненне на шматлікіх птушкафабрыках. Многія жывёлагадоўчыя саўгасы выкарыстоўваюць для жывёлы корм, які ўтрымлівае 15 і больш працэнтаў мікробнага бялка (ад агульнай колькасці бялка ў корме). Не дзіўна, што Дырэктывамі XXIV з'езда КПСС на новую пяцігодку прадугледжваецца павялічыць выпуск кармавых дрожджаў у бягучым пяцігоддзі ў 3,5—3,7 раза.

Фізіялогія мікраарганізмаў надзвычайна разнастайная. Сярод іх, у прыватнасці, маюцца і такія «арыгіналы», якія жывяцца нафтай, газай, свяцільным газам і іншымі вуглевадародамі, зусім непрыгоднымі для харчавання якіх-небудзь іншых жывых істот. Асабліва істотна мікробы спажываюць вадкія парафіны, што ўваходзяць у склад дызельнага паліва. Разам з тым выдаленне парафінавай фракцыі з дызельнага паліва павышае яго якасць, бо яно перастае застываць на холадзе. Будучае, бясспрэчна, належыць такім спосабам атрымання бялка, пры якіх мікробы ствараюць у сваім целе амінакіслоты, выкарыстоўваючы танныя крыніцы «сыравіны» — вуглярод. У некаторых краінах ужо асвоены метады вырошчвання багатых амінакіслотамі кармавых дрожджаў на парафінах нафты. Па сваім хімічным складзе такія дрожджы не адрозніваюцца ад звычайных. На чарзе стаіць пытанне аб вырошчванні на парафінах іншых мікраарганізмаў, біямаса якіх больш багатая тымі або іншымі вітамінамі і амінакіслотамі ў параўнанні з дрожджамі.

Вельмі спакуслівa вырошчваць кармавыя дрожджы на прыродным газе, які складаецца ў асноўным з метану. Англійскія нафтахімікі, напрыклад, прапанавалі ператвараць метан у аднавугляродны спірт метанол. Яго лёгка атрымліваць, і ён танны вытворчы прадукт. Спірт гэты выдатна раствараецца ў спажыўным асяроддзі, і англічане ў ходзе доследаў ужо атрымалі выхад біямасы, якая ўяўляе прамысловую цікавасць.

На думку акадэміка І. Імшанецкага, самы арыгінальны і найбольш перспектыўны мікрабіялагічны метад атрымання бялка — культываванне вадародных бактэрый. Гэтыя мікраарганізмы акісляюць вадарод і энергію, якая атрымліваецца пры рэакцыі акіслення, выкарыстоўваюць на засваенне вуглекіслаты атмасферы.

Крыніцай азоту ў асяроддзі могуць быць танная мачавіна або сульфат амонію. Названыя бактэрыі могуць вырошчвацца і там, дзе вадарод утвараецца з адходаў хімічнай вытворчасці.

Цяпер справа за мікрабіялагічнай прамысловасцю. Рацыянальнае кармленне жывёлы, заснаванае на выкарыстанні прадуктаў мікрабіялагічнага сінтэзу, адкрывае шырокія перспектывы да хуткага павышэння прадуктыўнасці і рэнтабельнасці жывёлагадоўлі.

Трэба аднак не забывацца, што значная колькасць з'едзеных спажыўных рэчываў толькі раскладаецца ў арганізме жывёлы і выкідваецца, а не засвойваецца. Выхад жывёлагадоўчай прадукцыі ў параўнанні з затрачаным кормам не перавышае 20—30 працэнтаў у маладых, хутка растучых жывёл, а ў дарослых ён падае да 5—10 працэнтаў. Значыць, толькі невялікая частка спажыўных рэчываў, скормленых жывёле, даходзіць у перапрацаваным выглядзе да чалавечага арганізма, асноўная ж іх маса прападае без карысці.

*Міжволі ўзнікае пытанне: а ці нельга* затрачаныя на жывёлу спажыўныя рэчывы адразу перадаваць чалавеку? Вядома, гаворка ідзе не пра тое, каб карміць людзей тым жа самым, чым кормяць жывёлу. Пытанне стаіць пра больш разумнае выкарыстанне бялкоў, вугляродаў, вітамінаў і іншых каштоўных спажыўных рэчываў, якія ўтрымліваюцца ў кармавой сыравіне. Пры гэтым яны, вядома, павінны паступаць у арганізм чалавека ў належнай форме, якая добра засвойваецца і адпавядае яго прывычным густам і патрэбам. Каб ператварыць кармавую сыравіну ў паўнацэнныя прадукты харчавання, неабходна адпаведная яго перапрацоўка. Іншымі словамі, пытанне стаіць пра арганізацыю вытворчасці ў прамысловых маштабах штучнай сінтэтычнай ежы.

Праблема гэтая не новая. Яна даўно ўжо хвалюе сацыёлагаў, дэмографаў, эканамістаў і іншых вучоных розных краін у сувязі з бурным ростам насельніцтва зямнога шара. Аднак для практычнага рашэння гэтай праблемы толькі нядаўна, у сувязі з поспехамі хіміі, мікрабіялогіі і іншых навук, выспелі неабходныя перадумовы.

Цяпер паспрабуем уявіць сабе, што будзе, калі вытворчасць сінтэтычнай ежы заваюе прызнанне і будзе наладжан яе прамысловы выпуск у неабходнай колькасці. Напэўна, замест жывёлагадоўчых ферм з пашамі і ўгоддзямі з'явяцца збудаваныя з лёгкіх металаў, пластыку і шкла кампактныя харчовыя фабрыкі і камбінаты, у якіх будуць пераапрацоўваць з дапамогай мікраарганізмаў драўніну, салому і нафтапрадукты ў штучныя сінтэтычныя прадукты харчавання. Дзякуючы павелічэнню патэнцыяльнай сыравіннай базы і эканамічнаму выдаткаванню сыравінных рэсурсаў адпадзе неабходнасць гнацца за пашырэннем пасяўных плошчаў. Планета ўпрыгожыцца новымі садамі, гаямі і барамі. Адыдуць у мінулае, як страшны сон, недаяданні і голад соцень мільёнаў людзей.

**Ізот ЛІЦІНЕЦКІ,**
**кандыдат тэхнічных навук.**



# Ці ведаеце вы, што...



...агульны для ўсіх рэчываў закон: любое рэчыва мае большую шчыльнасць у цвёрдым стане, чым у вадкім, не распаўсюджваецца на ваду. Калі б не было гэтага выключэння з закона, лёд не плаваў бы на паверхні вады, а тануў бы, усе вадасховішчы хутка б прамярзалі да дна, усё жывое ў іх загінула б.

...фтор называюць «усёз'ядаючым», «разбураючым». У прыродзе няма рэчыва больш актыўнага, чым фтор, і наогул у свабодным выглядзе ў прыродзе ён не сустракаецца. Многія вучоныя заплацілі жыццём за тое, што хацелі ўбачыць яго свабодным. І ўсё ж «усёразбураючы» фтор прымусілі ўтварацъ злучэнні (фторвугляроды), якія фактычна ўжо нішто не можа разбурыць: ні агонь, ні холад, ні кіслоты, ні шчолачы, ні мікробы, ні нават сам... фтор.



...з усіх хімічных элементаў больш за ўсё на зямлі кіслароду. Зямная кара амаль напалову складаецца з яго. Ёсць ён і ў вадзе, і ў паветры, і ў горных пародах, і ў любым жывым арганізме—ці то мікроб, ці расліна, ці чалавек. Можа, гэта акалічнасць, а можа, тое, што кісларод заўсёды імкнецца змяніць (акісліць) рэчыва, з якім сустракаецца, забраць у яго электроны, з'яўляецца прычынай таго, што кісларод заўсёды ўдзельнічае ў галоўным працэсе, які адбываецца ў любой жывой матэрыі і без якога яна не можа існаваць,— у працэсе дыхання.



...элемент XX стагоддзя—уран—выкарыстоўвалі для практычных патрэб, у прыватнасці, для афарбоўкі шкла, яшчэ старажытныя рымляне.

...французскаму вучонаму Урбэну спатрэбілася пяць гадоў, каб атрымаць чысты тулій. За гэты час ён правёў больш за 15 тысяч вельмі аднастайных і стамляючых хімічных вопытаў.




...за час існавання чалавецтва з прыроднай сыравіны вылучана і атрымана штучна каля 2 мільёнаў хімічных злучэнняў. З іх 1 мільён 700 тысяч—арганічных. Гэта значыць, што арганічных рэчываў у 6 разоў больш, чым неарганічных. Трэба спадзявацца, што колькасць іх у бліжэйшы час значна павялічыцца, бо атамы вугляроду, з якога ў асноўным складаюцца арганічныя рэчывы, вельмі лёгка ўтвараюць разнастайныя ланцугі. Змяняючы колькасць гэтых ланцугоў і іх форму, хімікі могуць стварыць незлічонае мноства новых рэчываў.

...вядомы забойца ўсіх шкодных насякомых гексахларан быў атрыманы славутым фізікам Фарадзеем. Гексахларан доўга вывучалі хімікі, але аб якасцях гэтага рэчыва даведаліся біёлагі праз 100 гадоў пасля з'яўлення яго на свет.

...сэнс вядомай песенькі пра тое, што «без вады — і ні туды, і ні сюды...» адпавядае ісціне, бо без удзелу вады не абыходзіцца ніводзін хімічны працэс на зямлі: ні ў горнай пародзе, ні ў моры, ні ў арганізме расліны ці жывёлы.



...хімікі атрымалі хімічнае злучэнне бору з азотам — нітрыд бору, якое змагліператварыць у боразон—рэчыва, цвярдзейшае за алмаз. Боразон пакідае драпіны на алмазе і вытрымлівае большыя тэмпературы, чым алмаз.

...каб штучна атрымаць гармон інсулін, вельмі патрэбны пры лячэнні дыябету, дзесяці хімікам давялося працаваць тры гады. У той жа час у жывой клетцы бялок, якім, у прыватнасці, з'яўляецца інсулін, сінтэзуецца на працягу 2—3 секунд.

...у гемаглабіне, бялковым рэчыве, без якога немагчымы працэс дыхання ў жывёлы і чалавека, ёсць жалеза, і таму кроў мае чырвоны колер. Але ёсць некаторыя віды малюскаў і ракаў, у якіх кроў блакітная, таму што ў іх гемаглабіне на месцы жалеза знаходзіцца медзь. У хларафіле—па структуры падобным на гемаглабін—ёсць магній, таму расліны зялёныя.

...гелій і тэхнецый былі спачатку знойдзены на Сонцы і некаторых зорках, а потым ужо—на Зямлі.





# ЖЫЦЦЁ-БЫЦЦЁ ЗВЯРЫНАЕ

У Гродзенскім заапарку 150 відаў розных жывёлін і птушак з усіх кантынентаў. Чорныя пантэры, львы, тыгры, кенгуру, ламы, буйвалы, антылопы, малпы, фазаны, паўліны і г. д. Багатая ў заапарку і беларуская фаўна: ваўкі, мядзведзі, дзікі, алені, казулі, зубр, рознае птаства...

І што ні жывёліна, што ні птушка, то цэлая гісторыя.

## ЛЮБОЎ МАЦІ

Паляўнічым вядома, што калі чалавек знойдзе воўчае логава ў лесе і не забярэ адразу ваўчанят, ваўчыца сваё патомства абавязкова перанясе ў іншае месца і схавае так, што ўжо не знойдзеш. А як ва ўмовах заапарка?

Летась ваўчыца прывяла сем ваўчанят. І ўдзень і ўначы яна іх пераносіла з вальеры ў хатку, з хаткі ў вальеру, прыкрывала саломаю. Клопат адзін — схаваць дзяцей ад людскога вока. Праз нейкі час яна пяцярых зацягала, і яны загінулі. Засталося двое. Але і іх яна вырашыла схаваць любой цаной: кіпцюрамі і зубамі ўзарвала падлогу ў хатцы, выкапала нару і перанесла туды.

Работнікі заапарка падумалі: калі яна ўзарвала падлогу, то выкапаць нару пад сцяну і выбрацца на волю ёй будзе зусім няцяжка. Баяліся, каб не нарабіла шкоды. Адрамантавалі падлогу, але ваўчыца зноў узадрала дошкі і перацягнула ваўчанят у падполле. Калі да малых набліжаўся нават воўк-бацька, яна так сустракала яго, што той доўга не асмельваўся падыходзіць.

Давялося падлогу забіваць зноў, і так некалькі разоў, пакуль ваўчыца не зацягала і гэтых.

На наступны год у яе — зноў вывадак. Гісторыя з хаваннем ваўчанят пачала паўтарацца. Адно ваўчаня паспела зацягаць. І тут здагадаліся (ці ж заўсёды можна своечасова здагадацца, што трэба зрабіць, каб выратаваць жывую істоту?!) загарадзіць вальеру фанернымі лістамі. Ваўчыцы здалося, што цяпер яе дзяцей ніхто не бачыць, і яна перастала іх цягаць з месца на месца.

## КАЧАРАВА СХОВАНКА

У снежні, калі пачынаюцца моцныя маразы, усе насельнікі заапарка, што трапілі сюды з гарачай Афрыкі, Індыі, Аўстраліі, хаваюцца ў добра ўцепленыя хаткі. Сажалка замярзае. Вадаплаўнае птаства таксама перасяляецца ў новыя цёплыя кватэры. Толькі адзін прыгажун качар пакідае заапарк і некуды знікае.

Спачатку меркавалі, што ён зімуе недзе на поўдні. Аднак пазней высветлілася, што качар у вырай не ляціць.

Узімку, калі бываюць цёплыя сонечныя ці адліжныя дні, ён з'яўляецца ў заапарк на кармленне, а вось дзе знаходзіцца, калі лютуюць маразы і гуляюць мяцеліцы, пакуль што ніхто не ведае.

## ШМАТПАКУТНЫ ДЖАН

Каля вальераў, дзе жывуць малпы, заўсёды людна. Здалёку чуваць выбухі смеху — гэта малпы выкідваюць розныя штучкі. Толькі адна маленькая неяк засяроджана пазірае на наведвальнікаў і нібыта асуджае сваіх аднапляменнікаў і аднаплямянніц, што тыя паводзяць сябе не дужа прыстойна. Яе імя Джан. І калі хто працягвае руку ці набліжаецца да вальеры, Джан злосна фыркае—маўляў, адыдзіцеся, мне з вамі не да забавы. Можа, гэта ад таго, што малпа гэта шмат пакутавала...

Некалькі гадоў назад Джана прывёз у Мінск студэнт з Афрыкі. Ад'язджаючы на радзіму, ён падараваў Джана свайму сябру з-пад Нясвіжа, які вучыўся курсам ніжэй.

З Мінска Джан пераехаў у вёску, але там яго хутка выпусцілі ў лес. Амаль усё лета Джан жыў самастойна. Затым яго забралі вучні і перадалі ў школу. Потым Джан трапіў да салдатаў. Салдаты таксама выпусцілі Джана на волю. Але Джан быў слаба прыстасаваны да самастойнага жыцця. Знайшлі яго ў лесе калгаснікі знясіленага і перадалі ў вёску Казлы ў мясцовую школу, адкуль ён і быў перавезены ў заапарк.

Цяпер у Джана спакойнае жыццё. Можна і падумаць...

### ЧОРНЫЯ І БЕЛЫЯ ПУСТЭЛЬНІКІ

У заапарку ёсць невялікая сажалка, дзе жывуць гусі індыйскія, кітайскія, белалобыя, качкі, лебедзі клікуны і шыпуны...

Грацыёзны лебедзь-шыпун, закінуўшы адну лапу на спіну, плавае сюды-туды і ні на кога не звяртае ўвагі. Чатыры лебедзі-клікуны сталі ў адзін рад на беразе, выцягнулі шыі і нібыта смяюцца з лебедзя-шыпуна, што той гарэзнічае, як малое дзіця. Трохі ўбаку плавае лебядзіха. Каля яе малое лебедзяня. Яна і блізка не падпускае ніводнай птушкі. А калі якая асмеліцца наблізіцца, дык атрымае добрых кухталёў: лебядзіха б'е дзюбаю моцна.

Дзве шэрыя чаплі, выцягнуўшы доўгія шыі, прыўзняўшы вострыя клінкі-дзюбы, мітусліва бегаюць ад адных птушак да другіх. Спыняцца на хвіліну і нібыта прыслухоўваюцца, аб чым гамоняць качкі, гусі, лебедзі. Топчуцца ці стаяць нерухома, як высечаныя, на адной назе белыя буслы.

Заатэхнік Марыя Аляксандраўна Гаўрылік расказала, што дагэтуль белыя буслы ў заапарку не выводзіліся. А сёлета традыцыя парушылася.

Неяк нязвыкла бачыць вялізнае гняздо белага бусла на зямлі. Але менавіта ў канцы мая бусліха сядзела на гняздзе на двух яйках. Праўда, знесла бусліха чатыры яйкі, але два некуды зніклі: спачатку заўважылі, што аднаго не хапае, а пасля не стала і другога. Белыя буслы выводзяць толькі цотную колькасць буслянят. Калі не выкінуць з гнязда яйка, то пасля не пашкадуюць бусляня: тры з'явяцца — аднаму не быць, пяць — зноў аднаму не быць. Буслы выкармліваюць або двое, або чацвёра, або шасцёра буслянят.

А дзе ж нашы чорныя і белыя пустэльнікі? А вось і яны—белыя пеліканы і чорныя лебедзі. У сажалцы ім адгароджаны асобны ўчастак. Сетка аддзяляе іх ад астатняга птаства, бо пеліканы ганяюць, б'юць усіх астатніх птушак, а белыя лебедзі крыўдзяць сваіх чорных суродзічаў. Паміж сабою чорныя лебедзі і пеліканы жывуць дружна. Таму іх і пасялілі разам.

### ЗОРКІ АРЭНЫ

Штогод у заапарку выводзіцца шмат птушак і звяроў. Адны вырастаюць і жывуць на месцы, а другія пакідаюць «бацькоўскую хату». Тыгры, гімалайскія і бурыя мядзведзі, якія нарадзіліся ў заапарку, ужо выступаюць у атракцыёнах Маргарыты Назаравай. Тры тыгры з Гродна авалодваюць майстэрствам артыстаў у Рыжскім цырку.

Трапляюцца «артысты» і з крутым норавам, якія не паддаюцца дрэсіроўкам. Такія становяцца небяспечнымі. Тады іх навечна селяць у заапарках. Ёсць такія і ў Гродна — леў, мядзведзіца.

### ВЫДАТНІК

— Сурок, паднімі нагу!

Слон нязграбна паднімае нагу.

— Паднімі другую!

Паднімае.

— Сурок, пакажы зубы!

Ён адкрывае рот і паказвае зубы.

Гэтага слана з Індыі завуць Сурок, хоць сапраўднае яго імя Суррак. Суррак— гэта нямецкае. У заапарку яго перайначылі крыху. І неяк трохі дзіўна, калі чатырохтоннага велікана называюць сурком. Але сам слон на гэта не звяртае ўвагі.

Набылі яго ў Лейпцыгскім заапарку ў 1965 годзе. У Брэсце, дзе было апошняе развітанне немца-даглядчыка са сланом, адбылася замілавана-жаласлівая сцэна. Слон, абвіўшы доўгім хобатам шыю даглядчыка, плакаў сапраўднымі слязьмі. І так расчуліў яго, што і даглядчык не ўтрымаўся і пусціў слязу.

У Гродзенскім заапарку слон доўга сумаваў, але паступова прывык. З маленства ён чуў толькі нямецкую мову. Але вучань аказаўся здольны—хутка вывучыў нашу мову.





Даглядае Сурка Марыя Пятроўна Пузыня. Слон да яе так прывык, што калі яе часам няма на працы, ён не выходзіць з анагра і амаль цэлы дзень плача.

Увогуле Сурок вясёлага нораву. Набярэ поўны хобат вады і, калі хто-небудзь з работнікаў заапарка праходзіць міма, абкоціць яго з ног да галавы.

У Сурка заўсёды цудоўны апетыт. Яго дзённае зімняе меню: хлеб белы — 9 кг (чорнага не любіць), авёс—6,5 кг, амецце—5 кг, каша рысавая ці пярловая—3 кг, каша гарохавая — 3 кг, бульба — 25 кг, морква — 12 кг, буракі сталовыя — 30 кг, яблыкі — 5 кг, капуста свежая 5 кг, капуста квашаная — 3 кг два разы на тыдзень, агуркі салёныя — 3 кг два разы на тыдзень, цукар—0,5 кг, дрожджы—250 г, рыбін тлушч — 250 г, галлё—10—12 кг, цімафееўка—32 кг.

Улетку слон з'ядае яшчэ каля 80 кілаграмаў травы. А ўвесь яго рацыён у гэты час важыць каля 150 кілаграмаў.

Да ўсяго гэтага ў выхадныя дні яму перападае ад наведвальнікаў да трох кілаграмаў цукерак.

Апетыт у Сурка зайздросны.

Змітро БЯСПАЛЫ.

## РАТУЙЦЕ КЕНГУРУ

«Ратуйце кенгуру сёння, заўтра ўжо будзе позна»,—чуліся не так даўно галасы дэманстрантаў, якія маршыравалі па вуліцах Мельбурна і Сіднея, выступаючы ў абарону звера, малюнак якога красуецца на дзяржаўным гербе Аўстраліі.

Кожны год ад куль гіне каля мільёна кенгуру. На іх найбольш палююць ноччу—асляплены святлом аўтамабільных фараў, звер камянее, паралізаваны страхам. Асабліва цэніцца скура рудых і шэрых звяроў. Са скуры кенгуру вырабляюць паліто, жаночы абутак, сумачкі, а таксама цацачных мядзведзікаў. Вырабы ідуць на ўнутраны рынак і на экспарт. Асаблівы попыт яны маюць у ЗША і Заходняй Германіі. Мясам кенгуру кормяць сабак і катоў, а іхнія лапкі выкарыстоўваюцца як сувеніры.

Фрэнсіс Рэткліф, эксперт Аўстралійскага таварыства аховы прыроды, сцвярджае, што калі ўрад не спыніць драпежнага палявання на кенгуру, яны поўнасцю будуць знішчаны ўжо ў недалёкім будучым. За яго словамі—«нацыянальная ганьба» Аўстраліі.

Не апошнюю ролю ў вынішчэнні звяроў адыгрываюць уласнікі вялікіх авечых атараў, людзі, што маюць у Аўстраліі значную ўладу. Яны сцвярджаюць, што кенгуру з'ядае ў восем разоў больш травы, чым авечка, і таму, маўляў, фермы церпяць вялікія страты.

Але вось што гаворыць фермер Р. Кескі: «За апошнія чатыры гады мы забілі на маёй ферме 20 тысяч «руз» (скарочана з англійскай мовы «кегуруз». Відаць, уласнікі авечых гаспадарак маюць ад кенгуру куды большы прыбытак, чым страты, і хутчэй не апетыт бедных звяроў, а апетыт ласых на грошы фермераў з'яўляецца прычынай іх вынішчэння. Толькі ў 1969 годзе ў Аўстраліі было забіта два мільёны кенгуру.

Не так даўно аўстралійскі ўрад пад націскам грамадскасці стварыў спецыяльны камітэт, у які ўвайшлі прадстаўнікі розных міністэрстваў. Гэты камітэт павінен вырашыць, як быць кенгуру далей. Можа ж стацца такое, што малюнак кенгуру на дзяржаўным гербе Аўстраліі страціць свой сэнс.

### ІНФАРМАЦЫЙНЫЯ ПАНЧОХІ

Апошні крык моды ў Злучаных Штатах Амерыкі—так званыя інфармацыйныя панчохі. Блакітны колер азначае, што дзяўчына заручана, чырвоны — што яна вольная, зялёны — што хацела б пазнаёміцца. Даўжыня панчох таксама мае значэнне. Доўгія сведчаць пра тое, што іх уладарка вясёлая, кароткія — што яна мае схільнасць да меланхоліі.

### АДРАЧЭННЕ

Мадрыдскі суд не так даўно вынес дзіўны для кожнага цывілізаванага чалавека прысуд: нейкі Фернанда Гарсіа павінен на працягу шасці месяцаў ці адвучыць свайго папугая выкрыкваць антыўрадавыя лозунгі, ці забіць птушку. Праўда, газеты не пішуць, пра якія лозунгі ідзе гаворка.

### БЕЗГУСТОЎНАСЦЬ

Заснаваная нядаўна ў Швецыі «Ліга барацьбы з безгустоўнасцю» правяла сваё першае пасяджэнне. На ім быў абвешчаны спіс твораў выяўленчага мастацтва: рэклам, плакатаў і афішаў, якім уласцівы безгустоўнасць. Першым у тым спісе стаяў плакат, выпушчаны... тою ж самай «Лігай».

### МІРАЖ

На адной з вуліц мараканскай сталіцы горада Рабата вандроўнікаў сустракае вялізная шыльда на бензакалонцы: «Тут вы можаце карыстацца паслугамі адзінай спраўнай бензакалонкі ў пустыні Сахара. Запраўляйце машыну як след! Усе іншыя бензакалонкі, якія вы ўбачыце ў дарозе,— гэта міраж!»

# Якое будзе надвор'е?..

НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

●
**Калі наготкі ўранні раскрываюць венчыкі, то чакаецца яснае надвор'е; калі пасля паўдня—чакай дажджу, навальніцы.**
●
**Калі дзьмухавец сціскае свой шар, то будзе дождж; півоі закрываюць свой зонцік таксама перад дажджом. Лісце на дрэвах вецер паварочвае верхнім бокам уніз на дождж.**
●
**Падаюць з дрэў сухія галінкі ў ціхае надвор'е — на дождж.**
●
**Калі ранняй восенню ліняюць куры, то зіма чакаецца цёплая.**
●
**Калі ўваход у кратову нару размешчаны з паўночнага боку, зіма будзе цёплая, з паўднёвага — халодная, з усходняга — сухая, з заходняга — сырая.**
●
**Чым большыя пад восень мурашнікі, тым суровейшая будзе зіма.**
●
**Калі вавёрка робіць вялікі запас арэхаў, чакай халоднай зімы.**
●
**Перад дажджом рыба не клюе.**
●
**Пеўні співаюць — на дождж. Курыца абшчыпваецца — на пахмурнае надвор'е. Куры кудахчуць на непагадзь.**
●
**Гусь на адной назе стаіць — на холад. Гусі і качкі хаваюць дзюбы пад крыло — на холад.**
●
**Варона хохліцца — на дождж. Каркае, седзячы супраць ветру,— летам чакай дажджу, а зімой — ветру.**
●
**Калі гракі крычаць, надвор'е сапсуецца.**
●
**Галкі чародамі ляцяць — на дождж.**
●
**Калі галубы разбуркуюцца, будзе цёпла.**
●
**Калі журавы ўвосень ляцяць высока, восень будзе доўгая.**
●
**Жораў скача — пацяплее. Журавы крычаць — на дождж.**
●
**Чайкі доўга купаюцца — на непагадзь.**
●
**Сыч крычыць уначы — на дождж.**
●
**Дзяцел падае голас — чакай дажджу.**
●
**Перапёлка крычыць — перад дажджом.**
●
**Зяблік лятае — на халадэчу.**
●
**Калі жабы скачуць па беразе і квакаюць, то чакай дажджу.**





Раздзел вядзе
міжнародны гросмайстар
Аляксей СУЭЦІН

# «ХОБІ» ШАХМАТЫСТАЎ І ШАХМАТЫ ЯК «ХОБІ»

Безумоўна, на сучасным узроўні шахматы патрабуюць ад сваіх «жрацоў» поўнай аддачы творчых сіл. І разам з тым шахматысты павінны штодзённа, апрача асноўных заняткаў па развіцці камбінацыйнага зроку ці даследаванні новых тэарэтычных «плыняў», карпатліва рабіць «нудную», але неабходную механічную работу: збіраць і сістэматызаваць матэрыял, весці картатэку дэбютаў і г. д. Шахматысты ўвесь час знаходзяцца ў свеце абстрактных ідэй, якія ператвараюцца ў рэальнасць у перыяд напружаных турнірных бітваў. Вядомы польскі гросмайстар А. Рубінштэйн, шахматны працаўнік рубяжа мінулага і нашага стагоддзя, зусім сур'ёзна «жартазаў»: «Шэсцьдзесят дзён у годзе я гуляю ў турнірах, пяць дзён—адпачываю, і трыста—працую над сабою!»

Але шахматысты такія ж людзі, як і ўсе. Асноўная прафесія многіх вядучых гросмайстраў свету—зусім не шахматы. Так, калі браць гісторыю шахмат, вядомы чэмпіён свету сярэдзіны XVIII стагоддзя Ф. Філідор быў вельмі папулярным кампазітарам, Э. Ласкер — матэматыкам і філосафам, А. Алёхін — доктарам права. Старэйшы з сучасных чэмпіёнаў, галандзец М. Эйве — прафесар матэматыкі, кіраўнік буйной фірмы электронна-вылічальнага цэнтра, а М. Бацвіннік — доктар тэхнічных навук, працуе ў навукова-даследчым інстытуце электроннай тэхнікі і шмат часу аддае стварэнню машыны, якая б здолела перамагчы гросмайстра. Савецкі гросмайстар М. Тайманаў вандруе па свеце не толькі з «чамаданам» шахматных варыянтаў; ён выступае як піяніст, а ў пары са сваёй жонкаю Л. Брук яны складаюць цудоўны фартэпіянны дуэт. Экс-чэмпіён свету В. Смыслоў шмат гадоў сур'ёзна займаецца вакалам, экс-чэмпіён свету Ц. Петрасян абараніў ступень кандыдата філасофскіх навук. Лік такіх прыкладаў можна прадоўжыць.

У той жа час можна прывесці шмат прыкладаў выключнай любові да шахмат у славутых людзей навукі, мастацтва, літаратуры. Захапляюцца шахматамі выдатныя вучоныя нашай краіны: прафесары А. Гуляеў, С. Умноў, Н. Сахараў. Сапраўдным «хобі» шахматы сталі ў вядомага скрыпача Д. Ойстраха, у піяніста Я. Фліера.

Яшчэ ў даваенны час у Цэнтральным доме работнікаў мастацтваў быў наладжаны матч паміж першаразраднікамі кампазітарам С. Пракоф'евым і Д. Ойстрахам. У студэнцкія гады меў моцны першы разрад і кіраўнік Венгерскай кампартыі таварыш Янаш Кадар.

Наогул, шахматы з'яўляюцца верным і добрым спадарожнікам у жыцці вельмі многіх людзей на зямным шары.

# НАДРУКАВАНА Ў 1971 ГОДЗЕ

## ПРОЗА

**АДАМЧЫК Вячаслаў.** Калі ападае лісце. Апавяданне. X—69.
**АРАБЕЙ Лідзія.** Сіні золак. Апавяданне. II—70.
**АСІПЕНКА Алесь.** Сват. Сцежка да хаты. Дзед Кузьма, Антон Пакоша і Любка Вадзянец. (Апавяданні). IV—7.
**БЫКАЎ Васіль.** Абеліск. Аповесць. IX—8.
**БЯСПАЛЫ Змітро.** Мініяцюры. VIII—88.
**ВЫШЫНСКІ Міхась.** На павароце. Аповесць. I—13.
**ГРАХОЎСКІ Сяргей.** Гефіон... Лорду на ўспамін. «Штраф». Песня. Настальгія. Нявыдуманыя навелы. IV—42.
**ДАЛІДОВІЧ Генрых.** Неспадзяваная пасажырка. Апавяданне. VI—66.
**ДЗЯТЛАЎ Алесь.** Поезд ішоў праз ноч. Апавяданне. XII—58.
**ЖУК Алесь.** Завулак. Дома. Апавяданні. V—68.
**ІПАТАВА Вольга.** Першыя крокі. Ноччу. Апавяданні. I—94; Прадыслава. Аповесць. XII—9.
**КУДРАВЕЦ Анатоль.** Холад на пачатку вясны. Апавяданне. III—56.
**КУЗЬМЯНКОЎ Уладзімір.** Такая доўгая ноч. Апавяданне. VII—77.
**ЛІПСКІ Уладзімір.** Ордэн. Дзівак-чалавек. Пасля адной сустрэчы. Дзіўнае-Новае. Жыві—вучыся. Калі трэці бывае лішні. Сын. Дрэва-герой. Гуляюць хлопчыкі ў вайну. Старонкі з блакнота. II—44.
**МУЖЭЙКА Іван.** Дубраўлянскае лета. Аповесць. III—22.
**НАВУМЕНКА Іван.** У бары на світанні. Аповесць. VII—11.
**НАВУМОВІЧ Уладзімір.** Попел на сэрцы. Апавяданне. II—52.
**НАЎРОЦКІ Алесь.** Некалькі згадак. Апавяданне. VIII—71.
**ПАЛЬЧЭЎСКІ Алесь.** Гладыёлусы. Апавяданне. XII—47.
**ПАЛЯКОЎ Самсон.** Залаты ганак. Аповесць для кіно. II—9.
**ПАЎЛАЎ Уладзімір.** Бацечка. Апавяданне. III—7; Нас поле не насеяна. Аповесць. VIII—9; IX—62.
**ПАРАХНЕВІЧ Міхась.** Далёкае рэха. Апавяданне. VI—83.
**ПУШКІН Яўген.** Боця. Апавяданне. VI—73.
**РАДКЕВІЧ Яўген.** Плытагоны. Агні. Апавяданні. V—7.
**РЫБАК Алесь.** У той позні вечар. Певень. Землякі. Кветкі Пушкіну. Навелы. III—79.
**САВІЦКІ Алесь.** І нічога ўзамен. Аповесць. X—9; XI—19.
**САЧАНКА Барыс.** Загадка аднаго падполля. Аповесць-быль. VII—40.
**СТАБЕР Алесь.** Двое. Апавяданне. XI—10.
**УС Аляксандра.** Васілінка з Царскай Веткі. Аповесць. VI—13.
**ЯКУТАЎ Уладзімір.** Агонія. Аповесць. V—25.

### ПЕРАКЛАДЫ

З НЯМЕЦКАЙ:

**ЛАНГЕ Вольфганг.** Дванаццаць вінаватых. Апавяданне. IV—62.
**ДЗЮРЭНМАТ Фрыдрых.** Аварыя. Навела. IX—103.

## ПАЭЗІЯ

**АРОЧКА Мікола.** Старшынствуе маё пакаленне... Куртка Валянціна Таўлая. Яблынька. Відавочцы, пішыце пра сум жураўоў... Вершы. II—41.
**БАРАДУЛІН Рыгор.** Рэкі ўсхадзіліся... Я загнаў цягнікі... Я твой нявольнік... Дняпроўскі ўспамін. Не па барадзе... Свет захлынаўся ад святла... Над асеннім Сажом. Эцюды. Вершы. I—9.
**БУРАЎКІН Генадзь.** Не спіць салдат... За ўсё плаціў я поўнай платай... Кампрамісы. Не кліч мяне музыкай модненькай... І я не той, і ты не тая... Каля твайго паркану снег мяце... Вершы. III—4; Паэма расстання. VII—4.
**БОНДАР Таіса.** Споведзь. У палоне гор. Сеюць смутак... Вершы. II—50.
**БРОЎКА Пятрусь.** Вясновае. Мой шар зямны!.. Змаганне з тугою. Вішня. Касмічных спраў майстры... Ты для мяне... Вершы. VIII—4.
**БУЙЛО Канстанцыя.** Як быццам вецер падарыў нам крыллі... Не! Я цябе ніколі не забуду... Вершы. III—78.
**БЯЛЕВІЧ Антон.** Бяроза. Аграном. Дзявочая просьба. Прызнанне юнака. Вершы. VII—37.
**ВЕРАБЕЙ Яўген.** Жаўранак. Я, нават не верыцца,—дома!.. Я цябе не чакаў... Вершы. VIII—86.
**ВІТКА Васіль.** Вершы. V—84.
**ВЯРЦІНСКІ Анатоль.** Мора, сонца, я і наша каханая. Цётка плакала па ўсім свеце... Зноў не сумеў стрымаць свой гнеў... Твая воля—як воля лёсу... Паўднёвае ўражанне. Вершы. IX—4.
**ГІЛЕВІЧ Ніл.** Недзяленя. Паэма. VI—4.
**ГОЛУБ Юрка.** Сёння скончыцца лета... Памяці Леаніда Якубовіча. Станцыя. Славяне. Днём. IV—59.
**ГРАЧАНІКАЎ Анатоль.** Знячэўку наляцяць зарніцы... Чырвоныя коні. На досвітку паперай жоўта-сіняй... Адкаласіўся дзень... Асенні вецер. Тая ноч... Як і тады... Вершы. IV—36.
**ГУБЕРНАТАРАЎ Міхась.** Так жыць хачу, каб смела ў вочы... Зброяй пагражалі ў твар чужынцы... Добры дзень!—гучыць цудоўна... Год за годам на плечы кладзецца... Вершы. III—54.



**ДАЙНЕКА Леанід.** Ключ. Паэма 1—4.
**ДУКСА Мар'ян.** Нарач спіць. Сягаюць іскры, быццам спіцы... О, адчувальная прырода... Крыху лянівы і вясёлы... Вершы. VIII—69.
**ЗАБАЛОЦКАЯ Людміла.** Развітанне з жураўлямі... І паштоўкі белыя кружылі... Вераснёвых вогнішчаў стамлёнасць... Ліўні залатыя цуруболяць... Вершы. VIII—85.
**ЗАРЫЦКІ Аляксей.** Белы гарадок. Верш. III—77.
**ЗУЁНАК Васіль.** Першы гром. Зраселы голас перапёлкі... Бессмяротнасць. Песня. Ці бог ішоў з парадай?.. Вершы. X—4.
**КАЛЕСНІК Іван.** Праспект Партызан. Люблю... Энрыка Фермі. Сыны твае... Не былі ў цябе мае сваты... Хацеў бы я... II—82; А я сыноў не дакараю... Такое квецені ніколі... Кажуць, хто дрэўца адно пасадзіў... Вершы. XII—56.
**КАРЖАНЕЎСКАЯ Галіна.** Поўдзень. Праменні ў снопік... Жураўы. Прыйшоў... Вершы. II—68.
**КІРЭЕНКА Кастусь.** Долар. На землетрасенне ў Банья-Лука. Дарогі Амерыкі. «Рэчаньку» пяюць амерыканцы. Вершы. XI—4.
**КУСЯНКОЎ Мікола.** Будзьце гатовы! Паэма. V—20.
**КУШНЯРОЎ Міхась.** Над вёскай ноч і... раптам выбух... Верш. V—24.
**ЛАСКОЎ Іван.** За Об'ю, у далі далёкай... Яшчэ вядуцца спрэчкі па праекце... Па пустэчы, па гліне, па смецці... Дзіцячы дом... І мы з табой хадзілі... Вершы. IV—4.
**ЛОЙКА Алег.** Тапаліны пух. Гарнавы. Не марыць паэт не можа... Як лёгка вучнем быць!.. Ведрыцкія дубы. Ярына. Светаяннік. Мліво. Вершы. XI—15.
**ЛОСЬ Еўдакія.** Студэнты горада Бардо. Лесі Украінцы. Адкрыты ліст—усім лістам... Панядзелак, панядзелак... Песня. Няхай вятры па мне галосяць... Згадка. X—64.
**МАКАРЭВІЧ Васіль.** Падсочніца. Што ў памяці трымаю... Вершы. IX—100.
**МАТЭВУШАЎ Васіль.** Снежная радасць. Усё пачынаецца адгэтуль... Ёсць запаветныя правы... Ля начлежнага бору. Вершы. I—98.
**МІНЧАНКА Мікола.** Атлант. Новы сум і боль таксама новы... Вершы. IV—61.
**МУРАВЕЙКА Іван.** Перацярплю любыя мукі... Лось. Вершы. X—88.
**МЯТЛІЦКІ Мікола.** Бяроза. Над Барысаўшчынай снег. Сакавік. Вершы. V—81.
**ПАНІЗНІК Сяргей.** У дарозе. Адышла пара... Зямля такая... Нарачанская песня... Вершы. VI—64.
**ПРЫХОДЗЬКА Пятро.** Ветравыя шляхі. Паэма. XII—4.
**РАЗАНАЎ Алесь.** Мо пярэдадзень, мо здзяйсненне... Яны маўчалі на допыце... Барабаншчык. Трывогі. Будуе заводы, ўздымае аблогі... Празорца. Вершы. III—19.
**РАКАЎ Віктар.** Не паспеў прыглядзецца... Навальніца ў гарах. Ты зваў мяне... Дагэтуль чую ля прычалаў... Вершы. I—100.
**РУСІЛКА Любоў.** Сталасць. На шчасце. Вершы. XI—110.
**РУЦКАЯ Алена.** Здзіўленне. Бываюць чорныя хвіліны... Зноў гучаць мае крокі... У вясны—салаўі, звонкі спеў навальніцы... Зоркі сінія ўсё ярчэй... Я сумую, ізноў сумую... Вершы. VII—74.
**САЛТУК Алег.** Лёс, напэўна, у зямлі такі... У нас лясная старана... Такі наш звычай... Пачатак дня. Зялёныя лясы і азярыны... Вершы. X—86.
**СВІРКА Юрась.** Засталося б толькі поле... Міколу Сурначову. Партызанскі ручэй. Сяброўства. Бягуць дзяўчаткі у кіно... Вершы. V—4.
**СЕРБАНТОВІЧ Анатоль.** Курганы. Вянок санетаў. II—4.
**СКАРЫНКІН Уладзімір.** Хацелі ўсюды прагрымець... Шчодрым сонцам вясны... І вось я зноў... Начную песню завялі... Вершы. X—67.
**СМАГАРОВІЧ Марк.** Я жыву ў новым мікрараёне. Санцавей. Не спяшайся. Кроч сабе памалу... Трымціць нахмураная шыра... Вершы. VIII—67.
**ТАРМОЛА Раман.** Хатынскі рэквіем. Цыкл вершаў. I—90; Маё жыццё—як час мой супярэчлівы... 22 чэрвеня 1941 года. Цішыня. Запрашаюць паэты на роздум... Сустракаюцца сэрцы бяздонныя... На дварэ і на сэрцы непагадзь... Няважна—любяць ці не любяць... Бачу цябе на досвітку... Не баюся кахання... Я пад тваім паглядам... Прадчуванне. Вершы. IX—57.
**ФАМІН Уладзімір.** Ветэраны. Жыццё пражыць—не поле перайсці... Ружы ў канцлагеры. Лістапад. Ходзіць восень... Вершы. VI—80.
**ФЕДЗЮКОВІЧ Мікола.** Зіма стаяла ў дыме і руінах... І беласнежна-велічная Вега... Што гэта лётае без крылаў... Элегія. Дзве зары. Вершы. III—51.
**ХАДАРОНАК Славамір.** Прыцягненне. Мой бацька адыходзіў на вайну... Гракі ў галлі... Сакавіцкае. Анідзе няма ужо калысак... Вершы. V—66.
**ЧАРНЯЎСКІ Мікола.** Памылка. Буслы пакінулі буслянку... Балада пра зямлю. Ёсць край... Вершы. IV—39.
**ЧЭРНЯ Хведар.** Маналог вежавага крана. Ёсць дзіўнаваты нейкі смак... І выспявала навальніца... Вершы. XII—45.
**ЯНІШЧЫЦ Яўгенія.** Яшчэ душы маёй раздольна... За далячынню бору... Ты рады? Я не рада... Дух часу мой... Як хораша было!.. Вершы. XI—7.
**ЯРАЦ Віктар.** Калі зялёны ўзняўшы сцяг... Вечныя берагі. Восень у Грузіі. Быў ціхі парк цёмна-зялёны... Вершы. X—7.

### ПЕРАКЛАДЫ

з рускай:

**ВАСІЛЕЎСКІ Іосіф.** Ля кастра. Нарач. Ранак. Вершы. XII—65.
**ЗВЕРАВА Надзея.** Іванаў палац. Абрыў дняпроўскі... Мне пытанне зададзена... Падарылі сляпому радугу... Вершы. VIII—91.
**НЯКРАСАЎ М. А.** На смерць Шаўчэнкі. Школьнік. Калі дыхне вайны жуда... Радкі мае! Засведчыце, жывыя... Навальніца. Вершы. XII—89.

з украінскай:

**ЛУБКІЎСКІ Раман.** Гераічная балада. Сакавік. Асеннія вогнішчы. Страх. Сон пра вечнага аленя. Вершы. VII—85.

з новагрэчаскай:

**РЫЦАС Яніс.** Абавязак. Алексіс. Вершы. III—86.

з латышскай:

**ПЛОТНІЕК Ян.** Прызнанне робата. Шрамы. Ніколі! Вершы. V—86.

# ПУБЛІЦЫСТЫКА

## НАСУСТРАЧ XXIV З'ЕЗДУ КПСС



## СПРАВЫ ПАРТЫІ — СПРАВЫ НАРОДА



## САЮЗ НЕПАРУШНЫ



## БАЯВЫ ШЛЯХ КАМСАМОЛА



## ТЫХ ДЗЁН НЕ ЗМОЎКНЕ СЛАВА



## НЕ ЗАБУДЗЕМ НІКОЛІ



## ДЫЯЛОГІ І МАНАЛОГІ



## ДЗЕНЬ СЁННЯШНІ





## РЭПАРТАЖ З РОЗДУМАМ



## НАВУКА І ЖЫЦЦЁ



## У СВЕЦЕ ПРЫГОЖАГА



## ДЛЯ ВАС, ДЗЕСЯЦІКЛАСНІКІ



## наш практыкум



## ШТРЫХІ ГІСТОРЫІ



## ЦІ ПОМНІМ МЫ ЎСЁ!



## ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА

## З ДАЛЁКІХ І БЛІЗКІХ ДАРОГ



## ІХ НОРАВЫ



## КНІГІ І ЧАС



## СУР'ЁЗНАЕ І КУР'ЁЗНАЕ



## УСМЕШКІ МАЛАДОСЦІ







## СТАРТЫ І ФІНІШЫ



## е2—е4!



## 64—100

# нашы аўтары

**ПРЫХОДЗЬКА Пятро** нарадзіўся ў 1920 годзе ў вёсцы Альшоў Хоцімскага раёна.
Вучыўся ў Мінскім Камуністычным інстытуце журналістыкі імя С. М. Кірава.
Доўгі час служыў у Савецкай Арміі, прымаў удзел у Айчыннай вайне.
Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве.
Працаваў у рэдакцыях газет і ў выдавецтве.
Аўтар паэтычных зборнікаў «Голас сэрца», «Салдаты міру», «Ранак над Эльбай», «Цёплы каравай», «Вішнёвы агонь», «Пасля развітання» і іншых.

**ІПАТАВА Вольга** нарадзілася ў 1945 годзе ў мястэчку Мір на Гродзеншчыне.
Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.
Выдала зборнік вершаў «Раніца».
Працуе ў рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва».

**ЧЭРНЯ Хведар** нарадзіўся ў 1939 годзе ў в. Доржні Валожынскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна.
Выдаў кнігі вершаў: «Добры дзень, людзі», «Размова з памяццю».
Працуе рэдактарам выдавецтва «Беларусь».

**ПАЛЬЧЭЎСКІ Алесь** нарадзіўся ў 1905 годзе ў вёсцы Прусінава Уздзенскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна.
Працаваў у рэдакцыях часопісаў, выкладаў мову і літаратуру, быў рэдактарам у выдавецтве.
Аўтар кніг «Беражанкі», «Родныя берагі», «Жнівеньская раніца», «Разбітае люстэрка», «Мора на камені» і інш.

**КАЛЕСНІК Іван** нарадзіўся ў 1932 годзе ў вёсцы Грытчына на Дзяржыншчыне. Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве.
Працаваў на радыё і ў рэдакцыі газеты «Чырвоная змена». Цяпер працуе ў часопісе «Маладосць».
Аўтар зборнікаў «Белыя каштаны», «Пяць сузор'яў», «Калі разам мы», «Інтэрнат».

**ДЗЯТЛАЎ Алесь** нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Туркі на Бабруйшчыне. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.
Працаваў у райгазеце, цяпер загадчык аддзела рэдакцыі газеты «Чырвоная змена».

**ВАСІЛЕЎСКІ Іосіф,** якому споўнілася 60 гадоў, нарадзіўся ў Данецку. Скончыў педкурсы ў Оршы.
Працаваў акцёрам у тэатрах краіны.
Аўтар зборнікаў «В добрый час», «Родное раздолье», «Лирика» і іншых. Перакладае на рускую мову творы беларускай паэзіі.



**Р. ВІТКОЎСКІ. На каток. Лінагравюра.**


**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 12**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктары **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-93-854—сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592—аддзелы паэзіі і прозы, 2-93-892—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775—аддзел інфармацыі.

АТ 06101. Здадзена ў набор 28.XI.71 г. Падпісана да друку 1.XII.71 г.
Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Ул.-выд. арк. 14,5.
Тыраж 14991 экз. Зак. 549. Цана 40 кап.

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі, Мінск, Ленінскі прасп., 79.**